# *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



**Мікола МЯТЛІЦКІ**

# МОЙ ВЕРАСЕНЬ ГРЫБНЫ

* * *

Высветлена неба — месяц поўны
У мірготнай зорнай чарадзе,
Ночы вераснёўскае ахоўнік,
Рэй нядрэмны над зямлёй вядзе.

Вілія налітая святлынню, —
Мерная, лагодная бруя.
Над яе таемна-зорнай плынню
Толькі двое — верасень і я.

Я сяджу на траўным узбярэжжы,
У вышыні зорныя гляджу,
Дзе сузор'яў ценькія мярэжы
Працінаюць космасу імжу.

Волкі дух гайдаецца ў надрэччы,
Праплывае плёсам туманец,
Ўсё ў сусвеце мудра і дарэчы,
Ты і сам тут — зорны пасланец.

Дождж праліўся зыркі метэорны —
І ступіў ты чынна на зямлю,

---

*__Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч__ нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002 годзе прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986) і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998).*

Каб віхор пранесці думак зорны,
Каб сказаць душой: жыццё люблю!

* * *

А мы ў сусвеце ці адны,
Калі мільярды зор палае?
І ўсе нам бачныя, яны —
Адна стыхія агнявая.

Па Сонцу сёстры і браты,
Брыдуць сваёй пуцінай млечнай
І працінаюць змрок густы
Яны энергіяй сустрэчнай.

Ля іх, на вёрстах цаліны,
Кружляюць цвёрдыя планеты,
І там, у спратах даўніны,
Жыцця схаваныя сакрэты.

Дзе шмат таму — гуло-было,
Дзе зноў народзіцца — і будзе…
Нас лучыць зорнае святло,
Мы ім адным святлеем, людзі.

Мы — крошкі зорнага сяйва
Паміж начы сусветнай чорнай.
І ўсё — вада, граніт, трава —
Было калісь стыхіяй зорнай.

І нам слугуюць з даўніны,
І сталі нашым светлым раем.
А мы ў сусвеце ці адны,
Калі мільярды зор палае?

## РЫЖЫКІ

Іх не было ў мінулым верасні,
І ўжо стужылася душа.
І вось у хвойнічку, у верасе,
Найпершы трапіўся спярша,

Пасля другі… І сэрца дрыжыкі
Пачула зноўку — цуд лясны!
Збарвела-стоеныя рыжыкі,
Дарунак восені грыбны!

Іх слава даўняя, трывалая.
Я часта ў лесе тут бываў.

У іншых восенях, бывала, я
Кашом іх з лесу траляваў.

Лужанін іх збіраў, і галасна
Прывеціў россып залаты,
І ўспамінаў Якуба Коласа:
— От быў бы рады, дзядзька, ты!

Вялюгін іх саліў з ахвотаю,
Нібы заняты варажбой.
Прыправу нейкую клаў потайна,
Зачараваны сам сабой.

Званіў Шамякін кожнай восенню:
— Ну як? — пытаў. — Ці многа ёсць?
Адведаць іх не раз прыйшлося нам —
Быў у яго жаданы госць!

О, колькі знойдзена і страчана
На сцежках лёсу за гады.
Хадзіў пад соснамі тут Сачанка —
Азартны, дужы, малады.

Сябры мае, узяткам верасня
Парадую асеннім днём,
За дружбу нашу вып’ем верную,
Сяброў памерлых памянём.

І будуць рыжыкі хвалёныя
Закускай слаўнай акурат.
Ды ўжо здаецца мне: салёныя
Яны ўсё больш ад нашых страт.

* * *

Колькі вершаў мною знойдзена
Ў меднай зацішы лясной
І сцяжын надрэчных пройдзена
Тут часінаю грыбной!

Пасталелі сосны — стройныя,
Медналітыя камлі.
Ім у кольцы неспакойныя
Дні мінулыя ляглі.

І плыве рачулка ціхая,
Як і безліч дзён плыла.
І жывіцай памяць дыхае,
Забыццём не парасла.

Тут вірылі думы ройныя,
Што радкамі прараслі…
Пасталелі сосны — стройныя,
Медналітыя камлі.

## ЛІДЗЯНСКАЕ ПОЛЕ

Над Віліяй, туманнай і замглёнай,
Улеглася яно перад табой.
Драпежныя палкі Напалеона
Вялі калісь тут наступальны бой.

І секлі войскі рускія французаў,
Услалы плёсы трупамі да дна.
Тут першы страх французаў чутна тузаў
Далёка шчэ да дня Барадзіна.

Ішлі гады — і новых сеч раскаты
Ліліся ў шыры свету цераз край.
Тут адступалі Кайзера салдаты
І наступаў гарачы Гая Гай.

Ступалі ўсцяж палкі Гудэрыяна —
На танках неслі свастыкі крыжы.
І маршал рэйха, помсліва-скаваны,
Ад злосніц куль хаваўся ў бліндажы.

А там, дзе дрэмле час сівы былінна,
Закуты ў скурганелы супакой,
Даўным-даўно харугвы Гедыміна
Лівонцаў секлі — кроў цякла ракой.

Ціхмянае надрэчнае ваколле.
І блізкае на водшыбе сяло…
Лідзянскае скрываўленае поле,
Ты забыцця травой не парасло!

* * *

Не канчаецца шлях,
А канчаецца крок.
Апусцела ў палях,
Не нацешыўся зрок.

Восень стыне ў журбе,
Вецер шэпча ў трысці.
Як нялёгка табе
Шляхам гэтым ісці.

* * *

Бліскоча жоўтым каснiком
У кроне верасень бярозавай.
Хаджу залётным грыбнiком
Стаянкай заўтрашняй марозавай.

І уяўляю: белы гай
У серабрыста-сiнім iнеі.
Дарогу не перабягай,
Жвiрыста-вораная лiнiя!

Яна прарэзiнай скразной
Надрэчны лес распалавiнiла.
І з гэтай зацэнi лясной
Яе душу, здаецца, выняла.

## СЛОВА

*Міколу Аўрамчыку*

Ваш юбiлей пашанотны
Светла ў душы абудзiў
Памяцi чуйныя ноты, —
Я ў пачаткоўцах хадзiў.

Рыфмы таемныя ловы
У iнтэрнацкай начы.
Як не давалася слова —
Хоць жа ты крыкма крычы!

Тыя прасветлыя далi.
Промень вясны залаты…
Колькi Вы перачыталi
Творанай намi лухты!

Хiба мы знали пра тое
(Думка ўзляцець цi магла?), —
Побач эпоха застою
Тванню балотнай лягла.

Дзе там уласныя мары,
Юнага сэрца парыў!
Быццам узяты у чары,
Кожны з нас гучна тварыў.

Вы ж навучылi другому,
Сеўшы адзiн на адзiн:
Вернасцi роднаму дому,
Памяцi родных мясцiн.

Там, дзе рачулка віецца,
Там, дзе на кветцы пчала,
Колькі душы удаецца
Зорна зачэрпнуць святла?!

Час той святлісты і цнотны
Ў сэрцы я чыста збярог.
Ваш юбілей пашанотны —
Стрэча дзвюх розных эпох.

Мы навучыліся слову
І на радзіннай зямлі
Матчыну песню і мову
Ад небыцця ўберaглі.

## ПРЫЦЯГНЕННЕ

Трымае нас зямное прыцягненне,
Абрынуўшы на плечы цяжар свой.
Каб не яно, то ў кожнае імгненне
Маглі б нырнуць у космас з галавой.

А гэтак — ходзім цвёрда ўверх нагамі,
Галовамі бліжэй мы да святла.
І гэта не пад намі, а над намі
Глыбока-скута прорвіна лягла.

Ты не даеш сарвацца і кульнуцца
У неба бездань — быць сярод зямлян,
Дзе па тваёй жа волі застануцца
Тут плёскацца рака і акіян.

І гэтых скал халодных сутарэнне,
І гмахі-хмарачосы гарадоў.
Нібыта дрэва чэпкае карэнне,
На ўсіх вятрах імклівых паскарэння
Трымай мяне між спёк і халадоў.

* * *

Помні — гэтымі дарогамі,
Ў весялосці, у журбе,
У стагоддзях розных многія
Вандравалі да цябе.

Помні — гэткімі ж вось хвалямі,
Зорным плёсам азярка
З узбярэжжа любаваліся
Людзі ў даўнішніх вяках.

І дрымучай пушчы шатамі,
І палямі, што ляглі,
Паляўнічымі, аратымі
У пару сваю прайшлі.

Пагукай іх з беззваротнасці,
Узышоўшы на грудок,
І пачуеш зыкі роднасці
Ты, сягонняшні хадок.

Ў сена пахкае зарыешся
На пакошы лугавой.
Сам аднойчы гэтак скрыешся
На пуціне векавой.

* * *

Вятроў самотныя усхліпы
Ды неба светліна-палоска.
І толькі постаць гожай ліпы
Напомніць, што была тут вёска.

Яшчэ між чэпістага лесу,
Што падышоў да самай стромы,
Відны шатры кустоўя бэзу,
Ды спіць валун — вядун знаёмы.

Бугор-дзірван — падмурак хаты,
Што тут, над Віліяй, стаяла.
Пасеяў час скразныя страты,
Як злодзей, скраў, каму ўсё мала.

Адна-адзіная хаціна —
Тут летам тлум-галас шугае.
Нямоглая старая ў сына
Свой век гаротны дажывае.

Жыцця былога адгалоскі
Ды шызы мох на траўным грудзе.
Няўжо вось так сыходзяць вёскі,
Падобна, як сыходзяць людзі?!

## НОВЫ ВЕК

Ужо крывёй пралітаю спалошаны,
Атрутаю, што з неба скрозь цячэ,
Ты перад намі, быццам луг някошаны,
Ляжыш шырэчай часавай яшчэ.

Прымоўклымі нязнанымі падзеямі
Глядзяць твае наступнікі-гады,
Нас цешачы спадзеўнымі надзеямі,
Што станеш міралюбцам назаўжды.

Парадуеш нас днямі больш спакойнымі —
Някметна-ціха ў Вечнасць уцячэш.
Вар’яцкімі драпежніцкімі войнамі
Зямную цвердзь наўсцяж не апячэш.

А пракладзеш пуціны ўвыш міжзорныя
І першым будзеш высака крыляць.
І будуць толькі трубы крэматорныя,
Як помнікі былому злу, стаяць.

І мы, імкліва-спешным рухам зблiжаны,
Нарэшце усвядомім — гэты шар
У космасе не выстылая глыжына,
А нам, жывым, адзіны Божы дар.

І мы на ім імчымся ў далі млечныя,
І спынімся няведама калі,
Ўсмактаныя ў віры суровай Вечнасці,
Прыкутыя фізічна да Зямлі.

* * *

На планеце, бы ў газавай камеры,
Задыхаемся болей і болей.
Свет атруцілі Божы ўсё ж самі мы,
Па сваёй жа расхрыстанай волі.

Мы капалі, палілі і пляжылі,
Скаланалі абсяг пудкім гулам.
Хто ж уцешнае слова хоць скажа нам,
Калі сыдзем у прошласць агулам?

А яшчэ ў свеце славімся розумам,
А яшчэ — пазіраем на зоры.
Ці не можна аднойчы цвяроза нам
Пазірнуць на свае «пераборы»,

Адшукаць тыя віды энергіі,
Што прыродзе бяды не наносяць?
Ды, напэўна, усё ж такі нельга нам
Жыць інакш, як учора жылося.

Што ляжыць пад рукамі — не думаем,
Так жадобна бяром, спажываем.

І сталюем свой побыт у тлуме мы,
І камфортным жыццё называем.

І глядзім на прыроду ваўкамі мы,
Не працяты заступніцкім болем.
На планеце, бы ў газавай камеры,
Задыхаемся болей і болей.

* * *

А месяц ледзь няпоўны над ракой,
Мільгота зор у небнай цішыні.
Плыве над плёсам мройлівы спакой,
Блішчаць на строме Быстрыцы агні.

Паўсюд суладдзе неба і зямлі —
Ціхмяны вечар згусціў кметны змрок.
Нібы сусвет раздзьмухаў вугалі,
Каб нас, аседлых, спакушаць знарок.

Не на парозе — на прыступцы ўвысь
Стаю і упіваюся вачмі
У грайны вір нябёс… Яны калісь
Былі у мроях сходжаны людзьмі.

А сёння — мкнуць да зорак караблі
І множаць хуткасць знаную спаўна.
І ўжо здалечы зорачка Зямлі
Пагляду чалавечаму відна.

Макуліна сусвету — і ўсяго,
Драбнота ў небнай вечнай шырыні,
Адзіная пылiначка яго,
Расінка незвычайнай чысціні.

Няма яе радней і даражэй,
Хоць шыры-высі млечныя схадзі.
Яна з далечы шчэ для нас бліжэй,
Яе адну ў душы не астудзі!

Яе паветра і чубы аблок,
Яе бязмежжа сіняе вады…
Далёка бачыць чалавечы зрок,
Ды больш падацца нам няма куды.

Грыміць раскатным гулам касмадром,
Касмічныя стартуюць караблі.
Зямля — адзіны чалавечы дом,
Нам жыць і дыхаць толькі на зямлі.



**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# ЛІХАЛЕЦЦЕ

*Раман*[*]

## VII

Нарэшце прыйшлі на прызначанае месца — у Бярэзіну. З дрэў больш за ўсё тут расла бяроза, але не грэбавала Бярэзінай і сасна. Высозныя сосны, крыху воддаль адна ад адной, імкнуліся ў самае неба. Там-сям віднеліся трухлявыя пні. Трава, асабліва ў лагчынах, высокая, і ўсе вымачыліся ажно да пояса. Зрэшты, на гэта ніхто не звяртаў увагі. Адолелі яшчэ некаторую адлегласць ад Крымянкі да Выгнанскога Луга (гэта ўжо амаль побач з Прускай), але не запавольвалі хады. Косця пазнаваў знаёмыя з дзяцінства мясціны, аднак затрымлівацца неставала часу. Ішлі подбегам, з-пад ног спрытна выскаквалі жабы. Калі дабраліся да месца прызначэння, Косця адразу кінуўся шукаць свае ямкі, у якіх павінен быў знаходзіцца прыхаваны боезапас. Знайшоў па відочных прыкметах патрэбнае месца і яміны, замаскіраваныя мурашнікам, сухім ламаччам, але яны аказаліся пустыя. Адна, другая, трэцяя… Усе! Ямкі выглядалі так, як бы ў іх нічога і не было. Косця не паверыў сваім вачам.

— Хлопцы, пашукайце яшчэ, па кутках пашукайце! Будзьце больш уважлівыя, не спяшайцеся! Гэта ж цэлы арсенал!

Мурашка з Грышкам абмацалі ўсе схованкі, кожны куточак, але безвынікова.

— Вінтоўка не іголка, — бубнеў сабе пад нос Грышка, — знайшлася б! — Грышка ўвогуле аказаўся вялікім скептыкам і аніяк не дапускаў думкі, што нешта можа змяніцца да лепшага. У сувязі з гэтым часта казаў: «Гамно!»

— Ты ж панімаеш! Нічога! — здзіўлена пачухаў патыліцу Ваня-ёжык. — А столькі спадзяванняў!

— Куды ж гэта ўсё магло падзецца? — ніяк не мог даўмецца Косця. — Нехта пагаспадарыў ужо! Хто б гэта мог быць?

Хто пагаспадарыў, хто пакарыстаўся скарбам — пра гэта, на думку Косці, мог ведаць хіба толькі дзядзька Цімоша. Трэба было спытаць у яго. А можа, у іншае месца перахаваў? Косцю агарнула трывога, і ён нягучна вылаяўся.

— Дачакаемся вечара і наведаемся ў вёску да майго дзядзькі. Гэта я з ім збіраў зброю. Можа, ён што ведае… — звярнуўся ён да падначаленых. Тыя паапускалі галовы.

Дзень праседзелі на ўскрайку Бярэзіны ў невялічкім, у рост чалавека, але густым бярэзніку. Скрозь лісце лілося на зямлю мяккае сонечнае святло.

---

[*] Працяг. Пачатак у № 6—8, 2012 г.

Месцы гэтыя грыбныя. Вось з-за карча ядлоўцу выбегла наперад сямейка таўстаногіх баравікоў. Іншым разам можна было іх падабраць, але цяпер нікога яны не цікавілі. З травы там-сям вытыркаліся сіне-ліловыя стрэлкі чабору. Чуўся яго пах. Навокал панавала цішыня. Не чутно было, каб шчабяталі птушкі, хаця іх цяпер куды больш, чым месяц назад.

Грышка, раздабыўшы тытунь, згарнуў самакрутку і перадаў кісет Зіпунову.

— Не трэба курыць! — спыніў іх Калеснікаў. — Пах дыму чуцён далёка.

— А ніхто не пачуе! — спрабаваў не падпарадкавацца Грышка. — Месца глухое.

— Адставіць! — камандзірскім тонам прыкрыкнуў на яго Косця.

Да лесу падступала поле. Косця, прысеўшы разам з іншымі, акінуў позіркам прасцяг, на якім адна да адной ціснуліся сялянскія палоскі. Зямля тут — ён ведаў — была не надта ўрадлівая: глей, падзолак, гліна, — але людзі шчыравалі на ёй з раніцы да вечара, працавалі і працавалі. Красавала густа аздобленае васількамі жыта, з каласоў асыпаўся, чапляючыся за асцюкі, зеленаваты пылок. Цвіла бульба, там-сям бялелі лапінкі грэчкі. У кожнага гаспадара — свой надзел, свой шнурочак. Косця крытычна пазіраў на гэтыя цесныя загончыкі: «Аднаасобнікі. Як у Бібліі, — разважаў ён, — кожнаму сваё: у аднаго жыта, у другога — бульба, у трэцяга — грэчка…» Жоўцю свірэпкі пакрыліся палоскі аўсу, па ячмяню ружовымі кветкамі цвіў куколь, сярод жыта бялелі рамонкі і сінелі васількі. На некаторыя загончыкі — там, дзе гаспадары ці занемаглі, ці паўміралі, ці куды з'ехалі, у які-небудзь Парагвай, а спадчыннікаў няма, — насоўваўся бязлітасны беразняк, сасоннік, радзей — ядловец, шукаючы для сябе жыццёвай прасторы. Па полі густа плылі цені ад воблакаў.

Адсюль можна было назіраць за камянецкім гасцінцам, па якім зрэдку рухаліся сялянскія падводы, узбіраліся на Бабіцкую гару і з'язджалі з яе. Фактычна гэта было тое месца, дзе калісьці зімою партызаны Пенкіна здзейснілі сваю першую акцыю — пашкодзілі тэлеграфную сувязь, парваўшы бусакамі дрот і паваліўшы слупы. Пра гэта ўжо мала хто помніў.

Сядзелі, ціха гаманілі, драмалі. Вечарам пасунуліся ў Пруску. Ішлі праз жытнёвае поле, прыгнуўшыся і асцярожна рассоўваючы нахіленыя каласы. Здавалася, жыта спала і можна было пачуць яго роўнае, стомленае за дзень дыханне. Потым рухаліся па неглыбокай лагчыне, трымаючыся ўтравелай палявой дарогі. Прырода была ў тым стане, калі дзённае святло змеркла, а месяц яшчэ не паказваўся. У цёмнай траве віднеліся нейкія белыя кветкі, але нікога яны не цікавілі. Было не да іх. Мінулі разгалістую грушу-дзічку на Пахолкавай мяжы. Гэта было высачэннае дрэва — з тых, што звычайна выраслі на межах сялянскіх палеткаў, узнімаючыся на прыволлі пад самае неба.

— Дуб! — падзівіўся Ваня-ёжык, слаба знаёмы з вясковым палявым улоннем.

— Груша! — паправіў яго Грышка. Яны хвіліну пастаялі пад магутным дрэвам, якое нібы дыхнула на іх водарам сваёй даўніны і каранёвай сілы.

— Якая розніца — дуб ці груша? Ты ж панімаеш… — пакрыўдзіўся хлопец.

— Груша, — пацвердзіў Косця і ўспомніў, як і сам не раз трос яе вузлаватыя галіны, прыгадаў нават смак гнілак, што атрымліваліся з яе пладоў, калі паляжаць у сене.

Вось ужо на фоне начнога неба пачалі вырысоўвацца знаёмыя абрысы пранскаўскіх клунь і хат. Утравелая дарога вяла на край вёскі, да выгана, дзе

паміж вербаў стаяла Пахолкава кузня, а непадалёку і Цімошава абсада. Хлопцаў сваіх Косця пакінуў за агародам, у карчах, да дзядзькі, шастаючы лапухамі, пайшоў адзін, адчуваючы як да калашын чапляюцца ваўчкі.

Цімоша з Хрысіяй вельмі здзівіліся, убачыўшы пляменніка жывым і здаровым ды яшчэ і з нямецкім аўтаматам.

— Немцы ў вёсцы ёсць? — замест прывітання ціха запытаў ён.

— Няма! — зашаптала Хрысія, са спачуваннем углядаючыся ў яго худы, парослы шчаціннем твар.

Агню не запальвалі. Дзядзька ў сутонні агледзеў яго трафейны аўтамат і, як бы прадчуваючы, пра што можа ісці гаворка, сказаў:

— У цябе, я бачу, вінтоўка нямецкая, а тое савецкае аружжа, што мы з табой збіралі, ужо забралі…

Косцю ад нечаканасці нават кінула ў пот, ён машынальна тыльным бокам далоні выцер лоб. Намагаўся ўтрымаць сябе ў стане раўнавагі, але не надта атрымлівалася.

— Як забралі?

На Косцева пытанне дзядзька адказаў глыбокім уздыхам:

— Забралі…

— …

— Тут, разумееш, таксама партызаны прыходзілі, дык хтосьці падказаў і да мяне завіталі. «Пасоб, кажуць, са зброяй, у цябе, мы ведаем, ёсць прыхаваная…» Ноччу прыходзілі. Ну, што рабіць? Страшыць пачалі, пагражаць. Мусіў, разумееш, весці іх да тых нашых сховаў, а цяпер яны, канешне, пустыя…

— А хто тыя партызаны? Адкуль яны?

— А пярун іх ведае! З лесу…

— Можа фальшывыя?

— Непадобна, бо калі б хвальшывыя, дык я ўжо тут з Хрысіяй не размаўлялі б з табой, не заспеў бы ты нас.

— А нам што рабіць? — захваляваўся пляменнік. — Таксама патрэбна зброя. Зброя і патроны. Ярунда атрымліваецца. — На яго схуднелых шчоках праступілі цвёрдыя жаўлакі.

— Нешта трэба прыдумаць, — пазяхнуў дзядзька, вінавата чухаючы патыліцу, і ўжо зусім недарэчы сказаў: — А помніш, як мы з табой Трахімавага каня ў чырвоны колер пафарбавалі? Вот было дзела!

— Пры чым тут конь? Эх, дзядзьку, я вам пра адно, а вы мне пра другое. Калі гэта было! Яшчэ пры тым жыцці! Усё ж памянялася…

— Памянялася, — згадзіўся Цімоша.

Хрысія прапанавала паесці, але Косця адмовіўся, развітаўся і, не марудзячы, выйшаў з хаты. Выглядаў ён надта ўсхваляваным.

— Ну, што? — сустрэлі сябры, якія чакалі ў хмызняку.

Косця махнуў рукой:

— Аб'явіліся, кажа, такія, як і мы, і забралі ўсё, увесь арсенал.

Пачуўся голас Вані-ёжыка:

— І аддаў?

— Дзіва што! — адгукнуўся Мурашка. — Паспрабуй не аддай. Кокнуць — і ўсё.

— Тут разгавор кароткі, — згадзіліся Калеснікаў і астатнія.

— Гамно! — паморшчыў нос Грышка, ацэньваючы сітуацыю.

«Што рабіць? Як быць далей? — затурбаваўся Косця. — Вярнуцца ні з чым, з пустымі рукамі? Не, Несцер Фёдаравіч не зразумее, і ніхто не зразумее. Не зразумее і не абароніць…» І тут ён успомніў пра Лявона Кужаля:

«Здаецца ж, і ў яго нешта было прыхавана? Дзядзька Лявон — чалавек абачлівы і запаслівы, у яго павінна нешта быць!» Пагаварыў з сябрамі. Да Кужаля рушылі напрасткі, праз поплаў.

Лявон пачуў, як забрахала Нэрка. Хутка апрануўся, выйшаў, каб супакоіць сабаку. Пачуўшы, што гаспадар адчыніў дзверы, Нэрка забрахала яшчэ мацней. Паказаліся яны з боку агародаў. Рухаліся неяк бясшумна, нібы плылі па траве. У туманным сутонні відаць былі толькі сілуэты. Дайшоўшы да Лявонавага агарода, спыніліся і, відаць, аб нечым сталі раіцца. Адна постаць аддзялілася і праз садок пасунулася ў напрамку хаты. Нешта знаёмае было ў абліччы чалавека і ў тым, як ён рухаўся. Астатнія падаліся назад, у альшыну, а чалавек падышоў да лазні, спыніўся каля яе, крыху пастаяў, як бы да нечага прыслухоўваючыся.

«Ці не Косця гэта?» — цюкнула ў галаву. Постаць набліжалася, чалавек асцярожна адчыніў веснічкі, і Лявон без памылкі пазнаў даўняга свайго прыяцеля:

— Косця?

— Ён. — Косця моўчкі павітаўся за руку. — А вы нібы чакалі, ці што?

Косця, мусіць, не саўладаў з пачуццямі, што нахлынулі на яго, моцна абняў Лявона, і так, абняўшыся, яны нейкі час і прастаялі. У хляве шумна ўздыхнуў конь. Зноў забрахала Нэрка, але, убачыўшы гаспадара, адразу ж аціхла. Запахла свежым сенам.

— Я тут з хлопцамі, — Косця азірнуўся, — у карчах чакаюць. — У яго абліччы праступала нешта новае: твар акураны дымком, — раней Косця, здаецца, не курыў, твар пасуровеў, па сківіцах перакочваліся цвёрдыя жаўлакі. На плячы ён трымаў зброю.

— Адкуль ты?

— Здалёк, дзядзьку.

— Ну, дык заходзь у хату! Рады цябе жывым бачыць. Жывым і, дзякуй богу, здаровым.

Госць не даў сябе ўпрошваць, згадзіўся, і яны ціха, як бы крадучыся, праз веснічкі ўзышлі на падворак і падняліся на ганак. У хату зайшлі за адным скрыпам. Гаспадыня была ўжо на нагах і занавешвала вокны. На ложку, ля сцяны, спаў унук Валодзік. Гарэла падвешаная да столі лямпа з закопчаным абажурам. Не распранаючыся, яны прыселі каля стала. Косця прывітаўся з гаспадыняй, але не зняў нават шапкі, зброю паклаў побач, на лаўку.

— А што гэта на табе? — Лявон кіўнуў на пярэстую нямецкую плашч-палатку, што была на Косці.

— Трафей.

— Практычная штука.

— Святло патушыце! — Косця зірнуў на лямпу.

Фёкла ўкруціла кнот, і лямпа пагасла. Усе добра арыентаваліся і ў сутонні.

— Фяклуша! Нясі чаго-небудзь падсілкавацца! — падказаў Лявон. — Чаю з мятай запар!

— Вады з вядра! Кубак прынясіце і ўсё! Бо няма часу. Немцы ў Пруску часта наязджаюць?

— Паліцаі наведваюцца. Але гэта днём.

— Зразумела.

Фёкла падала кубак з вадой, і Косця прагна яго апаражніў.

— Смачная ў вас вада, ух!

— Смачная, — згадзіўся Лявон. — Ну, а дзе ты цяпер?

— Ой, дзядзьку! — пасміхнуўся былы капэзэбавец. — Сёння тут, заўтра там. Бадзяюся па свеце. Мусіць, доля такая.

— У лесе?

— У лесе. Далёка адсюль.

— Я ж не пытаю, дзе канкрэтна. — Лявон па звычцы прыгладзіў пасмачку над ілбом. — Тут такая справа, што залішнія веды і пашкодзіць могуць…

— Ну, мы з вамі, дзядзьку, не першы год знаёмыя.

— Ну, так.

Фёкла корпалася на кухні і прынесла нарэзаныя на талерцы сала і хлеб. Не ўтрымалася, каб не запытаць:

— І не страшна вам?

— Дык я ж не адзін.

— Ну, так.

— А чаго баяцца — хай нас баяцца! Гэта я, — Косця кіўнуў на хлеб і на сала, — хлопцам аддам.

— Хопіць і хлопцам. Гэта добра, што пра ўсіх дбаеш, — пахваліў Лявон. — Ваяваць хоць умееце? Ваяваць трэба ўмець.

— Вучымся.

— Вайна, як я разумею, таксама работа. І якая яшчэ работа! Цяжкая, пакутлівая, бясконцая…

— Зброі не хапае, — паскардзіўся госць, — зброі, патронаў…

— Ты ж, здаецца, не бедны, тое-сёе прыхаваў.

— Прыхаваў, але сёння глянуў, дык ямкі пустыя, хтосьці пакарыстаўся, нічога не пакінуў.

— Сёння зброя, відаць, многім патрэбна, многім неабходная.

— Можа, дзядзьку, у вас што засталося? Выручайце! Мне патроны во як трэба! — Косця правёў рабром далоні па шыі. — Пазарэз!

Лявон успомніў пра свой тайнік.

— А кулямёт у вас ёсць?

— Дзядзьку! Я ж не магу пра гэта казаць, пра гэта казаць забаронена. Вы ж самі ў войску служылі і ведаеце, што такое вайсковая тайна. Вайсковы сакрэт, дзядзьку!

— Не, ты мяне, браце, не зразумеў: я хачу сказаць, што кулямёт ёсць у мяне. Праўда, крыху няспраўны, пакалечаны, але можна было б адрамантаваць — у Пахолка ці яшчэ ў каго, і карыстацца.

— А што ў ім няспраўнае?

— Сашнік адламаны.

— Гэта — дробязь.

— Дробязь, — згадзіўся Лявон. — Пахолак зробіць, ён і сякеру адцягне, і кулямёт справіць.

— А Пахолкава кузня працуе?

— Працуе. Чаму ж не? Так што забірай. І кулямёт забірай, і аўтамат, і патроны…

— Ой, дзякуй!

— Няма за што.

— Цяпер першая зброя — кулямёт! Сашнік паставім — і будзе дзела!

Косця павесялеў.

Лявон крыху схіліўся і агледзеў абутак начнога госця.

— У цябе, братка, бот кашы просіць.

Косця зірнуў на свой бот, насок якога паміж падэшвай і верхам ашчэрыўся чорнымі цвікамі.

— А вяроўка ў вас ёсць?

— У мяне ўсё ёсць.

Лявон прынёс сырамятную папружку, і Косця туга абкруціў ёю насок, завязаўшы канцы ззаду.

Вярнулася з кухні Фёкла, зірнуўшы на ўнука, які спаў, ні на што не звяртаючы ўвагі.

— Ты і анучы памяняй! — параіла яна і прынесла пару свежых ануч.

Госць пераабуўся.

«Цік-так, цік-так», — нашэптваў гадзіннік, што вісеў на сцяне. Як бы нагадваў: не трэба марудзіць.

— Тады што? — падхапіўся Лявон. — Не будзем губляць часу! Давай, пайшлі!

Усталі яны адначасова. Лявон насунуў на галаву сваю ўжо добра зашмальцаваную кепку. Падаліся да дзвярэй, Лявон першы, Косця за ім.

— Куды вы? — выбегла з кухні ўстрывожаная Фёкла, выціраючы фартушком рукі.

— Я зараз, — супакоіў яе Лявон, — хутка вярнуся.

— Усяго вам добрага, дзякуй за ўсё! — кінуў на развітанне Косця.

У карчах да іх далучыліся астатнія, выйшаўшы з начнога сутоння. Лявон павітаўся з кожным, кожнаму падаў руку.

Яны рушылі, абагнулі агароды, прайшлі каля кузні і, не марудзячы, той самай лагчынай накіраваліся ў Бярэзіну. Знайсці Лявонаў скарб, нягледзячы на ноч, было нескладана. Месца прыкметнае. К таму ж дапамагаў ветах, час ад часу вылазячы з-за хмар.

Да Бярэзіны дабраліся хутка, лес сустрэў начнымі пахамі — пах прэлы мох, хвоя, кветкі багуну і дурнап’яну. Уступіўшы ў лес, яны адразу ж прамоклі ад расы. Арыентуючыся на высокую разгалістую сасну, выйшлі на знаёмую паляну. Пад нагамі хрумсцелі, хоць і былі змочаныя расой, перасохлыя сасновыя шышкі. У цемрыве, амаль навобмацак, Лявон адшукаў свой спрат — лісіную нару ля ядлоўцавага куста, прыкрытую каменем, у якой ляжаў ёмісты скрутак. Адваліў камень, адгроб пясок і апалае лісце і дастаў тое, што шукалі, — загорнуты ў абпалены шынель кулямёт, трохлінейку і іншую зброю, а таксама патроны. Цэлую цынкавую скрынку асобна — два дыскі для «дзегцяра». Засталася некранутай і афіцэрская партупея з кабурой, і нямецкая вінтоўка з патронамі.

— Нарэшце! — не мог стрымаць сваёй радасці Косця, якому цяпер можна было годна адчытацца перад Несцерам Фёдаравічам. Можа, нават і пахваліць.

Ваня-ёжык адразу ж прымераў на сабе афіцэрскую партупею з кабурой, дастаў пісталет.

— «ТТ»! — узрадваўся ён, правяраючы затвор і патроны. — Цэлая абойма!

Кулямёт быў цяжкі і няўклюдны, ствол хаваўся ў тоўстай трубе з дзіркамі, зверху — круглы дыск.

— Буйнакаліберны! — вызначыў Калеснікаў, прыглядаючыся да кулямёта. — Я такога не бачыў, польскі ці што?

— Чэхаславацкі, няйначай, — разважыў Ваня-ёжык, аглядаючы гэтую прычандаліну. — Вось толькі сашніка няма. Ты ж панімаеш…

— Сашніка няма, — пацвердзіў Зіпуноў.

Ваня ўзрадавана махнуў рукой:

— Сашнік прыробім! У Войтавым Мосце ў мяне знаёмы каваль. Усё будзе ў парадку! Я гаранцірую!

— Кулямёт — гэта добра. Чалавек з кулямётам выклікае павагу, — зноў сур'ёзна, не ўсміхаючыся, зазначыў Калеснікаў і пагладзіў дыск свайго «дзегцяра».

— Патронаў малавата да яго! — са шкадаваннем прыцмокнуў Лявон.

— Колькі? — спытаў Косця.

— Штук дваццаць.

— Мала.

— Ды і гэтыя каб не адсырэлі! — папярэдзіў Лявон, засведчыўшы свой, хоць і невялікі, вайсковы вопыт. — Прасушыць трэба!

— Прасушым! — паабяцаў Ваня-ёжык і неяк лоўка прыгнуўся і спрытна закінуў сваю «знаходку» на плячо.

— Але ж і дужы! — здзівіўся Лявон. — Спрытны!

— Даўно марыў кулямёт мець, — усміхнуўся Косця.

Размеркаваўшы каму што несці, яны развіталіся з Лявонам, падзякавалі і рушылі сваім шляхам, кіруючыся на поўнач, на базу, дзе іх чакаў Несцер Фёдаравіч.

Лявон сваёй палоскай, мяжою, каб ніхто не ўбачыў, паціху падаўся ў бок Прускі. Хваляванне, здаецца, сунялося, але адчуваў стомленасць ад перажытага. Дайшоў да Малога Трыба, дзе была нізінка, якую ранняй вясной і ў дажджы заўсёды залівала вадой, спыніўся і міжвольна прысеў на халаднаватую траву. Падняў галаву, зірнуў на неба. У хмарах самотна пагойдваўся месяц, пазіраў на Лявона і як бы ціха казаў: «Правільна ты зрабіў, чалавеча! Лясным людзям трэба дапамагаць. Барацьба ідзе не на жарт. Ад яе не схаваешся, не абмінеш. А зброя трапіла па адрасе, па прызначэнні. Там яна прыдасца і будзе карыснай. Што ж, хай і твая кропля дапамогі зробіць сваю справу, каб прагнаць гэтых гітлераўскіх прыхадняў. Калі зброя ў руках, дык яна ўжо абавязкова стрэліць...»

Ён пасядзеў яшчэ колькі хвілін, падняўся і пакіраваў у бок Прускі.

Назад, у атрад, Косця з таварышамі вярталіся той жа дарогай ці, дакладней сказаць, па тым жа бездарожжы, але цвёрда трымаліся прызначанага кірунку. Днявалі ў глухіх месцах, зашыўшыся ў хмызнякі. Дачакаўшыся вечара, ішлі далей.

Неслі «трафеі». Ваня-ёжык аперазаў сябе афіцэрскай партупеяй з кабурой на поясе, а на спіне нёс кулямёт. Радаваўся ад думкі: «Цяпер я буду не горш за Калеснікава!..» Ношка не лёгкая, але ён нікому не жадаў яе саступіць.

— Пры такім аружжы і чорт не страшны! — хваліўся ён. Дужа карцела пастраляць, але спачатку трэба было адрамантаваць. На прывалах расшпільваў кабуру, даставаў пісталет і займаўся яго чысткай.

Мурашка ўзброіўся «шмайсерам» і ўскінуў на плечы цынкавую скрынку з патронамі. Зіпуноў разжыўся на нямецкую вінтоўку. Грышка ўзяў рускую трохлінейку. Тое-сёе падзялілі паміж сабой Косця з Калеснікавым, які ўзрадаваўся боезапасу для свайго «дзегцяра».

Сыпануў дождж, і дарога зусім раскісла, ісці было цяжка, тым больш цяжка нагружаным. Ішлі начамі, на дзень спыняліся, адпачывалі, адсыпаліся. Праз колькі часу былі ўжо на падыходзе да лагера. У ранішнім святле выразна паўставалі знаёмыя дрэвы: падвойная сасна і побач з ёй елачка. Здавалася, што яна зачасана на адзін бок, а метры тры ад зямлі перагнулася, як кульбака ў руках нейкага веліканa, і зноў пагнала ўверх. Гэта былі знакі — для каго-небудзь непрыкметныя і незаўважныя, а для іх паказвалі дарогу ў лясны дом.

У прызначанае месца за Каралёвым Мостам спазніліся хіба што на адзін толькі дзень, але «бацькі» з хлопцамі там ужо не было. Узнікла падазрэнне: ці

не пераблыталі месца сустрэчы? Аднак сляды былой стаянкі атрада — пустыя буданы, кінутыя рэчы і рэшткі вогнішча — наяўнасцю сваёй даказвалі, што памылкі не магло быць. Што адбылося — можна было толькі гадаць. «Зрэшты, — думаў Косця, — такая партызанская тактыка: доўга на адным месцы не заседжвацца».

Пачуўся далёкі стрэл. Рэха адгукнулася ў лесе.

Косця з таварышамі яшчэ не ведалі, што 15 мая немцы з поўначы пачалі прачэсваць Белавежскую пушчу, квартал за кварталам.

З самалётаў скідалі лістоўкі, прапаноўваючы партызанам выйсці з лесу і здацца ў палон.

Тэрмін — 25 чэрвеня.

## VIII

У Хвядзюшкавай клуні Свісціян жыў амаль да мая месяца. Звяў і адруз, хацелася на волю, у лес. Хвядзюшку з Нінкай сказаў:

— Хопіць сядзець у вашай нары, пара праветрыцца! А то я тут у вас ужо і косці адлежаў, суставы зарыпелі.

Гаспадары моўчкі, але ўзрадавана слухалі. Ідзі, маўляў, куды хочаш. Без цябе спакайней будзе. Толькі Нінка незаўважна ўздыхнула.

— Хведар, — зноў, шморгнуўшы носам, азваўся Свісціян, — дай мне што-кольвечы з сабой — сала, хлеба, цыбулі — і запалак пакладзі. Не бойся, за мною не заржавее, я аддзячу.

У той жа вечар ён знік. Падаўся праверыць свой схоў у лесе за Млынамі. Прыхапіў наладаваны Нінкай хатулёк з харчам. Рушыў напрасткі, цераз поле, абышоў могліцы, спусціўся ў пойму Лосьны і паваліў праз сенажаць. Макараў кажух пакінуў у Хвядзюшкі, замест яго ўзяў Хвядзюшкаву світку. Прыйшоўся даспадобы колер — колер мінулагодняга парыжэлага сена. Добра для маскіроўкі. Узяў сваю СВТ, што ляжала ў застаронку паміж снапамі, і іншае збройнае начынне. Раку перайшоў па кладцы, што ля Пацаў. Фальварак спаў. Свісціян абагнуў фальварак і пайшоў берагам. «Багатае месца! — з зайздрасцю падумаў ён, кінуўшы вокам на фальварак. Ён ужо чуў, што гаспадар фальварка Якаў Пац вярнуўся з савецкай турмы дадому. — Пашанцавала, значыць, вайна ўратавала. Каб не вайна, дык ужо даўно на белых мядзведзях ездзіў бы…»

Абмінуўшы фальварак, апынуўся ў полі, каля Бранавіч. Месца — вядомае. «Тут непараўнальна лепш, вальней, — канчаткова вырашыў ён, арыентуючыся ў начной цемрадзі, — а там гэты дурны Хвядзюшка пазірае ды сочыць, ды і Нінка ўжо надакучыла. Штодня валачэцца, як на работу».

Павярнуў направа, у лес. Лес сустрэў цішынёй, начным змрокам і вільгаццю. Пару разоў спатыкаўся аб пні і незадаволены бурчэў пад нос.

Крыху блукаў, але лагво знайшоў даволі хутка — арыентаваўся на тую самую рачную затоку. Выспа, пагорак. Адваліў корч ядлоўцу, што прыкрываў лаз у лежбішча, схоў дыхнуў застаялым паветрам і холадам. Пашкадаваў, што не прыхапіў з сабой Макаравага кажуха, пакінуў у Хвядзюшкі.

Світала. Панура клубіліся над лесам хмары. Зябкі ветрык студзіў шыю і плечы. Вырашыў раскласці цяпельца і крыху падсілкавацца. Назбіраў сухога ламачча, распаліў касцёр і, зняўшы СВТ, прысеў на абымшэлае бервяно. Пачаў перакусваць.

Сціплы касцёр, які ён расклаў, грэў слаба. У галаве вярзліся сумныя думкі. Ціснула няпэўнасць становішча. «Зноў адзін, — шкраблося ў галаве. Адна-

му дрэнна. Каб яшчэ хто побач! Каб надзейны хто! Справы пайшлі б лепей! Толькі каб надзейны хто!..»

Думаў цэлы дзень, а калі звечарэла, падаўся ў бок Шаліч. Успомніў пра Маркела Божыка — таксама сябра, які там жыў, застаючыся нежанатым. Пры ім жыла старая маці. Калісьці, пры паляках, Свісціян і ён разам займаліся рэкетам. У Камянцы, на базары, ды і па ўсёй акрузе пачувалі сябе гаспадарамі. Іх была цэлая група дзецюкоў, павязаных паміж сабой крымінальшчынай. Са сваім лідарам — Трахімам з Прускі. Па-мясцоваму іх называлі збуічамі. Рабілі выгляд, што ахоўвалі базар ад злодзеяў і махляроў і бралі за гэта грошы. Грошы ці гарэлку. Дзейнічалі нахрапіста і жорстка, па праву мацнейшага. Каму гужы абрэжуць ці аглоблі паламаюць, каго змалоцяць жалезнымі «кульбамі» на горкі яблык. Паліцыя не ўмешвалася. Здаралася, праўда, што самі сяляне давалі адпор, але гэта ўдавалася надзвычай рэдка. Дарэчы, аднаго разу Божыку дасталася ад прускаўца Лявона Кужаля. Так трахнуў Маркелу ў рыла, што той, заліўшыся юшкай, лёг на брук. Ледзь адхакалі. Што ж, у жыцці ўсялякае здараецца.

Пра гэта Свісціян прыгадаў, ідучы ў Шалічы. «Быў час!» — уздыхнуў ён і яшчэ раз падзівіўся, як хутка ўсё мяняецца. Не паспееш азірнуцца, а свет ужо іншы.

Упёрся ў старое рэчышча Лосьны. У ціхай вадзе, ля берага, прынюхваючыся да рачной вільгаці, стаяў воўк. Ці то збіраўся перабрацца на другі бок, ці то лавіў рыбу, якая, відаць, яшчэ не скончыла нераставаць. Убачыўшы Свісціяна, натапырыў поўсць, а потым павярнуўся, падняўся на бераг і, не азіраючыся, падаўся ў лес. Свісціян, дакрануўшыся да сваёй СВТ, праводзіў яго поглядам. Крыху счакаўшы, пайшоў далей.

Праз некалькі гадзін ён быў ужо ў Шалічах і стукаўся да Маркела ў хату. Перад гэтым доўга стаяў за плотам, прыслухоўваўся. Нічога падазронага не пачуў. Дзверы адчыніў сам Маркел, прысадзісты, адземкаваты, наліты сілай. Погляд — дрымотны, як бы спаў не адну ноч і незадаволены тым, што яго абудзілі. Доўга ўзіраўся ў Свісціянаву постаць, не цямячы, хто перад ім стаіць. На плячы ў начнога госця вісела вялікая вінтоўка на брызентавым рэмені.

— Не пазнаеш?

— Пазнаў, — зычна адгукнуўся па часе Маркел. — Заходзь!

Падаў госцю руку, папярэдне абцёршы яе аб крысо кашулі. У Маркелавым роце не хапала некалькіх зубоў, таму ён прысвістваў, калі размаўляў.

— У хату?

— Ну?

— Не, лепш у клуню.

— Тады я зараз.

Гаспадар вярнуўся ў хату, накінуў на плечы паношаны кажушок, насунуў на бровы шапку. Выйшаў. Свісціян, чакаючы, увесь наструніўся, напружыў слых, нячутна ўдыхаў, як бы абмацваў паветра. Баяўся трапіць каму-небудзь на вочы. Разам накіраваліся ў клуню. Клуня старая, з дзіравым дахам, скрозь які прасвечвалі зоркі. Не цямней было, чым на вуліцы. У застаронку валяўся куль мінулагодняй саломы. На яе яны і прыселі.

— Ну, што чутно на белым свеце? — першым задаў пытанне начны госць і шморгнуў шырокім прыплюснутым носам, як бы да чагосьці прынюхваючыся.

— Ніколі не думаў, што ўсё можа гэтак абярнуцца, — сказаў, пацепваючы цяжкімі плячыма, Маркел, пазіраючы на доўгія і валасатыя Свісціянавы рукі, якія той трымаў на каленях.

— А хто тое думаў!

— Але, але.

— Палагу немцы расстралялі.

— Чуў.

— І мяне, каб на іх паморак, шукаюць.

— Тут трэба, Свісціянка, асцярожнаму быць.

У клуні ўсталявалася працяглае маўчанне.

— Давай памаракуем, — прапанаваў Свісціян.

— Давай.

Яны закурылі. Па клуні павольна расплыўся белы, як туман, дым.

— Палагу расстралялі, хату спалілі… — Свісціян зноў шморгнуў носам. — Беспрытульны я цяпер. Мая хата — лес. А ведаеш, у лесе не так і блага. Воля! Сам сабе гаспадар! Куды хочаш — пайшоў! Што задумаў — зрабіў! Вось так, ліха яго матары! У лесе кожны сам сабе гаспадар. Мяне, браце, ён як магнітам цягне! Пабудзеш у лесе і сам гэта адчуеш!

Недзе за сцяною, нібы прыслухоўваючыся да іх размовы, ледзь чутна рохнуў парсючок.

— Ціха ў вас, нібы ўсе сабакі паздыхалі, — сказаў Свісціян.

— Я ўжо думаў, — заклапочана азваўся Маркел.

— Што думаў?

— Таксама ў лес падавацца, цябе шукаць. Была такая думка. Няўтульна стала…

— Дык давай разам і пойдзем. У мяне ёсць такі-сякі схоў, падзелім яго на двух і запануем! Пабачыш, ліха яго матары! Ты ж мяне ведаеш. Я калі што раблю, дык раблю!

Маркел пашкроб патыліцу, хваравіта паморшчыўся.

— А маці як?

— Збірайся! Даю табе дзень на зборы, я ў клуні чакаць буду, а вечарам — гайда! Харчу якога вазьмі. Нож, лыжку! Кружку не забудзь!

— А маці? Маці плакаць будзе…

— А што маці? Нічога з ёй не зробіцца! Менш перажываць будзе. — Свісціян не па-добраму вырачыў на Маркела вочы. — Пагавары з ёю. Зразумее. Не ў Амэрыку едзеш — наведваць будзеш. Тут жа ад тваіх Шаліч не так і далёка. А справы цікавыя можна рабіць. Вайна! Яна, браце, усё спіша. Датумкаў?

— Датумкаў.

— Калісьці, пры Польшчы, помніш, няблага пажылі.

— Няблага.

— Ну дык, дружа, збірайся! Самагонкі прыхапі! У лесе часам добра прыняць глыток. Думкам дае разгон…

— А немцы? Калі даведаюцца…

— Адкуль яны даведаюцца!

Як змерклася, яны пайшлі, абмінаючы вёскі і дарогі. Адзін і другі неслі за плячыма хутулі з неабходнымі рэчамі і прыпасамі. Маркел прадбачліва прыхапіў з сабой нават кошык з яйкамі, бо голад не цётка, а яйкі — рэч спажыўная.

— Вараныя? — спытаў Свісціян.

— Не, сырыя.

— Глядзі, каб дачасна яечні не нарабіў!

— Не нараблю.

— А маці што сказаў?

— Да Берасця, кажу, хачу падацца. Агледзецца, што да чаго. Да цябе, кажу, наведвацца буду.

— Правільна. Хай так думае.

Ішлі моўчкі, толькі зрэдку ціха перамаўляліся. Дарога здалася Маркелу гразкай, у лужынах і калдобінах. Ісці было цяжка, хацелася прываліцца да сасны і адпачываць. З неба насмешліва пазіраў на іх круглы месяц, падобны на твар нейкага мардатага чалавека.

— Колькі ж, цікава, ужо гадзін? — спытаў ён, калі яны выйшлі на дарогу, што вяла ў Дзям'янчыцы, але па дарозе не пайшлі, збочылі ў лес. — Хутка, відаць, світаць пачне.

— Якое гэта мае значэнне! — скрывіў вусны Свісціян. — Зараз будзем на месцы. Адпачнеш…

— Гадзінніка ў мяне няма, — паскардзіўся сябар. — Заўсёды хацелася мець гадзіннік. Каб на ланцужку. З гадзіннікам салідней. Паважаюць, хто гадзіннік мае.

— Не бяды! Гадзіннік прыдбаеш — дробязь! Можа, нават залаты. Толькі каб ведаць, у каго ён ёсць.

— Але каб потым у каго прэтэнзіі не было.

Свісціян па-блазенску засмяяўся:

— Вайна ўсё спіша! — зноў упэўнена паўтараў ён. — Датумкаў ці растлумачыць?

— Я не дурны.

Нарэшце яны дабраліся да месца прызначэння. Пачынала світаць. Маркел асцярожна паставіў на дол кошык з яйкамі. Сябар падаўся ўперад і стаіўся ў кустах перад невялічкай палянкай, побач з якой знаходзіўся схоў, прыслухаўся. Але навокал панавала цішыня, ні гуку, маўчалі нават, пакуль што, ранішнія птушкі.

— Ну, вось, ліха яго матары, прыйшлі, — абвясціў Свісціян, азірнуўшыся назад, дзе стаяў Маркел у кажушку з паднятым каўняром, хоць у лесе ніякага ветру не было, і насунутай на самыя бровы шапцы.

Свісціян, як гаспадар, падышоў да таго месца, дзе знаходзіўся схоў, адваліў ядлоўцавы корч і паказаў сябру лаз.

— Ну і зямлянка, — падзівіўся той, — знайсці нельга. Я нават не заўважыў.

— А як ты думаў? Месца я сам выбіраў — тут ніякі чорт не знойдзе. Глуш!

Маркел зазірнуў у лаз, панюхаў цяжкае, застаялае паветра.

— Цёмна, як у апраметнай, — пакруціў ён галавой.

— У поцемках добра, з цеменню трэба сябраваць.

— Камары тут будуць дакучаць.

— Лепш камары, чым немцы, — адказаў Свісціян, заўважыўшы сумны настрой сябра, і прапанаваў: — Ну што, можа, агонь развядзём? Адзначым гэты дзень? — Ён зняў з пляча сваю СВТ і павесіў на альховы сук, уверх прыкладам. Потым прытуліўся да дрэва спінай, пачухаўся. Не зводзіў вачэй з Маркела.

— Давай развядзём, — паныла згадзіўся той.

Свісціян сам назносіў ламачча і запаліў касцёр. Ля вогніка сядзелі моўчкі. Парушыў маўчанне Свісціян:

— Ты, я бачу, ліха яго матары, зусім звяў, — звярнуўся ён да напарніка. — Давай перакусім што, падмацуемся!

Маркел развязаў свой мяшок, дастаў адтуль зеленаватую бутэльку, заткнутую драўляным коркам, і закуску. Корак выняў зубамі і ў жалезную кварту, якую таксама ўзяў з сабою, нацадзіў самагонкі. Падаў сябру:

— На!

Свісціян выпіў, перавёў дых, занюхаў скібінай хлеба і адкусіў ад скібіны.

— А ты маслам нашмаруй! — параіў Маркел, крыху палагаднеўшы. — Я і масла прыхапіў.

Але Свісціян і на гэты конт меў сваю думку.

— Які наедак з таго масла? Я, браце, больш сала паважаю, сала і цыбулю. Еш цыбулю, і ўсё будзе ў парадку. Не захварэеш. Цыбуля — гэта здароўе. Мой дзед за зіму з'ядаў два мяхі цыбулі.

Як бы ў пацвярджэнне сваіх слоў ён аблупіў цыбуліну і адкусіў ад яе, нібыта гэта быў яблык, і нават не скрывіўся. Адрэзаў кавалак сала і кінуў у рот. Сківіцы яго працавалі, як жорны. Потым пяклі ў гарачым прысаку яйкі.

Пад сонечным угрэвам мацнелі лясныя пахі, у якіх пераважаў густы водар сасны.

— Але ж ты і ясі, за дзве шчакі закладаеш! — пазіраючы на Маркела, падзівіўся Свісціян.

— Ем, колькі трэба. А ты што, шкадуеш?

— Не.

Падмацаваўшыся, яны закурылі, павялі гамонку далей.

Маркел выглядаў разгубленым, раз-пораз уздыхаў, быццам яго нешта ўвесь час непакоіла. Ён сядзеў ля кастра і пазіраў на агонь. Нават гарэлка не развеяла яго думак і не развязала язык.

— А калі пацэляць у цябе і куля ў жывот увап'ецца? — шапялява спытаў ён. — Што тады?

— Ты часам як штосьці скажаш, дык хоць стой, хоць падай! Якая куля?! — Каб адвязацца ад дакучлівых Маркелавых пытанняў, Свісціян чмыхнуў і плюнуў.

Але праз хвіліну-другую яму зноў захацелася разварушыць сябра, развеяць яго змрочныя думкі. Ён адышоўся, як бы па сваёй патрэбе, у лес, пастаяў, а потым нячутна, з-за спіны, наблізіўся да Маркела. Набраў поўныя лёгкія паветра і гаркнуў на ўсю глотку.

— Гэндэ гох!

Гэта прагучала як гром з яснага неба. Маркел, баючыся азірнуцца, падняў рукі і абамлеў. Сябар зарагатаў, нібы яго заказыталі чэрці. Маркел апусціў рукі, плюнуў, абурана пакруціў галавой і глыбей насунуў на лоб кепку.

— А ты не бойся! Гы-гы-гы! — зноў зарагатаў Свісціян.

Сябар разгублена маўчаў, нібы ў яго язык да паднябення прысох. Пазіраў на напарніка, на яго тоўсты нос і вушы, з якіх тырчэла рудаватае валоссе.

— Трэба, каб цябе баяліся! — працягваў Свісціян, кіўнуўшы на вінтоўку, што ляжала побач. — Неблагая рэч! Дзевяцярых можна хлопнуць як няма чаго рабіць. Раз-раз-раз!... Для мяне што чалавека забіць, што вош, — усё адналькова. Стрэліў — і ўсё! Свет, ліха яго матары, нยварты таго, каб з ім цырымоніцца! Спачування свет не мае.

— А ў мяне і вінтоўкі няма, — азваўся Маркел. — Не ведаю, як яно будзе.

— Гэта не праблема. Вінтоўку дастанем, — паабяцаў Свісціян, — вінтоўку, пісталет. Гранатамі цябе абвешаю! Хай баяцца! Хай трасуцца, ядрона вош! Мы яшчэ сваё возьмем. — Ён кінуў убок недакурак, узяўся за нос, пахітаў яго, нібы хацеў зрушыць з месца, і над чымсьці задумаўся.

Маркел сядзеў, быццам прыслухоўваючыся да яго думак.

— А я, калі ўжо на тое пайшло, — зноў загаманіў Свісціян, — не вінтоўкай люблю шырнуць, бо яшчэ невядома, ці пацэліш, а нажом. Люблю зблізку глядзець, як дурні паміраюць. Цікава, як чалавек канае…

Працяглы час яны сядзелі моўчкі. Нарэшце, Свісціян кінуў:

— Трэба нам з табой планы прыкінуць!

— Якія планы? — зноў не ўцяміў Маркел.

— Нашы з табой. Падумаць трэба, што рабіць. Работы, браце, непачаты край! Хто пра нас падумае, як не мы самі.

— Ну, гэта так. Зямлянку варта абладзіць, большай зрабіць, столь падперці ды яловых галінак наслаць. Будзем, як каралі. Вылазіць з такога дабрэннага жытла не захочацца. Га?

— Гэта можна, — згадзіўся Свісціян, — ёсць нават прыхаваныя вядро і рыдлёўка, — але я пра іншае. Трэба пра сябе падумаць, адзежу справіць, боты добрыя прыдбаць. Гадзіннікі каб былі. Ёсць такія, што і золата маюць, яшчэ царскія дзесяцірублёвікі!

— Усё трэба, — прыцмокнуў напарнік.

— Давядзецца таго-сяго памацаць…

К вечару духмяны сасновы пах аслабеў, у паветры разліўся роўны водар лясной свежасці. Пара было класціся нанач.

Спалі не распранаючыся, па розных кутках зямлянкі. Напагатове, калі што-якое.

Два дні абладжвалі сваё жытло, пашыралі зямлянку, капалі, выбіраючы зямлю і носячы яе ў затоку, падпіралі столь. На дол наслалі свежых яловых лапак. Усё, здавалася, зрабілі як трэба, як сабе. Потым, седзячы каля свайго схова, разам абдумвалі, дзе даставаць харчы і іншыя неабходныя рэчы. Надзея была на навакольныя вёскі.

— Я маю права, — разважаў Свісціян, выцадзіўшы рэшту самагоннага пітва. — Я ж не па сваёй волі нарадзіўся, не па сваім жаданні на гэтым свеце, сярод вас апынуўся. А калі так сталася, дык дайце мне прапітанне! Апраніце мяне, абуйце, чалавекам зрабіце!

Маркел дакрануўся да Свісціянавага калена і моўчкі кіўнуў у глыбіню лесу. Там да бярозы падышоў алень. Прыўстаўшы на задніх нагах, а пярэднімі абапіраючыся на яе ствол, ён пысаю даставаў абвіўшую бярозу амялу. Яны доўга назіралі за рагатым прыгажуном, Маркел нават пасміхнуўся, а Свісціян сказаў:

— Я, браце, не алень, каб есці амялу, не жывёліна.

Яны вярнуліся да сваёй ранейшай гаворкі. Сталі меркаваць, да каго можна было б наведацца бліжэйшай ноччу. У сваю вёску, вядома, не пойдзеш, трэба кагосьці далей шукаць. Не бяры там, дзе жывеш і не жыві там, дзе бярэш, — гэта было вядома аднаму і другому.

— Ведаеш, каго варта прыжучыць? — Свісціян ва ўпор паглядзеў на напарніка.

— Каго?

— «Хобу!»

«Хобаю» ў наваколлі празывалі фальваркоўца Якава Арыстархавіча Паца — яго якраз і меў на ўвазе Свісціян.

— Не, з яго не пачнеш, — запярэчыў, прыцмокнуўшы тоўстымі вуснамі, Маркел, — яшчэ на немцаў напорамся. У яго немцы часта начуюць. Пагранічнікі з Лешні.

— Ведаю. Ну і што?

— А тое, што не гарачыся. Нашто нам з пагранічнікамі звязвацца?

— Яно і праўда.

Параіўшыся, спыніліся на Мікалаю. Шалоніку, які жыў у Пакупчыках. Заможны. Пры Польшчы атрымліваў «марытуру» (так называлі пенсію), і ў яго, па чутках, меўся не толькі кішэнны гадзіннік, але і царскія залатоўкі.

— Падхадзяшча, — сказаў Свісціян.

Пакупчыкі — за ракой. Перабрацца праз Лосьну, абмінуць Млыны, Калёнію Пруску, Выгнанку і якраз трапіш у Пакупчыкі. Свісціян раз ужо там быў — у Макара, калі трэба было «пазычыць» кажух, які ён цяпер, на жаль, пакінуў у Хвядзюшкі.

Успомніўшы Хвядзюшку, Свісціян загаманіў зноў:

— Ёсць у мяне па вёсках людзі, яны навядуць, падкажуць, у каго камора не пустая…

— Ляжыш, а жабы на галаву ўсё ж такі валяцца! — паскардзіўся Маркел, здрыгануўшыся, калі на яго і сапраўды скочыла з кутка невялікая жабка.

— Ваяка! Ядрона вош! Жаб баішся! — папракнуў яго сябар. — Але нічога, стрэльбу табе справім, каб не баяўся.

Праз хвіліну якую Маркелу цюкнула думка:

— А можа, не да Шалоніка, а зноў да таго твайго Макара наведацца. Ужо ж ён ведае, што да чаго.

— З аднаго вала, запомні, дзве шкуры не дзяруць.

— У яго шкур шмат.

— Эх, і назола ты!

## IX

Косця з хлопцамі вырашылі пачакаць Несцера Фёдаравіча і астатніх. Не можа быць, каб не вярнуліся. Магчыма, на баявое заданне выправіліся ці па харчы і неўзабаве вернуцца.

Чакалі дзень, другі, трэці, спажывалі прадукты, назапашаныя па дарозе, але іх хапіла ненадоўга. Пачаў дакучаць голад. Што ж рабіць? Куды падацца? Дзе раздабыць харчы? У пушчы вёсак няма — папалілі немцы. Глуха шумелі дрэвы. Час ад часу чуліся трывожныя галасы птушак, якія як бы пра нешта пыталіся, але адказу не атрымлівалі. Людзі, каб падмануць голад, заўзята жавалі шчаўе, яшчэ няспелую лясную ягаду.

— Косця, вяртаймася назад, у бок Камянца, пакуль яшчэ зусім ад голаду не папухлі! — прапанаваў Мурашка. — Родныя мясціны выручаць…

Гэта і сапраўды было б выйсце, пры тым самае простае. Але ж як быць з боепрыпасамі і з выкананнем камандзірскага загаду?

А можа, нейкае няшчасце сталася? Магчыма, быў бой? Чаму іх няма? Дзе яны? Можа, Несцер Фёдаравіч вымушаны быў пакінуць гэтую стаянку, адступіў і цяпер мае патрэбу ў неадкладнай дапамозе? Хто дасць адказ на гэтыя пытанні?

— Не, — вырашыў Косця, — пацерпім яшчэ дзень-два. Пачакаем! Я ўпэўнены, што Несцер Фёдаравіч не забыў пра нас і не пакіне адных. Ды і зброя яму вельмі патрэбная, боепрыпасы, а яны ў нас.

У галаву прыходзілі розныя думкі: «Надта няўрымслівы чалавек Несцер Фёдаравіч. Імклівы дужа і нейкі непрадказальны. Нават пастаяннай стаянкі не хоча мець. Бегае з месца на месца. Здольны, відаць, і на падступствы, і на гвалт. Што ж, у кожнага свае недахопы», — разважаў Косця.

Вечарам падзялілі апошнія сухары, размачылі ў вадзе і з’елі, запалілі сціплы касцёр. Людзі сядзелі вакол яго панурыя, асалавелыя, нават камароў не адганялі. Некаторыя моўчкі пайшлі спаць. Грышка Пішчык сарваў з галінкі ліст, сунуў у рот, пачаў жаваць і выплюнуў. Горкі. Спаць не хацелася. Ванеёжык паспеў пачысціць і пісталет, і кулямёт і цяпер не ведаў, чым заняцца.

Косця, прылёгшы каля сасны, таксама не мог заснуць. Здавалася, што яшчэ ніколі яму не было так цяжка, як на гэты раз. З другога боку туліліся да камля Ваня-ёжык і Калеснікаў.

— Галава кружыцца, — паскардзіўся Ваня-ёжык, прылёгшы на зямлю, тварам уніз, і паклаўшы галаву на далоні.

— Паспрабуй заснуць, — параіў Калеснікаў, — сон і ад голаду лепшае лякарства.

Баронячыся ад камароў, Косця глыбока нацягнуў на галаву плашч-палатку, каб хоць як адагнацца ад гэтых мярзотных стварэнняў, якія так балюча і без жалю ўпіваліся ў твар і ў шыю. Ужо засынаў, як хтосьці крануў за плячо:

— Косця, ёсць чалавек ад Несцера Фёдаравіча!

Пазнаў голас Мурашкі. Усхапіўся на ногі.

— Дзе ён?

— Я тут! — пачуўся з начной цемры чыйсьці голас, які здаўся быццам бы знаёмым.

Косця кінуў у вогнішча корч ядлоўцу, з трэскам шуганулі ў паветра іскры, узвілося полымя. У яго бляску Косця пазнаў Фядотку — ардзінарца Несцера Фёдаравіча, апранутага ў сялянскую світку, без рамянёў і планшэткі. Адразу накінуўся на яго з пытаннямі:

— Што здарылася? Дзе камандзір? Куды вы дзеліся? Чаму пакінулі стаянку? Ну, гавары!

— На гэтыя пытанні я не ўпаўнаважаны адказваць, — суха азваўся Фядотка, пазіраючы на вогнішча. — Я толькі маю даручэнне ад Несцера Фёдаравіча перадаць яго загад, каб ты як мага хутчэй вяртаўся ў атрад і каб боепрыпасы нёс! Несцер Фёдаравіч не любіць, калі яго загады не выконваюцца бягом.

— А дзе ж ён, гэты атрад?! — амаль закрычаў Косця.

Пачуўшы гамонку, падышлі і астатнія партызаны — Калеснікаў, Ваня-ёжык, Грышка, прачнуліся нават тыя, хто спаў ці драмаў. Неба пасвятлела ўжо. Ранішнія промні сонца з цяжкасцю прабіваліся праз густыя кроны дрэў.

— Завяду! — упэўнена адказаў Фядотка, але куды падзеўся атрад, не сказаў. Гэткія «таямнічыя» Фядоткавы паводзіны аніяк не маглі спадабацца Косцю.

— Я тут лепш за цябе ведаю ўсе сцежкі! — ускіпеў ён. — І сам знайду, каб толькі ведаць, куды ісці. Нешта ты ад мяне ўтойваеш! Так ці не?

— Ну чаму ж?

— Дык кажы!

— Пра вёску Чвіркі і пасёлак Сталпавіска чуў?

— Дык гэта ажно за Камянюкі! Які чорт вас туды зацягнуў? Гэта ж вунь як далёка!

— А што? З голаду тут здыхаць?

Логіка, калі падумаць, была на баку Фядоткі. Сапраўды, навокал ні душы. Адзін лес. Не прападаць жа з голаду.

— А там край хлебны, — працягваў Фядотка, — людзі, нават цяперашнім часам, жывуць нябедна. І дзеўкі дабрэнныя і да нашага брата спагадлівыя. Ой, прыгожыя! Асабліва ашчэпаўскія…

— А з немцамі не сутыкаліся? — перабіў яго гамонку Косця. — Баявыя моманты былі?

— Аднаго папа «бацька» прыхлопнуў.

— Папа? Дзе? Якога?

— У Дабраволі.

— У Дабраволі? — перапытаў Мурашка. — Я таго папа ведаў. Парадачны святар, і чалавек парадачны. Савецкую ўладу падтрымліваў…

— Можа, і падтрымліваў, я гэтага не ведаю, — Фядотка закруціў галавой і паціснуў плячыма, — але, бачыце, не спадабалася яму, што нашы хлопцы да баб сталі крыху заляцацца. Дзівак! Якая яму справа? Усе ж згаладаліся страшэнна! А ён сваё гне…

— Дык што? Забіваць за гэта?

Навокал загаманілі.

— Ты ж панімаеш, ну і прыдумалі, ну і дзялы… — няўцямна круціў галавой Ваня-ёжык.

— Не, тут нешта не так, — падаў голас Калеснікаў. — Нешта не тое.

— Не мая справа судзіць начальства, — Фядотка развёў рукамі, — начальству відней. На тое яно і начальства.

— Камандзір рашае, — зазначыў Зіпуноў, шырока пазяхнуўшы. — Яйца курыцу не вучаць.

Косця на гэта прамаўчаў, нічога не адказаў, толькі вусны яго нервова перасмыкнуліся. Азірнуўшы прысутных, ён абвясціў:

— Ну, давайце адпачываць, а заўтра вырашым, як быць далей. — Звярнуўся да сувязнога: — Выбачай, што пачаставаць цябе няма чым. Сёння апошнія сухары з’елі.

— Дык я сам вас пачастую! — Фядотка развязаў свой мяшок і дастаў адтуль бохан хлеба і вялікі кавалак сала. — Гэта ад Несцера Фёдаравіча! — З харчам у нас поўны парадак.

Партызаны накінуліся на ежу, як галодныя ваўкі.

— Асцярожней, хлопцы, асцярожней! — папярэджваў Косця, баючыся, каб Фядоткава пачостка не пайшла на шкоду, каб жывот не надарваць. — Перажоўвайце акуратна, не спяшайцеся і шмат не ешце! Нешта пакіньце і на заўтра. Каб жыватамі не мучыцца!

Дарэмна аднак ён папярэджваў, бо мала хто паслухаўся яго парад, голад робіць чалавека безразважлівым. Ды і сам Косця не ўтрымаўся і не згледзеў як умяў сваю долю духмянай саланіны з хлебам. Не прайшло шмат часу, як таго-сяго разабраў «шводкі Іван», як тут называлі паслабленне страўніка. Некаторыя завойкалі, застагналі і, трымаючыся за жываты, разбрыліся па карчах. Спрабавалі лячыцца чарніцамі, але не надта дапамагала.

А тут важна было тэрмінова прыняць рашэнне, што рабіць. Ісці да Несцера Фёдаравіча, вакол якога, відаць, тварылася нешта нядобрае, ці яшчэ што прыдумаць. Косця, як камандзір групы, адчуваў на сабе адказнасць.

— А можа, пад Камянец вернемся? — прапанаваў Мурашка, натапырыўшы прысмаленыя ад самасаду вусы. — Людзі, ахвачыя ісці ў партызаны, і там знойдуцца. Недзе ж там і Афінагенаў. Даўно ўжо трэба б яго наведаць. Галава ў яго неблагая, розум мае, можа, падкажа што, дапаможа…

— Не, таварышы, — пасля працяглага роздуму загаманіў Косця, — мы не дзеля таго сабраліся, каб цяпер, у нялёгкую хвіліну, пакінуць свайго камандзіра, ламаць дадзены ім загад. Мы ўсе разам служылі Савецкаму Саюзу. Давайце далучымся да Несцера Фёдаравіча, да ўсяго атрада, і на месцы ва ўсім разбяромся. Там жа нашы таварышы — Беражняк і іншыя.

На тым і пагадзіліся, што трэба вяртацца ў атрад.

— Кубартаеў там, — дадаў Ваня-ёжык, які паспеў ужо з навічком пасябраваць.

Да Несцера Фёдаравіча адправіліся ў той жа дзень вечарам, калі збольшага суняліся жываты. Узялі з сабой усю зброю, боепрыпасы. Для пераходу спатрэбіліся тры ночы.

Косця адразу ж наведаўся ў камандзірскі будан. Там ужо быў Фядотка,

яны рэзаліся ў «дурня» і пры гэтым ціха перамаўляліся. «Бацька» сустрэў грозным запытаннем: «Дзе сланяліся столькі часу?» Косця даў тлумачэнне, і Несцер Фёдаравіч вымушаны быў ім задаволіцца.

— Значыць, атрымалася?

— Атрымалася.

— Гэта добра. Хай Фядотка размяркуе патроны і ўсё астатняе, і чакайце майго загаду!

Атрад размяшчаўся ў лесе паміж паселішчамі Дабраволя і Чвіркі, крыху ў баку. Большасць партызан жыла ў буданах, частка — у саміх вёсках, па хатах, як бы на правах прымакоў. Тыя, што знаходзіліся ў буданах, да адурэння гулялі ў карты, дуліся ў «ачко». Пра нейкія заданні — засады ці выхады на чыгунку — гаворкі не ішло. «Пакуль што адпачываем, — сказаў Несцер Фёдаравіч, — адпачывайце і вы!» Сам ён таксама, хоць і паяўляўся ў лесе, у размяшчэнні атарада, але болей часу бавіў у Чвірках, дзе, казалі, у яго была свая каханка.

— Без толку лезці на ражон не трэба! — дадаў камандзір, заўважыўшы незадаволенасць на Косцевым твары. — Паглядзім, што да чаго, а тады падумаем. Спяшацца не выпадае.

Косця ацаніў сітуацыю і зразумеў, што шаноўны Несцер Фёдаравіч яму не кампанія, што трэба шукаць кагосьці іншага. Да такога рашэння схіляўся не ён адзін — знайшліся яшчэ дзесяць чалавек (Беражняк і тыя, з кім ён хадзіў у Пруску і яшчэ некалькі), якія згадзіліся з яго меркаваннямі. Сярод аднадумцаў аказаліся і новенькія — акружэнцы: малодшы лейтэнант Русцік Кубартаеў і старшы лейтэнант Дзмітрый Новікаў, які прыйшоў у атрад якраз тады, калі Косця з таварышамі хадзіў на заданне. Аднаму і другому таксама не падабаліся паводзіны камандзіра, і яны без ваганняў далучыліся да Косці. Далучыліся таксама Бокша і адэсіт Бонк. Апошнім прымкнуў Задора. Выходзіла, што атрад Несцера Фёдаравіча распадаўся гэтак жа хутка, як і ўтварыўся. Была сумесная дамоўленасць, і яны маглі ноччу паціху пакінуць стаянку і знікнуць у любым напрамку толькі ім вядомымі сцежкамі. Аднак Косця палічыў, што гэта было б падобна на здраду і што трэба ўсё аформіць па ўзаемнай згодзе. Па даручэнні сваёй «трынаццаткі» ён праінфармаваў Несцера Фёдаравіча аб намеры развітацца з яго атрадам.

Дзень стаяў пагодны, мякка грэла, прабіваючыся праз галлё дрэў, летняе сонца, зелянелі травіца і мох. «Бацька» якраз знаходзіўся ў атрадзе. Пры добрым настроі, выйшаўшы з камандзірскага будана, аддаваў нейкія загады і даваў указанні, жартаваў, і Косця нечаканым сваім паведамленнем рэзка сапсаваў яму настрой. Бровы ў камандзіра палезлі на лоб, а сківаца адвісла, ён не чакаў такога павароту.

— Ты што? Учадзеў ці што?

— Не.

— Колькі вас? — адрывіста спытаў ён, пачуўшы ад Косці, што ён і яшчэ больш як дзесяць чалавек збіраюцца пакінуць атрад і вяртацца ў «родныя мясціны».

— Разам са мною — трынаццаць чалавек, — удакладніў Косця.

— Трынаццаць — храновае чысло.

— Ну, ужо як ёсць.

— Што, камандзірам хочаш стаць? Не хочаш радавым. А мяне ў радавыя? А ведаеш, малакасос, калі мая шапка ўжо вісела на гваздзе, дык ты яшчэ сядзеў у гняздзе! Зразумеў?

Навокал шчыра і гучна зарагаталі, асабліва глумліва і нахабна смяяўся Фядотка. Рэакцыя Несцера Фёдаравіча была супрацьлеглая:

— Таварышы! Таварышы! Хлопцы-ы! — загаманіў, а потым зароў ён, хапаючыся за наган. — Сярод нас ёсць здраднікі! Сволачы! Арыштаваць нягоднікаў! Арыштаваць і расстраля-яць! Канец падлюгам, т-тваю маць! Не, гэты фокус у мяне не пройдзе!..

На камандзірскім ілбе ўздуліся тоўстыя сінія жылы, ва ўтрапёным паглядзе маленькіх учырванелых вачэй бліснулі шаленства і жорсткасць. «Бацькаваму» абурэнню не было межаў:

— Я ж казаў, што ты трацкіст!

— Не.

— Трацкіст!

Косця адступіў, зрабіў колькі крокаў назад, напружыніўся, гатовы да ўсяго. Стан і паводзіны Несцера Фёдаравіча не пакідалі сумнення, што ён тут жа, не марудзячы, і выканае свой недарэчны прысуд. Навокал ужо збіраліся партызаны, у тым ліку даўнія паплечнікі камандзіра.

— Таварышы, паслухайце мяне! — узняў голас былы капэзэбавец і расставіў ушыркі рукі. — Ці падымеце вы руку?! На нас, на сваіх! Ну і што з таго, што мы вырашылі ісці бліжэй да родных месц?! Мы не ворагі! Вораг у нас адзін — немец, захопнік нашай зямлі, агрэсар! Мы ж разам прысягалі ваяваць з ім — з адным ворагам, з гітлераўцамі!

Паміж партызанамі ўзняўся гоман. Ніхто ж не спадзяваўся, што калі-небудзь узнікне такое — падняць зброю на сваіх. А голас Несцера Фёдаравіча грымеў, нарастаў, узнімаўся да віску і захлынаўся ў нейкім сутаргавым хрыпе. Пырскаючы слінай, ён паўтараў адно і тое ж:

— Здраднікі! Акружыць! Абяззброіць! Абясшкодзіць! Трацкісты! Тва-аю маць…

Потым, вырачыўшы на падначаленых свае чырвоныя вочы, хрыпатым голасам аддаў канкрэтны загад:

— Падрыхтаваць кулямёт да расстрэлу! Хутка!

Гоман і мітусня нараставлі, згоды паміж людзьмі не было. Наперад выступіў Дзмітрый Новікаў. Выкарыстаўшы замінку, ён узняў руку і гукнуў сябрам з «трынаццаткі»:

— Рабята, у ружжо! Без бою не здаёмся!

Тыя ўжо сціснуліся ў шчыльную групу, амаль адначасова бразнулі затворы вінтовак і аўтаматаў. Косця далучыўся да групы. Усе зрабілі колькі крокаў назад, трымаючы пад прыцэлам прыхільнікаў Несцера Фёдаравіча. З тых ніхто не адважваўся страляць, усе стаялі моўчкі, толькі адзін камандзір штосьці моцна крычаў, безупынку бегаючы паміж сваімі людзьмі і пагражаючы пісталетам.

— Айда, уходзім! — гукнуў Ваня-ёжык, зразумеўшы сітуацыю.

— Калі што, страляць на хаду! — удакладніў Новікаў. — Заднія падбіраюць раненых!

«Трынаццатка» (з Косцем іх было чатырнаццаць) адступала задам, не спускаючы вачэй з Несцера Фёдаравіча і яго людзей, трымаючы зброю напагатове. Адступалі ў глыб лесу. Ад страху і спешкі ў Косці дрыжэлі рукі, моцна калаціласа сэрца і пацелі далоні. Нарэшце павярнуліся і пайшлі спорным крокам, адарваўшыся ад Несцера Фёдаравіча і яго таварышаў. Ішлі па невядома кім пратаптанай праз мох сцяжыне. Пад нагамі — ніхто на гэта не зважаў — трашчалі сучкі і шышкі, з грудзей з хрыпам рвалася дыханне.

— Ну вот і ўсё! — на хаду кінуў Беражняк. — Правільна зрабілі! Ну і дуралом!

Яго падтрымалі астатнія.

«Чаго толькі на вайне не здараецца! — ідучы, разважаў Косця. — І жорсткасць, і бруд, і змаганне за выжыванне. А часам вось так — са сваімі даводзіцца ваяваць. Да ўсяго трэба прывыкаць…» Заўважыў, што ў спешцы і мітусні згубіў трафейную плашч-палатку. Пашкадаваў. «Практычная была рэч!» — успомніў Лявонавы словы.

Ваня-ёжык валок свой кулямёт, які ён так і не паспеў адрамантаваць.

— Дуралом! — паўтараў ён услед за Беражняком.

— Дурань! — яшчэ больш пэўна сказаў Кубартаеў.

Рухаліся на ўсход сонца, перад імі асцярожна расступаўся лес. Абышлі груду выбеленых на сонцы касцей — вынік, хутчэй за ўсё, воўчай работы. Паміж ствалоў там-сям тырчэлі бурыя вываратні, на лясных палянах буйна квітнелі ружова-блакітныя верасы. У зараслях буялі мядзведжыя маліннікі. Недзе ў гушчары абстукваў сасну дзяцел.

Раптам пачуўся грозны гул матораў, а яшчэ праз мінуту нізка над лесам прайшло звяно цяжкіх нямецкіх самалётаў з чорна-жоўтымі крыжамі на крыллях. За ім другое, трэцяе…

— Воздух! — гукнуў Новікаў.

Усе інстынктыўна папрыгіналіся, некаторыя прыціснуліся да дрэў, папрыпадалі да зямлі.

— Юнкерсы, — вызначыў Калеснікаў.

Начыненыя смерцяносным грузам, яны ішлі на ўсход. Так працягвалася з невялікімі перапынкамі каля гадзіны. Глуха адгукнулася зямля, і гэта гняло, ціснула на нервы. Нарэшце самалёты праляцелі.

— Ад Несцера Фёдаравіча ледзь адбіліся, а цяпер авіяцыя насядае! — пажартаваў Зіпуноў, паднімаючыся з долу.

Аправіўшыся, пастрасаўшы з адзення пясок і лясное смецце, рушылі далей. Пейзаж змяніўся: пачаліся балоты. Гэтая мясцовасць так і называлася — Пастуховыя Балоты. Чарнела вада ў бяздонных дрыгвяністых азерцах, у якіх ныралі цэлыя вывадкі дзікіх качак.

Давялося пару разоў заначаваць у прыдатных месцах. Так яны праз колькі сутак прыйшлі на край пушчы, амаль што пад самы Камянец. Гэта і быў Грудзец — шырокая выспа сярод балота, глуш, дзе, здавалася, ніхто не дастане, ніхто не знойдзе. Цяпер усе адчувалі сябе лепш, больш свабодна і раскавана, чым у падначаленні Несцера Фёдаравіча.

Паставілі буданы, абсталявалі кухню, ускіпяцілі ваду. У некаторых знайшоўся ў кішэні цукар. Падзяліліся і запілі кіпнем. Пачалі асталёўвацца на новым месцы. Трэба было найперш паклапаціцца пра харчы.

— Бульбы, каб наварыць, можна набраць у ямках, — сказаў Грышка, які добра ведаў мясцовыя гаспадарчыя звычаі. Сяляне, у каго вясною падворак залівала вадой, рабілі капцы з бульбай у полі, ладзячы іх на выспах і высокіх мясцінах. — Тут непадалёк, — патлумачыў Грышка, — гэтыя капцы стаяць, я бачыў. Толькі акуратна трэба, каб ніхто не заўважыў.

— Прапанова добрая, — азваўся Калода.

— Дык ужо, лічы, лета, — засумняваўся Мурашка, — капцы тыя пустыя.

Па бульбу хадзіў Грышка і з ім яшчэ чалавек пяць. Адзін капец усё ж такі адшукалі. Ажно за Бабіцкою гарою, каля Зінькоў. Практычны Грышка «пазычыў» у некага і вядро, і бульбу варылі над вогнішчам у вядры.

— Каб яшчэ пару кілаграмаў мяса, я б вам такое згатаваў! — павесялеў Ваня-ёжык.

— З мясам кожны зварыць суп, ты без мяса звары! — адказаў яму Кубартаеў.

— Дык можа разбяжымся па вёсках, прапанаваў Мурашка, — хто да сваіх, хто да знаёмых, хто проста да спагадлівых людзей і хаця па пуду прынясём нейкага харчу.

— Трэба правесці рэквізіцыю, — удакладніў Косця, успомніўшы колішняе слова, вядомае яму яшчэ з часоў падполля. Такія словы, як «рэквізіцыя», «кантрыбуцыя», «экспрапрыяцыя», чамусьці добра запаміналіся.

Прапанова спадабалася, іншага выйсця не было. І партызаны з надыходам вечара нешматлікімі групамі, па два-тры чалавекі, рассыпаліся па навакольных вёсках. Вярнуліся хто праз дзень, хто праз два, хто крыху пазней — усе групы. Прынеслі з сабой па кавалку сала, хлеб, крупы, цыбулю і іншую правізію. Грышка з Бокшам і Бонкам прыйшлі крыху выпіўшы і прынеслі поўныя дзве бутэлькі з цёмнага шкла, каб пачаставаць таварышаў. Косцю гэта не спадабалася, ён пакрывіўся, але нічога не сказаў. Вырашыў: «Хай, для дэзінфекцыі».

Добра п’ецца ў лесе самагонка. Прыемна пахне, абдае цяплом, казыча ноздры і горла яе хатні, жытнёвы дух. Не важна нават, калі часам крыху падгарэла, — усё адно смачна. Самагонны водар мяшаўся з водарам хвоі, ветру і чагосьці яшчэ, невядомага, але таксама прыемнага. Калода ашчадна і акуратна нарэзаў сала, кожнаму дасталася тонкая лустачка. Павесялелы Бонк пачаў расказваць нейкую «гісторыю» — іх ён ведаў шмат:

— Зайшоў аднойчы да гаспадароў у хату галодны салдат, папрасіў паесці. Пусцілі яго. Насмажыла гаспадыня сала, паставіла на стол. Галодны салдат давай адразу па дзве шкваркі браць. Гаспадыня дзівілася, дзівілася ды і кажа: «А чаму ты, салдацік, па дзве шкваркі ясі?» А ён ёй і гаворыць: «А што ж вы хочаце, каб я па тры браў, каб падавіўся?»

Слухачы зарагаталі.

Падмацаваўшыся прынесеным харчам, заняліся нарыхтоўкай сухароў. Сухар — надзейны таварыш і спадарожнік партызана. Рэзалі хлеб тонкімі лустачкамі і сушылі на агні. Сухары перахоўваць добра — не псуюцца, і несці ў паходным рэчмяшку лёгка, каб потым, на марозе, суняць голад.

Грудзец — месца прыдатнае. Побач была вада, партызанскі атрад не можа без вады. Вада паіла і бараніла. З захаду і поўначы, ад гарнізонаў у Вярховічах і Камянюкаў, ахоўвала рэчка Белая з незлічонымі сваімі прытокамі, а таксама пушча. З поўдня і ўсходу — лугі, дрыгвяныя балоты і старажытны лясны масіў. Вясною навокал шугала паводка. Калі пасадзіць на магутную сасну, што стаяла непадалёку на ўзлессі, назіральніка з біноклем, можна было кантраляваць усё наваколле, якое адкрывалася як на далоні. Месца здавалася зручным, каб пераседзець і зіму, але да зімы заставалася яшчэ шмат часу, таму зямлянак пакуль што не капалі, абышліся некалькімі буданамі, паставіўшы іх у высокім ельніку і накрыўшы галлём і дзёрнам.

Трэба было абраць камандзіра. Косця лічыў сябе цывільным чалавекам і прапанаваў Новікава. Афіцэр, мае вайсковы вопыт. Добра паказаў сябе ў сутычцы з Несцерам Фёдаравічам.

— Малады надта! — адзначыў Грышка.

— Нічога, вусы адпусціць, дык саліднейшы будзе! — пасміхнуўся Мурашка.

Прапанову падтрымалі, і камандзірам стаў Дзмітрый Новікаў. Ён не адмаўляўся, адно толькі сказаў:

— Многія з вас, рабята, па ўзросце старэйшыя за мяне, пагэтаму завіце мяне проста Дзімка.

Голас у Дзімкі бадзёры, вочы — жвавыя і вясёлыя, і сінія-сінія, як мора. Сярэдняга росту, зграбны. Апрануты ў ватоўку, аперазаную шырокім рэменем,

на галаве — выцвілая афіцэрская фуражка, на нагах — паношанае афіцэрскае галіфэ і боты. Пра сябе расказаў, колькі разоў кашлянуўшы, каб не паказаць хвалявання:

— Сам я дзеравенскі. Жылі бедна. Ні паесці як след, ні апрануцца. Па ваеннай спецыяльнасці — кулямётчык. Служыў у 49-й дывізіі, у Высокім. Ганяў на матацыкле, развозіў пакеты з загадамі і ўказаннямі начальства. Спаў у казарме. Раніцай 22-га казарма прачнулася ад кананады. Ясна было, што вайна. Яе чакалі з мінуту на мінуту, і ўсё ж такі пачалася паніка. Я сеў на матацыкл і ў штаб, а там ужо нікога няма, тады я паехаў па Маскоўскай шашы, але кіламетраў праз дваццаць матор заглух, скончыўся бензін. Прымкнуў да групы ваенных, і мы трапілі ў палон. Я хацеў схавацца — трава была высокая, — але немец заўважыў, аўтамат свой наставіў, жэстам загадаў кішэні вывернуць. Я вывернуў. Помню, на траву ўпалі пісьмы, некалькі фатаграфій, камсамольскі білет. Немец гэтак, ведаеце, грэбліва глянуў на іх, як цяпер помню, падбіў наском бота, нешта прамармытаў, а потым рэзка штурхнуў дулам аўтамата ў грудзі: «Пашоль!» Мы пайшлі ўсёй групай. Трапілі спачатку ў лагер пад Брэстам, у Паўднёвым гарадку. Умовы цяжолыя. Трэба ўцякаць. Вырашылі прарывацца ноччу праз драцяную агароджу, іншага выбару не было. Трынаццатага верасня ахова лагера спраўляла нейкае іхняе свята. Водку вазілі, прадукты. Вечарам немцы крэпка напіліся, і мы падкраліся да агароджы, кінулі на дрот мой шынель і адзін за адным папаўзлі. Ноч выдалася цёмная, з ветрам. Дагналі з сабакамі. Думалі, што расстраляюць, але неяк абышлося. Ім рабсіла нужна была. З Брэста прыгналі нас у лагер пад Бяла-Падляскай.

— Ведаем! — азвалася некалькі галасоў.

— Далей што. Пагрузілі ў эшалон і з Бяла-Падляскай павезлі ў Прусію. Таварняк. Вагоны старыя. Вынялі мы ў падлозе дошку. Рабята сталі вылазіць. Па вочарадзі. Я вылез дванаццатым. Вылазіш і падаеш на шпалы, вагоны праносяцца ўвярху. Патом падняліся са шпалаў, сабраліся, крыху ачухаліся. Што дзелаць? Засталося адно — ратавацца ў лясу. Ну, ратаваліся. Ішлі ноччу, па звёздах арыентаваліся. Польскае насяленіе падтрымлівала нас. Вечарам гоніш кароў з пастухамі, зойдзеш у хату, зварацъ бульбы, яшчэ чаго дадуць. Зіму пракантаваўся на хутары, у хазяіна. Пачуў пра партызан. Так аказаўся сярод вас.

Апавядальнік уздыхнуў.

— Ну, добра, — ён перайшоў на іншае, — камандзір у нас ёсць, але, як водзіцца, тым больш у нашых умовах, патрэбен яшчэ і камісар.

— Два мядзведзі ў адным берлагу не ўжывуцца, — засумняваўся Грышка.

— Ужывуцца! — пасміхнуўся Дзімка. — Так паложана. — Трымаўся ён зычліва і натуральна.

Камісарам прапанавалі Косцю. Камандзір згадзіўся і павёў гаворку далей:

— А цяпер, таварышы, пра наша цяперашняе становішча. Перш за ўсё — боегатоўнасць! Яе трэба падтрымліваць пастаянна. — Ён узяў вінтоўку, якая стаяла ў кутку разам з іншымі, бразнуў затворам і зазірнуў у канал ствала.

— Чыя гэта зброя?

— Ну, мая, — пасля працяглага маўчання азваўся Калода.

— Дрэнна за зброяй глядзіце, таварыш баец. Пачысціць трэба! Боегатоўнасць для нас — самае важнае! Нагадваю таксама пра дысцыпліну. Без дысцыпліны не будзе боегатоўнасці. Трэба наладзіць варту. Той, хто заснуў на пасту, караецца смерцю. Уранілі мы сябе, таварышы, у вачах людзей, цяпер

абратнае даказваць прыйдзецца. І яшчэ, — нагадаў Дзімка тым, хто, магчыма, гэтага не ведаў, — загады камандзіра абмеркаванню не падлягаюць.

— Мы, па сутнасці, баявая адзінка Чырвонай Арміі ў тыле ворага, — дадаў ужо як камісар Косця. — Ні на мінуту не забывайце, таварышы, што весці барацьбу нам давядзецца ў выключна цяжкіх умовах. Небяспека чакае на кожным кроку, каля кожнага куста. Дзейнічаць трэба вельмі асцярожна, але дзейнічаць трэба.

— Трэба саарудзіць паляну для правядзення агульных пастраенняў, — падумаўшы, сказаў камандзір. — Будзем дзяржацца тэрыторыі, якая прымыкае да пушчы.

## X

Далейшае жыццё пайшло ў іх з новым камандзірам і камісарам. Атрад патроху папаўняўся. Чатырнаццаць чалавек — гэта ўсё ж такі малавата. Пачалі далучацца новыя людзі — з ліку акружэнцаў, што жылі па вёсках, а таксама мясцовыя, хто быў на падазрэнні ў немцаў, каму пагражаў арышт або высылка ў Германію.

З такіх прыбіўся хлапчына па прозвішчы Малец. Росту і сапраўды невысокага, бялявы, худзенькі, скулы абцягвала жоўтая скура. Апрануты ў шэрую кашулю.

— Звалі мяне ўсе: малец ды малец — вось яно на прозвішча і выйшла! — тлумачыў ён. Солтыс прызначыў яго ехаць на работу ў Германію, але ён уцёк у лес. — Малец прыязна пасміхнуўся, як бы гаворачы: «Я свой, і вы такія ж, як і я».

— Жыў, як заяц пад кустом, — прызнаўся ён. — Цяжка быць аднаму.

— А ты выпадкам не дэзерцір? — задаў пытанне Кубартаеў.

— Не.

— Ну, дык што нам з табой рабіць? — запытаў Косця і паглядзеў на камандзіра.

Мальца таксама прынялі ў атрад.

— Але ж ты і храпіш, Малец! — пажартаваў з яго аднойчы Ванька-ёжык. Нос яго, здавалася, яшчэ гусцей абселі пацямнелыя вяснушкі. — Так і немец можа пачуць.

— Не пачуе! — заўсміхаўся хлопец. — У родным лесе можна і храпануць.

Прынялі Патыку — былога, як ён сказаў, намесніка старшыні сельсавета ў Расне. Цяпер ён быў аброслы, барадаты, як жабрак з-пад царквы, у шэрай змятай світцы. Шчокі і лоб рабыя, як гарохавае поле ўлетку. Запаслівы — меў пры сабе за плячыма драбавік.

— Ваенную справу ведаеце? — спытаў камандзір, пазіраючы на яго закарэлыя, як дубовыя сукі, пальцы.

— Адкуль? — паціснуў плячыма Патыка. — Але навучуся, калі будзеце вучыць.

— Ну, ладна.

Камандзір Новікаў — дабрэйшай душы чалавек — быў не супраць, каб узмацніць атрад за кошт мясцовых. З імі лягчэй і надзейней абладзіць побыт, знайсці кантакт з жыхарамі, вяскоўцамі. Аднак у асноўным гэта былі акружэнцы. Новенькія праходзілі іспыт, якім кіравалі камандзір і камісар. Яны і вырашалі лёс.

— А ты, Брунькін, дзе служыў? — звярнуўся Новікаў да маладога светлавалосага акружэнца, што, апусціўшы галаву, сядзеў на бервяне. Ён прыбіўся нядаўна. На ім, невядома дзе прыдбаны, мышасты нямецкі мундзір, туга схоплены поясам. Зброі яшчэ не раздабыў. Каля яго такі ж, як і ён, таварыш па няшчасці — Літуноў Алег, таксама акружэнец.

— Я ў Граеве служыў, — уздыхнуўшы, адказаў Брунькін, — гэта за Брэстам. Артылерыст. У артпалку служыў. У нядзелю раніцай як грамыхнула! Я думаў, што бамбёжка, думаю, авіяцыя скінула бомбы! Але не! Гэта ён з гарматаў па Граеве садануў. Бягу ў часць, а насустрач немцы, ужо Граева захапілі! Я — уцякаць… Па дарозе далучыўся да такіх жа, як і сам. Лесам ішлі, дык нічога, а як на поле выйшлі, дык аднекуль самалёт з'явіўся, нямецкі, двухфюзеляжны — і кулямётнай чаргой па нас. Мы — у рассыпную, але да лесу дабегла з нас толькі пяцёра. А яшчэ праз дзень і нас злавілі. Яны на матацыклах, узброеныя. «Хальт! Хальт!» Пагналі ў лагер. Лагер у Цярэспалі. Там фільтравалі. Кожнага дзясятага са строю выводзілі і за ногі да перакладзіны падвешвалі, пакуль сасуды на вачах не лопаліся. Вочы — чырвоныя, і нічога чалавек не бачыць. Каб не збег. Мне пашанцавала, пагналі далей. Зноў лагер. Гэта ўжо пад Беластокам было. «Шталаг-366». Гэта быў кашмар. Галодныя і ўшчэнт абаўшывелі. Ну, далей некуды. Уцякаць задумалі. Згаварыліся, і вось настаў той момант, з 11 на 12 жніўня. Звечарэла, і мы рванулі. Не ўсе, хто дамаўляўся. Я, ротны і яшчэ пяць чалавек. Астатнія, відаць, не адважыліся і засталіся…

— Відаць, змагліся рабяты, сілоў не хапіла, — паспачуваў Беражняк.

— Хто яго ведае. Цяпер вось засталіся з Алегам.

— Да вайны, помню, — здзіўлена сказаў Літуноў, — цэлымі днямі з пацанамі ў вайну гуляў. Наробім драўляных вінтовак, пісталетаў, гранат, за вёскай у карчах акопы выкапаем. Я — за камандзіра. Ад'ютанты ў мяне былі, запіскі разашлю — збор у столькі-та — і ўсе як адзін з'яўляюцца. Усё па форме, як у арміі. А цяпер усё вось як абярнулася…

З папаўненнем атрада кіраўніцтва пачало больш канкрэтна займацца баявымі справамі. Усё больш з'яўлялася зброі — і сваёй, савецкай, і нямецкай.

Нарэшце Ваня-ёжык адрамантаваў свой трафейны кулямёт — у Пахолкавай кузні. Цішка Пахолак прырабіў сашнік, і кулямёт выглядаў досыць баяздольным, гатовым да бою. Ваня дбайна пачысціў яго: разабраў затвор, змазаў усе дэталі, вычысціў канал ствала, праверыў патроны ў магазіне. «Буду, як Калеснікаў, — вырашыў ён, — з кулямётам! Кулямётчыкаў паважаюць усе!» Свой «шмайсер» аддаў Беражняку.

Стварылі групу падрыўнікоў. У падрыўнікі ішлі добраахвотнікі. Асабліва прыдаўся вопыт артылерыста Брунькіна, які ўзяўся выплаўляць з артылерыйскіх снарадаў тол. «Я ў артылерыі каля снарадаў хадзіў, — сказаў ён, — я гэта дзела панімаю». З толу можна было рабіць міны. У якасці ўзрывальніка мелі намер выкарыстаць нямецкую гранату з доўгім драўляным тронкам і шнурам.

Брунькіну дапамагалі Калода і Літуноў, а таксама мясцовыя — Малец з Валеркам Саўчуком, які ўцёк ад Несцера Фёдаравіча і, сустрэўшы разведчыкаў з атрада Новікава, далучыўся да іх. Хацелі прыставіць да Брунькіна яшчэ і Зіпунова, але той рукамі і нагамі замахаў: «Гэта не мая справа, у мяне цярпення не хопіць!» Яго не прымушалі.

Сыравіна знайшлася. Разведка ўстанавіла, што ў лесе пад Высокім, каля чыгуначнай станцыі, іржавее цэлы склад артылерыйскіх снарадаў, пакінуты нейкім аддзелам Чырвонай Арміі. Паслалі людзей — прывалаклі. Усё забраць

не здолелі, снарадаў аказалася некалькі соцень. Снарады цяжкія — па пяцьдзясят кілаграмаў кожны. Трэба іх грэць на агні, каб дастаць тол. Выкручвалі ўзрывальнікі і грэлі, кладучы на жалезныя жароўні, пад якімі разводзілі агонь. Выплаўлены тол разлівалі ў спецыяльна падрыхтаваныя формы, атрымліваліся толавыя шашкі. Склалі над вогнішчам паветку і прыносілі сюды снарады. Работа патрабавала вялікай асцярожнасці і спрыту, інакш снарад з толам мог узарвацца — тады ўсім падрыўнікам канец. Адзін недакладны рух і мог адбыцца выбух.

— Каб не гахнула! — турбаваўся Валерка Саўчук.

— Нічога, я загавораны, — запэўніў яго Брунькін.

Але аднойчы так і здарылася, хаця і па іншай прычыне. Усё ішло быццам бы як трэба, пяты снарад у агонь паставілі, але тол чамусьці не плавіўся. Вырашылі, што мала жару. Патрэбны былі дровы, і Калода адправіўся па дровы, а Брунькін — за наступным снарадам. Ля вогнішча засталіся Малец з Саўчуком, каб не прапусціць, дагледзець, калі тол пачне плавіцца. І раптам здрыганулася зямля. Бухнула так, што пясок, перамешаны з гарачым прысакам і дымнымі галавешкамі, пасыпаўся па ўсім лагеры партызанам на галовы. Усе зразумелі, што здарылася самае горшае, і, калі пыл асеў, людзі з жахам убачылі, што на месцы былога вогнішча ўтварылася вялізная яміна, а на дрэвах вісела тое, што засталося ад падрыўнікоў. Ад горкага, жаўтлявага дыму пяршыла ў горле. Ацалеў непаспешлівы Калода, а Малец з Саўчуком і Брунькіным загінулі.

— Эх, Брунькін-Брунькін! — уздыхаў яго сябар Калода.

Некаторыя выказвалі здагадку, што сярод звычайных снарадаў аказаўся нейкі іншы, іншага прызначэння — не з толам, а з порахам ці яшчэ з якой трасцай, а падрыўнікі не звярнулі на гэта ўвагі.

— Смерці не падперці, — адгукнуўся нехта на ўздыханні Калоды, і на гэтым усё скончылася.

Дыверсію на чыгунцы давялося адтэрмінаваць, і камандзір з камісарам задумаліся. А пара было рашыцца на нейкую вылазку, напомніць пра сябе, папоўніць боезапас, раздабыць пры магчымасці радыёпрыёмнік. Атрад жыў, нічога не ведаючы пра тое, што дзеецца ў свеце, якое становішча на фронце. Мурашку пасылалі ў Камянец, і ён прынёс адтуль некалькі газет і часопісаў. У загалоўках газет была пазначана: «Нам нужен Сталинград и мы возьмем его!», «Москва дрожит под градом бомб», «РОА в действии»… выходзіла, што ў немцаў суцэльныя поспехі.

— Прапаганда! — не верыў Калеснікаў, а з ім і іншыя. — Не ўсё ў фрыцаў ладзіцца! І ўжо даўно! Гэта яны толькі хвастаюцца!

— На гэта Гебельс — першы майстар, — пацвердзіў Бонк.

Але адчувалася, што і Чырвонай Арміі даводзілася цяжка.

«Нешта канкрэтна трэба рабіць! — разважалі паміж сабой камандзір і камісар. — А то застанемся ў чалавечай памяці нейкімі лясными тулягамі ды і ўсё на гэтым».

— Пужнуць іх нада! — пастаянна цвердзіў Ваня-ёжык. — Правільна я кажу, Кубартаеў?

— Варта было б фрыцам на хвост наступіць! — згаджаліся і Кубартаеў, і Бокша, і Бонк.

Словам, трэба было напомніць аб сабе, — гэтак думалі ўсе.

Да вылазкі рыхтаваліся загадзя. Вырашана было зрабіць засаду на гасцінцы паміж Вярховічамі і Высокім. На гэты конт Дзімка раіўся з Косцем і Калеснікавым. Косця падтрымаў.

— Патрэбна нечаканасць, — сказаў Калеснікаў.

Увесь асабовы састаў атрада са зброяй сабраўся каля буданоў на пляцоўцы для агульных пастраенняў. Партызаны пасталі ў дзве шарэнгі, сцішыліся.

— Есць адна прапанова, — звярнуўся камандзір да сяброў, зухавата агледзеўшы строй. Побач з ім стаяў камісар.

— А канкрэтна што? — пачуліся галасы.

Камандзір прайшоўся ўздоўж шарэнгаў, яшчэ раз агледзеў падначаленых. Ён прывучыў іх змаўкаць, калі гаварыў. Прайшоўся раз, другі і, пасярэдзіне, спыніўся.

— Канкрэтна — трэба засаду зрабіць!

— Вось гэта — дзела! — адгукнуўся Ваня-ёжык, узрадаваны, што нарэшце «наклёўваецца» работа для яго кулямёта.

— Ёсць прапанова пачакаць іх ля шашы на Высокае, — удакладніў камандзір, — там яны шмат ездзяць. Спаганяюць з навакольных вёсак падаткі, на нашага брата палююць, падазроных затрымліваюць.

— Зразумела, таварыш камандзір! — адгукнуўся Кубартаеў.

— Не трэба так афіцыйна — усе мы ў адным становішчы, на рызыку ідзём. Не на прагулку.

Кожны, вядома, гэта разумеў.

— Заадно і кулямёт апрабуем, цяпер ён у мяне, як новы! — не пераставаў радавацца Ваня-ёжык, пяшчотна пагладжваючы сваю зброю. — Ты ж панімаеш!..

— Цішэй, таварышы! — падаў голас Косця.

Строй прымоўк, усталявалася цішыня, і камандзір пачаў тлумачыць:

— Наша дыспазіцыя наступная: з разведкай скрытна рухаемся ланцужком да шашы. Мэта — участак дарогі за дзярэўняй Кашчэнікі. Прапаную адолець адлегласць адным начным браском. Залягаем і чакаем. Далей — па абстаноўцы. Без каманды не страляць. У часе бою часцей мяняць агнявую пазіцыю!

Дзімка гаварыў і хваляваўся, перажываў. Моцна білася сэрца. «Паглядзім, што вы за людзі, на што здольныя?» — думаў ён, углядаючыся ў аблічны паплечнікаў, ведаючы, што характар чалавека найлепш раскрываецца ў баі.

— Можа, прывал зрабіць? — выступіў з прапановай Беражняк.

— Не трэба! — запярэчыў яму Калеснікаў. — Прывал — гэта ноччу, а днём прывал не патрэбен. — Паводзіў сябе Калеснікаў, як заўсёды, спакойна і ўраўнаважана, час ад часу папраўляючы «дзягцяр», які вісеў у яго на плячы.

Паснедаўшы, не марудзячы рушылі ў дарогу. Папераздзе, метраў за сто, на выпадак небяспекі камандзір выслаў дазор, які можна было б бачыць тым, хто ішоў ззаду. Адчувалася, што Дзімка — граматны ваяка.

— Трымаць дыстанцыю! — чуўся яго камандзірскі голас. — Не збівацца ў групы! За мной! Па дарозе ў агнявы кантакт не ўступаюць!

Усе каманды зразумелыя і талковыя.

Чалавек дваццаць пяць было ў атрадзе, ішлі ляснымі сцежкамі, месцы выбіралі найбольш глухія, абыходзілі балацявіны і старыцы. Прабіраліся, збіраючы цэпкія калючкі, праз густыя зараслі лапухоў і дзядоўніку. Ідучы, сагрэліся. На спіне, на лапатках віднеліся мокрыя ад поту плямы.

Часам кідалі адзін аднаму кароткія рэплікі.

— Разгаворчыкі! — шэптам рабіў заўвагу Косця, які ішоў пасярэдзіне ланцужка, калі чуў нейкія перашэпты. Да таварышаў, як да сябе, быў патрабавальны.

Ваня-ёжык нёс свой кулямёт, тулячы яго, як маці дзіця, да грудзей. Патронаў, праўда, было малавата, усяго дваццаць штук, але Ваня начысціў іх да бляску, яны ў яго ў дыску ажно зіхацелі.

Камандзір ішоў паперадзе.

— Таварыш камандзір! — дагнаў Косця. — Нельга вам першым ісці! Магчыма засада ці яшчэ што. Што тады?

— А я загавораны, мяне куля не возьме, — пасміхнуўся Дзімка і, азірнуўшыся на тых, хто ішоў следам, падбадзёрыў: — Шырэй крок!

Перайшлі глыбокі лясны роў, зарослы травой, на дне плюхалася карычневая вада. Па часе зрабілі прывал, прыселі ў густым, маладым хвойніку, падсілкаваліся сухарамі, запілі вадой з ручаіны. Рушылі далей.

Сухая фіялетавая бліскавіца з трэскам раскалола неба. Пачаў накрапваць дождж. Вырашылі не чакаць, калі ён спыніцца, пайшлі далей.

— Дождж — у нашу карысць! — сказаў Беражняк. — Ніхто нас не заўважыць!

Набракла вільгаццю і стала цяжкім адзенне, але на гэта, вядома, ніхто не звяртаў увагі.

Начавалі ў лесе, драмалі, прываліўшыся да камлёў. Заадно перачакалі і дождж. Да месца дабраліся на золку. На падыходзе да гасцінца дазор спыніўся. Падцягнуліся астатнія. Усе разам узышлі на пагорак, парослы густым асіннікам і купчастым ядлоўцам. Мясціна была надта прыдатная для засады, лепшай і не прыдумаць: тут якраз быў паварот, гасцінец пятляў і рабіў дугу, ствараючы нязручнасць для таго, хто паспрабаваў бы ўцячы з-пад абстрэлу. Паабапал дарогі былі пракапаны даволі глыбокія канавы. Гэта таксама дадатны момант: не проста збочыць.

Дзімка зірнуў на сяброў:

— Ну што, рызыкнём? Месца не благое, і вёскі паблізу няма, на вяскоўцаў падазрэння не будзе, а то ім у такіх выпадках дастаецца горш, чым нам, — і пачаў размяркоўваць, каму дзе залегчы. Калеснікаў сам выбраў месца — залёг са сваім «дзегцяром» на правым фланзе, тут можна было прастрэльваць увесь участак. Непадалёк, злева і справа, замаскіраваліся Хлябіч, Беражняк, Кубартаеў, Бокша, Зіпуноў і іншыя.

Ваня-ёжык прытаіўся ў цэнтры партызанскага ланцужка, у хмызняку, каля старога замшэлага пня. Побач з ім, з левага боку, апусціўся сам Новікаў, высунуўшыся крыху ўперад і пяцярнёю змахнуўшы з ілба пот.

— Без каманды не страляць! — шэптам папярэдзіў ён Ваню і ўсіх астатніх, што заляглі на кароткай адлегласці адзін ад аднаго. — О! — падняў угору палец, даючы зразумець, што ўсё павінна пачацца па яго камандзе, і да ўсяго дадаў: — Весці толькі прыцэльны агонь. З патронамі ў нас не густа!

Пачалі чакаць.

Праехалі сяляне — на падводах сядзелі маўклівыя дзядзькі, кіраваліся, пэўна, у Высокае на базар. Іх, вядома, прапусцілі, і яны праехалі, нічога не заўважыўшы.

— Шляюцца тут усякія! — злосна прасіпеў Ваня-ёжык. — Ты ж панімаеш!

Прайшло яшчэ колькі часу, абсохла адзенне, але на гасцінцы ніхто не з'яўляўся. За лесам, над левым флангам, пачало ўзыходзіць сонца. Ззаду паціху зашумеў лес. Стала зусім светла, аднак гасцінец пуставаў, толькі над кустамі, трапечучы крыльцамі, лёталі стракозы.

— Нехта едзе! — зноў заварушыўся Ваня-ёжык, у яго быў добры слых.

Усе прыслухаліся, і кожны адчуў на спіне нейкі непрыемны халадок. З-за пагорка выразна данёсся скрып вазоў. Гэта быў цэлы абоз.

— Бінокля няма, — пашкадаваў Дзімка, але, па меры набліжэння ўсёй гэтай працэсіі, карціна ўсё больш праяснялася: абоз суправаджалі немцы. Паперадзе крочыў малады афіцэрык з аўтаматам на шыі, не здагадваючыся, вядома, што яго тут, на павароце, чакае. Падводы канваіравалі паліцаі з белымі павязкамі на рукавах і карабінамі напагатове і немцы ў жандарскай форме.

— Зараз мы ім дадзім жызні! — паабяцаў Ваня, угнуўшыся за кулямётам.

— Ну, што? Ударым? — азваўся нехта ў партызанскім ланцужку. Здаецца, гэта быў Бокша.

— Падрыхтавацца! — ціха загадаў камандзір, пусціўшы каманду па ланцужку. — Страляць па камандзе.

Усе затаілі дыханне. Косця таксама асцярожна падцягнуў аўтамат, ціха, бязгучна, зняў затвор з засцерагальніка і акуратна прыцэліўся ў галаву афіцэра, што ішоў паперадзе. Усё гэта ён зрабіў з такім адчуваннем, быццам гэта была работа, якой ён займаўся ўсё жыццё.

Калі афіцэр падышоў амаль што да паварота, Дзімка ў нервовым натужанні не то крыкнуў, не то прашаптаў:

— Агонь!

З пагорка, з кустоў, з усіх ствалоў ударылі партызаны. Стрэліў і Косця, даў доўгую чаргу. Добра было відаць, як з афіцэра зляцела фуражка з крутым верхам і ён, не паспеўшы выстраліць, бязладна ўзмахнуў рукамі і грымнуўся на зямлю. Бухнуў са свайго драбавіка Патыка. Перазарадзіў і зноў бухнуў.

— Hinterha-alt![1] — на ўсе галасы закрычалі жандары.

Палахліва заіржалі коні, узняліся на дыбкі, развярнуліся ў розныя бакі, некаторыя пазбіваліся ў кучу, загароджваючы адзін аднаму дарогу. Кінуліся ў лес сяляне-падводчыкі. Нехта закрычаў благім матам, заскуголіў. Мусіць, паранены ці прыдушаны.

Заляскатаў кулямёт — гэта працаваў калеснікаўскі «дзягцяр». Побач доўгаю чаргою зайграў чыйсьці аўтамат. Ваня-ёжык таксама націснуў на спускавы кручок, кулямёт уздрыгануўся, нібы абудзіўшыся ад глыбокага здранцвення, заляскатаў, з прарэзлівым енкам пускаючы кароткія чэргі: «Др-др-др!» Дзімка Новікаў заўважыў, як уздуліся і напружыліся жылы на Ваневым ілбе і напучыліся вочы. І тут адбылося нешта нечаканае і неверагоднае. Кулямёт падскочыў, раптоўна павярнуўся дулам у левы бок і, як ашалелы, секанзў густой чаргой. Кулі пранесліся ў нейкіх сантыметрах ад Дзімкавай галавы, зачапіўшы казырок фуражкі і адарваўшы ад яго кавалак цыраты. Гэтага ніхто не чакаў — ні кулямётчык, ні сам Дзімка, які рэзка ўгнуў галаву і прыціснуўся да зямлі. Усе, хто сядзеў у тым баку, куды ўдарылі кулі, кінуліся ад дарогі.

— Ты, так тваю маць, што робіш?! — вылаяўся Дзімка, абмацваючы казырок. — Ты што-о!?

Няўдалы кулямётчык ад нечаканасці ледзь не самлеў ад таго, што адбылося. Адняло мову — нічога не мог сказаць. У Дзімкі таксама ажно скрывіла рот. Ён зірнуў на Ваню, потым на кулямёт і ўбачыў зламаны сашнік:

— Што? Неверагодна!

— Зламаўся! — пацвердзіў Ваня.

Дзімка, ужо ачомаўшыся, паглядзеў на яго, адвярнуўся і плюнуў. Ваня аднак не разгубіўся, падняўся на калені і, узяўшы кулямёт у рукі, з пера-

[1] Засада! *(ням.)*

кошаным ад хвалявання тварам, расстраляў рэшту патронаў, што знаходзіліся ў дыску. Кулямёт змоўк, а Ваню ахапіла нястрымнае пачуццё радасці, калі ён убачыў, што некалькі постацей у брудна-зялёных шынялях, як падкошаныя, упалі на дарогу.

— Знайце, гады, Ваню-ёжыка! — ён кінуў на дол апустошаны кулямёт, сашчапіў кулакі і ўзняў над галавой. — Я вам пакажу, маць вашу! Сволачы! Гады! Засранцы!

Ён бы яшчэ нешта крычаў, забыўшы пра страх і пагрозу, але раптам пачаў хіліцца на бок, узіраючыся непрытомнымі вачыма ў камандзіра і як бы не пазнаючы яго, захрыпеў і ўпаў, нічком прыгарнуўшыся да зямлі. Дзімка, забыўшы пра ўсё, кінуўся ратаваць кулямётчыка, павярнуў на спіну. З куточка вуснаў цягнуўся ярка-чырвоны струменьчык. Ваня быў ужо нежывы.

— Убіт! — з горыччу вымавіў Дзімка, адчуўшы, як даўкі камяк сціснуў горла. — Адваяваўся! Напавал! — Няёмка стала перад забітым: «А я толькі што накрычаў на цябе, Ваня. Эх, дарэмна я гэта зрабіў, ты ж быў невінаваты…»

Партызанскі агонь аслаб, і немцы, скарыстаўшы замінку, апрытомнелі. Пачуліся адрывістыя крыкі каманды: жандары заляглі і пачалі заядла адстрэльвацца. Кінулі некалькі гранат. Застрачылі два кулямёты. Па траве фантанчыкамі пылу азначылася кулямётная чарга.

Смерць сябра моцна ўразіла Дзімку, і ён не мог стрымацца нават пачуўшы, як над вухам свіснула куля. Нутро апаліў гнеў і жаданне адпомсціць.

— Ура-а-а! — крыкнуў ён чамусьці тонкім і вісклівым голасам.

— Ура-а! — падхапілі навокал.

Партызаны з крыкам кінуліся на дарогу, але кулямётны агонь з боку немцаў быў такі моцны і густы, што давялося залегчы і прыціснуцца да зямлі. Асабліва дакучаў кулямётчык, што стаіўся за крушняй каменняў з краю дарогі, на абочыне. Страчыў заядла, пускаючы з нямецкай акуратнасцю чаргу за чаргой. Відаць было, нават пры дзённым святле, як са ствала вырываліся трапяткія язычкі полымя. Аднаго кулямётнага агню немцу падалося, відаць, недастаткова, і ён кінуў гранату з доўгай драўлянай ручкай. Граната чмякнулася аб зямлю і адскочыла да таго месца, дзе ляжаў Калеснікаў. Той аднак не разгубіўся, схапіў гэтую жывую смерць і ў адно імгненне шпурнуў яе назад, за крушню, дзе сядзеў немец. Граната, нібы спазніўшыся, ярасна ўскінулася жаўтлявым агнём, пачуўся выбух, і кулямёт змоўк, быццам чымсьці папярхнуўшыся. Ажыў другі кулямёт, але яго прымусіў змоўкнуць Беражняк. Ён, зрабіўшы круг, запоўз з тылу і застрэліў кулямётчыка, які праявіў неабачлівасць, захапіўшыся сваёй справай і забыўшыся на небяспеку.

Паліцаі і частка немцаў-жандараў не аказалі супраціўлення і разбегліся яшчэ раней. Можна было браць трафеі і знікаць. Так яны зрэшты і зрабілі. Параспрагалі, вызвалілі з аглобляў коней, якім пашанцавала ацалець. Ачуняўшы, жывёла разбрылася па наваколлі.

Узняўся настрой і ў партызанскім войску.

— Ну, задалі ім пацяробку! — сказаў Грышка і, не марудзячы, падбег да забітага афіцэра, мітусліва пачаў абмацваць кішэні. Дастаў гадзіннік.

— Ты што? — хацеў спыніць яго Косця.

— Хай, на памяць.

— Ну ты даеш! Аружжа — іншая справа.

Каля афіцэра папярок дарогі ляжаў другі немец, ён упаў дагары, раскінуўшы доўгія ногі ў кароткіх ботах з шырокімі халявамі. Некаторыя паскочваліся з насыпу.

Спехам забралі зброю забітых, іх аказалася восем чалавек. З афіцэра знялі планшэтку.

З партызанскага боку загінуў адзін — Ваня-ёжык. Навокал сабраліся сябры. Веселуна Ваню ў атрадзе любілі, але цяпер нічога не заставалася, як закрыць яму вочы.

— Эх, Ваня-Ваня, — шкадаваў сябра Кубартаеў.

Параніла Непагодзіна. Невялікі гранатны асколак драпянуў нагу са знешняга боку вышэй галенаступнёвага сустава. Герасім Непагодзін з'явіўся ў атрадзе нядаўна, да гэтага хаваўся ў аднаго хутараніна. Акружэнец, як і большасць. У атрад прыйшоў у паношаным бушлаце і шырокіх растаптаных чаравіках. Чаравікі выглядалі яшчэ больш вялікімі на яго тонкіх, абкручаных абмоткамі, нагах. Як і ўсе акружэнцы, Непагодзін шмат пеpажыў. Уцёк з нямецкага палону, з лагера, доўга прабіраўся на ўсход сонца. Было, што аднойчы паліцаі затрымалі, пачалі біць. «Рукі скруцілі, — расказваў Непагодзін, — і за спінай вяроўкай звязалі. Потым у нейкую хату зацягнулі і вартавога прыставілі, а самі па самагонку пайшлі. Што рабіць? Я паднатужыўся і вяроўку паспрабаваў аслабіць, і гэта мне ўдалося, выцягнуў з пятлі руку, але за спінай трымаю, віду не паказваю. Пазіраю на вартавога, і калі ён адвярнуўся, я падскочыў, левай рукой заціснуў яму рот, а правай схапіў са стала відэльцы і ўвагнаў паліцаю ў патыліцу, потым выхапіў у яго вінтоўку і дабіў прыгладам. Сам — наўцёкі…»

І вось цяпер Непагодзін не ўбярогся — параніла.

— Галоўнае, каб косць не зачапіла, — сказаў Бокша.

— Здаецца не зачапіла, — Непагодзін шавяльнуў ступнёй і мог нават на яе наступіць. Сачылася аднак кроў, і рану прыкрылі, чым маглі, і ён перацягнуў яе рэменем.

— А дзе Зіпуноў? — агледзеўся Бонк, які з Зіпуновым сябраваў і іх часта бачылі разам.

Пачалі шукаць, дзе ён мог падзецца. Шукалі даволі доўга, вярнуліся на пагорак, на месца засады, і нарэшце знайшлі. Ад страху ён забіўся ў ядлаўцовы куст, прыгнуўся як мага бліжэй да долу і не варушыўся. Вылузаўшыся сяк-так з куста, пачаў апраўдвацца, угнуўшы галаву, несці розную лухту. Яму здалося, што ўсе ўцякаюць, і ён, маўляў, таксама страціў кантроль над сваімі дзеяннямі. Як бы нехта гнаў.

— Можа цябе кантузіла? — спытаў Беражняк.

Зіпуноў няўцямна пацiснуў плячыма. Вусны яго дрыжэлі.

— Надта спалохаўся, — прызнаўся ён нарэшце.

— Ну і ваяка, тваю маць! — вылаяўся Калеснікаў. — Баязлівец!

— Гэта ў мяне пасля лагераў, я нават пацею… — Зіпуноў ляскаў зубамі і ўвесь калаціўся ад страху. — Гэта ў апошні раз, больш не паўторыцца. Сам не ведаю…

— Адставіць! — спыніў яго камандзір. Разбор аперацыі і ўсяго, што здарылася, ён разлічваў правесці потым. — Адыходзім!

Хтосьці запытаў:

— А што рабіць з зярном?

— Спаліць! — падаў думку Бонк.

Яны сцягнулі з вазоў мяшкі з жытам, склалі іх у адно месца, абклалі кучу саломай і падпалілі.

— Адыходзім! — зноў паўтарыў Дзімка.

— Пачакаем, хай сцямнее, — азваўся Непагодзін.

Але марудзіць не даводзілася — магла быць пагоня. Немцы ачомаюцца, і з'явіцца падмацаванне на аўтамашынах ці матацыклах.

Ваню-ёжыка неслі на насілках — знялі і прыладзілі для гэтага драбіну з сялянскага воза. Шчыльна закрылі забітаму вочы. Палоска засохлай у куточку рота крыві засталася. Пахавалі партызана на прыкметным месцы, пад высокай разложыстай сасной, абклалі магілу дзёрнам. Крыху пастаялі. Хтосьці з акружэнцаў ціха заспяваў: «И родные не узнают, где могилка моя-я…»

Трэба было вяртацца да сваіх буданоў. Рухаліся хутка, подбегам. Стараліся заблытаць сляды. Наступнай ноччу былі ўжо на месцы.

— Што ж, таварышы, — сказаў Дзімка, — віншую з баявым хрышчэннем! З пачынам!

— З пачынам! — адгукнуліся партызаны. — Улупілі па першае чысло!

— Ну вось, цяпер мы абстраляныя. Правільна я кажу?

— Правільна! — зноў адгукнулася грамада. — На ўра яго! Гоцаць!

Камандзіра падхапілі і колькі разоў падкінулі ўверх.

«У цэлым, здаецца, не блага атрымалася, — адзначыў у думках Косця. — Хай сабе не ўсё ўдалося, але пораху панюхалі…» Ён яшчэ раз зірнуў на сяброў. Разгарачаныя боем, яны цяпер паспакайнелі, вочы пазіралі ўважліва, у паглядзе адчуваўся новы вопыт, веданне таго, што можна жыць і так, знаходзячы выйсце нават там, дзе яно здавалася немагчымым.

## XI

У Свісціяна з Маркелам — свае клопаты і свая актыўнасць. У той дзень яны да самага вечара адлежваліся ў сваім схове, а, калі добра змерклася, выбавіліся на свежае паветра. Першым праціснуўся Маркел, за ім — Свісціян. Здарылася непрыемнасць. Абвалілася бервяно і моцна ляснула Свісціяна па галаве.

— Што? Што такое? — усхапіўся ён.

Напарнік маўчаў.

— Што за халера такая!? — вылаяўся Свісціян і, пнуўшы нагой бервяно, накінуўся на Маркела: — Гэта ты, ядрона вош, наўмысна яго гэтак паклаў! А яшчэ лыбішся!

— Ты ачумеў ці што? — бараніўся Маркел, і не відаць было, каб ён пасмейваўся. — Вярзеш абы-што! Я паклаў? Ты сам яго клаў! Ну і памяць у цябе! Нічога не памятаеш.

— Гэта я не памятаю? Я? За каго ты мяне лічыш?

Маркел, не маючы смеласці пярэчыць, змоўк.

— Як стукну зараз кулаком па зубах, дык мала не здасца! — Свісціян аберуч трымаўся за галаву — яму, відаць, балела.

— Ну, ашалеў! Гэта ж трэба… — дзівіўся сябар і матляў галавой. — Ай-яй…

— Ладна, не крыўдуй! — Свісціян пайшоў на міравую. — Гэта я пагарачыўся. Але ж баліць! Эх, Маркелка! — Ён аддыхаўся, і яны, як дамовіліся, рушылі ў бок Пакупчыкаў, дзе жыў той самы Мікалай Шалонік, якога яны вырашылі наведаць.

— Злы ты, Свісціянка! — сказаў па дарозе Маркел. — У цябе, я заўважыў, нават з вушэй валоссе тырчыць.

— Хай тырчыць! З валоссем вуху цяплей.

Ноч выдалася сырая, і хоць дажджу не было, ён як бы вісеў у паветры, і ўсё было вільготным.

Лосьну, паміж Млынамі і Бранавічамі, адолелі ўброд. На беразе апрануліся і пайшлі карчамі. Перайшлі гасцінец, што вёў у Ратайчыцы, абмінулі хутар Карпішука і далей пасунуліся полем.

У Пакупчыкі дабраліся недзе за поўнач, вёска ўжо спала. Шалонікаву хату знайшлі хутка, яна стаяла з краю, па правы бок, з цёмнымі вокнамі. Непадалёк ад Макаравай, якую Свісціян наведаў мінулай зімой. Свісціян даў Маркелу свой наган і загадаў вартаваць каля хаты, а сам ціха пастукаў у акно і, калі за шклом забялела чыясьці постаць, прыглушана сказаў:

— Адчыні!

У хаце, чутно было, загаманілі і замітусіліся, і неўзабаве загрымела засаўка. Мікалай баязліва адчыніў дзверы, і Свісціян, уваліўшыся ў праём дзвярэй, замест прывітання прахрыпеў, зачапіўшыся прыкладам за вушакі, угнуўшы галаву:

— Ну што, падлец, адчыняй камору!

Гаспадару, які ад такой неспадзяванкі ажно закалаціўся ад старху, нічога не заставалася, як выконваць загад. Наталка запаліла лямпу.

— Ой, божачкі, што ж гэта, што ж гэта робіцца? — засакатала яна, палахліва пазіраючы на начнога госця.

На ложку, пад коўдрай, заварочаўся і падхапіўся Мікалаеў сын Алёша, але Свісціян строга, з жалезнай логікай, загадаў:

— Спі, калі хочаш жыць!

Свісціяна пазналі. Ён зайшоў у камору следам за гаспадаром, шморгнуў носам, быццам абмацваў пахі, што панавалі ў гэтым памяшканні. Пахла сушанымі грушамі і мятай, пучкі якой Наталка мела звычай развешваць па сценах.

— Бяры сушаныя грушы! — прапанаваў Мікалай. — Добрыя грушы! Салодкія!

— А на які ляд яны мне здаліся? — вызверыўся на яго начны госць. — Ты што, ёлупень, смяешся?! Ах, ты смяешся, ядрона вош! З мяне? — Глыбокі шрам на Свісціянавым ібле пагрозліва пачырванеў.

— Не, гэта я ў выпадку прастуды, з іх адвар добры.

— Давай тое, па што я прыйшоў! — наступаў Свісціян. — Не прыкідвайся дурнем! І мяне ім не лічы.

Гаспадары пераглянуліся паміж сабой і, прызнацца, падумалі, што нечаканы госць шукае гарэлку. Але не. Гаворка ішла пра іншае.

— У цябе ёсць гадзіннік! Адной гарэлкай не аддзелаешся! Ёсць гадзіннік?! — Свісціян амаль зароў. — Гадзіннік, ядрона вош!

— Ёсць, але, відаць, зламаўся, бо нешта спыніўся, не ідзе.

— У мяне пойдзе! Табе ён не трэба, цябе куры будзяць, а ў мяне курэй няма! Адно лес шуміць!

— Ты не крычы, — папрасіў Мікалай, — у мяне для крыку слабыя вушы. — Ён падняў века куфра, дастаў гадзіннік, які ляжаў там у прыскрынку, прыкрыты нейкай мішурой, і працягнуў Свісціяну. Той не стаў разглядаць, адразу сунуў у кішэнь, як бы баяўся, што адбяруць назад.

— Амерыканскі, ад дзядзькі Калістрата дастаўся, — не то пахваліўся, не то паскардзіўся Мікалай, уздыхнуўшы.

Гаспадыня стаяла і калацілася ад страху.

— Боты ў цябе ёсць? — зноў задаў пытанне Свісціян, з шумам шморгнуўшы носам.

Нельга было адказаць «не», бо боты, святочныя Мікалаевы боты, якія ён абуваў толькі калі ішоў у царкву ці ў госці, віселі, змазаныя гусіным тлушчам,

тут жа, на жэрдачцы, каб да іх, крый божа, не дабраліся мышы. Мікалай толькі неяк жаласна на іх паглядзеў, як бы развітваўся. Свісціян, доўга не думаючы, зняў з жэрдкі звязаныя адзін з другім боты, прыкінуў памер, мармытнуў нешта сабе пад нос і перакінуў цераз левае плячо (на правым вісела СВТ).

— Не бяды! Не мы, дык хто іншы забраў бы, — нібы суцешыў ён гаспадароў і на адыход напомніў: — Давай гарэлку! Чуеш?! Казаў, што маеш. Я б не браў, але трэба.

«Не гарэлкі табе, а смалы гарачай», — з сумам падумаў Мікалай, але, уздыхнуўшы, пайшоў выконваць загад. Дзве бутэлькі «карчоўкі», якіяаднекуль ён прынёс, рассаваў па кішэях і выйшаў на вуліцу, дзе ў начной цемрадзі чакаў Маркел.

— Каб нікому ні слова! — кінуў на развітанне гаспадарам. — Маўчок!

Маркел, стаіўся ў вішанніку. Убачыўшы сябра, выйшаў насустрач, сцепануў тоўстымі плячыма, кашлянуў.

— Ну вось, ліха яго матары, гадзіннік раздабылі і боты, — пахваліўся Свісціян, — і пару пляшак самагонкі маем. Не блага!

— Не блага, — павесялеў Маркел. — І як гэта ты ўмееш?

— Нічога! І ты навучышся.

— Кемлівы ты, Свісціянка.

Да сябе, у схоў, вярталіся той жа дарогай.

На наступным тыдні такім жа чынам наведаліся яшчэ да аднаго гаспадара ў Сухаволлі. Паступова ў курс справы ўваходзіў і Маркел.

— Вось яно якое — вольнае жыццё! — шчэрыў зубы Свісціян. Ён часта даставаў з кішэні Мікалаеў гадзіннік, адчыняў вечка, пстрыкаў пазногцем па цыферблаце і казаў: «Ламачына, а ў мяне пайшоў! У мяне што хочаш пойдзе!» Маркел чакаў, калі гадзіннік будзе і ў яго.

Такое жыццё пачынала ім нават падабацца. На Свісціянавым безыменным пальцы ўжо паблісквеў тоўсты пярсцёнак.

— А баба ў цябе ёсць? — спытаў ён неяк сябра.

— Якая баба? — не зразумеў Маркел.

— Ну, каханка.

— Ты што? — сумеўся Маркел. — Якое цяпер каханне? Ваенны час! Не пагуляеш…

— А я маю. Вабноты, я табе скажу, першагатунковыя! І яшчэ не старая. Ох, грэшніца…

Маркел не падтрымаў гэтай размовы. Яны нейкі час маўчалі, відаць, кожны думаў пра сваё.

Так пачалося іх сумеснае лясное жыццё. Днём яны звычайна спалі, затуліўшы выйсце карчом ядлоўца, выходзілі на паветра, калі добра звечарэе. Калісьці даўно мясцовы ўніяцкі мітрапаліт Пацей сказаў пра вайну, што яна «выварочвае грунт» пад нагамі людзей, і меў рацыю. Атрымалася так, што сярод такіх людзей аказаліся і Свісціян з Маркелам, якія і да таго слаба адчувалі грунт пад сабою, найперш грунт маральны, а цяпер наогул яго пазбавіліся. Быццам яго ніколі і не было.

— А недзе ж і вайна ідзе, — успомніў аднойчы, пасля папаскі, лежачы ў схроне, Маркел.

— Ваююць, ліха яго матары! — згадзіўся Свісціян.

— Мусіць, Гітлер даб'ецца свайго.

— Хто яго ведае. Дужы ён. Але ж і Сталін, халера яго не брала, жывучы! Жывучы і хітры! Спі!

— Апухнеш ад сну…

— Не, паспаць лішнюю гадзіну добра.
— Але ж ты і храпіш! — падзівіўся Маркел.
— Ну і што?
— Доўга чакаць, калі прачнешся.
— Нічога, пачакаеш.
Начныя свае «набыткі» вырашылі перахоўваць у Маркелавай маці.

* * *

А неўзабаве прускаўцы перажылі адну незвычайную падзею, якая ціха, але грунтоўна скаланула ўсіх. У вёску наведаўся амтскамісар з Ратайчыцаў — той самы тоўсты, як бочка, Люльке. Выгляд меў такі ж, як і ў першы раз: фуражка з высока задраным верхам, на носе пенснэ, пояс на адвіслым перадзе адцягвала цяжкая кабура, але ў руках трымаў ужо не стэк, як звычайна, а пругкую гумовую палку. Прасцей кажучы, бізун, які ў Прусцы так і называлі: гума. З гэтай прыладай, гаварылі, камісар не расставаўся. Есці не сядзе, пакуль каго не спляжыць. Меў нейкую паталагічую схільнасць да таго, што ён называў парадкам. Правяраў, ці падмецены вуліцы. Ажно пеніўся ад злосці і хапаўся за «гуму», калі бачыў, што з сялянскага воза цярушыцца на дарогу сена. Але чамусьці болей за ўсё ўсіх страшылі яго высокая, ажно заломленая назад фуражка і бліскучае пенснэ на носе як увасабленне нейкай вышэйшай і канчатковай сілы. З-пад фуражкі вытыркаліся маркоўнага колеру валасы.

Сходку склікалі, як і ў той раз, на пляцоўцы перад школай. З машыны вылез Люльке, бліснуў шкельцамі пенснэ, зняважліва азірнуўся.

— Чорт нейкі! — стоячы ззаду, не вытрымала, ціха сказала Хомчыха. — Ашалець можна!

Сапраўды, пагляд яго прыжмураных вачэй з-за зіхоткіх шкельцаў пенснэ не абяцаў нічога добрага. Пра амтскамісара казалі, хоць прускаўцы і не надта гэтаму верылі, што ён быццам бы нікога не любіў, апроч свайго сабакі. Пры ім, як заўсёды, знаходзіўся оберперакладчык Мандрашчак. К канцу 1941 года немцы пачалі праганяць палякаў з усіх пасад ва ўстановах і паліцыі. Давер да палякаў прапаў, але Мандрашчак на сваёй пасадзе ўтрымаўся.

Крыху воддаль ад Мандрашчака стаяў Фелікс Пыр у сваёй чорнай адзежыне з падвешаным на шыі карабінам, на які ён паклаў цяжкія, закасаныя да локцяў, рукі. Пыр прыехаў на веласіпедзе. З ім яшчэ некалькі ўзброеных паліцаяў, у тым ліку былы акружэнец Цароў, таксама на веласіпедах.

Апошнім часам партызаны ўсё больш давалі адчуць сваю прысутнасць у гэтых мясцінах, таму на акцыі выязджалі групамі, пры добрым узбраенні. Амтскамісар Люльке фанатычна баяўся партызан, якія паводле яго ўяўлення, з'яўляліся і знікалі, як прывіды. Ён прызнаваў іх за злых, абвешаных зброяй, гномаў, што жылі ў цёмным, кашлатым лесе, вынырвалі адтуль, каб зрабіць сваю чорную справу, і зноў хаваліся ў лес. Не, гэта былі не гномы з казак Братоў Грым, а хутчэй за ўсё нагадвалі разбойнікаў Шылера, узброеных аўтаматамі. Амтскамісар паціскаў плячыма і пастаянна паўтараў сваім падначаленым: «Не можам справіцца з нейкімі бандытамі — у той час, калі нам скарылася ўся Еўропа!» Колькі дзён назад утварылі неверагоднае! На падуладнай Люльке тэрыторыі, у вёсцы Магілёўцы, знішчылі маслазавод. Лічбы страт без перастанку круціліся ў амтскамісаравай галаве, не даючы спакою: забралі 255 кілаграмаў масла, 320 кілаграмаў сыру, спалены трактар, жняярка, паўтоны гаручага, у хлявах згарэла 98 кароў. І мясцовае насельніцтва — гэта

асабліва дзівіла і палохала амтскамісара — дапамагала гэтым злым гномам, давала харчы і прытулак!

Паміж прыехаўшым начальствам, як вуж, круціўся солтыс Хрысан.

Тыдзень таму назад у Пруску прыйшоў загад здаць на прыёмны пункт трох вепрукоў. Пра гэта абвясціў ля дошкі аб'яў солтыс, сабраўшы аднапасельцаў. З кожнай гаспадаркі плацілі падаткі — кантыгент, які немцы спаганялі з уласцівай ім педантычнасцю і жорсткасцю. Бралі ўсё — жыта, свініну, воўну… На гэты ж раз гаворка ішла пра пакаранне за патраву.

— Тры? — здзівіўся Хвядзюшка Шпунт. — Гэта ж шмат! — З нядаўняга часу, пасля таго як Свісціян пакінуў свой схоў у яго клуні, а заадно і Нінку, і пасунуўся ў лес, Хвядзюшка стаў больш смелы і часцей падаваў голас у грамадзе, на сходках.

— Не, не шмат, — перапыніў яго Хрысан. Яны знаходзіліся ў прыяцельскіх адносінах. — Тым, што пусцілі скаціну на пасевы ляснічага Станіслава Кучэўскага, трэба здаць на базу кожнаму вепрука не менш за 60 кілаграмаў. Камісар загадаў. Сам Люльке!

Хвядзюшка быў уражаны.

— Ого! — сказаў ён.

— Усе пра гэта ведаюць! — сыкнуў на яго солтыс.

— Дык як яно будзе? — збянтэжана пытаўся Гамон, адчуваючы, што справа тычыцца яго асабіста. Бо Хрысан адразу ж высветліў, чыя гэта была жывёла. Аказалася — Грышкі Латушкі, Арціка Каленіка і Гамонава парася. Гамон спрабаваў казаць, што свінчо не яго, але ўсё ж такі давялося прызнаць, рабенькае, без хваста, — гэта і сапраўды яго, Гамонава. Калі Хрысан заняў і гнаў прускаўскімі агародамі, дык яно пабегла праменька на яго падворак.

Дык вось да гэтага часу высокі загад не быў выкананы. Пагэтаму, мяркуючы па ўсім, Люльке і з'явіўся.

— Зараз будзе экзекуцыя! — вясёлым голасам аб'явіў Пыр, нібы нечаму радуючыся.

Прадчуваючы нядобрае, людзі збіраліся на сходку павольна, азіраючыся па баках. З дзвярэй школы паліцаі вынеслі доўгую лаву, на якой звычайна стаяла вядро з вадою і конаўка і сядзеў вартаўнік са школьным званком. Лаву паставілі на зямлю бліжэй да плота. На гэты раз ужо ніхто не курыў, бо ведалі, што амтскамісар не выносіць тытунёвага дыму. Таўстун Люльке пакутаваў на дыхавіцу, ад тытунёвага дыму яму займала дых, і ад гэтага ён яшчэ болей злаваўся.

— Мужчыны, здымайце шапкі і кажыце «добры дзень»! — распараджаўся Хрысан.

Амтскамісар, адчувалася, не меў намеру жартаваць, ён нецярпліва і хлёстка пляскаў складзенай удвая «гумай» па далоні і пільна азіраў прысутных, як бы шукаючы таго, на кім можна было б паспрабаваць вартасць гэтай прылады. У вачах затаілася нядобрае, выраз знявагі і пагарды. У Прусцы запанавала цішыня, не азваўся ніводзін сабака, быццам ведалі пра амтскамісарскае папярэджанне, якое ён абвясціў у першы свой прыезд. Хрысан сцягнуў з галавы шапку і, угінаючыся, пайшоў насустрач амтскамісару.

— Хайль Гітлер! — павітаўся ён, падняўшы ўверх руку, але той не звярнуў увагі, нават як бы і не пачуў, пазіраючы кудысьці ўбок.

Солтыс, паказваючы старанне, пачаў выкрыкваць прозвішчы, па спіску праверыў наяўнасць усіх прускаўскіх мужчын. Не хапала толькі Гамона, і за ім паслалі.

Амтскамісар загергетаў, як бусел на клуні, выгукнуў нешта рэзкае і ўдарыў складзеным у дзве столкі бізуном па далоні, потым яшчэ нешта сказаў напятым голасам і зноў ляснуў бізуном.

— Я незадаволены вамі! — паспешліва пераклаў Мандрашчак, стаўшы бліжэй да камісара. — Нямецкая армія баявым маршам працягвае пераможна крочыць на ўсход. Мы павінны падтрымаць гэтыя гераічныя намаганні! Бальшавікам — капут! Яшчэ месяц-два, і справа будзе зроблена. Мы пойдзем далей, далей і далей!

Амтскамісару заняло дых, і ён змоўк, чакаючы, калі дыхавіца адступіць, потым загаварыў зноў:

— На жаль, я не бачу падтымкі ад вас! Вы не выконваеце абавязковы кантыгент! Вы дрэнныя гаспадары! Вы злосна, як мне сказалі, парушаеце парадак! Гэта не даравальна! Мы сёння будзем вас трохі вучыць!

Амтскамісар «гумай» паказаў на лаўку, што стаяла ля плоту, Мандрашчак паўтарыў яго жэст.

Першым і даволі паслухмяна на лаўку лёг Грышка Латушка, лёг неяк адразу, як бы не паспеўшы як след напалохацца. Загаласіла жонка Вера, але яе галашэння ніхто не прыняў пад увагу. Трымаўся Грышка з усіх сіл, бо ведаў, пэўна, што з уладай не паспрачаешся і трэба выцерпець яе націск, уступіць. Усе навокал маўчалі. Біў сам Люльке — моцна і хлёстка, кароткімі ўдарамі. Меў, відаць, смак да гэтай работы і нікому яе не перадаручаў. Накінуўся на Відэрку так, як бы гэта быў яго асабісты вораг. З кожным ударам Грышка ўздрыгваў, і ўнутры яго нешта ёкала.

Арцём Каленік, ці Арцік, як часцей называлі яго аднапасельцы, надта дрыжэў, нават заплакаў, аднак, як і Грышка, атрымаў дзесяць удараў бізуна. З лаўкі ледзь злез.

Вось тут нарэшце і з'явіўся Гамон. Ішоў марудна, нехаця, як ідуць пад прымусам, з нізка апушчанай галавой, згорбіўшыся. Зрэшты, да даўгалыгай Гамонавай постаці прускаўцы даўно прывыклі. Здзівіла іншае. Усе звярнулі ўвагу на яго выгляд, бо ён чамусьці раптам вельмі паправіўся — стаў надзвычай тоўсты ў таліі і ззаду. І ногі, як слупы, ледзь згіналіся. Пасланцы папярэдзілі яго, што па ўсім відаць, як сказаў Пыр, чакаецца экзекуцыя, і Гамон, маючы на ўвазе такі паварот справы, насунуў на сябе ўсе нагавіцы, якія былі ў яго гардэробе, у тым ліку і падраныя ватныя. Ён ведаў, што такое бізун, паспытаўшы калісьці казацкай нагайкі. Было гэта, праўда, даўно, яшчэ ў пару бежанства, у далёкай Расіі, калі там ішла рэвалюцыя і грамадзянская вайна. Даўно, але помнілася: «Пастрадаў за рэвалюцыю», — расказваў потым, пакутліва крывячы шыю. «Але за што зараз пакутую? — думаў ён цяпер, ідучы на месца збору. — За гэтае худое парася? Ну і сітуацыя!..» Гамонаў твар набыў выраз самага няшчаснага чалавека, найбольш пакрыўджанага лёсам. Ён, здавалася, нават сагнуўся пад цяжарам бязлітаснай фатальнасці. Падышоў да аднавяскоўцаў і спыніўся. Відаць было, што хваляваўся, істоту працінаў страх, на ілбе напіналася і пульсавала сіняя жылка. Цёпла апрануты, ён ажно ўспацеў.

— А што такое? Што такое? — упалым голасам гугнявіў ён, як бы не ведаючы, што адбываецца і што яго чакае.

Натоўп моўчкі расступіўся, даючы магчымасць прайсці наперад, у напрамку да той лаўкі, на якой толькі што ляжалі Грышка і Арцік. Знямелы Гамон абвёў прысутных вачыма з такім выразам, нібыта бачыў іх у апошні раз, як бы развітваўся. Надта страшыў сваім свірэпым выглядам таўстун Люльке з зіхоткім пенснэ на носе і гнуткім бізуном у руках. Гамон ажно здрыгануўся.

Амтскамісар глянуў на яго праз пенснэ, з-пад цяжкіх павекаў, зразумеў, што гэта трэці, і бізуном паказаў на лаўку. Нічога не заставалася, як выканаць гэты ўладны загад, і Гамон ужо наблізіўся да лаўкі, як быў раптам спынены ўсё тым жа амтскамісарам.

— Was ist das?![1]

Гамонава постаць выглядала такой дзіўнай і нехлямяжай, што камісар, у непамыснасці, ткнуў яму ў жывот бізуном. Да яго нарэшце дайшло, што чалавек, каб схітраваць, напяліў на сябе некалькі штаноў.

— Was ist das?! Nein![2] — люта, на ўсё горла зароў амтскамісар і стаў перыць Гамона па чым папала — па галаве, па плячах, на спіне. Той паспрабаваў ухіліцца, затуліцца рукамі, але Люльке біў бязлітасна, пакуль ахвяра бездапаможна не звалілася на дол. Побач з мужам упала і Матрона, якая з крыкам кінулася бараніць свайго чалавека (мужа ў Прусцы жанкі найчасцей называлі чалавекам).

Камісару гэтага пакарання паказалася замала. Ён праз перакладчыка загадаў зняць з беднага Гамона нагавіцы — усе, якія ён апрануў, прадчуваючы нядобрае. Здымалі Пыр з Царовым.

— Ой, людкове, ашалець можна! — дрыжачым голасам вымавіла Хомчыха. — Зноў з-за нагавіц… Ой, Гамонка!..

— А, пся маць! — з усмешкай вылаяўся Мандрашчак, дзівячыся з сялянскай вынаходлівасці.

Матрона не спыняла ляманту, але ніхто на яе не зважаў. Ахвяру паклалі на лаву, і Пыр (гэта Люльке даверыў яму) камісарскай «гумай» біў па голым целе, па азадку. Удары лічыў сам камісар. Пасля дзясятага разу ён махнуў рукой: «Alles!»[3].

Узрадаваны гэтым «Alles!» Хрысан стаў перад амтскамісарам у струнку, выцягнуў рукі па швах і, нібы апраўдваючыся, сказаў:

— Мы людзі законапаслухмяныя. Калі быў Пілсудскі — мы падатак плацілі, з’явіліся рускія — таксама, вы прыйшлі — вам плацім і прызнаем вашу ўладу.

Мандрашчак пераклаў. Амтскамісар выслухаў, але нічога не адказаў, толькі глыбей насунуў фуражку з загнутым дагары верхам. Прускаўцы стаялі моўчкі.

Тым часам амтскамісар зноў загадным тонам сказаў нешта свайму перакладчыку. Мандрашчак пераклаў:

— Нямецкія ўлады даюць вам ганаровае заданне. Вы абавязаны садзіць тытунь для нямецкай арміі. Адводзіць пад тытунь лепшую зямлю. Здаваць ад кожнай гаспадаркі. Я праверу асабіста.

Гміннае начальства ўжо збіралася ад’язджаць па месцы службы, і Люльке меўся сядаць у машыну, як яго погляд раптам спыніла хата Павала Гальяша, які жыў непадалёк ад школы. І не так хата, як бульба, што расла на сядзібе за агароджай. Бульба стаяла яшчэ неабараная, і яе глушыла пустазелле, на бульбяныя сцябліны накручвалася павутка. Павал увогуле чалавек працавіты і набытны, але прысядзібны ўчастак з бульбай дагледзець, як трэба, пакуль што не паспеў. Камісара ажно перасмыкнула і закалаціла, як у ліхаманцы, ён зноў шалёна загергетаў і замахаў бізуном. Потым перамовіўся пра нешта з Мандрашчаком.

---

[1] Што гэта?! *(ням.).*

[2] Што гэта?! Не! *(ням.)*

[3] Усё! *(ням.)*

— Хай гэты гаспадар заплаціць штраф — сто марак! — абвясціў аберперакладчык. — Калі паўторыцца — пасадзім у канцлагер! Там вас навучаць парадку!

Навокал стаяла мёртвая цішыня, людзі як панямелі, і чутно было, як камісар злосна зашыпеў:

— Сабаташ-ш!

Потым зноў, як бы нешта злосна тлумачачы, загергетаў на сваёй мове:

— Ich bin Preusse, und jeder Preusse ist ein geborener Gendarm. Wir lieben Ordnung![1]

Пра што сказаў на гэты раз немец — для прускаўцаў так і засталося загадкай.

— Ordnung muss sein! — паўтарыў камісар. Мандрашчак пераклаў:

— Павінен быць парадак!

Пасля гэтага гміннае начальства з’ехала, а Гамона з Матронай яшчэ доўга адлівалі вадой.

— Ой, зноў нагавіцы, зноў нагавіцы! — стагнала бедная Матрона, якая ніяк не магла ачомацца ад перажытага і роспачна паводзіла рукамі, наракала на жыццё. — Каб на іх паморак!

Іншым разам прускаўцы пасмяяліся б з яе слоў, але на гэты раз было не да смеху, — кожны з жахам уяўляў на месцы Гамона сябе.

Свіней на пункт прыёму адвезлі назаўтра — для гэтага былі вызначаны падводы.

У адзін з вечароў па даўно заведзеным звычаі прускаўскія мужчыны сабраліся ў Мікіты Галёнкі. Спачувалі небараку Гамону і жартавалі з яго.

— Я думаў, што ён не заўважыць, — тлумачыў пацярпелы, шкрабучы за вухам.

— Думаў… — хмыкнуў у бараду Міхаль Тупчык. — Індык думаў ды здох.

— Ну, я, мусіць, дурны, — дзеля прыліку згаджаўся з ім Гамон, таму што ў душы ён быў высокай думкі пра сябе і свае разумовыя здольнасці і заўсёды ганарыўся імі. Смяяўся з іншых.

— Не-е, браце, — пярэчыў і адначасова суцяшаў яго Тупчык, — калі ты гэта зразумеў, дык ужо не дурны.

— Ага, пасмяяўся гаршчок з катла, — адгукнуўся пакрыўджаны Гамон. — Не я першы, не я апошні.

Мужа бараніла Матрона:

— Ой, — напомніла яна, — ён і ў той раз, у Расіі, за рэвалюцыю пацярпеў, і цяпер, беднаму дасталося. Збілі бесчалавечна. Ой!.. — стагнала яна. — Якія бессардэчныя людзі!

— Думаў, што выканчуся, — прызнаўся Гамон, круцячы галавой. — Казакі білі лепш, мякчэй. А гэты перыць — не стрываць.

— Разбасячыліся, халера на іх! — круціў галавой Фэдар-японец, які стаяў непадалёк, абапіраючыся на кавеньку. — Няўжо на іх упыну не будзе?

— А дзе цяпер спакойна? — задавала прывычнае пытанне Хомчыха. — Нідзе.

[1] Я прусак, і кожны прусак прыроджаны жандар. Мы любім парадак! *(ням.)*

## XII

Дні ішлі, як звычайна, адзін за адным. Стаілася Пруска. Вайна паклала свой адбітак на ўсё, і на настрой чалавека. Але жыццё працягвалася, не стаяла на месцы, рухалася па даўно заведзеным самой прыродай парадку. Васіль пачаў будаваць новую хату. Бо «ўрамянка» станавілася ўсё больш цеснай. Як-ніяк, чатыры душы: іх — двое і дзеці. Ды і выгляд «урамянка» мела надта ж непрыглядны. Саламяная страха паспела парасці зялёным мохам, і сама хата, здавалася, яшчэ больш абсела і паменела. Жылі ў паўзмроку, у пастаянным сутонні. Калі хто зойдзе, то трэба было доўга прыглядацца, каб пазнаць, хто.

Васіль параіўся з бацькамі і з цесцем, якога з месяц назад наведаў Свісціян, і ўсе згадзіліся. Прося даўно ўжо марыла пра новую, больш прыдатную для жыцця хату. «Не ў час гэта, — трывожылася Фёкла, — але што зробіш? Трэба. Такой жа думкі быў і цесць, які расказаў, як ноччу да яго наведаўся алешкаўскі Свісціян, настрашыў усіх, уламаўся ў камору і забраў боты, гадзіннік, яшчэ і самагонкі запатрабаваў. «От халера! — уздыхаў і жаліўся Мікалай. — Гадзіннік як гадзіннік, а надта ботаў шкада!»

Дачцэ і зяцю Мікалай дапамагаў, чым мог. Намер ставіць новую, болей людскую хату ўхваліў. Лявон таксама быў за.

Зруб з дахам Васіль купіў у таго самага пушчанца Дацкевіча, у якога калісьці да вайны купляў «урамянку». Вёска Дварцы, у якой жыў Дацкевіч, знаходзілася на самай ускраіне Белавежскай пушчы. Немцы дабраліся ўжо і туды, пачалі высяляць людзей і паліць ускраіны, і Дацкевіч перабраўся да дачкі, якая жыла бліжэй да Камянца.

Перавозілі зруб усёй вёскай, талакою. Паехалі, са сваімі падводамі, усе, за выключэннем толькі Гамона, які спаслаўся на няўпраўку па гаспадарцы. Адсутнічаў Хрысан, але гэта і зразумела: недарэчы начальству мяшацца з грамадой. Так ён развažаў.

Дапамагаў Санька-сібірак, які, здаецца, ужо добра прывык у сваіх гаспадароў і не блага асвоіўся на новым месцы. З Васілём ён знаўся блізка, сябраваў. Малады, а дужы! Падкіне бервяно на плячо і, нічога, нясе адзін. Сасновыя бярвенні, яшчэ не старыя, звонкія, прыемна пахлі смалінай. Усе яны былі пранумараваныя, каб потым скласці іх у такім жа парадку.

Васіль быў рады, што гэтак пашанцавала, што іх абоз ніхто не спыніў — ні па дарозе туды, ні калі, гружаныя, ехалі назад.

Вечарам, па вяртанні з Дварцоў, скончыўшы разгрузку, талакоўцы паселі за збіты з дошак стол. Гаспадар частаваў самагонкай, Прося смажыла яешню.

Было якраз 22 чэрвеня — год, як пачалася вайна, і Санька пра гэта нагадаў... напомніў:

— Ужо год прайшоў.

Усе, вядома, зразумелі, пра што ішла гаворка.

— Год прайшоў, але нічога пэўнага, — азваўся Ахрэм Чапёрка, які любіў паразмаўляць. — Партызаны, праўда, патроху варушацца…

— Усё можа быць, — павёў галавой Мілецій, які таксама дапамагаў.

— Але цікава, — падхапіў Мікіта Галёнка, быццам самому сабе задаючы пытанне, — Ці Гітлер Сталіна, ці Сталін Гітлера?

Якога-небудзь выразнага адказу на гэтае пытанне ні ў кога не было, ды і абмяркоўваць яго ў такой вялікай грамадзе не выпадала, таму гаворка звяла сама сабой.

Ставілі хату мясцовыя цесляры-дойліды — Самусь Парфянюк з сынам Мітрафанам, ім дапамагалі цесць і айчым. Заложылі мураваны фундамент,

улічылі, дзе поўдзень, дзе поўнач, сонечны бок, і крыху адступілі ад гасцінца. Пад умелымі рукамі хутка складаліся высокія, гладкія сцены, паўставалі кроквы. Хату накрылі гонтамі, але патрабавалася яшчэ шмат працы, каб завяршыць будоўлю. Трэба было думаць, дзе і каму заказаць сталярку.

* * *

Пасля той экзекуцыі, якую Люльке правёў у Прусцы над Гамонам і іншымі вяскоўцамі, жыццё збольшага аціхла, але не надоўга. З Ратайчыцаў, з гміны, прыйшла разнарадка (загад прынёс Хрысан) зноў тэрмінова звышплана здаць двух вепрукоў вагою не менш як чатыры пуды кожны, для патрэб нямецкай арміі. А дзе іх узяць? Быццам у каго-небудзь яны былі лішнія. Хрысан абмеркаваў сітуацыю з Цішкам Пахолкам і Хвядзюшкам Шпунтам (яны ў яго райцы), і спыніліся на дзвюх асобах — на бацюшку айцу Клаўдзію і Сцяпану Відэрку.

— У папа трэба ўзяць і ў Сцяпана! — такая была Цішкава думка.

— Правільна! За вярсту чуваць, як у іх хляве свінні вішчаць, — падтрымаў Хвядзюшка. — Нашто ім столькі? Папу пасціцца трэба!

Бацюшка айцец Клаўдзій і Сцяпан Відэрка жылі побач з царквой у адной хаце — у дзвюх яе палавінах. Падсялілі Сцяпана да папа ў свой час бальшавікі. Мелі на мэце пад уплывам бязбожніка Сцяпана перавыхаваць святара, але не атрымалася. Так і жылі яны з таго часу разам. Карысталіся адным хлявом, з якога Цішка і чуў той свінячы віск. Свіней у іх было не шмат, не столькі, як сказаў Хвядзюшка, — а па вепручку ў кожнага. Пасля гэтай нарады з сябрамі солтыс да іх і накіраваўся. Абмінуўшы царкву, ён уперш зайшоў на Сцяпанаву палавіну.

— У чым справа? — сустрэў той, распраўляючы шырокія плечы і агладжваючы даланёй шырокую лысіну на патыліцы.

Хрысан не меў звычаю вітацца, адразу перайшоў да справы:

— Прыйшоў табе сказаць, каб кабанчыка здаў у Ратайчыцы. Кантыгент! Звышплана! Ёсць неадменны загад.

На ўчырванелым Сцяпанавым твары выразна намалявалася здзіўленне:

— А чаму я?

— Не толькі ты, і сусед твой здасць.

— Поп?

— Бацюшка. Бо вы з краю. На другі раз хто іншы здасць. Зараз ад цябе іду да яго.

— А чаму я? — наіўна пярэчыў і агрызаўся Сцяпан. — Чаму я? Калі штоякое, дык да Сцяпана!

— Ты што? — накінуўся на яго солтыс. — Хочаш пакінуць нямецкую армію без сала? Ты гэтага хочаш?

Напалоханы Сцяпан змоўк, правёў рукою па рудой чупрыне і пачаў пазіраць убок, адчуваючы гнятлівы ціск солтысавых аргументаў. Відаць было, што солтыс усё больш адчуваў уладу над целам і духам сваіх падначаленых аднавяскоўцаў і ўзносіў сваю асобу ўсё вышэй. Як скажа — так і будзе. Зняважліва падціснуўшы вусны, Хрысан павярнуўся і пакінуў Сцяпанава жытло.

Такая ж растлумачальная размова адбылася і з айцом Клаўдзіем, і той быў быццам бы больш згаворлівы ў параўнанні з бязбожнікам суседам. Адзначыў, праўда, што гэта «не па-хрысціянску», але вымушаны быў згадзіцца.

Сцяпан калісьці, пры паляках, хоць і непісьменны, але таксама солтысам пабыў і лічыў, што «калідоры ўлады» ведае добра і што часам і ўладу можна абвесці вакол пальца. Таму, доўга не думаючы, параіўшыся з братам Оргіем, закалоў свайго кабанчыка, а мяса прыхаваў. Нават не закалоў, а, пазбягаючы

непатрэбнага віску, прыдушыў. Цяпер гэтак рабілі ўсе. Насаджвалі на лыч мяшок з мукой, абвязвалі вакол галавы, і вяпрук душыўся.

Гледзячы на суседа, тое самае зрабіў айцец Клаўдзій. Святое пісанне, як вядома, забараняе есці ўдаўленіну, але што рабіць? Хаця закон Гасподні і не падуладны чалавеку, аднак і самому драмаць не даводзіцца. Абставіны прымусяць. Айцец Клаўдзій клікнуў Сяргея Сталетніка, і той спраўна насунуў вепручку на лыч мяшэчак з мукой.

Хрысан адчуў сябе асабіста пакрыўджаным і нават абражаным і вырашыў да канца праявіць сваю службістасць. Не адкладваючы, паведаміў аб тым, што адбылося, начальству ў Ратайчыцы. У гміну выклікалі і Сцяпана, і айца Клаўдзія. Учынілі допыт і склалі пратакол. Вынікі не прымусілі сябе чакаць. Сцяпана адразу ж забралі на год у так званы працоўны лагер, які знаходзіўся, казалі, недзе за Высокім, каля вёскі Лука. Гэта быў ужо не Камянецкі павет, а Гайнаўскі. Там ён займаўся тым, што капаў балотную руду, якую выводзілі ў Гайнаўку, да чыгуначнай станцыі. Айцу Клаўдзію прысудзілі заплаціць штраф сто марак.

Але кантыгент трэба было здаць, і Хрысан накіраваўся да Васіля — наступнай, праз дарогу, стаяла яго хата.

— Табе, Васіль, заданне! — грукнуўшы дзвярыма і доўга не цырымонячыся, яшчэ з парога паведаміў ён.

— Якое?

— Здаць двух кабаноў! Сцяпан з папом схітравалі, даводзіцца іншым адказваць! Але што зробіш. Трэба.

Васіль сумеўся:

— Якія ў мяне кабаны? Ты бачыў? Пару парасят! Для здачы яны наўрад ці падыдуць, іх не прымуць. У нялоўкае становішча трапім.

— Ну, ты мне зубы не загаворвай. Я лепш за цябе ведаю.

— Але ж ты зірні! Я хлеў адчыню.

— Я лепш за цябе ведаю! — узмоцненым голасам паўтарыў солтыс. Ён надта не любіў тых, хто з ім быў не згодны і хто ў яго чаго-небудзь прасіў. Прасіўцаў гнаў ад хаты.

Назаўтра прыехалі трое жандараў, а таксама Фелікс Пыр з Царовым, і пры іх яшчэ нейкі паліцай. Усе на веласіпедах. Паслалі за солтысам, які прывёў іх да Васіля. Адчынілі хлеў, агледзелі Васілёвых падсвінкаў і тут жа, пры Васілю, зрабілі Хрысану вывалачку, накрычалі, бо выходзіла, што ён не паказаў належнага старання. Солтыс хацеў нешта сказаць у сваё апраўданне, ужо нават і пачаў…

— Maul halten![1] — зароў віславусы жандар, мусіць, старшы, і Хрысан змоўк.

Свіней забралі ў Кухты і ў Оргія Відэркі.

Хрысан і да гэтага ставіўся да Васіля не надта ласкава, а цяпер яшчэ болей злосць затаіў.

* * *

У сенакос Санька не блага ўпраўляўся з касой. Лявон мог быць задаволены: каса ў сібірака вострая, касіў быццам галіў сенажаць, сцінаючы ўсё: і траву-асаку, і дробную дзяцеліну, і лугавы гарошак, і шчаўе. Сена сушылі,

[1] Маўчаць! *(ням.)*

згортвалі ў копы, каб зберагчы ад дажджу, затым вазілі ў клуню, складвалі ў застаронак.

З галавы ў хлопца не выходзіла Маняша. Што б ён ні рабіў: ці працаваў, ці думаў, ці гаварыў з кім, — недзе ў патаемных сховах свядомасці ці нават у падсвядомасці знаходзілася яна, ён помніў пра яе, адчуваў да яе жарсць. Іх часта бачылі разам. Прускаўскія жанчыны гаварылі: «Мусіць, будзе брацца».

Да рэальнасці вяртаў солтыс. Сустрэўшы Саньку, Хрысан пытаў:

— Ты мельдавацца ходзіш?

— Хаджу.

— Глядзі!

Солтыс угінаў галаву і ішоў далей, пазіраючы сабе пад ногі.

Такія пытанні, зрэшты, сталі прывычнымі і амаль не псавалі настрой.

У тое лета, з першых дзён чэрвеня, усталявалася неймаверная гарачыня. Неба — ні хмурынкі. Трымціць без ветру далягляд. Самая пара сенакосу. Уся Пруска выйшла на лонку. Мужчыны, жанкі, моладзь. Мужчыны ў белых сарочках, жанчыны, як кветкі на лузе, у рознакаляровых хустках і ўборах. Некаторыя паставілі ўжо копы. Адусюль даносіліся прыглушаныя адлегласцю іх галасы.

Лявон касіў на пару з Санькам. Спачатку адзначылі межы сваёй палоскі, Лявон акуратна пратаптаў у траве дзве сцяжыны, каб не зачапіць суседскага, потым узяліся за работу. Прытаміўшыся, зрабілі перапынак, паклаўшы косы ў скошаную траву, а самі селі ля лазовага куста ў цень.

— Жара! — сказаў Санька, павярнуўшы галаву да сонца і прымружыўшы вочы. Адчуў, як сонечны прамень казытнуў вусны, нібы пацалаваў. Успомніў Маняшу. Надта захацелася дакрануцца да яе, адчуць яе цёплае і пяшчотнае цела.

— Прыпар! — паправіў яго Лявон, прыгладжваючы пасмачку на ілбе. У руцэ ў яго быў збан, які ён дастаў з-пад куста і трымаў за дужку. — Даспела трава, самая пара касіць.

— Харошае дзела — сенакос, я люблю.

— Горача! Вось зараз бы ў тваю Сібір, каб ахалонуць.

— Там, у сушнасці, таксама жарка.

Яны выпілі квасу.

— У нашым калхозе, відаць, ужо таксама косяць. У нас і ў дождж косяць. Кажуць, хто косіць у дождж, той збірае ў пагоду. Травы ў нас высокія!

— Зямля добрая.

— Добрая.

— У нас, папаша, і жанчыны косяць. Ды яшчэ як! Мужчынам на пяты наступаюць, без перакураў! А трава ў нас дзябёлая. Каб пацягнуць касу, сіла трэба.

— У нас жанчыны не косяць.

— Я бачу.

— Давай адпачнём трохі, — прапанаваў Лявон. — А можа есці хочаш?

Сібірак такі, што яго доўга прасіць не трэба.

— Да, папаша, не мяшала б.

Мяшэчак таксама ляжаў пад кустом, Лявон дастаў з яго хлеб, кавалачак варанага сала, салёныя, яшчэ з мінулага года, гуркі, і яны пачалі перакусваць. Санька еў моўчкі, уздыхнуўшы, прамовіў:

— А недзе ж вайна, страляюць, снарады рвуцца! Рабяты гібнуць…

— На вайне ўсякае здараецца, — згадзіўся Лявон. — Я быў на вайне, яшчэ на той, царскай, ведаю, што гэта такое. Мне пашанцавала — толькі параніла. Магло быць горш…

— А як вас, папаша, параніла? Як гэта здарылася?

— Здарылася. У канцы снежня 16-га, якраз пад новы, 1917-ты. Зіма была, маро-оз! Фронт стаяў тады каля возера Нарач. Мы ў акопах пад снегам сядзелі. Тады якраз хваляванні сярод салдат пачаліся. Агітатары з'явіліся, газеты. Ну і мы пасмялелі, абедаць адмовіліся. Кармілі і сапраўды дрэнна. Кожны дзень чачавіца і мяса з чарвямі. Начальству наш бунт, вядома, не спадабаўся. Вырашылі яны наш батальён, тры роты, кінуць на нямецкія акопы, на разведку боем. Ну, і вось, сярод ночы, па трывозе, мы і пайшлі. Перарэзалі калючы дрот, адну лінію, другую, упрытык падпаўзлі да яго акопаў, дзе ён драмаў. Але не, нас выявілі. Выявілі і я-як секанулі з кулямётаў! Ротны тады крыкнуў: «Ребята, спасайся, кто как может!» Мяне ў левае плячо штурхнула, плячо прастрэліла і на снег паваліла. Доўга ляжаў, кроўю сцякаў, але дапамог мароз, спыніў крывацёк, а так бы — усё! Нарэшце санітары падабралі. Апрытомнеў у шпіталі. Дзякуй, руку захавалі, але слабая яна ў мяне, нямоглая. Мяне часам і завуць «сухарукім». Такая вось гісторыя. Пашанцавала, а то мог бы з адной рукой застацца.

— Да-а, перажылі вы шмат, папаша. Вот і цяпер вайна з тым жа немцам. А ведаеце, хочацца ўмесце з рабятамі быць, дапамагчы хочацца, а то нехарашо палучаецца: яны там, а Растатуеў — здзесь.

— Я цябе разумею, але пакуль што трэба пачакаць, пацярпець, а там ужо як лёс распарадзіцца.

Пасля гэтага яны прымоўклі. Перакусіўшы і крыху адпачыўшы, зноў узяліся махаць сваімі літоўкамі. Касьба — прыемная праца. Вынік відаць адразу — паслухмяна кладзецца ў пракосы лугавое разнатраўе.

На вечар у Санькі было прызначана спатканне з Маняшай. Ён чакаў яе ў карчах, прысеўшы на прывялую траву, з якой там-сям вытыркаліся белыя карункі рамонкаў. Навокал стаяла вечаровая цішыня. Востра пахла крапіва, якая расла ў малінавых кустах. Нехта ў вёсцы кляпаў касу, але і ён перастаў — скончыў ці адклаў работу на раніцу. А Санька згараў ад нецярпення хутчэй убачыцца з Маняшай.

Яна вынырнула аднекуль збоку, падбегла да яго і спынілася, прапахлая летам, сонцам, аерам і рамонкамі, загарэлая, дыхнула нейкай, як яму здалося, асабліва абвостранай пачуццёвасцю. Ён зірнуў на яе свежы, пяшчотны ад усмешкі тварык, паўглядаўся ў радасна-закаханыя вочы. Аблічча яе здалося яму яшчэ больш чароўным, чым раней. З густам апранутая: белая кофтачка, цёмная спадніца, на галаве — блакітны каснічок, пацёры. Манька, калі хацела прыгожа выглядаць, дык заўсёды гэтак апраналася ды вешала яшчэ на высокую гладкую шыю буйныя рознакаляровыя пацёры. Гэта надавала прывабнасці. Санька любаваўся яе пякнотамі, бачыў, як наліліся маладой крамянай плоцевасцю яе сцёгны і плечы. У яго моцна забілася сэрца. Зноў падумалася: «Прыгожая! Як такую можна не кахаць?..» Яго позірк, як і раней, і радаваў яе і трывожыў. Прысела побач.

— Люблю на цябе глядзець, Маняша.

— Глядзі, калі табе так хочацца.

З агародаў запахла любіста.

— Любіста пахне, — сказала Манька.

— Што?

— Любіста. Расліна такая.

— Нешта я не чую.

— Не дзіва, яе пах чуе толькі той, хто закаханы.

Ён шморгнуў колькі разоў носам.

— О, і я пачуў.

Дзяўчына засмяялася.

— А ты папрыгажэла! — пяшчотна прашаптаў ён.

— Няўжо? — як бы не паверыла яна. — А можа, гэта табе толькі здаецца. — Яна зноў ціха засмяялася і радасна паглядзела яму ў вочы.

— Табе казалі, што ты прыгожая?

— А як ты думаеш?

— Напэўна, казалі…

— Ну і што? Хай кажуць, я на гэта не звяртаю ўвагі. — Памаўчаўшы, яна прамовіла: — А я ў Амеліі была, варажыла на цябе…

— Варажыла? Ты што, верыш картам?

— А часам яны праўду кажуць.

— І што яна табе сказала?

Загарэлае на сонцы Маняшына аблічча азарыла святло сумнаватай усмешкі. Настрой дзяўчыны памяняўся.

— Нічога ў нас не будзе — сказала.

— Ілжэ. Хлусня.

Манька прамаўчала.

— Маняша, дарагая! Пасля вайны абязацельна на родзіну ка мне паедзем. Увідзіш, якая яна, Сібір. Прастор які! Панравіцца. Сібірачкай станеш!

Ён абняў яе і лагодна прыгарнуў да сябе, удыхнуў пах яе цела.

— Не трэба! — запярэчыла дзяўчына і адхінулася. — Супакойся! — А сама адчула, як да твару прыліла кроў.

— Эх, дарагуша ты мая! Можа, я і не варты цябе, але ж я кахаю. Павер, што я табе кажу! Эх, курносенькая ты мая!..

Гэтыя яго словы — Санька вымавіў іх з асаблівай прачуласцю і прыдыханнем — падзейнічалі на яе.

— Праўда?

— Праўда. Я толькі пра цябе думаю. Эх, Маняша, ты ўсё адно як на грэх створаная…

— Ой, люблю цалавацца! — прызналася яна і вуснамі казытнула яго ў вуха, зноў пяшчотна ўсміхнулася, цмокнула.

Ён адчуў мяккасць і пяшчоту яе поўных вуснаў, якія здаліся яму гладкімі, нібы шаўковымі.

Зайшло ўжо за далягляд сонца, пакінуўшы пасля сябе чырвоную зараніцу. Спала дзённая духата, і паступова пачало змяркацца. Загагалі на выгане гусі, што заставаліся там і нанач. У адказ ім перагукнуліся ў жырыле жабы. Тонка зазвінела камарыная талака.

Нечакана, як гэта бывае часам улетку, стаў накрапваць цёплы дожджык. Зашалясцеў у альховай лістоце. Кроплі былі настолькі дробныя і мяккія, што яны нават не звярнулі на іх увагі. Так і сядзелі, абняўшыся.

Працягла прагрукатаў далёкі гром, як бы зычачы чалавеку здароўя і моцы, падтрымліваючы яго сілы. «Не старэй!» — гаварыла гэтае грукатанне. Нібы атрымаўшы дазвол, прыпусціў дождж. Яны падхапіліся і пабеглі хавацца ў капіцу сена, якая стаяла непадалёку. Уціснуліся ў яе, прымялі сена, зноў салодка прытуліліся адно да аднаго. Быццам сама прырода жадала ім большай блізкасці. Ён яшчэ болей прыцягнуў яе да сябе, прагна прылашчыў і сам не заўважыў, як дакрануўся да яе поўнага сцягна. Дзяўчына міжвольна войкнула. Хваляванне нарастала. Быццам апамятаўшыся, яна загаманіла, быццам нешта ўспомніла:

— Я можа, яшчэ і таго…

— Што ты хочаш сказаць?

— А тое! Цэлая я.

— Але я кахаю цябе!

— Толькі пасля таго, як павянчаемся. Павянчаемся, тады дам…

— Калі? Пасля вянчання? А ты ведаеш, што такое шлюб?

— Адкуль мне ведаць? Я замужам яшчэ не была.

— Шлюб — гэта, у сушнасці, магіла кахання.

Яна зарагатала.

— Ой, хоць і разумны, а скажаш часам абы-што!

— Не верыш?

— Бацька за цябе ўсё адно не аддасць, бо ты «масточнік», — сказала яна і звесіла галаву.

— Аддасць.

— Ты не ведаеш. Ой, развярэдзіў ты мне сэрца, развярэдзіў…

Ён дамагаўся свайго:

— Ну што ты, Маняша! Ой, дурненькая ты мая! Красавіца мая! — горача шаптаў ён, горнучы яе да сябе. — Дык усе мы грэшныя. Вунь і поп казаў: «Няма чалавека, каб пражыў жыццё і ў чым-небудзь не саграшыў». А за любоў не судзяць.

— Не, — стаяла на сваім Маняша, хоць пра сябе даўно вырашыла: «Хай першы мужчына ў мяне будзе той, хто мне падабаецца». Але калі такі выпадак, здаецца, надарыўся, па звычцы, па дзявочай цнатлівасці, не пераставала супраціўляцца.

— А можа ў цябе ногі крывыя?

— Не крывыя.

На такое пытанне можна было і зазлаваць, але яна не зазлавала, хіба што толькі паміж броваў з’явіліся крыўдлівыя складачкі.

— Калі прыходзіць каханне, — пераконваў ён, — яго наталіць трэба! Нікуды не дзенешся… — Санькава рука пяшчотна лашчыла яе грудзі, абдымала. — Ты такая прыгожая, круглая…

— Ой, нейкі шалёны ты сёння…

Яго і сапраўды ахапіла неадольная прага блізкасці з ёю. На пачатку ён імкнуўся падавіць яе ў сабе, але жаданне было надта моцным і нават як бы няўцямным, і ён не мог сябе стрымаць. Таго ж хацелася і ёй. Сэрца яе кінулася наўскач. У душы бурлілі і змагаліся паміж сабой супрацьлеглыя пачаткі, да якіх прымешваўся яшчэ і страх. «Ой, ой, ой!» — стагнала яна. Ад моцнага хвалявання ледзь не страціла прытомнасць. А ён нашэптваў:

— Сонейка ты маё яснае, зязюлька ты мая шэранькая, чарэшня мая румяная!..

Яна, ужо несвядома, яшчэ мацней прытулілася, абняла і сама як бы абвяла ў яго абдымках. Яе прыгожы рот неяк няўцямна прыадчыніўся, а ў вачах, хоць ужо і ў змроку, ён згледзеў нібы памутненне: яна быццам бы пазірала на яго і як бы не бачыла. «Самы раз!» — пажадліва вырашыў ён, расшпіліў кофтачку, абсунуў з плячэй кужэльную сарочку і вуснамі намацаў цвёрдую і крыху гаркаватую смочку. Малады, ён не надта ведаў, як трэба мілаваць і лашчыць жаночае цела, каб яно стала блізкім і падатлівым, — вёў прыродны інстынкт. Адчуў, што і яна, як у сне, ідзе насустрач, яе ўсхваляванае дыханне стала сухім, перарывістым, вусны — цвёрдымі і моцнымі. Пацалункі п’янілі, нават у галаве зашумела. Кажуць, калі шчасце, дык пра ўсё забудзеш. У такім, прыкладна, становішчы і была Манька. Яна кахала. Тое ж перажываў і Санька.

— Ой, верабейка ты мой! — шаптала яна, а ён рыхтаваўся да галоўнага.

...Дождж перастаў, усё навокал пасвяжэла. Летняе неба не паспела пацямнець і клала на зямлю роўнае святло. Нарэшце яна вызвалілася з яго абдымкаў і соладка пацягнулася. Потым села на сена, падціснуўшы калені да падбародка і пазірала кудысьці перад сабой. Перажывала, пэўна, хвіліну сораму. Няёмка было ўспамінаць тую буйнасць, якая на іх найшла пад канец.

На небе запальваліся першыя зоркі, а па зямлі пасля цёплага дажджу слаўся тонкі туманок, сціраючы абрысы алешніку і лазовых кустоў.

Ён прыслухаўся.

— Чуеш, якая цішыня?

Яна таксама сцішылася.

— Ужо ж недзе, мабыць каля апоўначы, усе панарабіліся, паснулі, нават цвыркуны. — Яна павярнулася да яго, прыціснулася, зноў абвіла яго рукамі.

— Якія цвыркуны?

— Тыя, што ў траве.

У карчах за рэчкай падала голас нейкая птушка. Ёй азвалася другая.

— Ой, ці шмат для шчасця трэба, — уздыхнула Маняша, тулячыся да яго грудзей.

— Дык ты і праўда да Амеліі хадзіла? І на каго гадала?

— На вальта бубновага. Кахае цябе, кажа, ён, але як далей будзе, карты не кажуць. А потым сама Амелія сказала, што павінна, кажа, здарыцца, тое і здарыцца, таго не прадухіліць.

— Можа, і так.

Ніякай нялоўкасці яна з ім ужо не адчувала, і гэта было прыемна. «Нарэшце злавіў, загачыў рыбу, што плавала ў свядомасці і ў рэальным жыцці», — думаў ён, удзячны ёй за каханне, за тое, што яна далучыла яго да чагосьці вельмі істотнага і важнага ў жыцці. І ён, і яна як бы канчаткова вырашылі, што належаць цяпер адно аднаму і нікому болей.

Пара была развітвацца да наступнага спаткання. Назаўтра чакаў доўгі і клопатны летні дзень.

Ішлі поплавам, узяўшыся за рукі, пад босымі нагамі плёхала вільгаць. Дайшоўшы да агародаў, абняліся і рассталіся.

## XIII

«Прынцыпы» і «тонкасці» «новага парадку» адчулі ўсе, у тым ліку і дзеці. Страхотлівы выпадак адбыўся і з Валодзікам Платонавым. Валодзік — гадунец у бабы і дзеда. У іх яму было добра, бабуля Фёкла і дзед Лявон гадавалі і цешыліся ім. Займаўся хлапчына тым, чым у яго ўзросце звычайна займаліся прускаўскія дзеці: на выгане, за Пахолкавай кузняй, пас гусак. Гускі — яго падначаленыя. Кароў пасвіць яму яшчэ зарана, бо нават пяці гадкоў няма. Ды і, папраўдзе кажучы, баіцца ён кароў. У мінулым годзе пастухі з суседняй Выгнанкі гналі свой статак праз Пруску, і адна жывёліна прыціснула яго рагамі да плота. Стаў крычаць не сваім голасам, спадзеючыся на дапамогу. На крык прыбеглі Лявон з Фёклай, яны ля клуні пілавалі дровы. Адагналі дурніцу, вызвалілі ўнучка. Добра яшчэ, што не ўкалола, лоб у каровы быў плоскі і шырокі з тупымі, пазбіванымі рагамі. Словам, абышлося — пралежаў колькі дзён і ачуўся.

Гуска — птушка спажыўная: і харч, і пер’е для падушак. У гэтым кожная гаспадыня зацікаўлена. Дачцэ, якая замуж збіраецца, пасаг трэба — пасцель, падушкі. А бабуля Фёкла па гусіных паводзінах вызначала нават надвор’е:

калі гусь хлюпаецца ў вадзе — гэта на цяпло, калі хавае дзюбу ў пер’е — будзе холад, калі на адной назе стаіць — чакай сцюжы. Так што праца гусінага пастуха мае сваю вартасць і сваю годнасць, а ў чымсьці яшчэ і цікаўная.

У той дзень стаяла нясцерпная гарачыня. Сонца смажыла неміласэрна. Здавалася, што яно, распаленае, спынілася ў сваім руху і застыла на адным месцы, быццам хто яго там трымаў, як у біблейскай гісторыі пра Ісуса Навіна. Вербы ля кузні нібы паснулі, апусціўшы да нізу доўгія шэра-зялёныя косы. За карчамі стаілася жырыло, над якім лётаў, куляючыся ў паветры бакас. Насупраць Пахолкавай кузні, якая сёння чамусьці не працавала, моўчкі і нерухома стаяў абгароджаны плотам стары абымшэлы крыж. Гускі мірна паскубвалі траву, зрэдку ўзнімаючы галовы і прыслухоўваючыся да навакольных гукаў. За лета паспелі падрасці, сталі прыгожымі, белапёрымі птушкамі. Час ад часу высока ўзнімаў галаву вялікі шэры гусак — аглядаў чараду, раўніва сачыў за парадкам.

Пастуху ў пашытай бабуляй кужэльнай кашулі і зрэбных портках з адной шлейкай цераз плячо — не горача, а ў самы раз. Ён знайшоў сабе занятак — рваў крыху прывялае ад гарачыні шчаўе, што расло тут жа, пры дарозе. Рваў і спрабаваў жаваць, крывячыся ад яго кіслага смаку. Дарога, абмінаючы выган, кіравалася на Выгнанку, Пакупчыкі, Бучамле, ішла далей — у Свішчова, Вайскую і Робанку. На пагорку сіратліва стаяў пакінуты школьны будынак — белая мураванка, якую карнікі, калі наладжвалі аблавы на партызан, выкарыстоўвалі як казарму. Але цяпер будынак пуставаў. Навокал — нікога. А калісьці, асабліва калі ішла гульня ў мяч, наваколле звінела галасамі школьнікаў, гаманой балельшчыкаў, звонкімі ўдарамі па мячы. На абочыне, прытуліўшыся да Гальяшовага плота, нудзілася ад самоты і гарачыні цыбатая рабінка з іржава-карычневымі гронкамі ў пашарэлай кроне.

Летні дзень цягнецца доўга. Аднастайна стракочуць у траве конікі. Сумна. Каб як-небудзь пазабаўляцца і падбадзёрыць сябе, Валодзік пачаў спяваць. Спяваць, цешыцца песняй — любіў. Як бы праз песню хацеў выдаткаваць лішак сіл. Але адкуль у яго лішак той — малы яшчэ. Звычайна спяваў, калі знаходзіўся адзін, калі ніхто не перашкаджае. Тады можна было больш засяродзіцца, услухацца ў песню, адчуць яе гучанне, адценні сэнсу, прыгажосць. Але спевы яго з ахвотай слухалі — старэйшыя хлапчукі і нават дарослыя, слухалі, хвалілі. Тады Валодзік стараўся спяваць галасней, каб песня чулася далёка. А песень ён ведаў, і не мала — «Ехалі казакі», «Распрагайце, хлопцы, коней», «Скажы-ка, дзядзя…», «Дайце ў рукі мне гармонь» і іншыя. Калісьці, да вайны, іх спявала маладая і вясёлая настаўніца Вішанькова, якая кватаравала ў бабулі, — ад яе ён іх наслухаўся і пераняў. Асабліва падабалася «Кацюша». Ён і зараз набраў поўныя грудзі паветра і заспяваў:

Расцветали яблони и груши,
Поплыли туманы над рекой.
Выходи-ила на берег Катюша,
На высокий, на берег крутой…

Далей — смялей і галасней:

Вы-выходила, песни заводила
Про степного сизого орла,
Про того, которого любила,
Про того, чьи письма берегла-а…

Спяваў на ўсю моц. Спевака быццам распірала ад нейкай незразумелай нутраной радасці, ён гатовы быў абняць увесь свет. Голас рос і званчэў. Загагалі, нібы ўзрадаваліся ці, наадварот, занепакоіліся, учуўшы пастушка, гусі, і Валодзік хацеў заспяваць яшчэ грамчэй, як раптам ззаду пачуў:

— Эй!

Валодзік азірнуўся і ўбачыў цэлую зграю жандараў у зялёных мундзірах з бляхамі на грудзях і паліцаяў у чорным адзенні, узброеных вінтоўкамі і карабінамі, на веласіпедах. Зіхацелі бліскучыя гузікі на іх чорных бушлатах. Адчуў, як упала кудысьці ўніз сэрца. Шчэрачы зубы, яны з усіх бакоў абступалі хлапчука, амаль наязджаючы веласіпедамі, нахабна стараючыся падмяць і заціснуць сваю ахвяру. Спявак асекся і змоўк.

— Папаўся! Т-тваю маць!

Валодзік пазнаў старшага паліцая Пыра па яго нахабным і зняважлівым позірку і закапыленай пад самы нос верхняй губе. Твар чырвоны, успацелы. Побач з ім шчэрыўся Цароў, трымаючы пры баку карабін. У свядомасці пастушка прамільгнула нядобрае прадчуванне. Памкнуўся быў кудысьці бегчы, але пачуў за сабой уладны вокрык:

— Stehen! Zurük![1]

Давялося спыніцца. Ён спыніўся, угнуўшы галаву і ўтаропіўшы позірк кудысьці убок. Жандары і паліцаі пазлазілі з веласіпедаў.

— Ты што? — зноў мацюкнуўся Пыр, рыпнуўшы запыленымі ботамі. — Думаеш, ізноў прыйшлі Саветы? Узрадаваўся? Эйш ты яго!

— Можа, ён нам яшчэ і рускага станцуе? — зарагатаў другі паліцай.

— Га-га-га! — рагаталі жандары.

— Чый ты? — прагучала над ім.

Хлопец маўчаў, дакараючы сябе за праяўленую бесклапотнасць, і не спадзяваўся ўжо на літасць.

— Ах ты, гадзёныш! — пырснуў слінаю старшы паліцай і літаральна пачаў звярэць. Не дачакаўшыся адказу, сарваў у хлопца з галавы кепку-васьміклінку і моцна спляжыў ёю па твары. Разанула казырком па носе, і палілася кроў. Хлапчына заплакаў, затуліўся рукамі.

Чуючы, што іх гаспадар трапіў у цяжкае становішча і яму патрэбна дапамога, іх з усіх бакоў абступілі гусі. Першым, выцягнуўшы шыю, рашуча зашыпеў і пайшоў у наступ шэры гусак, за ім астатнія, падскочыўшы да паліцаяў, сталі матлашыць іх за штаны. Паліцаі адкідвалі гусей нагамі, білі, наязджалі веласіпедамі. Пачаўся крык, гам, гусі не здаваліся, але мусілі адступіць і, папраўляючы крылы, пазіралі здалёк.

— Чый ты? — зноў паўтарыў Пыр, пагардліва і жорстка скрывіўшы шырокія сківіцы. — Ну!

— Лявона Кужаля, — скрозь слёзы прызнаўся спявак.

— А ну, хадзем да бацькі! Бягом!

— А гускі?

— Нікуды не дзенуцца! Чорт іх не забярэ! Гэткіх злых гусей яшчэ не бачыў. Звяр'ё! Aber schnell, ferflüchte![2] — вылаяўся Пыр, пераняўшы гэтую лаянку ў сваіх гаспадароў.

І яны пагналі яго ў вёску. Ён — паперадзе, а яны, на веласіпедах, за ім.

— Schneller! Schneller![3] — закрычаў жандар на веласіпедзе.

— Хутчэй! — прыспешваў Цароў. Немцы і паліцаі, што ехалі побач, цынічна рагаталі, калі ён ля Хвядзюшкавай хаты спаткнуўся і ўпаў.

Следам за сваім пастухом пацягнуліся і гусі.

Сустрэла Фёкла. Яна толькі што спякла хлеб, дастала буханкі з печы, у

---

[1] Стаяць! Назад! *(ням.)*

[2] Хутчэй, нягоднік! *(ням.)*

[3] Хутчэй! Хутчэй! (ням.)

хаце было вельмі душна, і яна выйшла на ганак. Малы з плачам кінуўся да бабулі, шукаючы ў яе абароны.

— Што здарылася? — спытала яна.

— Хто гэта навучыў яго кацапскія песні спяваць!? — напудзіўся на яе Пыр, пырскаючы слінай. — Ты? Прызнавайся, старая качарга!

— Якія яшчэ песні? Што вы такое гаворыце?

— Ты дурніцу з сябе не строй! Мы самі чулі.

Фёкла похапкам паправіла на галаве хустку, зашпіліла на кофце гузік.

— Малы ён яшчэ! Што ён разумее? Дзіця!

— Дзіця? — вырачыў вочы Цароў.

— Малы яшчэ ён.

— Ён, можа, і не разумее, а ты, старая баба! З агнём гуляеш!

Фёкла шморгала носам і ражком хусткі выцірала вочы.

— Я папярэджваю! — Пыр прыгразіў пальцам.

Фёкла плакала разам з унукам, які стаяў, тулячыся да бабулі і трымаючыся за яе руку.

— А пленны дзе? — зноў накінуўся Пыр.

— У полі ён разам з гаспадаром.

— Глядзі! — Пыр падняў уверх туга сашчэплены кулак. — Каб больш такога не паўтаралася! Не дазволю разводзіць агітацыю!

Пасядаўшы на веласіпеды, жандары і паліцаі з'ехалі.

«Пракуднік! Срамнік!» — Фёкла ажно плюнула ўслед Пыру. Валодзік адышоў убок і, стомлены, апусціўся на пашарэлую ад спякоты траву.

Гусі, супакоіўшыся, абступілі карытца і пілі ваду.

Вечарам, пазнавата ўжо, Лявон з Санькам вярнуліся з поля. Фёкла расказала пра тое, што адбылося днём. За вячэрай Санька жартаваў:

— Ты, кажуць, з паліцаем пазнаёміўся? — пытаўся ён у Валодзіка.

Малы маўчаў. Замест унука азвалася Фёкла:

— Набраліся страху. Пыр — як той чорт! Крычыць, слінай пырскае! Гузікамі слепіць! І пагражае, і пагражае!

— Магло быць і горай, — пахітаў галавою Лявон. — Каб Люльке з імі быў, дык без лупцоўкі б не абышлося. Люльке не глядзіць, хто перад ім, малы ці стары, лупіць ды і годзе.

— Затое яны «Кацюшу» пачулі! — усміхнуўся сібірак. — Сёння, у сушнасці, рэдка калі пачуеш, выйшла з моды.

Ніхто на Санькаў жарт не зрэагаваў, і ён пачаў пра іншае:

— А мяне ў паліцыю запрашаюць, у Ратайчыцы.

Лявон насцярожыўся:

— Чаго?

— Служыць.

— Гэтага яшчэ не хапала! — абурылася Фёкла.

— Ды не даў я, мамаша, згоды! Сказаў, што бальной. Ну, яны адчапіліся. Пристаюць!

— Правільна зрабіў. Нашы ўсё роўна вернуцца, а тады не здабраваць… — з палёгкай уздыхнула Фёкла.

* * *

Нечакана, як заўсёды, з'явіўся Кузёмка. Азіраючыся вакол сябе, адчыніў веснічкі, пачаў паднімацца на ганак. У руках — ядлаўцовая кавенька. Забрахала Нэрка. Забрахала і змоўкла. «На пахілага чалавека і сабакі горай брэшуць, —

падумаў вандроўнік і з дакорам зірнуў на Нэрку: — Не пазнала?» Адчыніў дзверы ў хату. Боты яго на гэты раз былі абляпаны гразёй, і падарожны, вярнуўшыся на ганак, доўга іх чысціў анучынай, якую падала яму гаспадыня.

— Адкуль ты?

— За Камянцом быў.

Была нядзеля, Лявон з Фёклай толькі што прыйшлі з царквы, але паспелі паабедаць ужо. Санька падаўся ў Свішчова да сябра.

— А ты ходзіш, як хадзіў. І ногі не забаляць? Адпачні! — Лявон паказаў вачыма на лаўку. — Прысядзь!

— Зайду, думаю, можа, у качарэжнік не пасадзіце.

Кузёмка паважна паставіў у куток кавеньку, уздыхнуў, зняў магерку, павесіў на цвік і прысеў, абапёршы рукі на калені, зноў уздыхнуў. Павярнуўшыся да покута, размашыста перахрысціўся. Агледзеў хату, лыпнуўшы белаватымі вачыма.

— Што гэта ты глядзіш? — спытаў гаспадар.

— Гляджу, ці не сядзіць дзе ў кутку суседка ваша Хомчыха. А то зноў пытацца будзе: «Калі жэнішся, калі жэнішся?»

— Ну дык і што?

— Надаела. Не люблю я гэтых роспытаў. Адно і тое ж! Не ўсім жа жаніцца! Камусьці і нежанатым трэба быць.

Аддыхаўшыся, вандроўнік пачаў расказваць:

— Цяпер я мала хаджу, — у голасе дзівака-вандроўніка адчувалася стомленасць, — мне далёка хадзіць нельга, бо такіх, як я, яны са свету зжываюць. Адзенне на іх з цыраты. На рукавах носяць павязкі страшныя — чэрап ды косці. Лічаць, што я як бы дурны.

Гаворачы, ён раз-пораз уздыхаў, шкроб патыліцу.

— Ты не дурны, — супакоіў яго Лявон, — ты за каго іншага, можа, яшчэ і разумней. Напэўна разумней!

Гаспадыня села каля ложка і, слухаючы, пачала нешта вязаць, спраўна працуючы пруткамі.

— Аднака, — сказаў Кузёмка.

— Што? — запытала Фёкла, не адводзячы вачэй ад работы.

— Ніколі не бачыў, каб так хутка вязалі! Як гэта ў цябе так атрымліваецца? Проста цяжка нават паверыць.

— А што ж тут асаблівага, справа простая.

— Але ж ты, я гляджу, нават пяцелькі не лічыш.

— А што іх лічыць? Гэта спінка для жылеткі Лявону майму. Старое распускаю, новае вяжу. А пяцелькі — нашто і лічыць? Па верхніх радах гляджу.

— Але ж ты і малайчына! Мне нават зацыраваць што-небудзь цяжка.

— Жаніцца табе трэба.

Кузёмка абыякава махнуў рукой, пасміхнуўся аднымі вачыма, якія ў яго былі маленькія, як дзве гарошыны.

— Ну, што чуваць? — спытаў гаспадар.

— А ў вас што чуваць? — пытаннем на пытанне адказаў госць.

— Жывём, як заяц пад мяжой, — усяго баімся.

— Дык раскажы, што ты бачыў, — папрасіла Фёкла.

Госць задумаўся, агаліў шчарбаты рот і, нешта ўспомніўшы, пачаў:

— Цяпер чаго толькі не ўбачыш! Надта ваўкоў развялося! Ішоў я ў Перкавічы, кажух Міхалю шыць, бо надта прасіў. Лепш, кажа, за цябе ніхто не пашые. Падыходжу гэта да Ліпны, гляджу: каля крайняй хаты, яшчэ нават добра і не сцямнела, два здаравенныя ваўкі вядуць свінню за вушы ў лес і хва-

стамі яе тузаюць, падганяюць. Свіння ўпіраецца, верашчыць, а яны заціснулі яе, хвастамі калоцяць ды ў Бярэзіну вядуць. Але чыя свіння, таго не ведаю.

— А Бо-ожачкі! — жахнулася Фёкла. — Гэта ж як тыя паліцаі на роварах — бяруць чалавека і гоняць перад сабой.

Лявон не вытрымаў:

— Ну, такога я яшчэ не чуў. Ці не сачыняеш? Бо часам ты і прысачыніць умееш…

— Не, на свае вочы бачыў. Ды напалохаўся страшэнна! За хату пабег хавацца. Каб не схаваўся, дык, можа б, і мяне павялі. Мінулай зімою яны і мяне на бярозу загналі. Гэта ж я вам пра гэта яшчэ не расказваў. Перастрэлі яны мяне ў лесе за Чабахамі. Добра, што якраз каля дарогі стаяла бяроза, дык я паспеў падбегчы ды за сук ухапіўся, а потым і вышэй залез. Ашчаперыў тую бярозу, а нагамі на ніжнія сукі абапёрся. І, ведаеце, адзін воўк падскочыў ды дастаў за кажух, ды так шарпануў, што пацягнуў кажух уніз, а на мне засталіся толькі каўнер ды рукавы. Ваўкі пашкуматалі кажух, аднак што ім сухая аўчына! Пачалі чакаць, калі я з бярозы злезу. І доўга чакалі! Але нарэшце разышліся. Тады і я злез, усё ўва мне анямела, але жывы застаўся. Цяпер у лес стараюся не заходзіць. Вось так. Нават сёння ўсё ўва мне калоціцца, калі ўспомню.

— Не выдумаў?

— Не.

— Зімою гэта магло быць, але летам звычайна ваўкі сытыя і ў хлявы не наведваюцца.

— Дык гэта звычайна, а цяпер усё перамянілася — вайна! Цяпер калі добра не схаваешся, дык з жыццём можна распрашчацца. Але дзе ты схаваешся! Не схаваешся, усюды нойдуць.

На край стала апусцілася муха і, як здалося Кузёмку, стала здзіўлена і жаласна на яго пазіраць. Яму гэта не спадабалася, і ён рашуча махнуў рукой, адагнаў непаважнае стварэнне, а потым, зірнуўшы на Лявона, пашкадаваў:

— Відаць, дарэмна я яе ўкрыўдзіў.

— Што ж гэта будзе? — забедавала, захітала галавой гаспадыня, якую, відаць, надта ўразіў аповед пра ваўкоў і свінню.

Кузёмка адчуў яе думкі і сказаў:

— А гэта знак, што тое ж самае і з намі будзе, як з той свінкаю.

— Ой, Кузёмка…

— Гэта я так кажу. Бог — бацька. Можа, і абароніць. Хто яго ведае!

Гаспадыня працягвала вязаць, лоўка перабіраючы пруткамі.

— Фяклуша, пачастуй чым-небудзь госця! — напомніў Лявон.

— Есці будзеш?

— Буду. А што?

— Помню, калісьці ў вершыку пісалася: «Сядай, браце, — стравы хваце», — пажартаваў Лявон. — Бульбу пакуль што маем.

— Бульба ёсць, учарашняя, — таксама жартам сказала Фёкла, і пайшла на кухню.

— Эх, каб селядца да яе! — памарыў госць і сеў за стол.

Фёкла прынесла і падала яму вялікую міску гарачай капусты, якую дастала з печы, і хлеб, спачувальна і прыхільна зірнула на госця.

— Капуста — гэта добра! — пахваліў госць, беручы ў руку лыжку. — У цябе яна заўсёды наварыстая. А то я ў адной вёсцы за Камянцом чуў, як мужык скардзіўся жонцы: «У цябе суп ненаварысты!». А яна адказвае: «Як ненаварысты? Я ў ім два яйкі зварыла!»

— Часам і ў нас гэтак здараецца, — пасміхнуўся Лявон.

— Па-ўсякаму бывае, — згадзілася жонка.

— Як і ва ўсіх, — далучыўся да іх і госць.

Працаваў Кузёмка лыжкай не спяшаючыся, а неяк старанна, салідна, з адчуваннем уласнай годнасці. Высербаўшы капусту і даеўшы хлеб, ён пачаў новую тэму:

— Іду гэта я, пазіраю на неба: хмары дробныя, густыя. Значыць, зіма мае быць суровая, з маразамі. Каб не памарозіла.

Фёклу напалохалі Кузёмкавы прадказанні, і яна моўчкі, насцярожана слухала, дзівілася і як бы набіралася трываласці.

— Усё ты, дарагі, ведаеш! — здзіўлена пахітаў галавой Лявон. — Ну, а што там чутно, на фронце? Хто каго?

— Счапіліся, і ні туды, ні сюды. Б'юцца! І ні адзін, ні другі не могуць адолець, ні Гітлер Сталіна, ні Сталін Гітлера.

У хаце на нейкі час усталявалася цішыня. Чутно было, як недзе далёка бесперастанку брахаў чыйсьці сабака.

— Сабакі падзічэлі, — варухнуў галавою Лявон. — Кузёмка ўздыхнуў:

— Што сабакі — людзі парабіліся яшчэ горшымі, ніж тыя сабакі. Зайздросныя і сквапныя. Такога яшчэ не было! У Вуглянах яўрэй хаваўся. Айзік, Хайчын зяць…

— А я яго ведаў, — адгукнуўся Лявон.

— Хаваўся, і за схоў таму чалавеку, у якога хаваўся, золата абяцаў, якое ў Камянцы каля хаты закапаў. А Мірык Пацаў пра гэта дачуўся, дачуўся і з таварышам сваім, паліцаем, знайшлі Айзіка ў Вуглянах і ноччу, у адных падштаніках у Камянец прыгналі, каб паказаў, дзе схавана тое золата.

Расказваў Кузёмка са страхам і здзіўленнем адначасова. Утрапёныя гаспадар і гаспадыня хіталі галовамі.

— Знайшлі яны тое золата ці не — невядома, але беднага Айзіка здалі ў гета.

Лявон і Фёкла як панямелі. Тое, пра што распавёў Кузёмка, было вышэй іхняга разумення.

— Ну, а як ваш Хрысан?

— Даўся ў косці, — азваўся Лявон. — Вялікага начальніка з сябе строіць.

— Самадур! — сказала Фёкла.

Кузёмка прыгадаў старую прымаўку:

— Кажуць: службу служы, а сябру дапамажы.

— Не, у яго таго няма.

— Сябруе з тымі, хто яму гарэлку ставіць, — дадаў Лявон.

Паабедаўшы, Кузёмка правёў рукой па жываце:

— Прагнаму два разы баліць жывот: спачатку ад голаду, потым ад абжорства.

— Ты ж не прагны, — усміхнулася гаспадыня.

— Не прагны, — пацвердзіў госць.

На заканчэнне ён выпіў кубак малака, паклаў на стол рукі і задумаўся. Уздыхнуў і пачаў збірацца. Відаць, меў нейкія планы. Апрануўся, насунуў магерку, узяў у руку кавеньку.

— Яшчэ пасядзі, — прапанаваў Лявон.

— Не, пайду.

— Ну, дык глядзі, асцярожней будзь.

Развітваючыся, Кузёмка з жалем і шкадаваннем прамовіў:

— Слеп чалавек розумам, слеп! — і дадаў: — А Бог жа ўсё бачыць.

## XIV

Афінагенаў знайшоў атрад Дзмітрыя Новікава, праз Мурашку, які быў з ім на сувязі. Ён і прывёў упаўнаважанага антыфашысцкага камітэта ў атрад, у штабны будан, дзе знаходзіліся камандзір, камісар і прызначаны нядаўна начальнікам штаба Андрэй Беражняк. Перад гэтым Афінагенаў быў у Ружанскай пушчы, у Крыштафорыка, атрымаў інструкцыі. Крыштафорык папярэдзіў, што, пэўна, давядзецца ехаць у Маскву з дакладам аб дзейнасці камітэта, а для гэтага трэба падрыхтавацца.

— Пра асноўныя вынікі работы міжраённага антыфашысцкага камітэта па наладжванні барацьбы з нямецкімі акупантамі вы ведаеце. Магу вас парадаваць, таварыш Афінагенаў. Створаны Брэсцкі абласны камітэт барацьбы з нямецкімі акупантамі. Гэта немалое дасягненне. Пад вялікім сакрэтам прызнаюся вам, што ў яго склад уваходжу і я. Імейце ў віду, зроблена, самі разумееце, вялікая справа. З гэтага моманту ўся партызанка ў нашым раёне падпарадкуецца загадам і ўказанням камітэта. Так пра гэта і скажаце там, дзе вас пра гэта спытаюць, — Крыштафорык паказаў пальцам на столь.

З гэтымі думкамі-ўспамінамі ўпаўнаважаны і пераступіў парог штабнога будана. Там якраз было кіраўніцтва — камандзір і начальнік штаба.

— Давайце знаёміцца, — прапанаваў госць і назваў сябе: — Іван Мітрафоравіч. Прадстаўляю вышэйстаячае кіраўніцтва, аб чом саабшчу вам пагадзя, паколькі з’яўляюся яго ўпаўнаважаным.

— Новікаў Дзмітрый, — пачуў у адказ. Рука незнаёмага здалася яму важкай і цвёрдай.

— Вы камандзір?

— Я.

— Віктар Беражняк, — назваў сябе начальнік штаба.

Яны прыселі каля стала, абапёрліся на стальніцу, на якую струменіўся прамень святла з невялічкага акенца ў шчыце будана. Пахла варанымі грыбамі і бульбай. Пэўна, гаспадары нядаўна абедалі.

— Я неяк, собственна гавара, зімой у вас ужо пабываў, аднака вас не помню. Таварыша Беражняка помню, а вас не.

— Я з вясны, — сказаў Дзімка і ціха пастукаў пазногцем аб стол.

— Уключаецеся?

— Уключыўся.

— Пра вашы начальныя поспехі чуў…

— Поспехі сціплыя, — азваўся Беражняк.

— Да, сціплыя, — згадзіўся ўпаўнаважаны і запытаў: — Баявую вучобу праводзіце?

— Праводзім. Вучым, як са зброяй абыходзіцца.

Пасля гэтага ўпаўнаважаны неяк больш уважліва і засяроджана паглядзеў на субяседнікаў — на аднаго і на другога.

— А вот вы, я чуў, тол выплаўлялі. Скажыце, што там у вас адбылося?

— Да вот не той снарад на жароўню паклалі, не з толам, а парахавой. — Дзімка ўздыхнуў. — Вот і рванула.

— Хто паклаў?

— Хто паклаў, таго ўжо на свеце няма.

— Нада разабраццa. — Памаўчаўшы, Афінагенаў зноў спытаў: — А што гэта там у вас з кулямётам атрымалася?

— Не пашанцавала. А можа, наадварот, пашанцавала, — сумна пасміхнуўся Дзімка і ўздыхнуў. — Сашнік адваліўся, ну і, натуральна, чарга пайшла ўбок.

— Чаму не апрабавалі? Чаму не праверылі?

— Спяшаліся, ды і лішніх патронаў не было.

— А хто вінават?

Дзімка і Беражняк пераглянуліся паміж сабой.

— Вінаватага знайсці цяжка, — сказаў Беражняк.

— Аткуда ў вас гэты кулямёт?

— Трафейны, — адказаў Дзімка. — Рабята падабралі.

— Нехта за гэта далжон атвет дзяржаць.

Усталявалася прыкрая паўза. Недзе ўверсе ціха звінеў камар.

— Ён забіты, — прамовіў нарэшце камандзір. — Унёс віну на той свет. Смелы быў хлапчына, адчайны.

Вочы ўпаўнаважанага паступова прывыклі да сутоння, якое панавала ў будане. Ён разгледзеўся. Ля пакатай сцяны стаяў збіты з дошак тапчан, засланы саматканай посцілкай, у кутку — бадзейка з вадой і жалезная конаўка побач. Тут жа, у кутку, зброя. Замест падлогі — усохлы ўжо лапнік.

Недзе ў лясной глухамані застукаў дзяцел.

— Кулямёт? — насцярожыўся ўпаўнаважаны.

— Дзяцел! — супакоілі гаспадары.

Наступіла няёмкая паўза.

— А на фронце як справы? — спытаў Дзімка з цікавасці і дзеля таго, каб памяняць тэму.

— Становішча на фронце без істотных змен. Масква сёння тыл. Баі ідуць за Ржэў, але асноўныя сілы ён сцягнуў на Паўднёвым фронце, захапіў Растоў, фарсіраваў Дон. Цяпер пагражае Сталінграду, Кубані, Каўказу. У яго вялікая перавага ў танках, авіяцыі, артылерыі. Более таго. Немцы працягваюць пераброску дывізій з Францыі ў Расію. Аднак, паўтараю, Масква стаіць, канешна. Перамога не за гарамі. Памагаць нада! Перад намі пастаўлена задача ўзмацніць удары па камунікацыях. Гэта к вашаму сведзенію, імейце ў віду.

— Я ўжо дакладваў, мы не сядзім склаўшы рукі.

— Агульныя разгаворы! — Афінагенаў незадаволена махнуў рукой. — Нада прадметна паказаць!

— Малавата ў нас людзей, — як бы ў сваё апраўданне адказаў Дзімка.

— Так точна! — уздыхнуў Беражняк.

— Малавата, — згадзіўся госць і параіў, як некалі яму самому раіў Крыштафорык:

— Нада папалняць, браць тых, хто адстаў ад фронту, прыпіснікоў, ці «васточнікаў», як у вас кажуць, месных, хто хаваецца ад вывазу ў Германію, словам, усіх незадаволеных, а такіх, па маіх сведзеніях, многа. Нада правадзіць адпаведную работу. Канешна, правяраць, рабіць жосткую праверку. Гэта к вашаму сведзенію, імейце ў віду. На падначаленай нам тэрыторыі створаны антыфашысцкі камітэт. Зроблена, самі разумееце, вялікая справа. Імейце ў віду. Вось зварот камітэта аб разгортванні партызанскай барацьбы.

Афінагенаў дастаў з палявой сумкі складзены ў чатыры столкі аркуш паперы. Разгарнуў, паднёс да вачэй і стаў чытаць. Зварот быў напісаны на рускай мове. Пачынаўся словамі: *«Товарищи красноармейцы и командиры!»*.

— Я, собственна, самі разумееце, усё чытаць не буду, разве што найболее краснарэчывыя места. Вот паслушайце! *«...И в этот момент напряженной борьбы некоторые из вас, отсиживаясь в деревнях и не участвуя в общей борьбе советского народа с противником, ставите себя в положение людей, невыполняющих долга советского гражданина, обязанностей, возложенных на Вас принятой Вами военной присяги. Вашей задачей является немедлен-*

*но добывать всеми средствами оружие, организовываться в партизанские отряды и включаться в героическую борьбу советского народа с гитлеровской Германией!..»*

Тут чытальнік зрабіў перадышку, адпіў вады, уважліва паглядзеў на сваіх слухачоў. І працягваў далей:

— *«Раздуть пламя всенародного партизанского движения, разрушать вражеские тылы, уничтожать немецко-фашистских мерзавцев!..»*

Лістоўка заканчвалася словамі: *«Смерть немецко-фашистским захватчикам!»* Іх упаўнаважаны прачытаў цвёрда, нават з пафасам.

— Правільна напісана! — ухваліў Новікаў.

— Правільна і своечасова! І гэта трэба давесці да кожнай дзярэўні, асабліва дзе ёсць прыпіснікі. Абязацельна размножыць гэты матэрыял! Пішучая машынка ў вас ёсць?

— У нас няма, але варта пашукаць, — адказаў Беражняк.

— Знайдзіце! А радыёпрыёмнік?

— Таксама будзем шукаць.

— Шукайце, таварышы! Ну і, канешна, па дзераўнях нада правадзіць работу! Вялікае значэнне мае вуснае слова.

— Гэта ясна, як дважды два, — згадзіўся Дзімка.

Упаўнаважаны працягваў у павучальным тоне:

— Жыццядзейнасць партызанскага атрада немагчымая без сувязных — без іх атрад ваш і глухі, і сляпы адначасова. Неабходна сетка сувязных.

— З сувязнымі работа вядзецца.

— У дзераўнях пара ствараць ячэйкі. Я імею ў віду ячэйкі Камітэта барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Думка Камітэта такая, што Камянецкі раён адстаёт. Слаба варушыцеся!

— Баявога вопыту малавата, — зазначыў Беражняк, — ну, але ж неяк набудзем!

— Прыабратайце! Нашы ворагі — не толькі непасрэдна немцы, але і каторыя перайшлі на іх бок: паліцаі, солтысы і прочая нечысць. Более таго. Скажу вам, што ліквідацыі работаюць на немцаў. Хіба можна з гэтым мірыцца? Не. Гэта бязлітасная вайна, таварышы, патрабуе ад нас бязлітаснасці аднаго да другога. Гэта імейце ў віду.

Дзімка і Беражняк слухалі моўчкі.

— Мясцовыя ў вас, канешна, ёсць?

— Ёсць.

— Пазавіце каго з надзёжных. Для разгавора.

Новікаў зірнуў на Беражняка:

— Дзе камісар?

— З хлопцамі ён.

— Давай яго сюды!

Беражняк высунуўся з будана і загадаў вартавому паклікаць Косцю. Камісар з'явіўся праз лічаныя мінуты. Афінагенаў павітаўся з ім за руку, і Косця пазнаў былога начальніка Камянецкага аддзела НКУС, але выгляду не падаў.

— Вы мясцовы? — звярнуўся да яго ўпаўнаважаны.

— Мясцовы.

— Адкуль?

— Я з Прускі. Гэта недалёка, кіламетраў дваццаць, калі напрасткі.

— Там, канешна, неабходная работа яшчэ не наладжана?

— Не наладжана.

— Вот і яно!

— Рукі яшчэ не дайшлі, — як бы апраўдваючыся, сказаў камандзір.

— А да каго там можна звярнуцца? — Афінагенаў уважліва паглядзеў на свайго суразмоўцу-прускаўца. — Надзейныя людзі там ёсць? Тут надзейныя трэба.

Косця задумаўся. «Надзейныя? Можа, да дзядзькі Цімошы накіраваць? Ці да Лявона Кужаля? Але як ён іх адшукае ў вёсцы, не ведаючы, дзе яны жывуць. Пытацца ў каго-небудзь нельга, каб не нарабіць бяды. Дык як быць? А можа, да Васіля Платонава паслаць? Жыве з краю, якраз насупроць царквы, пры гасцінцы. Яго хату лёгка знайсці, месца прыкметнае. І гаварыць з ім можна. У мінулым — савецкі работнік…» Вырашыў спыніцца на ім:

— Я думаю, што да Васілія Платонава можна наведацца.

— А хто ён?

— Ён былы начальнік пошты ў Ратайчыцах. Чалавек праверany. Гестапа яго ўжо брала, але неяк выбавіўся.

— Якім чынам выбавіўся? Немцы праводзяць жорсткую фільтрацыю…

— Ну, можа, пашанцавала чалавеку?

— А хто правяраў?

— Я ведаю яго даўно. Вясною, праўда, ён атрымаў ад немцаў кавалак зямлі, але не ён адзін. У Прусцы немцы раздалі панскую зямлю і атрымалі многія. Абрабатываюць.

— Няўжэлі? — не паверыў упаўнаважаны. — Не можа быць! І Платонаў узяў? Былы начальнік пошты? Гэта ж наш актыў!

— Сям'я ў чалавека, а зямлі ў яго малавата было. Ісці з ім на кантакт, думаю, можна.

— Ну што ж, увідзім. Як вы назвалі дзярэўню?

— Пруска. Платонаў жыве пры гасцінцы, з краю. Хатка яго няўзрачная, з адным акном. Па другі бок гасцінца — царква. Знайсці не складана.

— Ды я там не раз праязджаў! Помню: у Мікалаеве стаіць царква, як праязджаеш, пры дарозе, і ў вашай Прусцы таксама царква. Дык хата Платонава, кажаш, напроціў?

— Напроціў.

— Будзем арыентавацца.

Павячэраўшы ў будане сціплым партызанскім харчам, упаўнаважаны з тым жа Мурашкам рушылі ў Пруску. Ішлі глухімі ляснымі і палявымі дарогамі, уброд пераходзілі рачулкі. Мурашка, які хваліўся, што ведае ўсё наваколле, часта спыняўся, разгублена круціў галавою, азіраўся, шукаючы знаёмыя арыенціры. Прайшлі паўз Робанкі, Селяхавічаў, Сухаволля. «Блізка відаць, ды далёка дыбаць», — сказаў Мурашка, успомніўшы вядомую прымаўку. Але ўжо праз некалькі гадзін былі на месцы. Доўга блукалі ваколіцамі, паміж розных вёсак і паселішчаў (тут іх было даволі густа), пакуль не дабраліся да гасцінца з Камянца на Высокае. Адтуль рушылі на поўдзень.

Да абсады Платонавых падышлі з боку гасцінца. Было ўжо далёка за поўнач, і гаспадары, змораныя спякотным жніўным днём, вядома, спалі, аднак пачулі, як нехта ціха пашкробся ў акно. Потым пастукалі. Праз хвіліну за шыбінай забялеў твар гаспадара.

— Выйдзі!

Васіль накінуў на плечы нейкую апранаху і адчыніў дзверы. За парогам стаялі дзве незнаёмыя постаці. «А можа, якая правакацыя? Немцы ўмеюць…»

— Платонаў? — ціха спытала адна з іх.

— Платонаў.

— Не бойся, гэта мы, — супакоіў другі. — Пазнаеш?

Васіль пазнаў былога міліцыянера Мурашку. Запрасіў:

— Заходзьце!

— Немцы ў Прусцы ёсць? — спытаў Мурашка, натапырыўшы вусы і прыклаўшы палец да вуснаў.

— Немцаў няма. Варта ходзіць з нашых людзей.

Госці пераступілі парог, зайшлі ў хату. «З лесу!» — зразумеў Васіль, учуўшы трывожны водар сасновай жывіцы і пах верасоў. Шапак не здымалі.

— Прысядзьце, адпачніце! — прапанаваў гаспадар. — Тут вось ля сцяны лаўка.

Прося таксама паспела ўжо ўстаць і апрануцца. Памкнулася запаліць лямпу, але госці запярэчылі, вырашыўшы, відаць, абмежавацца месячным святлом. Азірнулася на ложак, дзе спаў малы Віталік.

— Цеснавата ў вас, — адзначылі госці, агледзеўшы хату.

Прося была цяжарнай трэцім. Як толькі ўстала, дык адразу адчула, як яно там абудзілася і незадаволена засоўгала ручкамі. Маладзіца шчыльней зашпіліла гузікі на світцы.

— Гаспадыня, ты не палохайся! — супакоіў яе Мурашка, умасціўшыся на лаўцы і міжвольна звяртаючы ўвагу на Просін жывот, які прыкметна пукліўся пад шэрай світкай. — Мы свае, дрэннага вам нічога не зробім. Ну, як жыццё? — спытаў ён.

— Вядома, якое цяпер жыццё, — азваўся Васіль, апускаючыся на столак і паклаўшы рукі на калені. — Людзі застрашаныя надта, запалоханыя. Параляканыя, можна сказаць.

Другі, таксама не распранаючыся, прысеў побач з Мурашкам, і Васілю здалося, што ён недзе яго бачыў. «Ці не Афінагенаў гэта? Надта ж нагадвае былога начальніка Камянецкага НКУСа. Дробны тварык, курносы, пагляд недаверлівы…»

— А можа, ты цяпер ужо немцам служыш? — задаў пытанне гэты Мурашкаў прыяцель.

«Афінагенаў!» — упэўніўся Васіль, але выгляду, што пазнаў, не падаў. Цвёрда, з нейкай нават доляй крыўды ў голасе, адказаў:

— Дарэмна вы такое гаворыце, на ніякую пасаду мяне ніхто не прызначаў.

— Цябе, кажуць, арыштоўвалі?

— Арыштоўвалі за тое, што я начальнікам пошты быў. — Крыху памаўчаўшы, Васіль дадаў: — Адпусцілі пад паручыцельства, што нічога благога ім не зраблю.

— Значыць, у давер’і?..

— Што ў вас пра партызан чутно? — умяшаўся ў размову Мурашка, адчуўшы што ўпаўнаважаны залішне насядае са сваімі пытаннямі.

— Зімою тут, каля Бабіцкай гары, гэта, відаць, яны тэлеграфныя слупы паспілоўвалі, дрот пашкуматалі…

— А што яшчэ ў вас чутно? — выпытваў Афінагенаў.

— Тут немцы прывіўкі рабілі, уколы давалі ад нейкай хваробы. Ад тыфу быццам бы.

— І вы верыце, што ад тыфу?

— Хто ж яго ведае, — азвалася Прося, якая стаяла ў начным сутонні ля печы і слухала гаворку. — Давалі пад прымусам усім, хто хацеў і хто не хацеў.

Васіль міжвольна зірнуў на жонку і на яе выпуклы жывот.

— Ну, а як тут «прымакі»? — пацікавіўся Мурашка.

— Акружэнцы? Ходзяць раз у тыдзень адзначацца ў Ратайчыцы, у гміну. Асобныя, праўда, у паліцыю пайшлі, але большасць у гаспадароў жывуць. Некаторыя з вамі шукаюць сувязі, з партызанамі.

Васілю здавалася, што гэта толькі ўступ да гаворкі, што начных гасцей цікавіць нешта яшчэ і, можа, больш важнае. У куратніку заспяваў певень, яго падтрымалі іншыя, больш далёкія.

— Давай выйдзем на вуліцу, свежым паветрам падыхаем! — прапанаваў Афінагенаў. — Ваша варта ўжо напэўна недзе дрыхне.

— А вы, гаспадыня, тым часам у хаце пабудзьце! — дадаў Мурашка, каб заспакоіць Просю, бо яна таксама наважылася ісці. — Мы яму нічога благога не зробім, мы не немцы.

Афінагенаў азірнуўся на сябра:

— Ты таксама астанься! Пагаворым удвух.

Яны выйшлі, спыніліся за шырокім кустом бэзу, шчыльна да яго прыціснуўшыся. На вуліцы было ціха. Адчувалася перадранішняя прахалода. Ледзь серабрыўся месяц над царквою, пачыналі гаснуць зоркі. Цямнела раса на траве пад нагамі, і ўжо абуджалася птаства.

— Дык што? Немцы нарэзалі табе зямлі?

— Паўгектара. Не мне аднаму. І іншыя атрымалі. Адмаўляцца не выпадала. Усе так зрабілі, у каго сем'і, а зямлі не хапае. Цяпер вось Хвядзюшка Шпунт памяняцца прапаноўвае. Агледзеўся і лічыць, відаць, што мне лепшы кавалак дастаўся…

— Ну і што, будзеш мяняцца?

— А нашто? Усё роўна некалі адбяруць…

— Хто?

— Той, хто даў…

Размова перапынілася няёмкім маўчаннем. Потым начны госць зноў загаварыў, перайшоўшы чамусьці на «вы»:

— Я думаю, што вы зразумелі, хто мы і адкуль з'явіліся, — гаворачы, Афінагенаў увесь час уважліва пазіраў на свайго новага знаёмага. — Мы пасланцы ад савецкай улады. Яна — жыве. Гэта імейце ў віду. Палажэніе не прастое. У Сталінград ён упёрся, аднака не ўзяў, наш Сталінград. Масква стаіць, як скала. А калі стаіць Масква, дык жывая і савецкая ўлада. Савецкую ўладу цяпер прадстаўляем мы. Створаны — гэта я кажу для вашага сведзенія — Камянецкі антыфашысцкі камітэт, які ўзначальвае ўсю падпольную работу. Будзеце нашым сувязным. Сувязныя, да будзет Вам ізвесна, далёка не апошнія людзі ў нашай справе. Карацей кажучы, гэта нашы глаза і вушы. Я думаю, што гэта вам зразумела.

— Зразумела.

— Хоць хата твая з краю, але ведаць ты павінен пра ўсё, — настаўляў Афінагенаў, зноў перайшоўшы на «ты». — Сувязь паміж намі будзе непасрэдная. Вось на той горцы, дзе нашы рабяты валілі тэлеграфныя сталбы, я ўзяў на заметачку бярозу. Адна стаіць у кустах, крывавая. Гэта — наш з вамі арыенцір. Давайце каля яе сустракацца. У першую сераду кожнага месяца. Запомніце? Першая серада кожнага месяца.

Васіль не адмаўляўся.

— Вы палучаеце ад нас інфармацыю, перадаеце другому ліцу, а назаўтра ведае ўся дзярэўня. Вестка з вуснаў у вусны быстрэй дайдзёт, чым па пошце. Вы, здаецца, на пошце работалі?

— На пошце.

— Харашо, — Афінагенаў зрабіў паўзу, і паглядзеў у вочы субяседніку. — І, прыміце к сведзенію, яшчо адно заданне. Прыпіснікі. Імейце ў віду: лепшых, сазнацельных следует напраўляць у лес. Каб не прасачыўся які-небудзь правакатар. Матайце гэта на вус.

— У айчыма ёсць надзейны, мне здаецца, хлапчына, Сашка-сібірак, а ў яго — таварыш у Свішчове…

— Вот-вот! Намякні ім, а там условімся…

— Я б і сам не супраць да вас пайсці.

— Ты нам здзесь нужон.

Хвіліну яны памаўчалі. Адчувалася, што госць яшчэ пра нешта турбуецца, але не адважваецца гаварыць.

— З кім яшчэ, у тым ліку нават і з партызанамі, на кантакт не ідзі, не звязвайся. Толькі паміж намі, паміж мной і табой. Ну, можа, яшчэ Мурашка падскочыць, гэта — наш чалавек.

— Зразумела.

— Ці траплялі да вас якія-небудзь нашы паперы? — спытаў нарэшце ўпаўнаважаны.

Васіль не адразу ўцяміў, пра што гаворка.

— Якія паперы? — перапытаў ён, але раптам, як жывыя, паўсталі ў свядомасці першыя дні вайны, будынак Камянецкага НКУСа, адчыненыя дзверы, бязладна раскіданыя па падворку паперы і людзі, якія ў гэтых паперах капаліся, нешта ў іх вышукваючы. Успомніў начны арышт і допыт у гестапа і таго страшнага, падобнага на чорта следчага ў чорным мундзіры са свастыкай на чырвонай павязцы. Падумаў: «Там не прызнаўся, дык і тут не буду. Пачнецца: хто там быў ды куды цягнуў? Я ж таксама пару паперын узяў…»

— Паперы сакрэтныя, — насупіўся Афінагенаў, — дзяржаўныя! Савецкая ўласць спросіць…

Васіль адмоўна паківаў галавой і пацiснуў плячыма.

— Паперы — гэта дакументы, дзела дзяржаўнае, — зноў паўтарыў нкусавец, строга зірнуўшы на субяседніка. — Архіў! А яго растаскалі. Хто ўзяў, павінен вярнуць і палажыць на места.

— А можа, і добра, што паперы тыя, як вы кажаце, растаскалі. Калі б дасталіся немцам, было б горш, — як бы ўслых падумаў Васіль.

— Пускай, — Афінагенаў апусціў вочы і ўпёрся паглядам у дол. — У каго яны ёсць, хаваюць і нікому не паказваюць. Пасля вайны спросім. Калі ты на які след натрапіш, абязацельна скажы мне. Гэта ўсё ж такі дакументы, імейце ў віду. Віноўных мы знойдзем.

— Я зразумеў.

— Ёсць яшчо вапросы? — па звычцы спытаў Афінагенаў і зноў паглядзеў на Васіля. — Разгавор наш павінен быць сакрэтным.

Яны вярнуліся ў хату. Мурашка, так і не распрануўшыся, сядзеў за сталом і сёрбаў боршч, які падала гаспадыня.

— Хочаце і вам налью, — прапанавала жанчына. Афінагенаў адмовіўся.

Мурашка даеў свой боршч і сказаў:

— Добра было б і бялізну змяніць.

— Дык у чым справа? Апранайце маё, а сваё пакідайце, Прося памые, — азваўся Васіль.

Лясныя госці хуценька змянілі бялізну, апранулі чыстую, якую падала Прося, дастаўшы з куфра. Пара было выпраўляцца ў дарогу.

— А можа, адпачнеце? Я вас агародамі да айчыма завяду, у яго сена на вышках, ніхто нават не здагадаецца.

— Не, — у адзін голас адказалі адзін і другі, развіталіся і зніклі за парогам у начным туманку.

— А хто яны такія? — дапытвалася Прося, калі начныя госці пакінулі хату.

— Хіба ты не зразумела? Партызаны.



## Валянцін ЛУКША

### ВЯЛІКДЗЕНЬ

Вялікдзень — па-сапраўднаму вялікі —
Галоўны дзень, што славяць раз на год,
З’яднаных постам вернікаў паклікаў
У звечарэлы Храм на Хрэсны ход.

Зіхочуць свечкі, золата іскрыцца,
Слязіначка спаўзае з-пад павек.
І спакваля святая плашчаніца
За крыжам, нібы воблачка, плыве.

Працяты прагавітымі цвікамі,
Ёй колісь быў ахутаны Хрыстос…
Ён смерці перамог нямую замець
І нам усім Надзеяй уваскрос.

«Хрыстос васкрос!
Хрыстос васкрос!» —
Гаворым.
Святая радасць спеліцца ў грудзях,
І клятвенна гучыць у дружным хоры —
Адолець людзям свой крыжовы шлях…

---

*__Лукша Валянцін Антонавіч__ нарадзіўся 16 лістапада 1937 года ў Полацку. Скончыў аддзяленне друку Вышэйшай партыйнай школы пры ЦК КПСС (1976). Працаваў у мясцовых і рэспубліканскіх СМІ. У 1980—1998 гг. — дырэктар выдавецтва «Юнацтва».*

*Аўтар кніг паэзіі «Гарады нараджаюцца сёння» (1964), «Атава» (1969), «Споведзь» (1973), «Белыя берагі» (1981), «Сляды памяці» (1986), «Агонь і попел» (1989), «Покліч лёсу» (1997), «І родны дом, і цэлы свет» (2006) і інш., шматлікіх зборнікаў вершаў і казак для дзяцей, п’ес, пастаўленых на тэатральнай сцэне, радыё і тэлебачанні, тэкстаў многіх папулярных песень.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996).*

А дома стол страчае смакатою,
Лампадка сіратлівая дрыжыць,
І сэрца напаўняецца спакоем,
І злагада праменіцца з душы.

## ВЫПРАБАВАННЕ ДАРОГАЙ

Ці зладжана тваё працуе сэрца,
Ці не падводзяць змучаныя ногі,
Дакладна, нібы слынны ўрач, правераць
Бясконцыя таежныя дарогі.

Дарогі — як нябеснае пасланне,
Як самая суровая паверка.
Яны — як старадаўняе пісанне,
Што праз вякі не страціла даверу.

Імкнуцца праз выжарыны і сопкі,
Балоцінай, усыпанай марошкай,
Да стромы, дзе скрабуць паднеб'е сосны
І дзяцел будзіць лес зеленакоса.

На іх ты не злайдачыш і не схібіш,
Не скінеш на чужыя плечы кайстру, —
Яны шліфуюць твой характар, нібы
Лязо на асялку даводзіць майстар.

І ў рэшце рэшт, дабраўшыся да мэты,
Табе з душой адкрытай скажуць людзі:
— З загартаваным чалавекам гэтым
Хадзіць заўсёды мы ў разведку будзем.

## АВАЗА — ЖАМЧУЖЫНА КАСПІЯ

Абсохне на сівой траве раса
У Прыкаспійскай вогненнай пустыні,
Шчырунняй-гаспадыняй Аваза
Ў прадонне мора цемру ночы скіне.

Цнатліва абуджаецца ад сну
Загадкаваю казкаю Усходу
І запрашае ў зыркую вясну
Жамчужына руплівіцы прыроды.

Блакітам зіхаціць нябесны дах,
Гасцінна далеч адчыняе дзверы…
Тут чыстая, нібы крышталь, вада
І чыстае, нібы крышталь, паветра.

Ускрыльвае, як сокал, ясны дзень,
Затока аціхае, быццам крыга.
Нібы цюльпаны, у марской вадзе
Цялёпкаюцца цыбуны-фламінга.

Да Авазы імкнуцца, як у храм,
Каб немачы не засталося знаку…

На шчырае туркменскае:
— Салам! —
Па-беларуску шчыра кажам:
— Дзякуй!

## ДРАТАРЫ

Кожны край па-свойму праслаўляюць
Сціплыя мясцовыя майстры.
З гонарам славакі называюць
Выбраных умельцаў —
Д р а т а р ы.

Сціпла-непрыкметныя, як цені,
Здольныя паўсонны свет здзівіць,
Ажывіць нямыя летуценні,
Казку явай існаю зрабіць.

Праз хвілінку шэрую драцінку
У руках майстэрскіх не пазнаць, —
То трымціць загадкавай галінкай,
То, як птушка, рупіць пакрыляць.

Выгінасты лебедзь — як падсвечнік,
Вазка — кош для ягад і грыбоў…
Колькі важных гаспадарчых рэчаў
З рук сыходзіць спрытных дратароў!

І хаця імклівы час паставіў
Новы век на хуткае вясло,
Не закрэсліць ён людскую славу,
Вечнае зямное рамяство.

## ТАХРЫР

Край фараонаў чым жыве?.. Каір?..
Даведаецца кожны без сумнення,
Калі патрапіць раптам на Тахрыр,
Па-простаму — на плошчу Вызвалення.

Тахрыр раскажа праўду пра народ,
Пра самае таемнае раскажа,

Хоць БТР, нібы месяцаход,
Вакол яе старанна петлі вяжа.

Там пад нагамі зброя — грозны брук.
На языку — крутыя абароты.
Над плошчай гаманкой за кругам круг
Накручваюць цяжкія верталёты.

Завулкі перагрэтыя, як печ.
Іх прахалода Ніла не астудзіць.
Мільёнагорлы кліч:
— Мубарак — прэч! —
Перасмялела паўтараюць людзі.

Выносіць плошча жорсткі свой вердыкт.
Ён лёс і сэрца бунтара кранае…
І несмяротна-вечны сонца дыск
У нільскіх хвалях ціха патанае,

Каб ранкам над краінай пірамід
Ўзвінуцца, быццам ібіс узлятае…

Нябёсамі падораны блакіт
Зямлю пакровам Божым ахінае…

## СТРЫЖЫ НАД СЦЯНОЙ ПЛАЧУ

Калі вясна цяплом свой след пазначыць,
Праб’ецца праз зямныя рубяжы,
З усходам сонца над Сцяною плачу
Крыляюць мітуслівыя стрыжы.

Для іх святыня не адно стагоддзе —
І схованка, і даўняе жытло:
Тут і пяшчотна пісклянят выводзяць,
І ставяць на імклівае крыло.

І як бы час планету ні зыначваў,
Да родных гнёздаў шлях стрыжоў ляжыць.
Цяпер іх называюць не іначай,
Як птушкі чалавечае душы.

Бо ўсе мы сэрцам прыраслі да гнёздаў,
Нікому повязь тую не парваць…
Паломнік моўчкі выцірае слёзы,
Спяшае просьбу Богу перадаць.

Наструніліся велічныя гмахі —
У Іерусалім прыйшла вясна,
У паднябессі ладзяць трукі птахі
І песняй душы напаўняюць нам.



Уладзімір ЛІПСКІ

# ВУЗЕЛЬЧЫКІ ПАМЯЦІ

*Лісты да ўнука*[1]
*(год пяты)*

**129**

Ведай, дружа Толік, ты, як вырасцеш, не ўсё прыгадаеш з цяперашніх будняў. Але ж гэта зусім не азначае, што не жывеш. Яшчэ як жывеш!

Іншым разам мне здаецца, што ты нас вядзеш па жыцці: падбадзёрваеш, натхняеш, не даеш позна спаць. Ты вучыш бачыць, чуць, разумець, весці размову, і мы цягнемся да цябе, грэемся каля твайго кастра душы.

Ну вось сёння я абазваў цябе прадказальнікам. А як было?

Збіраюся на карасёў, ладжу вуду, а ты падбягаеш і кажаш:

— Дзядуля, не хадзі на возера.

— Чаму, Толік? — шчыра дзіўлюся з цябе, бо тыя разы як толькі браўся за вуды, ты ахвотна набіваўся да мяне ў напарнікі. — Чаму ты раіш не хадзіць на рыбалку?

— А таму, што сёння карасі не будуць лавіцца.

Дарэмна ж я не паверыў табе. Без улову вярнуўся з рыбалкі. Давялося пахваліць цябе:

— Прадказальнік ты, Талян!

— Ага, я ўжо вялікі хлопчык, — па-свойму ты ацаніў маю пахвальбу.

Наўрад ці асядзе ў тваёй памяці гэты дыялог? Прачытаеш некалі пра яго ў маім пісьме.

Ведай, дружа, у дзяцінстве чалавек набывае ўсё тое, чым жыве пасля. Вялікі рускі пісьменнік Леў Талстой напісаў пра сваё маленства:

«Разве не тогда я приобретал все то, чем я теперь живу, и приобретал так много, так быстро, что всю остальную жизнь я не приобрел и одной сотой того?»

А вось акадэмік Ліхачоў, якога я, Толік, ніколі не сустракаў, а толькі з асалодай чытаў яго роздумы, якога толькі бачыў і слухаў па тэлебачанні і якога глыбока палюбіў як настаўніка, рэдкага субяседніка, дык ён аднойчы прызнаўся:

«Было мне лет шесть, и я открыл тогда впервые, к своему удивлению, что у женщин есть ноги. Юбки носили такие длинные, что видна была только обувь...»

Гэта было ў 1912 годзе.

---

[1] Працяг. Пачатак у № 5, 2010 г., № 1—2, 8 2012 г.

Што ж ты, унучак, запомніш з 2009 года, якi пачаў адмяраць твой пяты год жыцця?

Хачу дапамагчы табе. Пачынаю завязваць вузельчыкі памяці пра ўсё тое, што было з табой, пра ўсё тое, што мяне зацікавіла ў табе. Давай здзіўляцца кожнай расінцы на траве, кожнаму лісціку на дрэве, радавацца кожнаму кроку па нашым касмічным маёнтку Зямля.

*Твой — Уладзімір Ліпскі.*
*3.07.2009г. (пятніца)*

**130**

Сядзім, гушкаемся на арэлях.

Хэ! Каб жа толькі люляемся. Мы лятаем з табой у розныя краіны.

Гушканемся — і ўжо ў небе. За другім разам — ужо ў Афрыцы. Шукаем там жырафу. Табе хочацца паглядзець на яе доўгую-доўгую шыю.

Пацешна з табой на арэлях.

Ды раптам ты просіш прыпыніцца. Убачыў шэрую кошку з чорным гузікам на носе:

— Дзядуля!.. Кошка!..

Наш лятаючы карабель рэзка тармозіць. Саскокваем з яго, бяжым да нечаканай госці, а яна не разумее нашых пачуццяў, уцякае ад нас. Спрытна шмыгнула за хлевушок.

Шкада, не захацела з намі пагуляць. Каб развесяліць цябе, прапаную скласці казку пра чарнаносую незнаёмку.

— Давай! —пагаджаешся ты, і ў тваіх вачах загарэліся зоры.

Пачынаю экспромт:

— Жыла-была на дачы кошка. Аднойчы ў яе нарадзіліся кацяняты. Яна іх нарадзіла за хлевушком, у дрывотні. Аблізала, памыла языком сваіх дзетак, напаіла малачком. Заснулі кацяняты, а мама вырашыла пайсці пашукаць сабе яды.

Ідзе па малінніку, перад ёй бугарок зямлі заварушыўся. Кошка сцішылася, прытаілася, думала выскачыць з норкі мыш, а яна яе і ўпалюе. Але дарэмна чакала кошка здабычу. З зямлі ніхто не вылез.

Пайшла кошка ў двор, дзе гушкаліся дзядуля з унукам. Спадзявалася, пачастуюць чым-небудзь, а яны пагналіся за ёй...

— Дзядуля, давай пакормім кошку!.. — перабіў ты мой аповед.

— А што, хай гэта і будзе працягам нашай казкі.

Мы паляцелі з табой на кухню, налілі ў сподак малака, у другі — паклалі катлету. Усё гэта паставілі каля хлеўчука. Самі пачалі здаля цярпліва цікаваць.

Праз колькі хвілін кошка ўнюхала наш пачастунак, асцярожна падкралася да нашых талерак. З’ела катлету, выхлебтала малако і на развітанне вільнула пушыстым хвастом.

— Дзякуй Богу! — вырвалася з тваіх вуснаў.

Толік! Ты парадаваў мяне бязмежна. Ты, Божы пасланнік, вучышся ўслаўляць нашага Творцу. Ты вучышся рабіць дабро. Гэта слаўна!

*Твой на векі вечныя — Уладзімір Ліпскі.*
*11.07.09 г. (субота)*

**131**

Так атрымалася, Талян, што мы з табой адны на дачы. Цябе поўнасцю даверылі мне, а ты і пагадзіўся з гэтым. І не без асалоды, бо мы, як здаецца, заўсёды разумеемся, знаходзім лагоду адзін да аднаго.

Дзень правялі ў згодзе, у гулях і працы. Позна вечарам кладзёмся спаць. Тое «позна» — аж пад поўнач. І ты раптам прапануеш:

— Давай сходзім на вуліцу.

— А што, давай!

Праз колькі хвілін — мы ў чорнай ночы, пад зорным небам. Космас шалее зыркастымі расінкамі. Пад гэтым парасонам — даўкая цішыня. Паміж зорак пачаў мільгаць сваімі сігнальнымі агеньчыкамі рэйсавы самалёт. Ледзь не зачапіў серп месяца.

Ты, Толік, быў ашаломлены начным небам. Ты ўпершыню ў жыцці бачыў такі цуд. А мне ў цемры бачыліся твае вочы. Срэбранымі зоркамі яны асвечвалі ўсё наваколле. З тваёй душы выдыхнулася адно слова:

— Абалдзець!

Спадзяюся, з гадамі ты знойдзеш для зорак, неба і ночы іншыя, больш узвышаныя словы. А цяпер ужыў, якое ведаў, якое блізка сядзела на языку, якое пераняў ад хлапчукоў у садзіку. А мо ад самой Машы?

Але ж сказаў узрушана, непасрэдна, як адарваў ад сэрца. Ты быў шчыра здзіўлены сваім адкрыццём. І я ўдзячны табе за гэта, бо і я іншымі вачыма зірнуў на зорнае неба. Як жа добра, што ты выцягнуў мяне на спатканне з чорнай летняй ноччу!

Жыццё — гэта тое, што дзеецца ў пэўны, канкрэтны момант. Усё астатняе — успаміны і мары. Давай, Талян, лавіць імгненні жыцця. Хай яны будуць розныя, як колеры ў вясёлцы. Але толькі не балючыя, не калючыя, не трывожныя. Божа, хай будзе так!

Ты спіш, а я — малюся.

Засынаю з думкай пра цябе, а значыць, і пра свой заўтрашні дзень.

Спакойнай ночы!

*Твой нянь.*
*19.07.09 г. (нядзеля)*

**132**

Ведай, Толік, у той год і ў той месяц, калі ты нарадзіўся (ліпень 2005 г.) твая сястрычка Маша надрукавала ў «Вясёлцы» верш. Нават малюнак прыдумала да яго. Вось яе творы.

**Коцік**

Мілы коцік ходзіць,
Песеньку заводзіць,
Ходзіць, напявае,
А што — сам не знае.

Ходзіць, напявае,
Кветачкі шукае —
Ружы і рамонкі
Для сястры Алёнкі.

Выпадкова сустрэў гэты нумар часопіса. Яшчэ раз перачытаў, уважліва паўзіраўся ў коціка з кветкамі і жахнуўся ад здзіўлення. Няўжо Маша адчувала, верыла і чакала, што ў яе з'явіцца брацік? Менавіта, брацік. Бач, яе коцік ходзіць, напявае, а што — сам не знае. Проста мурлыча, бо яму добра, пацешна. Але ж пры гэтым ён кветачкі шукае — ружы і рамонкі для сястры Алёнкі. Маша жадае, каб хлопчык, якого народзіць мама, любіў яе, шанаваў, дарыў кветкі, а разам з імі — сваю павагу і любоў да сястры. Во чаго яна хацела ад цябе. Чакала тваё з'яўленне і раўнавала, бо адчувала, што ты адбярэш ад яе багата пачуццяў і бацькоўскіх, і дзядуле-бабулевых. Яна як у ваду глядзела...

Але ведай, Толік, пры ўсёй рэўнасці Маша любіць цябе, свайго брацbackground. Гуляе з табой. Бывае, корміць. А ўжо цяпер ёй давяраюць калі-небудзь забіраць цябе з садка. Я б хацеў, каб ты некалі усё гэта ацаніў. Каб спраўдзіў Машына жаданне і паднёс ёй букет кветак:

Ружы і рамонкі
Для сястры Алёнкі.

*29.07.09 г. (серада)*

**133**

Раскажу табе, дружа, як аднойчы ў нас з табой нарадзілася казка.

Заманьваю цябе да кніжкі пра розных звяроў. На адной са старонак зацікавіла малпа на дрэве. Ты пачаў пільна разглядваць фота, а я «падліваю масла ў агонь»:

— О, сядзіць і думае: дзе ўзяць бананаў?

Ты перагортваеш старонку, дапытваеш мяне:

— Дзядуля, а дзе яе бананы?

І тут мы пачынаем фантазіраваць: як малпа шукала бананы на нашай дачнай яблыні, як хадзіла прасіць бананы ў дзіцячы сад «Ліхтарык», як бегала ў Афрыку да бананавых дрэваў. А найбольш табе спадабалася прыдумка, як малпа хадзіла ў супермаркет. Пакідаю на памяць гэту казку.

Малпа і бананы

Адна Малпа прыехала з Афрыкі ў Беларусь. Залезла на елку, а там — не бананы, а шышкі. Залезла на дуб, а там — жалуды, залезла на рабіну, а там — чырвоныя ягады. «Дзе ў іх тут растуць бананы?» — задумалася Малпа.

Ідзе хлопчык Толік. Малпа ў яго пытаецца:

— Дзе ў вас бываюць бананы?

— Дзе, дзе?.. У супермаркеце!.. — адказаў Толік і паказаў, як знайсці той магазін.

Пабегла Малпа туды і пытаецца ў прадаўшчыцы:

— У вас бананы ёсць?

— Колькі заўгодна, — адказала прадаўшчыца і махнула рукой у бок паліцы з рознымі фруктамі.

Малпа кінулася туды. Адзін банан з голаду запіхнула ў рот. Астатнія пакідала ў мех. За плечы мех з бананамі і ходу з магазіна.

Яе дагналі касірка і міліцыянер:

— Грамадзянка, а заплаціць!

— За што?

— За бананы.

— А ў мяне грошай няма.

— Тады кладзіце тавар на месца, альбо мы вас арыштуем.

Спалохалася Малпа, кінула мех з бананамі на асфальце, а сама ўскочыла на электрычны слуп.

Тут якраз праходзілі дзеці з «Ліхтарыка». Убачылі Малпу на слупе і закрычалі:

— Малпа, Малпа!

Толік сказаў:

— Я ведаю гэту Малпу. Яна хацела бананаў. «На, Малпачка, мой банан, які мне мама дала...»

І ўсе дзеці падаставалі свае бананы. Малпа злезла са слупа, села на асфальце і пачала лупіць ды есці бананы.

Дзецям было весела пазіраць як Малпа смешна есць бананы і ад задавальнення пачэсвае свой махнаты жывоцік. Яна хацела сказаць дзякуй дзецям, але ў яе выходзілі толькі асобныя гукі:

— Гу!.. Гу!.. У-у!..

* * *

Гэту казку, Толік, ты просіш расказваць як толькі мы з табою кладземся спаць. Я з прыемнасцю гэта раблю. І мне здаецца, я ведаю, чаму табе падабаецца тая казка. А яшчэ радасна, што запомніў новае беларускае слова — «малпа».

*Твой казачнік.*
*2 жніўня 2009 г. (нядзеля)*
*(споўніўся месяц на пяты год твайго жыцця).*

**134**

Толік дарагі!

Ты яшчэ не ведаеш усе літары, не ўмееш чытаць. Усім гэтым авалодаеш. Але перад тым хачу закінуць табе адну мудрасць. Каб не быць галаслоўным, бяру ў падтрымку рускага пісьменніка Дзяніса Фанвізіна. Пра яго пісаў нават сам Аляксандр Пушкін:

Волшебный край! там в стары годы,
Сатиры смелый властелин,
Блистал Фонвизин, друг свободы...

Дык вось, той Фанвізін узяў ды ў 1782 годзе стварыў камедыю «Недоросль». По-нашаму «Недаростак». Дужа займальная, павучальная і смешная п’еса. У ёй дзейнічае мудры чалавек Старадум. Паслухай, што ён гаворыць свайму сябру Праўдзіну:

«Воспитание дано мне было отцом моим по тому веку наилучшее. В то время к научанию мало было способов, да и не умели еще чужим умом набивать пустую голову. Отец мой непрестанно мне твердил одно и то же: имей сердце, имей душу, и будешь человек во всякое время. На всё прочее мода: на умы мода, на знания мода, как на пряжки, на пуговицы... Без души просвешенная умница — жалкая тварь. Невежда без души — зверь ...»

Бачыш, у чалавека галоўнае — душа. Яе трэба выхаваць, прасвятліць, узбагаціць, узвялічыць, берагчы ў чысціне, ахоўваць ад усялякага ліха.

Ай, Талян, відаць, затлуміў я твой розум нечым не вельмі зразумелым. Давай лепш пойдзем і пагуляем. З даміно я змайструю табе гараж, а сабе —

магазін. Ты будзеш прывозіць мне на продаж цукар, цукеркі, бульбу. Гэтыя прадукты ты ўжо ведаеш на смак, і ведаеш, як яны гучаць па-беларуску. Пад час тваіх «рэйсаў» мы асвоім яшчэ некалькі слоў з роднай мовы. А гэта і стане ўрокам для цябе, выхаваннем тваёй душы, бо Мова і ёсць душа чалавека.

Вось так, мой сябар Бабай. Ты часцяком згадваеш нейкага Бабая. Аднойчы я спытаў у цябе:

— Хто гэта?

— Не ведаеш? — ты здзівіўся з мяне. — Гэта ж мой друг!.. Ён такі ж маленькі, як і я. Ходзіць за мною. Мы з Бабаем у машыны гуляем, калі я не ў садзе...

Твой Бабай, Толік, стаў і маім Бабаем. Давайце разам гуляць і лагодзіць нашы душы.

*Дабранач. Твой Калыханыч.*
*20 жніўня 2009 г. (чацвер)*

**135**

Ці цяжкое ты дзіцё, Толік?

Бываеш усмешлівы, раздражнёны, уражлівы, эмацыянальны, крыху запаволены. Гэта ад генаў, выхавання, характару? А мо гэта норма?

Кажуць, трэба абыходзіцца без натацый. Але ж як без гэтага, калі ты лезеш на лесвіцу, з якой можаш упасці? Калі ты хочаш праверыць, як запалкі ўтвараюць агонь. Калі топчашся па градцы, на якой растуць кветкі.

Ты, як і ўсе дзеці, — унікум. Але ж не ідэал. Такіх увогуле няма сярод людзей. Хачу, каб ты гэта зразумеў. І не супыняўся ўсяму здзіўляцца. Толькі так можна разварушыць твой «капітал», закладзены прыродай.

Ты пакуль жывеш у свеце пачуццяў і вобразаў. Райскі хлопчык! Ты ходзіш па скошаным мною газоне і спяваеш:

Падают желтые листья,
В нашем саду — листопад...

Божа, дзе ты пачуў такое? І як жа гэта пасуе да восеньскага дня, у сонечнай пазалоце якога і лістота, і жоўта-чырвоныя яблыкі.

І як жа цябе не любіць, не паважаць. Наша любоў надае табе сілы, радасці, адчування сваёй унікальнасці.

Вось што напісалася хмурным восеньскім днём, азораным нашай з табой сустрэчай.

*Твой выхавальнік.*
*13 верасня 2009 г. (нядзеля)*

**136**

Мой наймілейшы пацан!

Пішу гэтыя радкі ў Маскве. Праўдзівей, пад Масквой, на былой дачы міністра замежных спраў СССР Шэварнадзе. Жыў тут некалі важны грузін. Цяпер у яго маёнтку рэабілітацыйны цэнтр. Мы з тваёй бабуляй Нінай начуем у яго апартаментах. Шыкоўна. Прасторна. На двух паверхах — дываны, карціны, люстры, каміны. У вокны зазіраюць беластволыя бярозы.

Бабулі Ніне зрабілі аперацыю на воку. Яна адпачывае. А для мяне ляжаць удзень — вялікі грэх. Вось крэмзаю паперу ды прыгадваю цябе. Дзе ты цяпер, з кім, што робіш? Напэўна ж, нечым заняты і галава, і рукі.

Перад паездкай былі з табой на дачы. Ты, непаседа, нястомна круціўся каля ўсіх. Мне шнур падцягнуў да касілкі. Маме падаў маленькую цяпку. Тату падмагаў закруціць гайку.

— Толік, — кажу, — давай прысядзем на лаву, адпачнём, пагамонім.

— Давай, — пагадзіўся ты.

Сядзяць два мужыкі, ядуць яблык, які толькі што ўпаў з дрэва, вядуць дзелавую гаворку. Я цікаўлюся тваім садком, сябрамі. І раптам ты даверліва гаворыш мне:

— Усе ў садзе называюць мяне Толік, Толік, а Лёша кажа — Талян.

Аказваецца, Лёша — твой сябар. А дружбанам відней, як цябе называць. Што ж, можна і Талян. Гучыць больш па-даросламу, па-мужчынску. Значыць, Лёша адчувае ў табе свайго надзейнага заступніка, ваяра. Гэта добра!..

Калі-небудзь і ты, Талян, пабываеш у Маскве. Вялізны мурашнік! Каб яго агледзець, прачытаць усе яго яўныя і тайныя старонкі гісторыі — можа, не хопіць і жыцця. Калі ж бываю тут, заўсёды нешта новае адкрываю. А сёння чамусьці хачу думаць толькі пра цябе. Ты для мяне важней Масквы, яе раскошы, палацаў, музеяў. У цябе ёсць усе магчымасці самому засвяціцца ў гісторыі, стаць прыкметнай асобай. Не ўпусці свой шанец!

І шукай яго не на чужыне, а ў сябе дома, у роднай Айчыне, з мілай назвай — Белая Русь.

*Твой.*
*20 верасня 2009 г. (нядзеля)*
*Масква.*

**137**

Жыццё, Толік, — гэта нараджэнне і смерць.

Я нараджаўся некалькі разоў.

Першы раз у маі 1940 года, у Горвальскай бальніцы. Пасля нарадзіўся, як сын, як вучань, як студэнт, як муж і бацька, як журналіст і пісьменнік, як чалавек і грамадзянін, урэшце, як Беларус.

І паміраў ужо некалькі разоў.

У вайну, калі бацька ноччу насіў у лес да партызанскага хірурга. Адмеціну яго скальпеля, а можа, простага нажа, нашу на пахвіне па сённяшні дзень.

Мог загінуць у дубняку ад страху і воўчых зубоў, калі поначы адзін (!) вяртаўся дамоў з Вузнажскай школы.

Нейкі міг быў ужо на тым свеце, калі тапіўся ў рацэ Уша. Выцягнуў напарнік-рыбак, і мяне ўсю ноч ратавалі ў Гарадзейскай бальніцы.

Меў «шанец» не вярнуцца з Бяслана, дзе праходзіў тэхнікумаўскую практыку і дзе мяне заніштo пабілі асяцінскія хлопцы.

Мог быць раструшчаным ананімкай «сябра», каб не заступіўся сам Пётр Міронавіч Машэраў, тагачасны кіраўнік Беларусі.

Нараджэнне і адлёт у вечнасць.

У прамежку паміж імі — той міг, які і называецца жыццём. Ты гаворыш, нешта робіш, здзяйсняеш учынак — вось толькі ў той момант ты і жывеш. Усё астатняе — мінулае і будучае, успаміны і надзеі.

Мой хлопчык, навучыся жыць сёння, цяпер, у дадзены міг, і толькі тады займееш змястоўны куфэрак жыцця.

— Дзядуля, ты што робіш? — Твае вочы і нос вытыркаюцца з-за лесвіцы, і ты ўжо ўвесь — на другім паверсе, каля майго стала.

— Бачыш, пішу табе пісьмо, — прызнаюся.

— Ай, хадзем лепей на вуліцу. Там ведаеш што?

— Што?

— Карова па небе лятае...

Я кідаю ручку, і мы бяжым пад тое чароўнае неба.

— Дзе яна? — дапытваю цябе, фантазёра.

— Ужо няма... — хітравата ўсміхаешся ты, рады, што выцягнуў мяне з хаты.

Мы пачынаем разглядваць кучаравыя воблакі ў паднябессі. Сярод іх знаходзім адно, падобнае на карову, і бязмежна шчаслівыя крычым на ўсё наваколле:

— Карова ў небе.

Тваё адкрыццё і стала мігам нашага жыцця. Давай помніць яго!

*Твой суадкрывальнік.*
*27 верасня 2009 г. (нядзеля)*
*Узгорье-2.*

**138**

Гулялі ў парку, дзе стаіць вечны, бронзавы Янка Купала.

Табе тут легла на душу ўсё: і цяністыя алеі, і фантан з купалінкамі, і шырокая Свіслач з лодачнай прыстанню, і загадкавыя скульптуры. Але найбольш — Паэт з тоўстай кульбакай, які напісаў пра хлопчыка і лётчыка. Чытаю табе любімы верш свайго дзяцінства:

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!
Я — ведай — вялікі ўжо хлопчык
І ўмею ўжо лётаць у сне...

Бачу, і табе падабаецца верш Янкі Купалы. Пакуль я чытаў яго, ты ўзлез на мурожны пагорак, на якім стаіць Паэт, і загуляўся там. Злез на брукаванку, зноў ускараскаўся на траўку. І так шмат разоў.

Мне прыемна, што ты загуляўся каля Купалы. Ты і я — такія маленькія перад ім. Тут, думаю, павінен пабываць кожны беларус і паспавядацца перад нашым духоўным настаўнікам. Але, на жаль, многія нашы з табой землячкі хутчэй пабягуць на канцэрты папсы, у макдональдсы, у піўныя смакталкі, да шашлычных куродымаў.

Раптам, Толік, мы заўважаем з табой, што з крыса Купалавага паліто капнула кропля вільгаці. Дзіва! Сонечны поўдзень. На небе — ні хмурынкі. Усё млее ад спякоты. Адкуль гэта кропля?

Мы ўзіраемся ўгору, у твар Янкі Купалы. І ты, адкрывальнік, ледзь не крычыш на ўвесь парк:

— Дзядуля... Купала плача!..

Набатным звонам гучыць твой галасок. І маё сэрца халадзее. Канешне, мой хлопчык, у Янкі Купалы ёсць шмат падстаў заплакаць, бо не ўсё яшчэ займеў беларускі мужык, пан сахі і касы, аб чым марыў Паэт. Не ўсюды і не ўсе шануюць мову тутэйшую, якую Купала ўзняў на сусветны ўзровень.

Мы з табой, Толік, гасцюем каля Купалы. Нам прыемна тут. Ты ўжо ведаеш, хто такі Янка Купала. Бач, прыкмеціў яго «слязу». Гэта добра!

З гуляў вярталіся расчуленыя і ўзрушаныя...

А праз дзень я атрымаў сігнальны экзэмпляр сваёй кнігі «Янкаў вянок» — дзецям пра Янку Купалу. Не магу выпусціць з рук кнігу, якая дыхае нейкай своеасаблівай, прыцягальнай аўрай. Гэта першы, такі аб'ёмны аповед дзецям пра нашага класіка, Генія, настаўніка, правадыра. Божа, Толік, які я шчаслівы, не магу схаваць сваёй радасці.

Падрастай хутчэй, вучыся чытаць ды ўпусці ў сваю душу мой «Янкаў вянок». Нашых духоўных выхавальнікаў, павер, трэба і ведаць, і крочыць за імі. І раўняцца на іх!

Песняра святое імя
Навекі ў сэрцы захаваем.

Гэта сказаў Якуб Колас пра Янку Купалу. Сказаў для ўсіх, хто называе сябе беларусам.

*Бывай, не забывай.*
*2 кастрычніка 2009 г. (пятніца)*

**139**

Талян!

На вуліцах, у метро з'явіліся людзі ў масках. Грып. Сярод яго вірусаў, кажуць, ёсць і свінячы. Яго падхапіць — чакай лятальных вынікаў. Што гэта? А нечакана анёлы могуць прычапіць крылы да хворага, і ён паляціць на неба, дзе лётаюць душы ўсіх, хто некалі жыў на зямлі. Дачасна нікому не хочацца ў такую вандроўку. Вось і носяць людзі павязкі на тварах. За імі хаваюцца ад грыпу малыя і старыя, маладыя і сталыя. Я хаджу, як звычайна: чаму бываць, таго не мінаваць.

Мне здаецца, Толік, і ты гэта запомні, што думаць пра сваё здароўе трэба не тады, калі «гром грымне». Пра сваё здароўе трэба клапаціцца штоміг, штодня, у любое надвор'е. Можаш не слухаць мяне, але не сярдуй за павучанне.

У кожнага з нас ёсць такая «батарэйка», якая называецца імунітэт. Дык вось, яго мы абавязаны (!) пастаянна падзараджаць. Якой энергіяй? А ўсялякай — маральнай, псіхалагічнай, вітаміннай, духоўнай, мускульнай. О, мускулы павінны мець не толькі наша цела, а і душа, і розум, і язык, а ў выніку — мускульным мусіць быць наш імунітэт.

Кінуліся цяпер усе купляць лекі ад грыпу. А яны заснаваны на тым, што ўмацоўваюць імунітэт. Дык мацуй, чалавеча, яго не тады, калі захмарыць бяда, а кожны дзень. Вось у чым ратаванне!

Безумоўна, калі вакол цябе вірусныя людзі — гэта небяспечна. Перасядзі, дружок, гэты час дома. І сястры Машы накажы паберагчыся. Беражонага і Бог беражэ.

А я кожную ночку, калі кладуся спаць, малюся за цябе:

«Божа міласцівы, Божа цярплівы, Божа ўсемагутны, аберажы майго Толіка, падмажы стаць на ногі, адчуць моц цела і духа. Божа добры, дай майму Толіку даўгалецце, каб ён паспеў раскрыць свае здольнасці і ўславіць Цябе, адзінародны Божа. Амінь».

*Твой дзядуля без грыпознай маскі.*
*11 кастрычніка 2009 г. (аўторак)*
*поезд Масква — Брэст.*

**140**

Анатоль!

Знайшоў яшчэ аднаго твайго цёзку. Гартаю «Звязду» і вачам сваім не веру. Газета бярэ інтэрв'ю ў Анатоля Ліпскага, які ўзначальвае Светлагорскую цеплаэлектрацэнтраль.

Божа, ды труба гэтай станцыі, якая раней называлася Васілевіцкай ДРЭС, бачна з нашых Шоўкавіч. Гэта «труба» і распачала горад Светлагорск, які ўзнік на месцы старых Шацілак. Уяўляеш, станцыі пяцьдзясят гадоў і яе начальніку Анатолю Яўгенавічу Ліпскаму — таксама пяцьдзясят гадоў. Тут працаваў яго бацька Яўген Іосіфавіч. Малым бываў тут і Толік. Вось і пераняў эстафету сямейнага энергетыка. Цяпер і яго старэйшы сын вучыцца на такім жа факультэце тэхнічнага ўніверсітэта ў Мінску.

Зайздрошчу бацькам, у якіх добрыя, спагадлівыя дзеці. Я магу зайздросціць самому сабе. У нас прыгожыя дзеці — гэта твая мама Марына і твой дзядзька Ігар. Яны нашы з бабуляй Нінай дзеці. А вось за вас, унукаў, ёсць трывога.

Ты, Толік, пакуль цешыш нас. У цябе з ранку да вечара шмат клопатаў: то ў сад трэба ісці, то з машынамі гуляць, заводзіць іх, рамантаваць, то фарбамі маляваць, то вершык вучыць да свята. Хай жа заўсёды твае будні будуць клопатнымі і працавітымі. Тады і жыццё стане святочным! Павер мне, дзедупрацаголіку. Павер Анатолю Ліпскаму са Светлагорска. У сваім пісьме да цябе прыклейваю яго фотку і кароткую біяграфію. А вось вырасцеш і захочаш з ім сустрэцца.

*Бывай, не забывай.*
*10 лістапада 2009 г. (аўторак)*

**141**

Мой дарагі Талян!

Усё, што было ўчора, — ужо сон, прачытаная казка, пачутая песня, ўбачаныя фарбы, спаленыя нервовыя клеткі.

Чамусьці прыгадалася. Мы з табой на гарышчы нашага дачнага доміка. Ты забавіўся са старымі пласцінкамі, на якіх даўнейшыя песні. А я пазіраю ў акно. За ім — калгасны палетак, па якім поўзае, як жук, мурзаты трактар. Абрабляе зямлю. Мне прыгадаліся мае шоўкаўцы, як яны валамі ўзорвалі свае і калгасныя надзелы. Божа, як мардаваліся нашы мужыкі, як рвалі жылле, «каб заможнай была краіна». Такімі стаханаўцамі былі твае прадзед Сцяпан, прабабкі — дзве Марыі.

А мы з табой прыдумляем гулі, каб весела было і пацешна. Ты заюшыўся са сваімі цацкамі — экскаватар, самазвал, матацыкал, легкавушка. Мне ж захацелася пагуляць у словы. Дужа цікавы занятак. Бярэш слова якое-небудзь і з яго літар складваеш новые словы.

Вось нядаўна мы зноў былі з бабуляй тваёй Нінай у Маскве. Дарога далёкая, пад перастук колаў я захапляўся «чыгуначнымі словамі».

Дарога пачалася з ВАКЗАЛА. З гэтага слова ўтвараюцца патрэбныя падарожніку рэчы: ЗАЛА, дзе ён можа адпачыць, дачакацца цягніка; КАВА, якой можна наталіцца ў вакзальным кафэ; ЛАВА, на якой можна пасядзець, падумаць; побач можа прысесці АЛА. За вокнамі вакзала могуць быць ЛАЗА, КАЗА, ВАЛ, кветкавая ВАЗА.

У слове ВАГОН прачытваецца ГОН, значыць вагон гоніць нас з дому ў дарогу па жалезных рэйках: «ВОН з кватэры! Едзь, паглядзі свету!..»

Ты сядзіш у КУПЭ, як на купіне цягніка, сядзіш КУПАЙ, гуртам, разам, групай людзей, адным словам — кучай.

А ВАГОН, КУПЭ і ўсіх нас, пасажыраў, імчыць ЦЯГНІК: цік — нік, цік — нік выстукваюць колы, А можа, па-іншаму яны выстукваюць сваю вандроўную мелодыю: «Я-КІН-НІК-ГНІК»? І паспрабуй разгадаць, што б гэта значыла.

Вось так, браток, Талян, можна гуляць у словы. Хачу заахвоціць цябе палюбіць беларускае СЛОВА.

А пакуль што — дабранач, добрай ночы і прыемных слоў.

*Твой дзядуля.*
*1 снежня 2009 г. (аўторак)*

**142**

Мама Марына расказала пра цябе, і яе аповед мне закарцела пакінуць на памяць. Вось і прычына для новага пісьма.

А было так.

Ты сядзеў на падлозе ў сябе дома і гуляў з цацкамі. Весела гаварыў з імі. Прайшла міма твая мама і раптам ты змоўк.

Мама вытрымала тры хвіліны тваёй цішыні і гаворыць:

— Толік, чаму маўчыш?

— Ага, мама, ты прайшла, наступіла мне на руку і не папрасіла выбачэння...

Мама кінулася абдымаць свайго цярпліўца.

З табой, Толік, усё цікавей і цікавей з кожным днём. Ты ўмееш радавацца падарункам, добраму слову. Ты вучышся выгаворваць «р». Ты набіраешся вопыту будаваць дыялог па телефоне. Любіш працаваць!

За гэта за ўсё чаму ж не любіць цябе! Дзякуй, што ты ёсць, што не даеш нам старэць!

*Твой сябар.*
*25 снежня 2009 г. (чацвер)*

**143**

Зноў Новы год.

Ён бывае часцей, чым мы думаем. Раней ён наступаў 1 сакавіка, пасля быў 1 верасня, цяпер — 1 студзеня. Хай сабе. Прызвычаіліся да новай даты, як снег да зімы.

Мы ўбачыліся з табой у першы дзень новага года. Ты завітаў з бацькамі, сястрой, з новым лімузінам. І адразу шуснуў да ёлкі. Што прынёс табе Дзед Мароз?

Радасць твая бязмежная. Шчасце наша бязмернае. Усе дзеці і ўнукі за адным сталом. Над ім, як туманок восенню, навісла аўра сямейная, пахучы водар зімы, гірляндаў, смажаніны, напояў. Мы ўсе цешымся гэтым. З душы выліваюцца цукровыя словы.

Калі-небудзь, Толік, ты збяры за адзін стол усю блізкую радню, сваіх жонку, дзяцей, унукаў і раскажы ім, як святочна мы пачыналі 2010 год. Уяў-

ляеш, сто гадоў назад, маёй маме было ўсяго 12 гадоў (маладзейшая за нашу Машу), а бацьку майму было — 18 гадоў (маладзейшы за нашага Антона). Іх, маіх бацькоў, а тваіх прадзеда Сцяпана, прабабкі Марыі даўно няма на гэтым свеце. А хіба ж маем права забыць пра карані, якія далі жыццё ўсім нам, сённяшнім Ліпскім?

Вой, Талян, зноў мяне панеслі вараныя памяці ва ўчарашні дзень. Даруй, і давай нешта ўтворым, каб запомніць дзень сённяшні. Мы бяжым з табой у мой кабінет. Тут — мора кніг, сувеніраў. Тут адбываюцца тайны і пакуты маіх роздумаў над чыстым аркушам паперы. Сюды завітваюць да мяне пані-ўспаміны, пані-мроі. Цяпер тут — ты і я. Цішыня і пяшчота. Мы бяром конікаў, і яны ў нас становяцца чароўнымі. Раскрываем кніжку прыроды і складваем новую казку пра малпу, якая любіла пазіраць ноччу на месяц. Ты просіш чысты аркуш паперы, фламастары і натхняешся маляваць калядную ёлку. Яна атрымліваецца ў цябе цыбатай, з зялёнымі лісткамі. Вось толькі аніяк не магу зразумець: што ты намаляваў побач з ёлкай? Нейкая доўгая лінія раптам пачынае пятляць, як арбіта вакол Сонца, як бы нейкі чаўнок- ракета на адной з арбіт. А вышэй — роўная лінія, быццам дарога, якая вядзе да ёлкі, да таго адзінага на ёй лістка, на які ты не пашкадаваў зялёнай фарбы. Тваю карціну ўстаўляю ў багетную рамку памяці гэтага пісьма і развітваюся з табой.

*01.01.2010 г. (чацвер)*

**144**

Толік родны!

Нечаканыя маразы (-20º) разлучылі нас. Тэлефон выручае ды душэўная пошта. Вось на гэту «электронку» і пішу табе.

Чамусьці, браток, «кошкі скрабуць» маё сэрца. Чаму? А каб жа я ведаў.

Усе газеты растрызвонілі, што Рэспубліку Гаіці наведаў страшэнны землятрус. Кажуць, разбураны ўсе дамоўкі гаіцян, нават палац іхняга прэзідэнта. Кадры па тэліку жудасная. Усё ў развалінах. Людзі, хто застаўся жывы, — пад адкрытым небам. Няма чаго есці. Не хапае вады. Паказалі, як муж не пускаў бульдозер руйнаваць завалы, крычаў: «Там мая жонка!.. Яна жывая!..» І праўда, на восьмы дзень яе вызвалілі з бетоннага палону... У іхняй сталіцы Порт-о-Прэнсе паўмільёна людзей жывуць у 447 часовых палатачных лагерах. З самалётаў кідаюць ім гуманітарку, і яны натоўпам ганяюцца за тымі падачкамі. Жудасна, браток, пазіраць на гэта. А яшчэ страшней думаць, што нечаканае бедства можа наведаць і іншы куток зямлі, і наш дом...

Чытаю, што вучоныя фіксуюць на Сонцы вельмі ж актыўныя вогненныя буры. Надта нервознай робіцца наша гарачая планета. Па календары майя ўжо вызначаны канец свету. Пішуць, усё адбудзецца з-за Сонца, з-за тых буранаў на ім, якія здольны вывесці са строю ўсю энергасістэму Зямлі.

А ты, мне паведамілі, на занятках па энергазберажэнні ў садку «Ліхтарык» узяўся выразаць з паперы лямпачку. Ты вырашыў, што менавіта гэты энергахарчавальнік трэба берагчы, ведаць пра яго ўсё. А як жа, ты наш электрык.

Званю табе:

— Толік, прыязджай, у нас лямпачка перагарэла ў спальні.

— Добра, дзядуля. Стаў лесвіцу, і чакай мяне. Як толькі снег растане, я прыеду...

Чую, ты перамог літару «р». Нават з радасцю расказваеш, як «варона каркае», як «рак рэпу рваў», як «рыс расце». Правільна, Талян, перамагай усё,

што паддаецца перамозе. Радуйся ўсяму, што цешыць цябе. І плач, калі хочацца плакаць. Будзь натуральным мужыком, загартоўвай сябе ад усялякага ліха.

Напісаў табе, і стала спакайней, весялей на душы. Сонейка з марознага неба зазірнула ў маё акно. І падумалася, хутка наступіць вясна, а з ёй — маладая надзея. Заўтра дзень павялічыцца на тры хвіліны. Хай яны стануць радаснымі ў цябе і ў мяне.

*Абдымаю. Твой.*
*23 студзеня 2010 г. (субота)*

**145**

Таляха!

Запомні: сёння мы з табой былі «казламі».

Я вучыў цябе гуляць у даміно. Дагэтуль карысталіся ім, як будаўнічым матэрыялам. Ладзілі з белых плітачак гаражы, домікі, магазіны, вежы, ліфты. А тут наважыўся адкрыць для цябе сапраўднае прызначэнне даміно. Хацелася, каб ты засвоіў лічбы і хутка іх знаходзіў.

Гульня табе спадабалася. Ты шустра скеміў яе няхітрыя правілы. Прасіў яшчэ і яшчэ разок згуляць. Вельмі ж цешыўся канцоўкай, як нехта з нас выкладваў апошнюю дамініну і аб’яўляў свайго напарніка «казлом». Пры гэтым ты аднолькава радаваўся, калі і мяне аб’яўляў «казлом», і калі сам ім станавіўся.

Стрымгалоў бег на кухню, дакладваў бабулі, хто з нас «казёл», ляцеў да мяне ў залу і прасіў:

— Давай яшчэ разок!..

Вох, браток, ведай пры гэтым, што абазваць чалавека «казлом» без дай прычыны, — вялікая абраза. Усё залежыць ад сітуацыі, характару і настрою таго чалавека, якога ты ўзводзіш у ранг хатняй жывёліны.

У Аўцюках, напрыклад, дзе жывуць вясёлыя Каласкі і Калінкі быў такі выпадак. Сусед зазлаваў на суседа і кажа:

— Ты — казёл!

— Я казёл?!.

— Ды ты і на казла не падобны.

— Я — не падобны?!.

Пасмяяліся, як бы стукнуліся рожкамі, дый забыліся. А іншыя ж кідаюцца ў бойку, доўга носяць у сэрцы рану.

Чаму казёл выклікае такую рэакцыю?

Мо таму, што гэта жывёліна фанабэрыцца сваёй барадой, упартая, самазадаволеная і крыху дурнаватая. Вось і пайшлі гуляць народныя выслоўі: «Скача казлом»; «Спявае, як казёл мекае»; «Пусці казла ў агарод, пашкадуеш»; «З цябе карысці, як з казла, — ні шэрсці, ні малака».

Пра яго жонку, казу, ёсць нават страшылка: «Ідзе каза рагатая, забадае хлопчыка пузатага, куль-куль-куль». Яна ўслаўлена ў народнай казцы «Казадзераза». От і ходзіць прымаўка: «Адлупіў, як Сідараву казу».

А нам з табой, Толік, весела. Мы «забівалі казла». Гэта гульня спадабалася табе. Заставацца «казлом» было не вельмі крыўдна. Вось толькі ты не захацеў, як прайграў, паслухацца мяне і прамямекаць па-казлінаму. Чаму? А таму, што гэта ўжо занадта. От і малайчына, слухайся старэйшых ды свой розум не губляй.

За акном — лютуе зіма. Завейны снег гуляе ў паветры, па даху цырка.

У краінах свету — свае навіны. Украінцы выбралі новага прэзідэнта. Канадцы прымаюць спартсменаў на зімовай Алімпіядзе.

У Мінску закончыўся Міжнародны кніжны кірмаш. Там, Толік, былі пяць кніжак твайго дзядулі — «Янкаў вянок», «Свіцязянская русалка», «Мелодия души», «Пакланіся травінцы», «Прыгоды Нуліка».

А ты цэлы дзень р-радаваўся, дар-рыў мне пер-раможаную літар-ру Р-р. Ты прыкметна падрос, умееш лічыць да дзесяці. Табе купілі паляўнічае ружжо.

Бачыш, колькі радасці, навін, надзей у нас з табой. Чаму б і не пабыць вясёлымі «казламі»? Давай букшанёмся на развітанне. А на роздум падаю табе свежанькую загадку:

«На дзвюх нагах, без барады, ні мекае, ні бэкае, а «казёл».

Адгадку шукай у канцы гэтага пісьма.

*Твой дзядуля — гуляка ў даміно.*
*14 лютага 2010 г. (нядзеля)*

**146**

Анатоль!

Не ведаю, чым ты заняты гэтым нядзельным дзяньком, а я чытаў дзённікі нясвіжскага магната Казіміра Радзівіла. У яго была мянушка Рыбанька. Пражыў ён шэсцьдзясят гадоў, валодаў многімі гарадамі, мястэчкамі, вёскамі. Заснаваў у Нясвіжы кадэцкі корпус, друкарню, тэатр, суконную і дывановую мануфактуры. У Слуцку наладзіў выпуск шаўковых паясоў, у Карэлічах — шпалераў, у Налібоках — шкляных вырабаў.

У той жа час Рыбанька быў ваенным высокім начальнікам, палітыкам, дзяржаўным чалавекам. Займаў высокія пасты ў Вялікім Княстве Літоўскім. Багацейшы чалавек Рэчы Паспалітай удзельнічаў у ваенных паходах, у каранаванні караля Аўгуста III. У двух шлюбах меў сем дачок і чатыры сыны.

Міхаіл Казімір Радзівіл пісаў дзённікі. І вось я цяпер маю асалоду апынуцца ў 1733 годзе і даведацца, што нясвіжскі ўладар блізка ведаў і, лічы, быў у панібрацтве з Кракаўскім біскупам Ліпскім.

Ты не паверыш, Талян, будучы ў Кракаве, я наведаў капліцу кардынала Яна-Аляксандра Ліпскага ў былым каралеўскім замку. Бачыў яго партрэт у карціннай галерэі Кракава. Сфатаграфаваўся з ім. І вось чытаю дзённікі Радзівіла-Рыбанькі, а ў іх успаміны пра сустрэчы з нашым вядомым аднафамільцам. А, можа, родзічам?

«13 верасня 1733 года ранкам князь Ліпскі, біскуп Кракаўскі і Вішнявецкі, кашталян Кракаўскі, да нас прыбылі і разам маніфэставаліся...

3 кастрычніка абралі мы за Пана і Айца Айчызны сына караля нябожчыка, Электара Саскага, Аўгуста III, каторы хай нам як найдаражэй і шчасліва пануе...

29 лістапада елі ў мяне сняданне князь Ліпскі, біскуп Кракаўскі, падканцлер Каронны і князь рэгімэнтар, адтуль паехалі мы на абед да пана Лёвэнвольда, пасла і канюшага вялікага Маскоўскага, у каторага і вячэра, і баль...

1734 год, 2 студзеня зранку былі мы ў касцёле, і там адпраўленая была ватыва праз князя Ліпскага, біскупа Кракаўскага, перад абразом Маткі Найсвяцейшай... Сёння ад Караля прыйшла вестка, што нас прымаць мае ў Тарнаўскіх Гурах...

6 студзеня зранку з цэлай дэпутацыяй паехалі мы да Тарнаўскіх Гураў. У паўдарогі спаткалі нас карэты каралеўскія, да каторых паўсядалі мы і гэтак з вялікай помпай уехалі мы да места, і зараз жа на пакоі каралеўскія нас правялі. Там перад Каралём стаўшы як першы са стану дэпутат князь Ліпскі, біскуп Кракаўскі, вітаў прамоваю... Потым Каралева ўвайшла, да каторай той жа біскуп мовіў... Кароль, укленчыўшы перад аўтарам і руку паклаўшы на Евангелле, прысягаў...

12 студзеня зранку быў у Караля, адтуль асісціраваў выезд біскупа Кракаўскага Ліпскага...

14 студзеня ўводзілі мы Караля Аўгуста III, шчасліва нам пачаўшы панаваць...

17 студзеня каля 8-й сабраліся мы на Замак... Уводзілі мы Караля да касцёла катэдральнага, а Кароль быў убраны ў зброю, як рыцар... Тут засталі мы князя Ліпскага, біскупа Кракаўскага... Ён правёў Караля на трон і, пасадзіўшы, заспяваў... Па сканчэнні цырымоніі праводзілі мы каралеўства на Замак. На тым банкеце падпіў сабе я, і, як толькі каралеўства спаць пайшло, я да сябе ад’ехаў...

4 лютага з Каралём еў абед...

12 лютага гуляў з каралеваю ў трышак (даўняя гульня ў карты, Талян, а як гэта рабілі — не ведаю, галоўнае, што Радзівіл з каралевай — гулялі)...

22 лютага заселі мы ў Сенаце. Там, як скончылі падпісваць канфэдэрацыю, князь, біскуп Кракаўскі Ліпскі сказаў прамову. Пасля яе пры вялікай авацыі скончылі цырымонію...»

Вось так, браток, прыгадваў магнат Міхаіл Казімір Радзівіл нашага Ліпскага. Чаго ж прыбядняцца, прыемна такое чытаць праз 276 гадоў.

Толік, вучыся жыць, каб цябе Нехта прыгадаў праз стагоддзі, каб Нехта захацеў напісаць пра цябе, а Некаму закарцела прачытаць і ўсхваляваццa. Як мне сёння.

Можа, і твая рука калі-небудзь пацягнецца да ручкі ці камп’ютара, і ты пачнеш пісаць свае дзённікі, тады не забудзься прыгадаць і мяне, твайго падбухторшчыка.

*А пакуль што да сустрэчы. Твой Уладзімір Ліпскі.*
*21 лютага 2010 г. (нядзеля)*

**147**

Кладзёмся з табою спаць.

Ты абняў мяне ручкай, пытаешся:

— Дзядуля, рады, што я прыехаў?

— Яшчэ як рады, Толік. Ты мой самы верны сябар...

— Я ж табе грузавік, гонку, пажарку прывёз пагуляць...

— Вельмі ўдзячны, унучак...

Круцішся, куёўдзішся, раскрываешся:

— Дзядуля, так не хочацца спаць...

Я зіркнуў на гадзіннік — палова адзінаццатай...

— Трэба спаць, Толік. Давай, хто хутчэй засне...

Я, Толік, быў на варце твайго рэжыму. А мне, ведай, таксама не спалася. Жадаў пра многае з табой пагаварыць. Але ж трэба было цябе ўтаймаваць.

— Добрай ночы, мой яснавокі!..

*Твой прысыпальнік.*
*7.03.2010 г. (нядзеля)*

**148**

Сакавіцкія «вузельчыкі».

— Кім хочаш быць?

— Пажарнікам... Трактарыстам... Смецяром...

— Што будзеш рабіць, як здарыцца пажар?

— Пайду ў магазін, куплю машыну і паеду тушыць.

Перад гэтым інтэрв'ю мы выразалі з паперы ўзоры. Набралася смецця. Кажу:

— Смяцар, можаце вывезці вось гэты груз?

— Магу, — адказаў ты, загудзеў машынай і пабег з газетным кульком да сметніцы.

Добра мець побач майстра на ўсе рукі.

Намаляваў чарговую карціну: чырвоныя лініі, загагулькі, кружочкі...

Унізе чалавечак з рэдкімі валасамі, вялікімі вушамі і кароткімі нагамі-лапамі.

Кажаш, што гэта твой дзядуля Валодзя. Прашу:

— Падпішы малюнак.

Ты ўслых паўтараеш кожную літару і выпісваеш іх сваім, вядомым толькі табе алфавітам. На «д» паставіў авал, на «з» — прамакутнік, на «я» — кропку, на яшчэ адно «д» — вялікае «П», на «у» — зігзаг змяі, на «л» — падабенства да гэтай літары, на «я» вымаляваў літару «Т». Толя! Вось які ты ў нас загадкавы грамацей.

* * *

Хочам сабрацца за Вялікодны стол у бацькоўскай хаце. Сазваньваемся.

Ты, Талян, найбольш радуешся. Звоніш Ігару, дзядзьку свайму, а майму сыну:

— Ігар, прыедзеш да дзядулі?

— А як жа!

— Падарунак мне прывязеш?..

Не ведаю, што адказаў Ігар, а тваё рэзюмэ яму запомніў:

— Дык ты што, толькі паесці прыедзеш?

І паехаў Ігар ва ўнівермаг. Як жа сустрэцца з Толікам без новай машыны?

* * *

— Толік, як вырасцеш, будзеш жаніцца?

— А я і так ужо жанаты.

— Як гэта?.. З кім?..

— З мамай сваёй!..

*31 сакавіка 2010 г.*

**149**

Дарагі мой ваяр!

Уся твая зброя — ружжо, наган, салдацікі — сёння адпачываюць. Ты з бацькамі — на сапраўдным ваенным парадзе. Ён ладзіцца ў Мінску з нагоды 65-годдзя з Дня Перамогі.

Я ў гэты час на дачы. Цешуся маладой, шалёнай зелянінай. Не засмучае захмаранае, плаксівае неба. Толькі неадчэпнай смалой ліпне думка пра птушачак. Дождж прымушае іх хавацца, ратаваць яйкі, захоўваць сухім гняздечка.

Уяўляеш, Талян, якая ў іх жытуха без цацак, без тэлевізара, кніжак, мабільніка?

Цэлы дзень згадваю нашых шоўкаўцаў, хаты якіх спалілі фашысты. Мы жылі ў буданах, зямлянках, як у птушыных гнёздах. Нашы бацькі аберагалі нас, птушанят голых, клопат мелі адзін: каб мы выжылі! Гэта і ёсць іх франтавы подзвіг. Дзяржава ім за яго медалёў не давала. Мы, дзеці, павінны іх уславіць. Яны далі нам другое жыццё. Вось так, унук, я нарадзіўся нанова. Хачу, як ты падрасцеш, каб у цябе з'явілася жаданне распытаць мяне пра тое ліхалецце.

Ты на парадзе. Бачыш сівенькіх, ардэнаносцаў ветэранаў. А я ў гэты час згадваю сваіх аднагодкаў з Шоўкавіч: Шуру Трацэўскага, Ларыка Бабіча, Шуру Сыцько, Жэню Новікаву, Паўла Мілюту, Валіка Бельскага, Надзьку Чаплінскую... Ім бы яшчэ жыць, а яны даўно ў Царстве Нябесным. Не так проста даўся дзецям пасляваенны рай.

Шурык Сыцько, сястры маёй Ліды малодшы сын, аднойчы знайшоў на вясковым палетку «бульбіну». Пасля вайны ўсе мы хадзілі шукаць леташнія клубні. Кінуў Шурык сваю знаходку ў агонь, каб яна пагрэлася, каб была прыдатнай для ежы. А тая «бульбіна» рванула на ўвесь двор. Шурыка акрывавіла, напалохала да смерці. Усё кароткае жыццё хадзіў са шрамамі на твары. Моцна заікаўся. Словы цяжка даваліся.

Радуйся, унук, што можаш пагуляць са сваім дзядулем, пачуць ад яго праўдзівы аповед пра вайну. Я прыкмеціў твае павільготнелыя вочкі, калі прыгадваў спецыяльна для цябе, як карнікі палілі шоўкаўскія хаты, як забівалі старых, калек. Дзякуй, родны, што ты такі спагадлівы, уражлівы. Не губляй гэтыя якасці. Расці памятлівым.

*Твой дзядуля — дзіця вайны.*
*9 мая 2010 г. (нядзеля)*

**150**

— Дзя-ду-ля-я-я!.. — крычыш ты са сцэны філармоніі.

Сэрца маё тахкае ў канцы залы. Падалося, твой поклічны голас узняўся ў сусвет, гучыць на ўсю Беларусь.

Мяне выхоплівае, асвятляе пражэктар.

— Я ту-ут! — адгукаюся на твой кліч.

Іду да цябе, Талянчык. Гучыць мой зварот да «сонечнага хлопчыка, майго слаўнага ўнука». Мы сустракаемся на велічнай сцэне, шчыранька абдымаемся. Людзі апладзіруюць.

Так пачаўся мой творчы юбілейны вечар у Белдзяржфілармоніі. Пачаўся сустрэчай, выступленнем артыстаў дзіцячага садка «Ліхтарык». Спяваў і ты маю песню, выконваў ролю сабачкі.

— Гаў, гаў, гаў, прыбяжы,
На злую муху пабрашы...

Ох, Толік, было на маім вечары і слёзна, калі артысты Марыя Захарэвіч, Валерый Анісенка чыталі старонкі з «Мамы» і «Бацькі». Было і рогатна, калі на сцэну вывалілі жывыя аўцюкоўцы, а Толя Зэкаў чытаў пародыю на мяне.

Было і пацешна, калі дзіцячы тэатр «Летуценнікі» з Любаншчыны паказваў мае апавяданні.

Мяне, унук, завалілі кветкамі, падарункамі, хвалебнасцю. І я, прызнаюся, свяціўся радасцю. У мяне столькі прыязных сяброў. А ў зале — ты, бабуля Ніна, мама Марына, бацька Лёня, мой сын Ігар з Таняй і Антонам. А на сцэне цябе змяніла Маша. І разам з «Радзімічамі» выканала карэйскую песню.

Здаецца, усе разумелі маю душу: і намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі, і пісьменнікі, і спевакі Надзея Мікуліч, Іван Краснадубскі, Іван Буслай...

Адчуваў усіхнюю любоў і павагу да мяне, да маёй творчасці. Толік дарагі, зразумей, гэта і ёсць самае раскошнае багацце на Зямлі.

Мне — семдзесят гадоў. Я пражыў на свеце 25 550 дзён. І мне хочацца свой зямны міг рассакрэціць у рамане «Цялец», хачу, каб у ім было так, як у жыцці — горка і смешна, заблытана і выпадкова. А над усім гэтым — Яго Воля.

Паверыў, кожны атрымлівае тое, што заслужыў. Ад яго нічога не схаваеш, не прысвоіш. А схлусіць можна толькі самому сабе.

На тым вечары, Толік, які доўжыўся тры з паловай гадзіны, я адчуваў сябе вольна і спакойна. Чаму? Ды таму, што ведаў: я нікому нічога не павінен, у мяне няма даўгоў, сумленне маё не злачыннае. А ў свае семдзесят гадоў мне хочацца быць Дзіцём, Юнаком, тваім Сябрам.

Давай, Толік, адпачнём ад свята ў філармоніі ды паедзем у загарадны домік. Там і дадзім волю нашым забавам.

*Твой на вечныя векі.*
*14 мая 2010 г. (пятніца)*

P. S. Пісаў апоўначы, у пакоі, заваленым кветкамі. Падумалася, а можа, калі-небудзь і ты падахвоцішся пісаць мне пісьмы. Ведай, я буду ўсцешаны імі і абавязкова прачытаю, у якім бы раі не гасцяваў. Цікава, што ты напішаш мне ў свае семдзесят гадоў?..

**151**

Дарагі Толік!

З кожным днём ты ўсё бліжэй да свайго юбілею. Першая пяцігодка твайго жыцця!

Мне здаецца, яна вельмі ўраджайная для цябе. Ты апярэджваеш час, і як раней, пры Саветах, можна адрапартаваць: ты датэрмінова закончыў пяцігадовы план свайго развіцця.

Сёння ноччу была моцная навальніца. Маланка рассякала неба. Пярун грукатаў над нашымі падушкамі. Дождж барабаніў па шыферы. Вятрыска гойсаў па дрэвах і кустах. Усе разам яны наводзілі жах, страх, небяспеку. Як збавення, мы чакалі раніцу.

Калі снедалі на дачнай кухні, ты, мой ранні мудрэц, пачаў тлумачыць мне, што адбывалася ноччу:

— Разумееш, дзядуля, хмарка з хмаркай сустрэліся, лобік у лобік — от і гром. Хмарка аб хмарку цярнуліся — от і маланка...

Мне захацелася прадоўжыць з табой размову. Прашу:

— Толік, можа, ты чаго-небудзь не ведаеш, дык запытайся ў мяне, я патлумачу.

Падумаў крыху і кажаш:

— Дзядуля, я не ведаю, што мне падорaць госці на мой дзень нараджэння.

Я думаў, што ведаю ўсё, але ж перабольшваў свае магчымасці, здаўся:

— І я не ведаю, Толік. Спытай яшчэ што-небудзь?

— Скажы, дзядуля, калі мы паедзем адсюль дамоў?

— Хто яго ведае, Толік... Можа, як усё паробім, як тата машыну завядзе...

Ты ўбачыў маю разгубленасць, ты адчуў, што я не ўсё ведаю, і ўсцешыў мяне:

— Дзядуля, не засмучайся, я табе на цэлы дзень падару гоначную машынку...

— Дзякуй, унук, за тваю спагаду і выручку.

*Дзед-няўсёвед.*
*22 мая 2020 г. (субота)*

**152**

Ведаеш, Толік, ты іншым разам уяўляешся мне геолагам. Ходзіш, нешта адкрываеш, а як мысліцель, хочаш усё ведаць. Кажу табе:

— Унучак, прынясі мне рыдлёўку.

Стаў, задумаўся, сам у сябе пытаешся:

— Рыдлёўку?..

Ну, знарок жа падкінуў табе гэткі рэбус. Ведаў, не адразу зразумееш, але я дасягнуў галоўнага: маё новае слова зацікавіла цябе і ты хочаш разгадаць яго сутнасць.

— Лапату прынясі мне, — тлумачу табе.

— А-а, лапату... Зараз, дзядуля...

Не адзін ты, Талян, адкрываеш свет і тайны ў ім. Усе дарослыя ўсё жыццё заклапочаны гэтым.

Калі-небудзь прачытаеш вясёлую кнігу рускіх пісьменнікаў Ільфа і Пятрова «Дванаццаць крэслаў». Змест яе вельмі камічны. Мадам Петухова, паміраючы, завяшчала зяцю Кісе Вараб'янаву брыльянты. Яны былі схаваны ў адным з дванаццаці крэслаў яе дарагога гарнітура. Пра гэта даведаўся шукальнік дармавога багацця Астап Бэндар. Але адначасова з гэтым ён і ашаломлены, бо крэслы прададзены. Яны аказаліся ў розных гаспадароў. Вось тут і пачынаецца ўсё разам: драма, камедыя, трагедыя, праўда і хлусня чалавечых надзей.

Так, дарагі мой, нешта станецца і ў тваім гасцяванні на Зямлі. Толькі прашу цябе, не адчайвайся. Ніколі не губляй веры!

Той жа сімпатычны рамантык і шулер Астап Бэндар так і не знайшоў крэсла з брыльянтамі. Але ўсе мы, чытачы, любім яго. Чаму? А таму, што ён апантана хоча знайсці сваё шчасце, ён жадае жыць прыстойна і прыгожа, ён нястомна прыдумляе новыя прыгоды свайго лёсу, ён, вялікі камбінатар і жыццялюб, роздумна кідаецца ў любую авантуру, бо верыць, што недзе чакае яго, не можа не чакаць, жаданая жар-птушка з залатымі пёркамі.

Толік, павер, ты сам, як тая чароўная птушка: і залаты, і таямнічы, і цікавы. Дык жа не разгубі з гадамі сваіх алмазінак. Будзь для іх ювелірам, і хай жа яны стануць і агранёнымі, і адшліфаванымі тваім жыццёвым умельствам.

Пакуль я сяджу, адпачываю, раздумваю гэтак, ты падкатваеш да мяне на сваім зялёным веласіпедзе, падбадзёрваеш:

— Малайчына, дзядуля, прыгожа пафарбаваў забор.

— А ведаеш што, — прапаную табе, — паедзь і ўсіх работнікаў пахвалі, як мяне. Ім будзе прыемна.

От і чую:

— Лёня, дзякуй табе!.. Як ты роўна касілкай косіш!..

— Марына, хвалю цябе за тое, што кветкі садзіш!..

— Бабуля Ніна, от і добра, што траву на градках вырываеш!..

— Маша, а цябе можна хваліць, што ты музыку слухаеш?..

Мой пасланец, як жа ты ўсіх падбадзёрыў, ацаніў, як жа добра выканаў маю просьбу.

Пішу пра гэта на заходзе сонца. Дагарае самы доўгі дзень года. Сонца на чыстым небе агортваецца барвовай коўдрай. Значыць, заўтра будзе добрае надвор’е, сонечнае і ўсцешнае. Хай жа такім будзе і твой новы дзень!

*22 чэвеня 2010 года (аўторак)*

**153**

Мой Талян, цябе хоць не вучы чытаць. Ад газетных навін аж вушы вянуць. Вось толькі сённяшнія загалоўкі дзвюх газет:

«Жыхар Бабруйска забіў школьніка на вачах у сына».

«Засудзілі гомельскіх педафілаў».

«Чаму маладыя хлопцы паміраюць на бегавых дарожках».

«Кіраўнік урада Ісландыі выйшла замуж за... жанчыну».

«Калі муж — тыран і дэспат».

«Падпальшчыкі хат у вёсках».

Колькі трывог, бед, недарэчнасцей у свеце! А ты ідзеш насустрач ім. Рухаешся імкліва, з жаданнем і пры нашай актыўнай падтрымцы.

Ды я не адгаворваю рухацца, не прытарможваю хаду. Ідзі, але асцерагайся, вучыся берагчыся, рыхтуйся да іспытаў.

Кажуць, чалавек не ацэніць шчасця, калі не спазнае няшчасце. Ідзі напорыста да свайго шчасця!

А ў школу цябе ўсё-такі выправім. Вывучы азбуку і палюбі чытво. У духоўнай кладоўцы нашай Айчыны шмат-шмат класічных кніжак. На іх і налягай. Газеты-аднадзёнкі хай застануцца выдаўцам, якія смакуюць бытавуху-шалупінне.

Вось такі наказ табе ў апошні дзень першага летняга месяца. На вуліцы — 30º спякоты. Нічога не хочацца...

*30 чэрвяня 2010 г. (серада)*

**154**

Мой летні, зялёны ўнучак Толік!

Сёння табе пяць гадоў.

Сонца ўзышло рана, у 4 гадзіны і 43 хвіліны. Я не праспаў узыход твайго Дня. Неба вышараванае, вымытае, чысцюткае. Ды раптам яго блакіт пачаў млець ад святла, чырвані. І на трон пачало садзіцца яго вялікасць Сонца.

Праз чатыры гадзіны, калі дзень увабраўся ў сілу, пачуў твой голас па тэлефоне:

— Дзядуля, у мяне камп’ютар ёсць! Сустрэнемся, дам і табе націснуць на зялёную кнопачку.

— Віншую з юбілеем! — вяртаю цябе да асноўнай падзеі дня.

— Ага, у мяне дзень нараджэння. А ты што мне падарыш?

— Пакуль сакрэт.

— Не забудзься ўзяць сакрэт, як будзеш ехаць, — раіш ты мне і завяршаеш размову. — Усё, дзядуля, трэба мне ісці ў сад.

Рапартануў, як салдат, маўляў, выбачай, з табой добра гаманіць, але труба кліча.

Цешу сябе, што за доўгі дзень — 17 гадзін і адна хвіліна — мы абавязкова ўбачымся і я, урэшце, націсну на зялёную кнопачку твайго камп’ютара.

Дзень быў рабочы, пятніца, і мы затуркаліся на працы, не сустрэліся. Затое два выхадных былі нашымі.

На зялёны лужок каля аранжавага доміка сабраліся ўсе твае блізкія людзі: мама Марына, тата Лёня, дзед Валодзя, бабулі Ніна і Валя, дзядзька Ігар. Былі і сябры бацькоў Ала і Дзіма, з імі іх дачушка Марышка — твая равесніца. Вось ёю ты ўсім і хваліўся: «А ў мяне Марышка ёсць!»

Мне падалося, ты ўпершыню так адкрыта радаваўся дзяўчынцы. Вы залазілі ў твой домік і разыгрывалі казку «Церамок». Мяне выкарысталі ў якасці Мядзведзя.

Вы па-брацку дзяліліся цукеркамі і не шкадавалі адзін аднаму любімых цацак.

Над дачнымі домікамі гучалі вашы звонкія галасы. А сярод іх — два ласкавыя імёны: «Толік» і «Марышка!» Можа, гэта і ёсць той нулявы адлік пачуццяў, якія лучаць, з’ядноўваюць людзей розных полаў і выводзяць іх на пакутлівы шлях любові? Можа, з пяці гадоў усё і пачынаецца?

А ты, мой пяцёрачнік, быў шчаслівы ў той дзень ад усяго: ад падарункаў, увагі дарослых, пачастункаў. Купаўся ў дабрыні дарослых. Раскошны выдаўся дзянёк!

Бачыў, як ты, імяніннік, вечарам ціха-мірна заснуў. Ручка адна ляжала пад шчочкай. Тваю падушку вартавалі задаволеныя бацькі. Хай жа так будзе кожным будзённым днём!

*Твой дзядуля — Уладзімір Ліпскі.*
*3.07.2010 г. (субота)*



## Міхась ЮЖЫК



* * *

Кветкамі двор твой усыпаны.
Ну а на лаўцы кабеты
пад высачэзнаю ліпаю
дзеляць міжсобку сакрэты.

Травень… Натхнення і злагады,
зачараванасці месяц
лёг аксамітнымі травамі,
душы шчымотліва лечыць.

Стоячы ціха за дрэвамі,
што гэты двор атачаюць,
чую мелодыю крэўную,
бачу найсветлыя далі.

Выйдзеш з пад’езда імкліваю,
лёгкай і пругкай хадою.
Дзверы ледзь чутна парыпваюць
на развітанне з табою.

Сонца гарэзна высвечвае
цела ў блакітным адзенні.
Дворык, сцяжынай рассечаны,
перабягаеш імгненна.

Позіркам, стоеным позіркам
жвавую постаць праводжу.

---

***Міхась Южык (Сотнікаў Міхаіл Юр’евіч)*** *нарадзіўся 4 сакавіка 1969 года ў Мінску. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут (1993). Працаваў на ВА «Гарызонт», у літаратурна-публіцыстычным часопісе «Акно».*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Антырыфмар» (2009), кніг прозы «Мёртвае дрэва» (2001), «Перакулены час» (2002), «Марыянеткі і лялькаводы» (2008).*

…Цяжка ў кватэру марозную
я праз гадзіну заходжу.

Аркуш. І свечка запалена.
Хутка адтане кватэра.
Словы вагаюцца шалямі,
Блікі снуюць па шпалерах.

…Сню пад гадзінніка ціканне:
двор напярэдадні лета,
постаць пад цёмнаю ліпаю
між палымнеючых кветак.

* * *

Цені хвояў паляну накрылі.
Рыжы плёс. І сляды на пяску.
Белых чаек няўтомныя крылы
разам з ветрам трывожаць раку.

За аблокамі сонца схавае
свае промні, каб даць нам астыць.
І пад намі вада, як жывая,
будзе мерна ў Бярэзіну плыць.

Плёс шырокі, дзе Сінька і Свіслач,
аб'яднаўшы дзве плыні ў адну,
кіламетраў не меней за трыццаць
калыханку пяюць гушчару.

Вечны плёс. Ён ад сонца рудзее.
У вадзе пад схілёнай вярбой
рыбкі зырка луской палымнеюць
і любуюцца самі сабой.

…На пяску вечаруем ля вудаў.
Сонца ледзь пранікае скрозь лес.
І чакаем апошняга цуду,
покуль дзень прыцішэлы не счэз.

* * *

Між балацін пятляла Случ
і гушчарамі.
Глядзела сонца з вышніх круч
парой за намі.

І плыў байдарак караван
у фарбах светлых
паўз лес і паплавоў дзірван
скрозь водар лета.

Зігзагі порсткія стракоз
і птушак спевы…
Пры леснічоўцы хісткі мост
ледзь ацалелы…

Да самай Прыпяці ў лясы
рака збягала,
іскрыстых бруяў валасы
нібы хавала.

Яна паказвала штодзень
свой нораў дзікі,
яна ірвалася пад цень
і ў сонца блікі.

Але, як сотні ручаёў
і рэк Палесся,
ўлілася ў хор сярод гаёў —
адзінай песняй.

* * *

Каштаны і клёны пад сонцам халодным
гарацьразмаітымі фарбамі лісця,
гарацьперад самым зімы надыходам,
каб згаснуць бяздымна ў паветры празрыстым.

Ідзём па лістоце астуджаным скверам,
сплятаючы пальцы памкненнем адзіным.
Алея сыходзіць у вечара шэрань —
туды, дзе стаіўся ставок лебядзіны.

Няма тут прахожых і летняга тлуму.
Стаім удваіх перад роўняддзю цёмнай.
І вецер калыша таполі раздумна,
страсае лістоту з зажураных кронаў.

Прыснулі лябёдка і лебедзь ля стромы,
пад ніцай вярбой іх дамок ледзь заўважны,
як тая кватэрка ў заценены доме —
гняздо невялікае цёплае наша.

* * *

Аднойчы вецер прашаптаў:
«Ляці і будзь свабодны —
у край непатаптаных траў
і грэчкавага мёду.

Ляці са мной, бо халады
зямлю спустошаць вашу.
Згалеюць дрэвы і кусты,
заледзянеюць пашы.

У краі тым, куды вяду
я птушак паднябесных,
ручай насвістае ў дуду
ў зачараваным лесе.

Ляці са мной, бо стылы лёд
скуе твае жаданні.
А я дару духмяны мёд
і сонечнае ранне…»

Я ветру веры не даваў,
прачнуўшыся на золку.
І бег у восеньскі правал,
збіваў з ільдзін асколкі.

І клаўся зазімак тады
гаючы і празрысты
на ўсе пражытыя гады
і стрэсенае лісце.





Андрэй ФЕДАРЭНКА

# ТУ́ПІК

*Апавяданне*

## I

Расказвалі, што ў дзяцінстве, гадоў да сямі, гэты Т*у*пік (з націскам на першым складзе) быў незвычайна адораны — мог прагартаць кніжку, адкласці ўбок і ўсё чысценька, слова ў слова паўтарыць па памяці. Але аднойчы ў вёсцы ўпаў з воза з сенам і пашкодзіўся розумам. Цяпер яму было гадоў трыццаць, ён жыў разам з маці ў райцэнтры, у пяціпавярхоўцы на плошчы каля ўнівермага «Белы лебедзь», і з'яўляўся ўпрыгожаннем нашага горада, яго візітнай карткай.

Высокі, тоўсты, вельмі дужы, як і ўсе яны, каму фізічнае здароўе даецца ў кампенсацыю за псіхічны дэфект, з ярка-чырвонага колеру, як у снегіра, шчокамі на мардатым твары — але калі хто па няведанні рабіў яму камплімент: «Які ты, Косця, сёння румяны!» — у адказ замест падзякі атрымліваў плявок і крык:

— Гэта толькі вы здаровыя ды румяныя — а ў мяне даўленне баліць!

Па перыметры плошчу абступалі прамтаварныя і прадуктовыя крамы, непадалёку былі два кінатэатры, вялікі базар і парк з атракцыёнамі, а таксама аўтобусны вакзал. Плошча была цэнтрам местачковага жыцця. Усе дарогі сцякаліся сюды. Куды б хто ні йшоў, абмінуць яе не мог, як і не мог не пабачыць на ёй Тупіка — нязменнага, як помнік Леніну, з той розніцай, што апошні заўсёды стаяў, а Косця заўсёды быў у руху — ён хадзіў і шукаў пад нагамі капейкі. Цэлымі днямі ў любое надвор'е ён не стамляўся наразаць кругі каля вакзальных і атракцыённых кас, швэндаўся на гаманкім базары, заходзіў у кінатэатры, крамы ці проста тупаў узад-уперад па тратуары — вочы долу, бы грыбнік у лесе. Казалі (канечне, ад зайздрасці, бо хто мог падлічыць?), што асабліва ў святы яму набягае ў дзень як муляру на будоўлі.

---

***Федарэнка Андрэй Міхайлавіч*** *нарадзіўся 17 студзеня 1964 года ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Скончыў Мазырскі політэхнікум (1983) і Мінскі інстытут культуры (1990). Працаваў у часопісах «Полымя», «Маладосць». Цяпер — у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».*

*Выдаў кнігі прозы «Гісторыя хваробы» (1990), «Смута» (1994), «Шчарбаты талер» (1999), «Афганская шкатулка» (2002), «Нічые» (2009), «Мяжа» (2011), «Ланцуг» (2012).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1995).*

Апрануты ў ваенны фрэнч, з-пад якога выглядвала вышытая беларускім арнаментам сарочка; штаны былі такія прасторныя, што ў іх маглі ўлезці тры нармальныя чалавекі, і кароткія, як брыджы — калашыны пачыналіся там, дзе канчаліся шкарпэткі — высока падцягнутыя, з тугімі гумкамі, што ўрэзваліся ў белыя, поўныя лыткі. Лацканы фрэнча з двух бакоў, ад каўняра да нізу, адвісалі пад цяжарам розных значкоў — столькі многа ён іх начапляў, у асноўным армейскія, выдатнік «ГТО», «Ударнік камуністычнай працы», разрады па розных відах спорту, акцябрацкія, піянерскія, камсамольскія — карацей, вешаў на сябе ўсё, што бліскучыць. На кожнае 9 Мая Тупік займаў месца сярод ветэранаў у святочнай калоне, расквечанай сцяжкамі, галінкамі з зялёным лісцем і белымі кветкамі, рознакаляровымі паветранымі шарыкамі, — і так і йшоў пад гукі пераможнага марша, — сур'ёзны, важны, з гонарам нёс ношу чужога подзвігу, а калі калона ўступала на плошчу і пераўноўвалася з трыбунаю, і людзі пачыналі пляскаць у ладкі і крычаць «ура!», ён надзімаў шчокі і глядзеў прама перад сабой. Гэты «ардэнаносны» фрэнч ён не здымаў ніколі. Хіба што ў самую непагадзь накідваў зверху целагрэйку, і тая была расхлістана, без шаліка, каб здалёк відаць былі «ўзнагароды». Ды яшчэ ў залежнасці ад сезону мяняў абутак: хатнія тапкі на кірзавыя боты. І абавязкова галаўны ўбор — лыжная шапачка, нават у цёплую пару года. На заўвагу: «Хіба табе, Косця, не душна?», — ён на ўсю плошчу заяўляў:

— Абы вам, здаровым ды вучоным, не было душна! Мне мая галава даражэй за вашыя!

Не было ніводнай зімы, каб ён не паміраў. Як толькі стукалі маразы і снегу навальвала столькі, што ён рабіўся шчыльным і ляжаў паабапал прабітых дарог вышынёю ў чалавечы рост, так разыходзілася па горадзе і ваколіцах сумная вестка: «Чулі, Косця Тупік памёр... Замёрз, небарака, у пад'ездзе... Матка не пусціла ў кватэру... Пахавалі добра, з музыкай...» Аднак наставала вясна, і ўваскрослы, як фенікс, падлечаны ў псіханеўралагічным дыспансеры Косця бадзёра тупаў у гастраном з сеткай з парожнімі малочнымі бутэлькамі, — перасякаў плошчу, як ні ў чым не бывала, махаючы сеткаю, а напрактыкаваныя вочы так і шнырылі па тратуары, ці не блісне дзе капейка.

— Я спакойны! Я спакойны! — галасна папярэджваў ён.

Але было ў яго самае слабае месца. Чамусьці ён панічна баяўся, не мог пераносіць «вучоных» слоў, такіх, як кніга, школа, падручнік, заняткі, урокі, сшытак, папера, дошка, крэйда... Яны проста выводзілі яго з сябе. Відаць, пасля таго няшчаснага выпадку — падзення з воза — у галаве ў яго нешта перакланіла, і ён пачаў суадносіць сваю хваробу не з уласна падзеннем, не з тым, што моцна стукнуўся патыліцай аб глебу, а з кнігамі, якія ён так некалі любіў, і цяпер менавіта ў іх бачыў корань зла, іх лічыў прычынай сваёй бяды, а таксама і ўсё, што з кнігамі звязана, — напрыклад, цярпець не мог чужой дзелавітасці. Дастаткова было любому абалдую проста так, ад няма чаго рабіць наблізіцца да яго, дэманстратыўна зірнуць на гадзіннік, з уздыхам прамовіць: «Дзела, Косця!.. Праблемы!.. Спазняюся!», — як Тупік пачынаў непакоіцца, азірацца, перабіраць пальцамі свае значкі... Падцягваліся яшчэ цікаўныя, ахвочыя да бясплатнага канцэрта; а калі ўжо збяруцца да кучы людзі, аб'яднаныя агульнай мэтай, іх нічога не спыніць — давядуць справу да канца, асабліва ў такім жыццёва важным мерапрыемстве, як цкаванне бліжняга свайго.

Садысты даймалі яго паступова, расцягваючы асалоду, памаленьку вярэдзілі, калупалі яго рану, то даючы ёй трошкі зацягнуцца, то зноў шчодра бухаючы на яе порцыі солі.

— Ну што — пастаю ды ў інстытут паеду, — пазяхаючы, казаў адзін.

— А я ў тэхнікум, — другі.

— А я — у кансерваторыю, — трэці.

Спачатку Тупік як мог трымаўся. Гладзіў сябе па сэрцы, прасіў: «Косцечка, не валнуйся, не абрашчай уніманія», — ды надта няроўнай была барацьба. Канечне, самае лепшае для яго было б — хутчэй даваць лататы, але ўжо яго галава плыла, і ён не мог дадумацца нават да гэтага, а толькі мітусіўся, як кура на вуліцы перад машынай; да таго ж ужо яму перакрывалі шляхі да адступлення, акружалі, бралі ў аблогу.

— Хутка восень... У школу пара... А ты партфель купіў? — пыталіся як мага больш ласкава.

— Усё доктару скажу!

— А пенал?

— О-ох, як вы мне ўжо абрыдлі з вашымі пеналамі, здаровыя ды разумныя!..

— А ты многа капеек на школьную форму назбіраў?

— Несцярпіма! — пакутаваў ён. — Невыносна! Якія ж з вамі трэба жалезныя нервы, а яны ў мяне так баляць!..

У вачах у Тупіка з’яўлялася туга. Яму не хапала паветра. Ад адчаю ён пачынаў кусаць уласную руку — моцна, па-сапраўднаму, да крыві, каб фізічным болем перабіць душэўны. А народ тым часам толькі ўваходзіў у азарт. Публіка абступала яго шчыльней. Ужо зусім не лагодна, а пагрозліва, з прытупваннем, неслася і спераду, і ззаду, і з бакоў: «Ану ў акадэмію!» — «На курсы!» — «У прафесуру!» А ў каго не хапала фантазіі, дык той проста:

— Дзела... дзела... дзела!..

Кожнае слова рэзала Косцю тупым нажом. Нарэшце яму ўдавалася прарваць ачапленне; ён закрываў галаву рукамі і кідаўся ўцякаць. Звінелі значкі на фрэнчы. Ахоплены жахам, Тупік бег па тратуары, уголас роў, грыз да крыві руку, размазваў па шчоках смаркачы, кроў і слёзы, цінуўся да сцен, шукаў дзвярэй, якой шчыліны, каб праціснуцца, якой падваротні ці прахаднога двара... А ззаду і па другім баку вуліцы, ахопленыя першабытным шалам, за ім гналіся, свісталі, улюлюкалі:

— А-та-ту яго!

— Трымай!

— Не давай павярнуць!

— Перакрывай дарогу, гані да школы!

Хто б куды ні йшоў, далучаліся да пагоні. Бегла малое дзіця, спяшалася маладзіца з каляскаю, клыпаў пенсіянер, нават шафёр маршрутнага аўтобуса — і той тармазіў пасярод вуліцы і высоўваўся з кабіны, усім сваім выглядам паказваючы намер выскачыць і таксама прыняць удзел у аблаве. Нарэшце спакутваны, выматаны Тупік не мог больш уцякаць. Ён сядаў на асфальт і пачынаў разувацца. Сцягваў боты, размотваў анучы... Пры гэтым плакаў, кусаў руку і стагнаў праз слёзы.

І толькі тады людзі патроху пачыналі супакойвацца. Салодкі шал ападаў, узбуджэнне праходзіла, саступаючы месца шкадаванню і спагадзе.

— Прастудзіцца ж... босы на халодным...

— «Хуткую» каб хто выклікаў...

— Бач, бедны, як яго круціць...

— Шкада небараку...

Тут кожны раптам успамінаў, што і праўда трэба спяшацца. І людзі, апусціўшы долу вочы, разыходзіліся па сваіх справах.

## II

Потым Тупік прапаў. Знік гады на тры. Можа, адправілі ў абласны цэнтр на лячэнне, а мо сапраўды замёрз. І горад, і плошча неяк асірацелі без яго, страцілі частачку свайго антуражу — нават гранітнаму Леніну ў цэнтры цяпер яшчэ больш адзінока было вось так стаяць дні і ночы напралёт і сціскаць у працягнутай руцэ кепку.

Што да мяне, дык я паступіў на першы курс тэхнікума і цяпер пажынаў плады гарадскога жыцця. А менавіта — уволю мог блукаць, гуляць па любімых вуліцах і бульварах. Даўно быў верасень, а ўсё вакол зелянела, як у ліпені, нават пахла летам. У парку кружыліся каруселі, звінеў смех, булькаў фантан, зіхацелі вясёлкавыя іскрыстыя пырскі; па Прыпяці яшчэ бегаў прагулачны цеплаходзік і на яго палубе па-летняму адзетыя людзі елі марожанае і махалі рукамі тым, хто заставаўся на беразе. Аднойчы пад вечар у парку мяне акружыла мясцовая шпана, чалавек пяць майго ўзросту.

«Давай капейкі!»

Пакуль я калупаўся ў кішэнях, а думкі ліхаманкава скакалі: адкуплюся ці не?! ці гэта толькі пачатак?! — пакуль выграбаў з кішэняў усё, што можна, іхні камандзір, падобны на сімпатычнага Цімура з гайдараўскай аповесці, у адной руцэ трымаючы цыгарэту, у другой — яблык, зацягваўся дымам, кусаў яблык і яшчэ паспяваў чытаць мне кароткую інструкцыю на тэму, як паводзіцца ў горадзе: «Калі ідзеш па вуліцы — не бегай вачыма, глядзі прама, не трымай рукі ў кішэнях, тым больш не звіні там капейкамі...»

Раптам ён падавіўся дымам і яблыкам, закашляўся, замоўк і неяк дзіўна, круглымі вачыма на мяне паглядзеў. І ўся яго каманда аслупянела. Яны ўсе глядзелі не на мяне, а некуды праз мяне — нібы я па жаданні якогась добрага чараўніка паступова рабіўся нябачным, раставаў у паветры. Мая працягнутая рука з белымі і жоўтымі капейкамі вісела ў паветры. Я даваў, а яны не бралі. Я нічога не разумеў. Тады я здагадаўся азірнуцца і ўбачыў ззаду Косцю Тупіка. Ён стаяў адразу за мною, трымаючы над галавой чыгунную урну, адну з тых класічных, паркавых урнаў вагою ў паўцэнтнера. Урна пагрозліва калывалася, з яе Тупіку на шапку, на плечы сыпалася розная дрэнь, смецце; прыліплы да краю, звісаў з урны доўгі серпантын каўбаснай шкуркі. Рукі ў Тупіка дрыжэлі, як у штангіста, самога яго вадзіла трошкі ў бакі, у такт ціха пазвоньвалі «ўзнагароды» на знаёмым фрэнчы.

— Я... спакойны! — праз сілу папярэдзіў ён, а бялкі вачэй у яго былі чырвоныя ад намагання, і з куточка рота сачылася сліна.

Шпана нехаця адступіла. Адзін з бяспечнай адлегласці крыкнуў: «У школу!», а не спрацавала — Косця быў якраз падлечаны. Ён бохнуў на месца урну і пачаў атрасацца.

Цяжка сказаць, з кім мне было страшней: з рабаўнікамі ці з выратавальнікам... Я ўжо яму працягнуў руку з капейкамі. Вочы ў Косці пацяплелі. Было відаць, як яму хочацца згрэбсці ўсё адразу. Але стрымаўся, вывудзіў тоўстымі пальцамі толькі 20 капеек.

— Мне што — я спакойны, — дабрадушна сказаў ён на развітанне, пацiснуўшы тоўстым плячом.

Яшчэ праз тры гады ўжо мне надарыўся выпадак аддзячыць. Неяк ранняй вясной я стаяў у парку каля фантана, нежывога яшчэ, і раптам убачыў, а галоўнае, пачуў, як два раз’ятраныя валацугі гоняць па пустой алеі Тупіка. На ім была бальнічная піжама расфарбоўкі вагоннага матраса. Хутчэй за ўсё ён выйшаў з аддзялення падыхаць свежым паветрам і — трэба ж! — натыкнуўся на прыгоду.

— У школу!.. маць-маць! — крычалі валацугі вантробнымі галасамі, ад якіх стыла ў жылах кроў.

Тупік уцякаў па алеі, па газонах, дзёрся праз падстрыжаныя дэкаратыўныя кусцікі ростам яму па калена, прысядаў у іх, каб схавацца, — вялікі, няўклюдны, потым зноў падхопліваўся і бег — напалоханы, адурэлы, хапаўся за сэрца, глытаў паветра... З пакусанай рукі цякла кроў, твар быў чырвоны і мокры ад слёз.

— О-ох!.. Людзечкі!.. Што ж гэта робіцца ў белым свеце?!.

А валацугі даганялі яго і па чарзе, з разгону, як у футбольны мяч, білі ў шырокі падатлівы зад.

— За парту! Вучыцца!

Бывае, вялікі загнаны звер кідаецца да малога і знаходзіць ратунак. Я быў сведкам, як пашкамутаны сабакамі кот ірвануўся да маленькай курыцы, а тая адважна распушыла крылы і захінула яго. Тупік проста забег мне за спіну і прысеў, затаіўся. Са звычайнымі людзьмі валацугі не надта любяць звязвацца, а я быў звычайны чалавек. Яны патапталіся, пабурчэлі і пайшлі. Уратаваны Косця падняўся, ён плакаў і лізаў руку.

— Ад розуму... вялікага! — усхліпваючы, крыкнуў ён.

— Ды які там розум...

Толькі калі я даў яму 20 капеек, ён пакрысе супакоіўся і асцярожна пайшоў назад у бальніцу. То была наша апошняя сустрэча. Так атрымалася, што пасля я цэлых дваццаць гадоў ні разу не быў у сваім горадзе.

## III

І вось нарэшце я зноў тут.

Як і дваццаць гадоў назад, вельмі цудоўная стаяла восень — ранні верасень. Лісце з дрэў яшчэ не падала, але паўсюль было чамусьці надта многа дворнікаў, мужчын і жанчын, і зусім маладых дзяўчатак; у сваіх аранжавых камізэльках яны шчыравалі дзеркачамі, як на касьбе, — толькі і чулася: шорг-шорг-шорг.

Дарожку, па якой я крочыў у цэнтр, як алею, абступалі каштаны. Некаторыя цвілі па другім разе, дзе-нідзе з іх тырчэлі хворыя свечачкі, а з саміх дрэў штораз падалі і разбіваліся аб асфальт калючыя плады — нагінайся, падымай бясплатны сувенір ад восені!.. Дарожка ішла ўздоўж ракі. Унізе ляжала набярэжная, а яшчэ ніжэй цякла сабе вечная Прыпяць. Колькі ж вады ў ёй за гэты час сплыло!..

На плошчы я абышоў вакол помніка Леніну, завярнуў у ціхі дворык, сеў на лаўцы пад каштанам. У дворыку нікога не было. Стаяла толькі трансфарматарная будка, ды два жалезныя слупы з нацягнутай паміж імі вяроўкаю, на якой сохлі навалачкі, плюшавы заяц і дзіцячыя паўзункі. І раптам так сумна зрабілася ад таго, што жыццё амаль прайшло, а тое, што засталося, не жыццё, а суцэльнае змаганне, якое столькі забірае сіл, што іх ужо не хапае на радасць ад самога жыцця... У гэты момант дзверы крайняга пад'езда расчыніліся і, як ні ў чым не бывала, уласнай персонай выйшаў з сеткаю ў руцэ Косця Тупік.

Я ўскочыў з лаўкі і працёр вочы. Ну, ён! У белым пінжаку, з-пад якога выглядвае вышыванка. Чорныя штаны спераду налазяць на насы сандаляў, а заднікі свецяцца голымі пятамі. Ён! Такі ж чырванашчокі, мардаты — яны ж не змяняюцца знешне, а як бы застываюць у раз-назаўсёды набытай форме. Толькі яшчэ больш паправіўся: жывот адвісае з-пад рэмэня, і «маланка» ў крэсле не сыходзіцца. На галаве ў яго была сіняя бейсболка казырком назад.

— Косця!

Ён спыніўся. Я падбег да яго. Мы стаялі адзін насупраць аднога, два асколкі мінулага... Нібы і не было гэтых шалёных дваццаці гадоў. І падалося — а мо яшчэ не позна; можа, удасца адшукаць і вярнуць тое, што ўжо і не помніш, як яно называецца, а ведаеш толькі, што яно вельмі важнае, можа быць, самае дарагое ў жыцці?..

Радасць агарнула мяне:

— Косцік, я...

І пакуль я падбіраў у думках словы, каб выпадкова не ляпнуць чаго-небудзь звязанага з «вучонасцю», адбылося наступнае. Тупік паставіў долу сетку. Выцягнуў з нагруднай кішэні пакамечаную насоўку. З яе — маленькі дзіцячы тэлефон. На твар яго легла заклапочанасць. Косячыся на мяне, Тупік націснуў кнопачку тоўстым пальцам. Калі цацка адпішчала мелодыю з мультфільма, Косця загаварыў у трубку (а сам краем вока пазіраў на мяне):

— Алё, я спакойны! Мне ж яшчэ трэба ў офіс! У мяне ж бізнес! У мяне ж там поўна бумагі! Мне ж яе трэба падпісваць! Пячаткі на яе ляпаць!..

Загарнуў свой тэлефон у насоўку, паклаў назад у кішэню, падняў сетку і пайшоў — паходкаю алігарха, якога за вуглом чакае лімузін. Пакінуўшы мяне, прыніжанага, з разяўленым ротам глядзець яму ўслед.

Бог ты мой! Столькі за гэтыя гады ўсяго адбылося! Столькі новых слоў хлынула, як з прабітай плаціны! Колькі «здаровых ды разумных» пазакручвала ў бурах, падмяла, паламала, змыла без следу!.. І сам я, калі зрэдку ўспамінаў пра Тупіка, дык толькі ў мінулым часе: быў, хадзіў, жыў... Я ні на хвілю не сумняваўся, што яго даўно няма на свеце; ды адна толькі новая кашмарная лексіка — ад «перабудоваў» да «айпэдаў» — павінна была ўмомант даканаць яго!

А ён ацалеў. Выжыў. Змог разабрацца, што яго знішчае, у шматкі рве яго нервы і крывяніць душу; перш здагадаўся, а потым і скеміў, што клін выбіваецца клінам, падобнае лечыцца падобным, і змогператварыць ворага ў сябра, сам пачаў карыстацца незразумелай, а таму страшнай зброяй — «вучонымі» словамі, і гэтым абясшкодзіў іх. Тое, што яго дабівала, ён паставіў сабе на службу. І перамог! Па-свойму дабіўся ў жыцці поспеху...

І тут мне стала крыху сорамна за нядаўнія думкі пра марнасць барацьбы. Як прыйшло, так і знікла адчуванне жыццёвага тупіка, і лёгка задыхалася, і ціхая лагода падступіла да сэрца... Дзякую, Косця, ты мне вельмі дапамог!

На асфальце вакол лаўкі і пад ёй ляжалі каштанавыя шарыкі, вылузнутыя са сваёй калючай абалонкі — такія ўжо глянцавыя, крышку яшчэ вільготныя, і так ужо яны прасіліся, хітрыя, у руку: ну, толькі глянь, які я ладненькі, гладзенькі, чысценькі! ну падымай мяне хутчэй, аднясі далей, выкінь, я прарасту, і род мой працягнецца, ну, калі ласка... Вось сімпатычная, бяскрыўдная барацьба за выжыванне! І асабіста я — за такую.



# З РУСКАМОЎНАЙ ПАЭЗІІ БЕЛАРУСІ

## Іван БІСЕЎ

* * *

Мой ліпень, твой лік гарачыць невыносна.
Ў твае разамлелыя сны
Раптоўным прароцтвам заявіцца восень,
Як рэха далёкай вясны.

Лісты па-дзявочы зардзяць сарамліва,
І мроіцца будзе ўсур’ёз
Мне шэпт казытлівы празрыстых на дзіва
Блакітам спавітых бяроз.

### ВЕРАСЕНЬ

З развітальнае жарсці барвовяцца клёны,
Ну, а верасень сцішыўся, быццам святы.
Ён складае малітвы наіўна-натхнёна
Золкім восеньскім дням, што брыдуць з нематы.

Павуцінкі дрыжаць на рабінавым вецці,
Заблудзіўся ў лістоце гаркавы дымок.
І спускаецца неба мальбой беспрасветнай
Да худых скрыжаванняў, дзе кволіцца змрок.

Колькі дум у захмар’і схавалі чароды,
Колькі год праляцела настрэчу вятрам...
Мы даўно ўжо радня, бо жылі тут ад роду,
Толькі сэрца вяшчуе: радзіма ўсё ж там,

Дзе ў абдымках вясны робіць вечнасць узмахі...
Не пайсці, не сысці мне з палескіх дарог.
І злятаюцца сны — адзінокія птахі —
На парог вераснёвы, высокі парог.

### ВОСЕНЬ

Кароткі дзень не вернецца назад.
Слабыя промні ў небе астываюць.
І толькі дым ад страчанага раю
Ледзь-ледзь салодзіць боль жыццёвых страт.

Нібы пісьмо з мінуўшчыны прыйшло,
Лісты кружляюць жоўта-санцапромна,
Палі сумуюць жальбай невымоўнай,
Лес, нібы губка, ўцягвае святло.

Ды елкі вастрамудрасцю галін
Палаюць так нязмушана і ціха.
Ах, восень, — летапісная шчыгліха —
Развесіла палотнаў кармазын.

## Ала ЧОРНАЯ

* * *

*У пачатку было Слова.*
Евангелле ад Іаана

І прыйдзе дзень.
І стане яснай памяць.
І буду знаць — так сталася ў жыцці.
І болей вам мяне ўжо не параніць
Нічым на свеце. Час настаў пайсці.
І стану ціха-ціха падымацца
(Ці апускацца з мараў-аблачын?),
І буду бесцялесна аддаляцца,
Не просячы у лёсу ні аб чым.
Бывайце! І даруйце, што любіла.
Я ж даравала. Ростань — не бяда.
Я ўчора печ у хаце пратапіла
Ўсім тым, з чым развітацца не шкада.
Адно б грахі, як раннюю бяскрыласць,
Мне пакаяннем адмаліць жывым.
Над Млечнасцю лунае Слова Міласць...
Мая надзея будзе вечна з Ім.

* * *

Ідуць дажджы над Белай Руссю,
Ізноў самоцяць край лясны.
А днём ляцелі клінам гусі —
Нябёс высокіх вестуны.

Ляцелі сцішана над полем
Туды, дзе дождж не будзе ліць,
І мне хацелася да болю
Агмень фантазій запаліць.

Сабрацца з думкамі сваімі,
Не спаць ні хвілі уначы,
Ды ўсё ж саюз агню і дыму
Найлепшым святам нарачы.

* * *

Ціхі кут, што ў чужой старане,
Ці ты смутку майму родны брат,
Ці за нешта так любіш мяне?
Не заві.
          Я прыеду наўрад.

Ты мне ў сны заяўляешся зноў
Туманамі з далёкіх дарог,
І збягаюцца з росных лугоў
Дзіва-кветкі ка мне на парог.

І бруіцца дарога мая
У прасветленым раннім акне...
Чый ты сум,
                    казка-радасць чыя,
Ціхі кут, што ў чужой старане?

## Юрый САПАЖКОЎ

### ТАДЖ-МАХАЛ

*Пакроўскай В. С.*

У глушэчы лясной,
Дзе я столькі блукаў
Паміж злом і дабром,
Між сапраўдным і лжывым,
Нечакана наткнуўшыся на Тадж-Махал,
Заблудзіцца ужо немажліва.
Найкаштоўнымі блёсткамі вабіць здалёк
Непадкупны патруль чатырох мінарэтаў,
Бела-шлюбных разводаў імклівы палёт
Над Джамунай-ракой,
Дзе світанняў сакрэты.
Заблакіціць вышынь там, дзе месяца серп.
Лебядзіная песня разлукі лунае.
Тут смяротнік заўжды жыць захоча няўсцерп,

Ненавіснік — той сэрцам адтае.
Хтось сумленне тваё запытае: што ты?
Як ты жыў? Заслужыў, а ці не, прабачэння?
Можа, ў гэтым і ёсць Божы сэнс пекнаты,
Ачышчэнне,
Душы прасвятленне.
Зразумееш: прад тым, як сысці назаўжды,
І табе запавет хтось пакінуў.
Ўсёй любові тваёй і журботы-бяды
Маўзалей ты узвесці павінен!
Сэрца людзям адкрый і пакінь у цішы
Светапогляд і свет пакаяння.
Запавет.
Паратунак грахоўнай душы.
Суцяшэнне.
Спакой.
Апраўданне.

### СНЕГ У ЛІСТАПАДЗЕ

Нібы ранішняе шоу —
Бляклы блік астральны.
Вось і снегу надышоў
Выхад тэатральны.

Бы каханне, першы снег,
Легкаверны дужа:
Хоча жыць цалюткі век,
Падаючы ў лужы.

## Валянціна ПАЛІКАНІНА

* * *

Яшчэ задоўга да радкоў маіх
Цвіла зіма над бацькаўшчыны ўлоннем,
Шпурляла пух з нябеснай вышыні
І раставала льдзінкаю ў далоні.

А дзесьці там, за светласцю акна,
Працяжнае гудзела сола ветру.
Пячной трубы гарачая спіна
Краналася аголенага вецця.

Драў горла певень, быццам бы аглух,
Скрыпелі важна ходзікі-хадулі,
Жыў у куце іканапісны дух,
Была яго сяброўкаю — бабуля.

Яшчэ задоўга да грахоў маіх
Яе малітва ззяла вечарова
За мой спакой і за натхнення міг,
За першы гук прамоўленага слова.

## ГАРАДОК

На акенцы — герань, і дымок з паўразваленай печкі,
І зямная спагада, і тайна, што ў сэрцы смыліць...
На крутым беражку неўтаймоўна-вірлівае рэчкі,
Колькі помніць сябе, гарадок невялікі стаіць.

Гарадок паўзабыты, дзе зрэдку мо рыпнуць арэлі
І дзе ў строгіх дзяўчат не такі й заклапочаны твар,
Дзе сабакі снуюць і бабулі брыдуць састарэла,
Дзе мужчыны не знойдзеш — на дзесяць двароў гаспадар,

Дзе плятуцца ў кашы паслухмяныя пругкія лозы,
Дзе ў суседнім ляску да світання не спіцца саве,
Дзе на клубе замкнёным дажджамі залатаны лозунг
Шчэ з далёкіх часоў да шчаслівага заўтра заве,

Дзе ў царкоўцы пабляклай апошні раскаяўся грэшнік,
Дзе званоў адгалос разліваецца хвалямі ўвыш,
Дзе наводшыбе вечарам плача ўдава несуцешна
І — як рэха вайны — невядомаму подзвігу крыж,

Дзе настаўнік былы разумее: сыход непазбежны,
І ссівелы млынар зноў падносіць мяшкі на спіне,
Дзе на схіле гадоў час супыніцца госцем начлежным
І ў гадзінніку даўнім бадай што навекі засне.

* * *

Яшчэ пячэ. Не адбалела...
Шчэ ноч не выпіта савой.
Адценні шэрага на белым
Здзіўляюць яркасцю сваёй.

Яшчэ далёка да змяркання,
Яшчэ спакуса дзесь наўзбоч,
Яшчэ нявінным спавяданням
Далёка так да грэшных воч.

Яшчэ маўчанне — нібы шчасце,
Яшчэ з нябеснага паста
На тайну першага прычасця
Глядзіць скупая немата.

## Ала ЛЕВІНА

* * *

Мы на гэтай зямлі толькі цені з табой, толькі цені,
І даўно існуюць пасобку і плоць, і душа.
І нічога, бадай, не залежыць ад хітраспляценняў
Нашых лёсаў, што ў небны памкнулі высокі абшар

І пакінулі нам на ўспамін невялічкую дробязь —
Азірнуцца разок ды разок уздыхнуць наўздагон.
А якою ж бясконцай дарога здавалася колісь,
І якім жа кароткім, на жаль, стаў жыцця марафон.

Мы абрысы адно тых людзей, з кім страчаліся дзесьці,
А сягоння няпроста адзін аднаго нам пазнаць.
Сталі пунктам адліку для нас пахавальныя весткі,
Хоць пра страты свае мы стаміліся нават казаць.

Мы ўсяго толькі след, што пакінулі колісь на памяць
Тым сябрам, для каго мы апорай былі на зямлі.
Гэта нас замятае халодная снежная замець,
Гэта нашы з табой адляцелі навек жураўлі.

А пасля… Што — пасля? Галаву нам ці варта марочыць,
Бо ні разу адтуль аніхто не вярнуўся назад,
Бо ні разу ніхто тайны знак не падаў ненарокам,
Ды і з нашым не стрэўся адтуль нам пасланы пагляд...

* * *

Салодкая мука! Гаркавая радасць! —
Бы ў раннім юнацтве кагось пакахаць.
Нібыта заснулую, ціхую завадзь
Дакладным снарадам раптоўна ўзарваць.

І сэрца гатова разбіцца на часткі,
І рвецца душа, каб куды падалей.
І зноўку бяссонніца кволае шчасце
Імкнецца звязаць з ветравейных надзей.

Салодкая мука! І шчасце без меры —
На міг дакрануцца рукой да рукі!
І тут ратаваннем — пяро і папера
І гэтыя, сціплыя, можа, радкі.

## Таццяна ЛЕЙКА

* * *

Ты, канешне, прыедзеш,
хоць столькі прыдумана меж.
І напішаш мне ліст, і пазвоніш —
а як жа іначай?
Ды мяне ты забудзеш,
у мройнай імгле прападзеш —
там, дзе сад Гефсіманскі
й сцяна безвыходнага плачу.

Ты, канешне, прыедзеш,
сваю залячыўшы віну,
ў гэты горад, дзе я
даастатку надзеі губляю.
Можа быць, і сама я
як-небудзь да вас зазірну…
Пастаю ля сцяны
ды па садзе крыху пагуляю.

* * *

Якая вечная прычына
І весяліцца, й слёзы ліць!
Жанчына я, а ты мужчына,
ды смагі мне не наталіць.
І я іду, куды не звалі, —
на баль нястоенага жалю,
на той пакутлівы абрад,
дзе словы мовяцца наўрад.

## Міхась БАРЗДЫКА

* * *

Пасвятлеюць аднойчы высі.
Долы выстудзіць ветравей.
А ў кастрычніку жаўталістым
Стане стыла лясной траве.

І, калі заружовіць вечар,
Відавочным падасца факт:
Лес накінуў на стылыя плечы
Свой апошні асенні фрак.

Не паволячы час самоты,
Не чакаючы буралом,

Залатая спадзе лістота
У маўклівы лясны вадаём.

Ад усплёскаў то справа, то злева
Разбягуцца наўсцяж кругі…
Так і мы, як лістота з дрэва,
Ўвойдзем нотай у вечны гімн.

## Таццяна ШПАРТАВА

### МЕЛОДЫЯ

Начэе ці, можа, світае,
У тлуме жыцця ці ў цішы —
Пылок залаты аблятае
З параненых крылаў душы.

Шукаючы шчасця прыкметы,
Ці ўспомнім, спазнаўшы мілосць:
Няма справядлівасці ў свеце,
А толькі мелодыя ёсць.

Як жэмчуг сярод акіяна,
Зямля сніць нябёсаў імшу.
Ды толькі дарэмна падманам
Сваю суцяшаем душу.

Адно што па-за атмасферай,
Дзе зорак шляхі праляглі,
Зліецца гармонія сферы
З мелодыяй грэшнай Зямлі.

## Жанна МІЛАНОВІЧ

### ПРЭЗУМПЦЫЯ КАХАННЯ

Зноў сонца коціцца з гары.
Зялёным памірае лета.
Я на тваім календары
Адзначу зорачкамі гэта.

І лічба ў рамцы «22»
Пра нас дваіх. Дваім. І двойчы.
Табе, канечне, трын-трава.
Я ж помню: стрэліся аднойчы.

Ну, што ж, свой гонар пакажы.
Знаць, мне адной блукаць да рання.
Я ўсё распяла на крыжы,
Апроч прэзумпцыі кахання.

* * *

Дзверы душы расчыняю насцеж.
Я зразумела, што значыць шчасце!

Шчасце — калі не шкада нічога
Ці без маны, без падману злога.

Шчасце — здароўе і смех дзіцёнка,
Думкі даверыць паперы тонкай.

Шчасце — пачуць найчаканы голас,
Бачыць на ніве наліты колас.

Шчасце — пад спеў салаўя прачнуцца,
Ад пацалунка не адвярнуцца.

Шчасце — купальскаю ноччу кветка.
...Гэткай бяды, што бывае рэдка.

## Марыя МАЛІНОЎСКАЯ

* * *

Якія тут могуць быць рыфмы?!
Ад думак кіпіць галава...
Закончаны песні у німфы,
Не плача па мужу ўдава.

Наўрад ці так варта маліцца…
Адно пазаві праз сутонь —
Я проста здыму рукавіцу,
Прыстаўлю да неба далонь.

І, можа, злагодзіцца сцюжа,
Прагляне з нябёс сінява.
І німфа заплача па мужу,
Цішком заспявае ўдава.

І стане так вусцішна-звонка:
Цябе не змагу не пазваць,

Бо хочацца ўсё ж не старонку —
Плячо ля шчакі адчуваць...

* * *

Шчаслівая быць толькі Вашай заўжды,
Шчаслівая быць толькі Вашай,
Калі запрашае зямны павадыр
Адпіць з перапоўненай чашы,

Калі па верандзе і ў студзеньскі дзень
Разносіцца водар чаромхі
Ці зносяць бураны аскепкі надзей
У чэрвеньскі вечар прамоклы.

Шчаслівая, шчасця прашу напавер,
Хоць нам на Зямлі не абняцца.
Ды верыла да... і я веру цяпер,
Што трэба мне Вас дачакацца.

Я рада, што Вам падуладны гады,
Мая ж напаўняецца чаша.
Шчаслівая быць толькі Вашай заўжды,
Шчаслівая быць толькі Вашай.

***Пераклад з рускай***
***Міколы ШАБОВІЧА.***



Таццяна МАЦЮХІНА

# ДАСЛЕДАВАННЕ ІМПРЭСІЯНІЗМУ Ў ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВЕ XX— ПАЧАТКУ XXI СТ.: ТЭАРЭТЫЧНЫ І ГІСТАРЫЧНЫ АСПЕКТЫ

У сучасным беларускім літаратуразнаўстве пакуль адсутнічае абагульненая, сістэмная праца па гісторыі сусветнага і беларускага імпрэсіянізму. На сёння літаратурны імпрэсіянізм даследаваўся ў культурна-гістарычным і эстэтычным кантэкстах — з акцэнтам на агульнаеўрапейскі працэс — толькі асобнымі айчыннымі літаратуразнаўцамі (А. Андрэевым, А. Бельскім, Я. Гарадніцкім, М. Лазаруком, С. Логішам, І. Навуменкам, В. Рагойшам, Т. Студзенка, Л. Тарасюк, Т. Чабан і інш.). Феномен і механізм функцыянавання яго раскрываецца ў працах рускіх даследчыкаў, у якіх вызначаецца спецыфіка выяўлення імпрэсіянізму ў жывапісе (М. Алпатаў, А. Чэгадаеў), музыцы (Э. Нікалаева), гісторыі літаратуры (Л. Андрэеў), тэорыі літаратуры (Р. Куліева).

Сутнасць імпрэсіянізму дакладна акрэслена ў артыкуле А. Сяліцкага «Дынаміка стылю ў беларускім мастацтве канца XIX — пачатку XX ст.» (2007), у якім аўтар слушна зазначае: «Адлюстраванне імгнення жыцця мастак-імпрэсіяніст разглядае як самамэту творчасці. <….>. У беларускім мастацтве праявы імпрэсіянізму знайшлі адлюстраванне перш за ўсё ў літаратуры, якая мела арганічную сувязь з народнай культурай» [29, с. 96—97]. Дадзены аспект літаратурнай творчасці выклікае несумненную цікавасць, дазваляе засяродзіць увагу на асаблівым настроі аўтара ці героя, унутраным стане чалавека. Даследчыкі ў імпрэсіяністычных творах выўлялі эмацыянальнасць, рухомасць пейзажнага малюнка, стыхійна-імпульсіўны тэмп выказвання і актуалізавалі эстэтычныя, маральна-грамадскія каштоўнасці.

У фарміраванні гісторыка-тэарэтычнай думкі датычна імпрэсіянізму пачатку XX—XXI ст. можна вылучыць тры асноўныя этапы:

1) 1910 — 1920-я гг. XX ст.
2) другая палова 50-х гг. — першая палова 80-х гг. XX ст.
3) другая палова 80-х гг. XX ст. — пачатак XXI ст.

Навуковыя і крытычныя працы і крыніцы па імпрэсіянізме ўтвараюць грунтоўны тэарэтычна-эстэтычны базіс сучаснага літаратуразнаўства. Сэнсавызначальныя ідэі па тэорыі і гісторыі імпрэсіянізму закладзены ў даследаваннях А. Еўнінай, М. Алпатава, Л. Усенкі, Ю. Борава і інш.

Найперш выклікае цікавасць тэарэтычны аспект вывучэння імпрэсіянізму ў рускім і беларускім літаратуразнаўстве. У кнізе «Імпрэсіяністы, іх сучаснікі, іх паплечнікі» (1975) вылучаецца артыкул «Праблема літаратурнага імпрэсіянізму і разнастайныя тэндэнцыі яго развіцця ў французскай прозе канца XIX і пачатку XX стагоддзя» А. Еўнінай. Даследчыца, аналізуючы імпрэсіяністычныя тэндэнцыі ў французскай літаратуры, пасля некаторых удакладненняў робіць выснову: імпрэсіянізм у літаратуры з'яўляецца паглыбленнем ці асобай формай псіхалагізму [11, с. 262]. Такая думка мае права на існаванне і можа лічыцца цалкам прымальнай, паколькі псіхалагізм як з'ява ўплывае на сугестыўнасць, вобразнасць, інтэртэкстуальнасць літаратуры і, у прыватнасці, на змест пейзажнай лірыкі.

У кнізе «Імпрэсіянізм» Л. Андрэева (1980) вызначаюцца прадметна-вобразныя ўзаемасувязі паміж жывапісным і літаратурным імпрэсіянізмам. Аўтарская

ўвага акцэнтуецца на рысах творчага мыслення П. Верлена, М. Пруста, Э. Дзюжардэна і інш. Л. Андрэеў падкрэслівае: менавіта ў сферы славеснага мастацтва імпрэсіянізм, сапраўды, аказваецца блізкім тым тэндэнцыям, якія сябе асабліва праявілі ў паэзіі — перш за ўсё сімвалізму [1, с. 35]. Аўтар раскрывае ролю ўнутранага маналогу Э. Дзюжардэна, музычную прыроду паэзіі П. Верлена. Акрамя таго, Бар [тэарэтык імпрэсіянізму, аўстрыйскі пісьменнік. — **Т. М.**], які заклікаў да «даверу пачуццяў» у кнізе «Пераадоленне натуралізму» (1891) [1, с. 159], — зрабіў адкрыццё ў плане псіхалагічна-метафізічнага ўспрымання «я» лірычнага героя. Відавочна, у навакольным свеце і ўнутраным свеце лірычнай асобы пачынаюць інтэгравацца, набываюць моц самі пачуцці, без знешняга эфекту ў іх абазначэнні.

У 1988 г. пабачыла свет праца «Імпрэсіянізм у рускай прозе пачатку XX стагоддзя» Л. Усенкі. Аўтар сведчыць: сярод асноўных рыс імпрэсіянізму Д. Сараб’янавым вылучаецца «культ эцюда» [30, с. 31]. Л. Усенка адзначае, што імпрэсіянізм з мастацтвам звязваюць культурна-эстэтычныя каштоўнасці і дух эпохі, у якую жыве той ці іншы мастак. Даследчык сцвярджае: імпрэсіянізм у рускай прозе перажывае росквіт у 10-я гг. XX ст. [30, с. 23].

«Зліццё» вобраза аўтара і лірычнага героя вядзе да «шматгалосся» ў мастацкім творы, падкрэслівае ў кнізе «Рэалізм А. П. Чэхава і праблема імпрэсіянізму» (1988) Р. Куліева. Яна робіць акцэнт на далучанасць гледача і чытача да мастацкага светабачання самога аўтара і на памкненні апошняга зрабіць рэцыпіента саўдзельнікам творчага акта [16, с. 101]. У кантэкст літаратуры ўводзіцца паняцце «меры відавочцы» [16, с. 95]. «Мера відавочцы» звязана з успрыманнем таго, што знаходзіцца па-за ўнутранай існасцю асобы і ўвасабляе сабою знешнія праявы свету ў адчуваннях. Яшчэ адной прыкметай творчасці паэтаў-імпрэсіяністаў з’яўляецца ўключэнне аўтарскага голасу ў маўленне апавядальніка ці персанажа [16, с. 95]. Гэта дазваляе сцвердзіць актуальнасць інтэртэкстуальнасці ў мастацкіх творах беларускіх аўтараў, якая мае на ўвазе вылучэнне і элементаў (рысаў) імпрэсіянізму.

Ю. Бораў аналізуе праграму імпрэсіянізму, грунтуючыся на поглядах акадэміка Б. Віпера. У кнізе «Эстэтыка. Тэорыя літаратуры» (2003) аўтар адзначае ў навуковых назіраннях Б. Віпера наступнае: праграма імпрэсіяністаў складалася выключна з адмаўлення — адмаўлення зместу, сюжэта, прадмета, матэрыі, прасторы; мэтаю імпрэсіяністаў быў сінтэз — згушчаны экстракт аптычнага ўспрымання, а іх сродкам — аналіз, раскладанне фарбаў на састаўныя элементы; імпрэсіяністы, якія грэбавалі аб’ектыўнай рэчаіснасцю ў імя суб’ектыўнага ўспрымання, залежалі ад аб’ектыўнай знешняй натуры… [4, с. 152].

У дачыненні да першага этапу ў развіцці літаратурнай думкі, варта адзначыць літаратуразначыя набыткі пачатку XX ст., бо «20-я гады ўвайшлі ў гісторыю беларускай літаратуры як перыяд надзвычай інтэнсіўных мастацкіх пошукаў і творчых здзяйсненняў <…>» [9, с. 86]. 10—20-я гг. XX ст. — пераломны момант у развіцці крытычнага мыслення.

У свой час у «Гісторыі беларускае літаратуры» М. Гарэцкі ўказваў на тое, што «імпрэсіянізм — паэтычная творчасць, у аснове якой ляжыць падвышаная, нервовая ўспрыімлівасць да вонкавых і ўнутраных для аўтара ўражанняў і надзейнае адбіванне іх у гэткім «настраёвым» творы» [8, с. 387]. Новая форма ўспрымання рэчаіснасці якраз і стала прычынай напісання шэрагу крытычных прац па паэтычнай творчасці разнастайных аўтараў, сярод якіх — М. Багдановіч, У. Дубоўка, Я. Пушча і інш.

Творчасці М. Багдановіча прысвечаны артыкулы «Максім Багдановіч як паэта-імпрэсіяністы», «Цені і святло ў творчасці Багдановіча» М. Піятуховіча, «Максім Багдановіч у літаратурных ацэнках» А. Бабарэкі, «М. А. Багдановіч» І. Замоціна, «Максім Багдановіч: жыццё й творства» І. Дварчаніна, «Кніга лірыкі як мастацкае цэлае. «Вянок» М. Багдановіча» Я. Пушчы, акадэмічная манаграфія «Паэтыка М. Багдановіча» А. Вазнясенскага, нарыс «Тэорыя санета» і кніга

«Паэтыка літаратурных жанраў» А. Барычэўскага. У гэтых працах у рознай ступені закранаецца імпрэсіяністычны аспект творчасці паэта.

У артыкуле «Максім Багдановіч як поэта-імпрэсіяністы» М. Піятуховіча («Полымя», 1923, № 7—8) многія вершы вызначаныя як тыпова імпрэсіяністычныя, аднак, часам ёсць толькі намёк на імпрэсіянізм; апрадмечаная вобразнасць, актуальная для сімвалістаў, напаўняе змест некаторых працытаваных вершаў («Ад спёкі пышуць дахі і асфальт» і інш.). У той жа час М. Піятуховіч правільна адзначае падмурак імпрэсіянізму: «Філёзофскай асновай імпрэсыянізму, як даводзіць гэта Оскар Вальцэль, служыць тэорыя рэлятывізму, якая асабліва была развіта аўстрыйскім фізыкам Эрнстам Махам» [26, с. 97]. Беларускі крытык адным з першых разглядае М. Багдановіча паэзію ў еўрапейскім кантэксце (у параўнанні з П. Верленам, Э. Верхарнам).

У артыкуле «Максім Багдановіч у літаратурных ацэнках» А. Бабарэка не проста адзначае, як ацэньвала беларуская крытыка творчую спадчыну гэтага песняра, але і выяўляе прыкметы імпрэсіяністычна афарбаванай лірыкі паэта на аснове прыкмет жывапіснасці і музычнасці ў «песнятворчасці».

Артыкул «Галоўныя кірункі ў беларускай поэзіі» А. Луцкевіча (А. Навіны) вызначае ідэя: прынцыпы эстэтытызму, запаведаныя М. Багдановічам, паўплывалі на тых, хто выйшаў з «Маладняка» (У. Дубоўку, Я. Пушчу і інш.) [21, с. 17—18]. У крытычным аглядзе літаратуры А. Луцкевіч, у адрозненне ад М. Піятуховіча, не называе канкрэтна мастацкіх кірункаў, паводле якіх стваралі свае творы М. Багдановіч і яго паслядоўнікі.

Судакрананне з творчай постаццю М. Багдановіча назіраецца і з боку Я. Пушчы, паколькі апошні ўдзельнічаў у падрыхтоўцы першага навукова-каментаванага выдання ягонай спадчыны ў 1926—1927 гадах <…> [19, с. 79], што адлюстравалася ў такіх творах, як «Дні вясны», «Песні на руінах». У адным з артыкулаў («Кніга лірыкі як мастацкае цэлае. «Вянок» М. Багдановіча») Я. Пушча адзначыў ролю імпрэсіянізму, які цесна пераплятаецца з сімвалізмам; адначасова ім падкрэсліваецца ў лірыцы паэта выключная роля фарбаў, думак, пачуццяў.

Іван Замоцін у артыкуле «М. А. Багдановіч» («Узвышша», 1927, № 5) выяўляе некаторыя аспекты мыслення паэта ў плане «пейзажнасці», «малюнкавасці» вершаў. Ён падкрэслівае: малюнак прыроды накладваецца на свядомасныя ўяўленні, уражанні пра свет, набытыя ў дзяцінстве. І. Замоцін адзначае схільнасць М. Багдановіча да тыпізацыі [12, с. 148], што характэрна ў першую чаргу для рэалізму.

Крытык выказвае думку аб уплыве народна-фальклорных традыцый і прац па беларусазнаўстве на пейзажную лірыку паэта-імпрэсіяніста, заўважае ягонае памкненне перадаваць змест імпрэсіі праз псіхалагізм як прыём [12, с. 153], што ў пэўнай ступені было новым: роля фальклору ў сімвалісцкай, імпрэсіяністычнай паэзіі не была раскрыта ў поўнай меры на пачатку ХХ стагоддзя.

У артыкуле «Натхненне і Гармонія» З. Бядуля вызначае эстэтыку імпрэсіянізму ў лірыцы М. Багдановіча. Як заўважае А. Бабарэка ў крытычным аглядзе «Максім Багдановіч у літаратурных ацэнках»: «…З. Бядуля вызначае іх [пагляды. — **Т. М.**], як выяўленне, з аднаго боку, як бы культу харашства, а з другога — практычнай дзейнасці поэта-мастака. На падставе гэтага М. Багдановіч і вызначаецца ім, як «адзін з жрацоў харашства» і як «практычны настаўнік поэзіі» [2, с. 147]. Безумоўна, тэорыя «чыстага мастацтва» паўплывала не толькі на беларускага песняра, але і на яго паслядоўнікаў.

У артыкуле «Творчасць Ул. Дубоўкі, як форма нацыянальнай свядомасьці пролетарскага характару» («Узвышша», 1927, № 6) А. Бабарэка аналізуе лірыку Ул. Дубоўкі, паслядоўніка М. Багдановіча, у сацыяльным і навукова-мастацкім планах. А ў «Творчасці Ул. Дубоўкі» А. Бабарэка вылучае гукаўтваральную прыкмету вобразнай сістэмы паэта, а таксама абвяргае індывідуалізм як з’яву ў ягонай імпрэсіяністычна скіраванай творчасці.

Адам Бабарэка — у паспяховай спробе шматбакова прааналізаваць узвышэнскую паэзію (артыкул «Узвышэнская поэзія»: «Узвышша», 1929, № 6) — агучвае ролю меладычна-прасадычнай характарыстыкі слова на прыкладзе твораў Я. Пушчы. А. Бабарэка зазначае, што неабходнасць ужывання кантрастнага вобраза ў літаратуры была абумоўлена грамадска-сацыяльнымі павевамі першай трэці XX ст.

У 1930—1940-я гг. ва ўмовах усталявання адзінага метаду сацрэалізму прымяншаецца значэнне нерэалістычных кірункаў і плыней. За М. Багдановічам замацавалася трактоўка «песняра чыстае красы», які стварыў «мастацтва дзеля мастацтва». А імпрэсіянізм апынуўся па-за кантэкстам літаратуразнаўства на доўгія гады, нават дзесяцігоддзі. Выключэнне, бадай, дысертацыя Р. Жалязняка «Паэзія М. А. Багдановіча» (1941). У гэтым грунтоўным навуковым даследаванні аўтар выказаў думку аб тым, што ўплыў элементаў імпрэсіянізму на М. Багдановіча звязаны з постацямі Верлена і Верхарна (заходнееўрапейская паэзія), а не толькі Фета (руская паэзія) [20, с. 208].

Другі этап у даследаванні імпрэсіяністычнай літаратурнай творчасці ахоплівае перыяд з другой паловы 50-х гг. XX ст. да першай паловы

80-х гг. XX ст. Звяртаюць на сябе ўвагу працы М. Ларчанкі, С. Майхровіча, А. Лойкі, М. Барсток, Р. Бярозкіна, М. Стральцова і інш.

Тыповыя рысы беларускай імпрэсіяністычнай паэзіі з падключэннем іншанацыянальнага кантэксту адзначаюцца пры выяўленні канцэпцыі мыслення, філасофска-эстэтычнага светапогляду М. Багдановіча. У навукова-мастацкай канцэпцыі М. Ларчанкі, сфармуляванай у канцы 1940-х гг., яшчэ не выразна акрэсліваюцца асаблівасці фарміравання імпрэсіяністычнай паэтыкі лірыкі беларускага паэта, аднак вызначаюцца перадумовы яе з’яўлення — настроі, думы і перажыванні, што папярэднічаюць напісанню пейзажных замалёвак (стэнаграма лекцыі «Творчасць Максіма Багдановіча», 1949).

Выклікае цікавасць даследаванне «Максім Багдановіч» С. Майхровіча (1958), з прычыны таго, што «С. Майхровіч ішоў не ад мастацкага свету Багдановіча да сацыяльна-філасофскіх абагульненняў, а хутчэй наадварот — ад агульнай схемы «эстэтыкі Чарнышэўскага» і «тэорыі крытычнага рэалізму», якія просталінейна «накладваліся» на жывое быццё Багдановічавай паэтычнай думкі» [15, с. 56—57]. Гэтыя навуковыя літаратуразнаўчыя працы прадвызначылі шляхі даследавання імпрэсіяністычнай лірыкі — з апорай на рэалізм ці з апорай на мадэрністычныя кірункі — сімвалізм, экспрэсіянізм і інш. У кнізе «Максім Багдановіч і народная паэзія» (1963) М. Грынчык робіць акцэнт на народна-песенным пачатку ў пейзажнай лірыцы беларускага паэта [10, с. 55].

У кнізе «Максім Багдановіч» А. Лойкі (1966) вызначаецца ступень паяднанасці вобразаў — прыроды і асобы, а менавіта гэта дае магчымасць казаць пра тое, што ўплывае на афармленне «пейзажу душы». У даследаванні «Беларуская паэзія пачатку XX ст.: некаторыя заканамернасці і асаблівасці» (1972) ён дае разгорнутую характарыстыку беларускай лірыкі таго часу, вызначае шматпланавасць у музычнай пабудове вершаваных структур: «Музыка поўніць сабой у Багдановіча і паэзію думкі, і жывапісу і нямую «знешнюю красу» барэльефнага вобраза, архітэктурных канструкцый і інш.» [18, с. 176].

«Загадка Багдановіча» М. Стральцова (1969) — унікальнае навукова-папулярнае выданне, якое характарызуецца скрупулёзнасцю ў даследаванні жыцця і творчасці паэта. М. Стральцоў выказвае думку пра сінкрэтызм ягонага мастацтва, і, падкрэсліваючы здольнасць чалавека сузіраць навакольны свет, акцэнтуючы ўвагу на эстэтычным аспекце — тым, што і дазваляе быць «вылучаным» з прыроды [27, с. 72].

Кніга «Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў» С. Карабана (1970) адметная тым, што ў ёй раскрываецца ўспрыманне М. Багдановіча — паэта, літаратуразнаўцы, нацыянальнага творцы. Аўтар, у прыватнасці, падкрэслівае: «…група даследчыкаў бачыла ў М. Багдановічу тыповага імпрэсія-

ніста, стылізатара беларускага верша, сентыменталіста, аб'яднальніка класічнага і рамантычнага стыляў» [14, с. 79—80].

Першаступенныя і другарадныя ўмовы фарміравання асобы-імпрэсіяніста на прыкладзе М. Багдановіча раскрываюцца ў кнізе «Звенні: творчая індывідуальнасць і ўзаемадзеянне літаратур» (1976) Р. Бярозкіна. Аўтар вызначае сутнасць імпрэсіянізму: «Прыроду Багдановічавых святла і колеру не вытлумачыш ніякімі спасылкамі на «імпрэсіянізм» паэта ці на ягоную спробу «паспытаць хвілёва мастацтва для мастацтва». Гэтыя святло і колер таксама ў ланцугу, у плыні; яны — душою і розумам заспеты момант руху, доказ і знак асвоенага чалавекам у свеце < …>» [5, с. 66].

Паняцці «гук» і «вобраз» утвараюць падмурак у даследаванні «Паэзія Максіма Багдановіча: дыялектыка рацыянальнага і эмацыянальнага» (1978) А. Кабаковіч. Семіятычна-структуралісцкі падыход даследчыцы звязаны з псіхалогіяй успрымання тэксту: «І ўсё ж не толькі віртуознае майстэрства гукавой арганізацыі, але і разуменне «выключнасці» паэтычнага слыху заявіла аб сабе не ў адным вершы паэта < …>» [13, с. 82].

Уменне вылучыць у вобразе дэталі-«падрабязнасці» праз метафарычную, насычаную яркімі асацыяцыямі мову вызначае творчасць М. Багдановіча, У. Дубоўкі і інш. А з прычыны таго, што сімвал вызначаецца як тыповае ў індывідуальным [4, с. 401], і сінтэтычны вобраз у імпрэсіянізме характарызуецца многакампанентнасцю і рэфлексійнасцю, можна зрабіць выснову: мастацкая характарыстыка (партрэт, пейзаж) перадае змены ў духоўным свеце лірычнага героя, спрыяе фарміраванню характару ў творы. У імпрэсіяністаў паняцце «прыгажосці» адцягненае ад рэальна вытлумачанага паняцця.

Трэці этап, які сведчыць аб развіцці імпрэсіяністычнай лірыкі праз паняцце «паскоранасць», распачынаецца ў другой палове 80-х гг. XX ст. і працягваецца да нашых дзён. З'яўляецца шмат даследаванняў міждысцыплінарнага характару (працы Э. Нікалаевай, В. Івашына і інш.).

У артыкуле «Імпрэсіяністычны пейзаж у паэзіі Поля Верлена» (1986) С. Логіша аналізуюцца групы вершаў у суаднесенасці з іх прыналежнасцю да пэўнага віду пейзажных замалёвак. Аўтар вылучае тры віды іх: аб'ектыўную, набліжаную да суб'ектыўна-аб'ектыўнай і «пейзаж душы» [17, с. 29—30]. Ён разглядае вершы П. Верлена праз прызму ўражанняў ад убачанага, пачутага, перажытага. Як слушна адзначае С. Логіш, слова ў імпрэсіяністычным творы не толькі называе прадмет, не толькі выконвае намінатыўную функцыю, але і перадае адчуванні, выкліканыя гэтым прадметам [17, с. 30].

У артыкуле «Музыка перш за ўсё: да пытання ўзаемадзеяння музыкі і літаратуры на прыкладзе творчасці Максіма Багдановіча» (1986) Э. Нікалаевай прадстаўлена канцэпцыя музычнай структуры паэтычнай мовы, якая прадвызначала развіццё імпрэсіяністычных магчымасцей беларускай паэзіі. Аўтар аналізуе музычна-вобразны лад лірыкі, гукавы (фанемна-семантычны ўзровень), інтанацыйна-сінтаксічны, структурна-кампазіцыйны ўзроўні і, у дадатак, узровень музычна-жанравых аналогій. Лірыка М. Багдановіча разглядаецца з пункту гледжання сінтэтычнай прыроды паэзіі і музыкі.

У «Космасе «Вянка» (1991) Т. Чабан аналізуе лірыку М. Багдановіча ў суцэльным, гарманічным аспекце «сімвалізм—імпрэсіянізм—неакласіцызм». Выключна важнае значэнне надаецца эпосе Адраджэння, якая праз спадчыну класічных, антычных твораў істотным чынам паўплывала на яго. Роля імпрэсіянізму, на думку Т. Чабан, не такая і значная ў цыкле вершаў «Старая Беларусь»: «Мне здаецца, даследчык [М. Піятуховіч. — **Т. М.**] трохі перабольшвае тут імпрэсіянізм паэта. Так, М. Багдановіч не стварае шырокага эпічнага палатна старой Беларусі, але кантэкст узаемадзеяння вершаў, іх пераклічка і ўзаемапранікненне ўтвараюць дынамічнае адзінства, унутраны сюжэт» [31, с. 203].

Уладзімір Конан працягвае навукова-даследчую лінію ў выяўленні эстэтычнай спецыфікі лірыкі песняра ў кнізе «Святло паэзіі і цені жыцця: лірыка Максіма

Багдановіча» (1991) і вызначае прыкметы імпрэсіяністычнага светаадчування яго, раскрывае феномен ягонай лірычнай творчасці ў агульнаеўрапейскім кантэксце. Ён характарызуе талент М. Багдановіча як «моцартаўскі». Ю. Пацюпа ў артыкуле «Багдановічазнаўства» падкрэслівае: «У. Конан зрабіў паслядоўнае імпрэсіяністычна-герменеўтычнае апісанне паэтычных цыклаў — ад ранніх міфалагічных і пейзажных да позніх філасофскіх і сацыяльных. Ён падкрэсліваў у паэзіі Багдановіча сінтэз музычнага і малярскага пачаткаў <…>» [25, с. 84].

Нездарма ж І. Навуменка, звяртаючыся да тэмы імпрэсіянізму ў даследаванні «Змітрок Бядуля» (1995), заўважае тое, што «імпрэсіянізм найбольш узбагаціў выяўленчае мастацтва (пераважна жывапіс), музыку і тут ягоная наватарская, прагрэсіўная роля не адмаўляецца» [22, с. 22—23]. Імпрэсіянізм не звяртаецца да мастацтва як да самамэты, бо ў ім няма месца рацыяналістычна-практычнаму сэнсу, з якога вынікае прагматызм…

У артыкуле «Пейзаж у сістэме мастацкіх сродкаў беларускай паэзіі» (1996) А. Бельскага паказваецца значэнне пейзажнай палітры і гукапісу: «Разам з тым пейзажная палітра — тропы, святло, гукапіс, пахі, дзеясловы руху і часу і да т. п. — з'яўляецца важным паказчыкам выяўленчай эстэтыкі слова, экспрэсіі стылю» [3, с. 27]. Прыродныя вобразы (у тым ліку колеравыя, гукавыя) выступаюць як своеасаблівыя знакі-інфарматары, — сцвярджае даследчык.

У даследаванні В. Івашына «У кантэксце мастацкіх культур» (1998) праблема традыцый і наватарства звязваецца з імпрэсіянізмам як кірункам беларускай літаратуры і, у прыватнасці, аналізуецца паэзія Багдановіча-імпрэсіяніста. В. Івашын вылучае ўласна эстэтычны пачатак у творчасці М. Багдановіча.

Стылёвую традыцыю імпрэсіяністычнай паэзіі даследуе Я. Гарадніцкі. Імажыніска-імпрэсіяністычная прырода верша грунтоўна аналізуецца ім у артыкуле «Малюнкі і спевы» рэвалюцыйнага часу: разуменне вобразнасці ў літаратурна-крытычных працах Язэпа Пушчы» (2002). Даследчык падкрэслівае: «Ідэя і мастацкая практыка ўзвышэнства ёсць спроба сінтэзу нацыянальнай традыцыі (архетып *жывой вады* — сімвал уваскрэсення, або адраджэння да новага жыцця) і еўрапейскага наватарства пачатку XX ст. (набыткі сімвалізму, імпрэсіянізму, імажынізму, футурызму)» [6, с. 105].

Імпрэсіяністычная скіраванасць творчасці М. Багдановіча разглядаецца І. Багдановіч у артыкуле «Бемолі» Багдановіча» («Крыніца», 1999, № 6). На ягоным прыкладзе асэнсоўваецца прырода музычнага таленту ў паэзіі. У артыкуле «Язэп Пушча: беларуская авангардная паэзія 1920-х гадоў» (2002) І. Багдановіч асэнсоўвае авангардысцкую лінію яго лірыкі ў святле бабарэкаўскага маладнякізму і ўзвышаўскага аквітызму.

Выключная роля імпрэсіянізму падкрэсліваецца ў кнізе «Апалогія красы» (2003) Л. Тарасюк. Яна вызначае ўмовы фарміравання імпрэсіяніецкай эстэтыкі актуалізуе значэнне структуры вершаваных твораў названых аўтараў праз прызму фарбаў, гукаў, настрояў.

Таццяна Студзенка звяртаецца да ідэй імпрэсіянізму ў кнізе «Эстэтыка імпрэсіянізму ў творчасці Э. Заля» (2004). Яна вызначае не толькі спецыфічныя прыкметы, характэрныя для творчасці французскага аўтара, але і раскрывае эфект многіх з'яў у літаратуры — уключэнне дэтальнай экспазіцыі фона сюжэтнага дзеяння ў тэкст [28, с. 57], імпрэсіяністычны прыём кадрыравання (пейзажная замалёўка як «кадр»-акно для назірання за падзеямі) [28, с. 58], стварэнне прасторавага аб'ёма выявы [28, с. 59], узаемасувязь руху і святла [28, с. 65], зрокавая суаднесенасць аблічча героя з яго акружэннем, пейзажным ці прадметным [28, с. 70], кантраст як элемент мастацкай структуры [28, с. 75].

Яўген Гарадніцкі ў манаграфіі «Мастацкі свет беларускай літаратуры XX стагоддзя» (2005) заўважае, гаворачы пра музычнасць паэзіі пачатку XX ст.: «У прыватнасці, часта ўжываецца ім [Я. Пушчам. — **Т. М.**] паняцце (а ў нейкай ступені і метафара) *песня*. Паказальна, што нават творы такога «вобразнага», «жывапісальнага» паэта, як Багдановіч, Я. Пушча называе песнямі» [7, с. 101]. Гук і слова

ў сінтэзе спрыяюць раскрыццю імпрэсіяністычнага настрою лірычнага героя. А песня ў агульнаўжывальным плане тлумачыцца як «форма слоўна-музычнага мастацтва; найбольш пашыраны род вакальнай музыкі, які аб'ядноўвае паэтычны і музычны тэкст у адзіны песенны вобраз» [23, с. 328].

У артыкуле «Імпрэсіяністычныя тэндэнцыі ў малой прозе Марыі Канапніцкай і Алаізы Пашкевіч (Цёткі)» (2010) А. Паўловіч разглядае абразкі беларускай і польскай пісьменніц у імпрэсіяністычным ракурсе і вызначае тыпалагічнае падабенства іх твораў. Ён падкрэслівае актуальнасць музычнасці, меладычнасці ў змесце вобразаў, перадае імпрэсіянісцкае светаадчуванне дзякуючы паняццям «уражанне», «плынь свядомасці», «настрой». Пры ўпамінанні пра польскі імпрэсіянізм аўтар артыкула адзначае: «тэрмін «імпрэсіянізм» з'явіўся ў польскай літаратуры ў 1890-я гг. у выступленнях крытыкаў А. Лангэ, П. Хмялеўскага, С. Тарноўскага для азначэння характэрнага для «Маладой Польшчы» тыпу паэтыкі ў прозе, драме і асабліва паэзіі» [24, с. 31]. Сапраўды, у імпрэсіяністычных творах беларускай паэзіі першай трэці XX ст. магчыма правесці паралель упоравень з польскай літаратурай канца XIX — пачатку XX ст. Для беларускай паэзіі і прозы таго ж перыяду характэрныя ўласцівасці, што датычацца польскай літаратуры, але ў значна меншай ступені: беларускі імпрэсіянізм больш канкрэтна-выяўленчы.

Разгледжаныя даследаванні, іх аналіз у тэарэтыка-гістарычным і эстэтычных аспектах дазваляюць зрабіць наступныя высновы. Імпрэсіянізм — як канцэпцыя мыслення, мастацкі кірунак і эстэтычная з'ява — пашырыў вобразна-выяўленчыя магчымасці слова, сцвердзіў гуманістычную скіраванасць у адносінах да асобы, адкрыў новыя гарызонты ў разуменні сутнасці пейзажу. Эскізнасць і фрагментарнасць, якія прыпісваліся імпрэсіянізму ў якасці «мастацкіх хібаў», спрыялі павышэнню ўвагі да прадмета і адчуванняў пры яго сузіранні. Сапраўдным адкрыццём у літаратурным імпрэсіянізме сталі выяўленне ўнутранага свету героя ў судакрананні з жыццём, пейзажнай канкрэтыкай і праз кантраснае раскрыццё з'яў і рэалій, тонкую перадачу трапяткога, дынамічнага настрою і пэўнай танальнасці твора.

## Спіс літаратуры

1. Андреев, Л. Г. Импрессионизм / Л. Г. Андреев. — М.: Изд-во МГУ, 1980. — 250 с.

2. Бабарэка, А. Максім Багдановіч у літаратурных ацэнках / А. Бабарэка // Узвышша. — 1927. — № 2. — С. 131—156.

3. Бельскі, А. І. Пейзаж у сістэме мастацкіх сродкаў беларускай паэзіі / А. І. Бельскі // Пісьменнік—мова—стыль / рэдкал.: М. Р. Прыгодзіч (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 1996. — С. 26—29.

4. Борев, Ю. Б. Эстетика. Теория литературы: энциклопедический словарь терминов / Ю. Б. Борев. — М.: ООО Изд-во «Астрель»: ООО Изд-во «АСТ», 2003. — 575 с.

5. Бярозкін, Р. Звенні: творчая індывідуальнасць і ўзаемадзеянне літаратур: нарысы / Р. Бярозкін. — Мінск: Маст. літ., 1976. — 382 с.

6. Гарадніцкі, Я. «Малюнкі і спевы» рэвалюцыйнага часу: разуменне вобразнасці ў літаратурна-крытычных працах Язэпа Пушчы / Я. А. Гарадніцкі // Пра час «Узвышша»: матэрыялы навук. канф., узвышаўскіх чытанняў (Мінск, 1999—2002). — Мінск: БелНДІДАС, 2002. — С. 107—118.

7. Гарадніцкі, Я. А. Мастацкі свет беларускай літаратуры XX стагоддзя / Я. А. Гарадніцкі; навук. рэд. У. В. Гніламёдаў. — Мінск: Бел. навука, 2005. — 206 с.

8. Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры / уклад. і падрыхт. тэксту Т. С. Голуб. — Мінск: Маст. літ., 1992. — 479 с.

9. Гніламёдаў, Ул. 20-я гады, Язэп Пушча і інш. / Ул. Гніламёдаў // Пра час «Узвышша»: матэрыялы навук. канф., узвышаўскіх чытанняў (Мінск, 1999—2002). — Мінск: БелНДІДАС, 2002. — С. 86—90.

10. Грынчык, М. Максім Багдановіч і народная паэзія / М. Грынчык. — Мінск: Белдзяржвыд., 1963. — 211 с.

11. Евнина, Е. Проблема литературного импрессионизма и различные тенденции его развития во французской прозе конца XIX и начала XX века / Е. Евнина // Чегодаев, А. Д. Импрессионисты, их современники, их соратники / А. Д. Чегодаев. — М.: Искусство, 1975. — С. 254—286.

12. Замоцін, І. М. А. Багдановіч / І. Замоцін // Узвышша. — 1927. — № 5. — С. 147—157.

13. Кабаковіч, А. К. Паэзія Максіма Багдановіча: дыялектыка рацыянальнага і эмацыянальнага / А. К. Кабаковіч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1978. — 136 с.

14. Карабан, С. І. Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў / С. І. Карабан. — Мінск: Выд-ва БДУ, 1970. — 200 с.

15. Конан, У. Святло паэзіі і цені жыцця: лірыка Максіма Багдановіча / У. Конан. — Мінск: Маст. літ., 1991. — 208 с.

16. Кулиева, Р. Г. Реализм А. П. Чехова и проблема импрессионизма / Р. Г. Кулиева. — Баку: Элм, 1988. — 188 с.

19. Куртаніч, В. Пясняр шыпшынавай краіны / В. Куртаніч // Крыніца. — 1997. — № 8. — С. 34—36.

17. Логиш, С. В. Импрессионистический пейзаж в поэзии Поля Верлена / С. В. Логиш // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 4, Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. — 1986. — № 1. — С. 29—31.

18. Лойка, А. А. Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя: некаторыя заканамернасці і асаблівасці / А. А. Лойка. — Мінск: Выд-ва БДУ, 1972. — 240 с.

19. Мазанік, Л. Вяртанне паэта. Да 90-годдзя з дня нараджэння Язэпа Пушчы / Л. Мазанік // Шляхам гадоў: гіст.-літ. зб. / уклад. У. Мархель. — Мінск: Маст. літ., 1991. — С. 72—100.

20. Максім Багдановіч: вядомы і невядомы: зб. літаратуразн. і арх. матэрыялаў / уклад. і камент. Ц. В. Чарнякевіча; прадм. і гласарый Ю. В. Пацюпы. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 392 с.

21. Навіна, А. Галоўныя кірункі ў беларускай паэзіі / А. Навіна. — Вільня, 1933. — 20 с.

22. Навуменка, І. Я. Змітрок Бядуля / І. Я. Навуменка. — Мінск: Навука і тэхніка, 1995. — 144 с.

23. Нікалаева, Э. А. Песня / Э. А. Нікалаева // Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. Т. 12: Палікрат—Праметэй / рэдкал.: Г. П. Пашкоў [і інш.]. — Мінск: БелЭн, 2001. — С. 328.

24. Паўловіч, А. Імпрэсіяністычныя тэндэнцыі ў малой прозе Марыі Канапніцкай і Алаізы Пашкевіч (Цёткі) / А. Паўловіч // Роднае слова. — 2010. — № 10. — С. 30—32.

25. Пацюпа, Ю. В. Багдановічазнаўства / Ю. В. Пацюпа // Максім Багдановіч: энцыклапедыя / склад. І. У. Саламевіч, М. В. Трус; рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. — С. 79—87.

26. Піятуховіч, М. Максім Багдановіч як поэта-імпрэсіяністы / М. Піятуховіч // Полымя. — 1923. — № 7—8. — С. 92—99.

27. Стральцоў, М. Загадка Багдановіча / М. Стральцоў. — Мінск: Беларусь, 1968. — 120 с.

28. Студенко, Т. С. Эстетика импрессионизма в творчестве Э. Золя / Т. С. Студенко. — Минск: БГУ, 2004. — 82 с.

29. Сяліцкі, А. Л. Дынаміка стылю ў беларускім мастацтве канца XIX—пачатку XX ст. / Весці БДПУ. Сер. 2, Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Культуралогія. — 2007. — № 3 (53). — С. 96—98.

30. Усенко, Л. В. Импрессионизм в русской прозе начала XX века / Л. В. Усенко. — Ростов н/Д.: Изд-во Рост. ун-та, 1988. — 237 с.

31. Чабан, Т. Космас «Вянка» / Т. Чабан // Полымя. — 1991. — № 12. — С. 193—212.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 23 сакавіка 2012 года.

## Таццяна Мацюхіна
## «Даследаванне імпрэсіянізму ў літаратуразнаўстве XX — пачатку XXI ст.: тэарэтычны і гістарычны аспекты»

### Рэзюмэ

У артыкуле разглядаюцца тэарэтычны і гістарычны аспекты даследавання імпрэсіянізму ў беларускім літаратуразнаўстве, прасочваецца эвалюцыя навуковай думкі ў асэнсаванні імпрэсіяністычнага мастацтва слова, паказваецца, як складваўся і мяняўся погляд на імпрэсіянізм у кантэксце жывапісу, музыкі, тэорыі і гісторыі літаратуры, эстэтыкі. Вылучаюцца асноўныя этапы вывучэння літаратурнага імпрэсіянізму, вызначаюцца яго асноўныя рысы і прыкметы паводле літаратуразнаўчых крыніц і канцэпцый.

## Tatsiana Matsiukhina
## «The Study of Impressionism in Literary Criticism of the XX — early XXI century: Theoretical and Historical Aspects»

### Summary

The article deals with theoretical and historical aspects of research in the Belarusian literary Impressionism, traces the evolution of the scientific thought in the Impressionistic writing perseption, shows the formation and changes in Impressionism in the context of painting, music, theory and history of literature and aesthetics. The author highlights the milestones in the study of literary Impressionism, defines its main features and characteristics by means of literary sources and concepts.



**Ергалі БУЛЕГЕНАЎ,**
**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь**

# НОВЫЯ ГАРЫЗОНТЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА



***У** маі бягучага года адбыўся афіцыйны візіт у нашу краіну Прэзідэнта Рэспублікі Казахстан Нурсултана Назарбаева, які яскрава засведчыў — эканамічнаму і культурнаму супрацоўніцтву доўжыцца і крэпнуць не толькі ў межах агульнай мытнай прасторы, аднак і ў перспектыўным стварэнні Еўразійскага Саюза. Неўзабаве пасля візіту кіраўніка Казахстана ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце — асноўнай кузні кадраў новай эканомікі Беларусі — быў адкрыты Цэнтр казахскай мовы, гісторыі і культуры імя Абая Кунанбаева. Ва ўрачыстасці прыняў удзел і выступіў з прамовай перад студэнцкай і выкладчыцкай аўдыторыяй Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Ергалі БУЛЕГЕНАЎ. Прапануем увазе чытачоў пранікнёнае слова дыпламата, прыўрочыўшы яго да 20-ці годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж нашымі братнімі краінамі, якое адзначаецца ў гэтым месяцы.***

**Рэдакцыя часопіса «Полымя»**

Я рады вітаць усіх прысутных і найперш хацеў бы падзякаваць кіраўніцтву ўніверсітэта і арганізатарам сустрэчы за выдатную магчымасць выступіць перад аўдыторыяй аўтарытэтнай ВНУ Рэспублікі Беларусь.

Ваш універсітэт мае багатую гісторыю і добрыя традыцыі. БНТУ — адна з галоўных ВНУ рэспублікі, асноўная «кузня» ў справе падрыхтоўкі інжынерна-тэхнічных кадраў. Выпускнікі вашага ўніверсітэта працуюць практычна ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, дзяржаўнага кіравання і ў навуковых установах краіны.

Пра вялікі аўтарытэт навуковай установы сведчыць і той факт, што яна з'яўляецца базавай арганізацыяй дзяржаў-удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў у галіне вышэйшай тэхнічнай адукацыі (*рашэнне Савета кіраўнікоў урадаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў ад 25.11.2005).*

У Казахстане вас ведаюць і паважаюць як перадавы навуковы і даследчы цэнтр, вядомы дзякуючы сваім традыцыям і магутнаму прафесарска-выкладчыцкаму складу.

У значнай ступені дзякуючы выпускнікам вашай ВНУ сёння паспяхова развіваюцца такія флагманы прамысловасці Беларусі, як МТЗ, МАЗ, БелАЗ, Атлант і шмат якія іншыя. У Казахстане вядома і выкарыстоўваецца прадукцыя гэтых заводаў, і супрацоўніцтва з гэтымі прадпрыемствамі складае значную частку тавараабароту паміж нашымі краінамі.

БНТУ — гэта не толькі найбуйнейшы вучэбны і навуковы цэнтр рэспублікі, але і міжнародны культурна-выхаваўчы. Сённяшняе адкрыццё Цэнтра казахскай мовы, гісторыі і культуры імя Абая Кунанбаева зробіцца яшчэ адным звяном, якое яднае нашы краіны.

Як вы ведаеце, у маі гэтага года Прэзідэнт Рэспублікі Казахстан Нурсултан Абішавіч Назарбаеў наведаў Мінск з афіцыйным візітам. Карыстаючыся нагодай, хацеў бы коратка праінфармаваць вас аб асноўных выніках гэтага візіту.

Падчас перамоў абмяркоўваліся бягучы стан і перспектывы казахстанска-беларускага супрацоўніцтва ў палітычнай, гандлёва-эканамічнай і культурна-гуманітарнай сферах, адбыўся абмен думкамі па шырокім спектры міжнародных праблем.

Кіраўнікі дзяржаў падкрэслілі, што казахстанска-беларускія адносіны развіваюцца ў традыцыйнай атмасферы ўзаемаразумення і даверу. Прэзідэнты адзначылі, што паміж нашымі краінамі няма ніякіх праблемных пытанняў, і мы з'яўляемся важнымі палітычнымі і эканамічнымі партнёрамі.

Пазіцыі абедзвюх дзяржаў па большасці праблем рэгіянальнай і міжнароднай палітыкі супадаюць і ўмацоўваюцца ў рамках міжнародных арганізацый, у тым ліку пры выпрацоўцы пазіцыі па актуальных міжнародных праблемах.

Прэзідэнт Рэспублікі Казахстан Нурсултан Абішавіч Назарбаеў асабліва падкрэсліў, што, нягледзячы на тое, што асновай нашага двухбаковага супрацоўніцтва з'яўляецца гандлёва-эканамічнае ўзаемадзеянне, неабходна і надалей надаваць асаблівую ўвагу развіццю культурна-гуманітарнага супрацоўніцтва.

Рэалізацыя запланаваных праектаў у галіне адукацыі і навукі паміж нашымі ВНУ ў справе падрыхтоўкі кадраў сярэдняга спецыяльнага звяна, у сферы прафесійна-тэхнічнай падрыхтоўкі будзе вельмі карыснай і выгаднай як для нас, так і для вас.

Гэты візіт, я ў гэтым цалкам перакананы, надасць новы імпульс казахстанска-беларускаму супрацоўніцтву па ўсім спектры ўзаемаадносін.

Дарагія студэнты! Звяртаючыся да вас, хацеў бы падкрэсліць, што ад вашай стараннасці і імкнення да самаўдасканалення непасрэдна залежыць будучыня краіны. Сёння важна глядзець на адукацыйныя працэсы як мага шырэй. Кожнаму чалавеку трэба прывіць **уменне працаваць, уменне вучыцца, уменне жыць, уменне жыць разам у сучасным свеце.** Гэта «чатыры стаўпы адукацыі», сфармуляваныя ЮНЕСКА.

Свет знаходзіцца на парозе новай тэхналагічнай рэвалюцыі. Таму першаступенная задача сучаснай сістэмы адукацыі — гэта падрыхтоўка людзей, якія маюць крытычнае мысленне і здатныя арыентавацца ў інфармацыйных патоках.

Ключавым фактарам канкурэнтаздольнасці нацыі ў сучасным свеце з'яўляецца яе інтэлектуальны патэнцыял. Таму ў нашых краінах надаецца выключна важнае значэнне сістэмнай падрыхтоўцы кваліфікаваных кадраў.

Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці пачатку 90-х гадоў, з якімі сутыкнуліся ўсе краіны былога Савецкага Саюза, у Казахстане ўжо з першых дзён незалежнасці была ўведзена спецыяльная праграма «Болашак» (будучае). У рамках праграмы ў найлепшых універсітэтах свету ўжо атрымалі і атрымліваюць адукацыю тысячы таленавітых казахстанцаў. Сёння яны займаюць галоўныя пазіцыі ў дзяржаўных органах і нацыянальных кампаніях.

З мэтай рэалізацыі нацыянальнай праграмы ў галіне сярэдняй і вышэйшай адукацыі ў Казахстане створаны эталонныя навучальныя ўстановы.

Гэта — інтэлектуальныя школы, новы міжнародны Назарбаеў-універсітэт. Іх станоўчы вопыт і інавацыі будуць надалей распаўсюджвацца на ўсю сістэму адукацыі Казахстана. У прыватнасці, наш міжнародны Назарбаеў-універсітэт у Астане сумесна з вядомымі замежнымі ўніверсітэтамі сусветнага ўзроўню ўжо рыхтуе спецыялістаў у галіне інжынерных, прыродазнаўчанавуковых, медыцынскіх і бізнес спецыяльнасцей.

Кадры — гэта аснова, фундамент для вырашэння найскладанейшых пытанняў, якія вызначаюць развіццё сусветнай цывілізацыі.

Пачатак другога тысячагоддзя характарызуецца маштабным узрушэннем сусветнай эканомікі, насуперак надзеям на паляпшэне сусветнага парадку, ён насычаны пагрозамі і выклікамі.

Сучаснае развіццё сусветнага парадку падзяліла краіны на міжрэгіянальныя і міжкантынентальныя блокі, саюзы і гэта, відаць, лагічна для новага глабальнага свету, які развіваецца. На прыкладзе шэрагу краін Еўрапейскага Саюза мы бачым, што ў адзіночку выбрацца з кругавароту крызісу — надзвычай складаная і часам невырашальная задача.

Хачу падкрэсліць, што Казахстан вытрываў удар сусветнага фінансава-эканамічнага крызісу шмат у чым дзякуючы разумнай эканамічнай палітыцы кіраўніцтва краіны і ўласным рэсурсам. Крызіс паўплываў на тэмпы развіцця эканомікі, але не спыніў развіццё. Назапашаны эканамічны патэнцыял забяспечыў Казахстану ўстойлівасць у найскладанейшых варунках апошніх гадоў.

Разам з тым Казахстан заўсёды быў прыхільнікам еўразійскай інтэграцыі.

Як вядома, 18 гадоў таму — у сакавіку 1994 года — у Маскоўскім дзяржаўным універсітэце імя М. В. Ламаносава Прэзідэнт Казахстана выступіў з ініцыятывай стварэння Еўразійскага Саюза. Ён наўмысна агучыў яе перад навуковай інтэлігенцыяй, якая ў адрозненне ад палітыкаў заўсёды больш успрымальная да новых ідэй і прапаноў. Толькі з цягам часу кіраўнікі іншых краін выказалі згоду далучыцца да практычнай рэалізацыі еўразійскай ініцыятывы, якая на даным этапе ўжо аформлена ў выглядзе Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы Казахстана, Беларусі і Расіі. Наперадзе чакае вялікая і напружаная праца па стварэнні да 2015 года Еўразійскага эканамічнага саюза.

Сёння, калі ўсе краіны шукаюць шляхі супрацьдзеяння сусветнаму крызісу, калі ўсё больш складана ў адзіночку пераадолець эканамічныя праблемы, лёс чарговы раз дэманструе актуальнасць канцэпцыі еўразійскай інтэграцыі. Толькі разам можна забяспечыць устойлівае эканамічнае развіццё нашых дзяржаў.

Трэба вырашыць вялікую колькасць маштабных задач, каб стварыць эканамічна магутны, стабільны і выгадны ўсім Еўразійскі эканамічны саюз — моцнае звяно, што злучае еўраатлантычны і азіяцкі рэгіёны развіцця.

Сёння рэалізуецца праект міжнароднага транспартнага аўтамабільнага калідора «Заходняя Еўропа — Заходні Кітай», у ажыццяўленні якога можа ўзяць удзел і беларускі бок. З часам уздоўж гэтага маршруту мае ўтварыцца сучасная транспартналагістычная сістэма, якая забяспечыць скарачэнне тэрмінаў паставак тавараў на еўрапейскі і кітайскі рынкі больш чым у 3,5 разы. Безумоўна, перспектыўным бачыцца стварэнне ў будучым трансеўразійскай хуткаснай чыгункі.

Усё гэта дазваляе Казахстану і Беларусі зрабіцца мостам, які злучае дынамічныя эканомікі Еўрасаюза, Усходняй, Паўднёва-Усходняй і Паўднёвай Азіі, пра што гаварылі нашы прэзідэнты.

Мы ў Казахстане рыхтуемся да магутнага прарыву ў будучыню на аснове тэхналагічнай мадэрнізацыі нашай эканомікі і ўсяго грамадства. Прарывы — і ў палітыцы, і ў бізнесе — патрабуюць і новых кадраў, і сур’ёзных інвестыцый у чалавечы патэнцыял.

Таму сёння асабліва важная сумесная падрыхтоўка і абмен спецыялістамі. Неабходна забяспечыць узаемапранікненне сістэм адукацыі, даследчай і інавацыйнай дзейнасці, якая вядзецца ў нашых краінах. Усё гэта — вялікае поле для развіцця казахстанска-беларускага супрацоўніцтва ў рамках новага аб’яднання.

Менавіта вам, маладому пакаленню, давядзецца і надалей фарміраваць грамадскія каштоўнасці, умацоўваць давер паміж народамі нашых краін, працаваць у імя бяспечнай і шчаслівай будучыні Еўразійскага эканамічнага саюза.

Еўразійская асацыяцыя ўніверсітэтаў, Еўразійскі клуб навукоўцаў, Міжнародны Цэнтр высокіх тэхналогій, створаныя па ініцыятыве Прэзідэнта Казахстана Нурсултана Абішавіча Назарбаева, пашыраюць далягляды інтэграцыі адукацыйнай і навуковай прасторы.

Другімі словамі, адбываецца працэс вертыкальнай інтэграцыі, які ахоплівае ўсю глыбіню жыцця нашых грамадстваў.

Мы ўсе з’яўляемся сведкамі нараджэння новай унікальнай еўразійскай супольнасці нацый, якая мае не толькі багаты вопыт сумеснага мінулага, але і непадзельную агульную гісторыю будучага.

Сёлета нашы краіны адзначаюць знамянальную дату — 20-годдзе з дня ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Казахстан і Рэспублікай Беларусь.

Менавіта з моманту набыцця незалежнасці нашымі краінамі развіццё паўнавартаснага двухбаковага супрацоўніцтва паміж Казахстанам і Беларуссю атрымала якасна новы сэнс.

Мінулыя гады займаюць асаблівае месца ў гісторыі нашых краін. Гэта былі гады пошукаў і здзяйсненняў. Безумоўна, яны былі цяжкімі і, бадай што, вырашальнымі ў найноўшай гісторыі Казахстана і Беларусі. Эканамічныя перадумовы таго часу не пакідалі шырокай прасторы для дзеяння, але Казахстан і Беларусь хацелі па-сапраўднаму вялікіх перамен і гэтага дамагліся.

На працягу ўсіх гэтых гадоў казахстанска-беларускія адносіны развіваліся ўстойліва і дынамічна, паслядоўна вырашаліся важныя пытанні ў эканамічнай, палітычнай, гуманітарнай, ваенна-тэхнічнай і іншых сферах. Паміж нашымі краінамі склаліся партнёрскія адносіны, для якіх у поўнай меры характэрны стабільнасць, узаемны давер і шчырасць.

З моманту ўстанаўлення дыпламатычных адносін дагаворна-прававая база казахстанска-беларускага супрацоўніцтва налічвае больш за 80 дамоў і пагадненняў у розных галінах.

Для казахстанска-беларускіх стасункаў характэрным з’яўляецца тое, што ў аснову нашых узаемаадносін закладзена гістарычная блізкасць і агульнае мінулае нашых народаў. Многа казахстанцаў загінула ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў баях за Беларусь. Дзясяткі тысяч беларусаў удзельнічалі ў асваенні цалінных земляў у Казахстане і для многіх з іх Казахстан зрабіўся другой Радзімай. Сёння каля 100 тысяч беларусаў, з’яўляючыся ўжо казахстанцамі, уносяць свой уклад у будаўніцтва і развіццё новай дзяржавы. Важна, што і сёння мы захоўваем спадчыну, якая стварылася ў тыя далёкія гады.

Найважнейшы складнік супрацоўніцтва паміж Казахстанам і Беларуссю — эканамічныя адносіны, якія характарызуюцца стабільнай структурай і станоўчай дынамікай. Аб’ём узаемнага тавараабароту па выніках 2011 года склаў 726,9 млн. дол. ЗША. Разам з тым, за 1 квартал 2012 года мы назіраем станоўчую дынаміку тавараабароту, што адпаведна дазваляе гаварыць пра яго ўстойлівы рост у бягучым годзе, з выхадам у перспектыве на лічбу ў 1 млрд. дол. ЗША і больш.

У 2010 годзе казахстанцы пачалі рэалізацыю Стратэгічнага плана развіцця краіны да 2020 года і Праграмы індустрыяльна-інавацыйнага развіцця Казахстана. Распрацавана Карта індустрыялізацыі краіны, у якой акрэслены грандыёзныя задачы ў сферы тэхналагічнага пераўзбраення эканомікі, пераводу яе на інавацыйны шлях развіцця, стварэння якасна новай вытворчасці, навуковых цэнтраў, паляпшэнню якасці чалавечага патэнцыялу.

Прыемна, што ў гэтых праграмах удзельнічае і беларускі капітал. Гаворка ідзе пра вытворчасць дызельных рухавікоў, трактароў, камбайнаў, агрэгатаў кар’ернай і шахтнай тэхнікі і шмат іншае.

У сувязі з гэтым беларускім навукоўцам даецца магчымасць узяць удзел у навукова-тэхнічных праектах Казахстана. Гэта значыць, што і БНТУ ў найбліжэйшай перспектыве можа адыгрываць значную ролю ва ўдзеле Беларусі ў інавацыйна-тэхналагічным развіцці Казахстана.

Відавочна, што і Казахстану, і Беларусі важна развіваць тэхналогіі ў такіх сферах, як аграпрамысловы комплекс, машынабудаванне, нафтахімічная прамысловасць, энергетыка, транспартная інфраструктура, ахова здароўя. Па гэтых накірунках у Казахстане функцыяніруе шэраг навукова-даследчых цэнтраў, якія маглі б зрабіцца партнёрамі Вашага ўніверсітэта.

Сёння найбольш развітыя краіны ставяць глабальную задачу пераходу да бяспечнага, чыстага і бясстратнага развіцця энергетыкі.

Актуальнай праблемай па пытаннях рацыянальнага выкарыстання рэсурсаў з'яўляецца павышэнне энергаэфектыўнасці, аднаўленне і ў цэлым пераход да энергазберагаючай эканомікі. У Казахстане распрацаваны і рэалізуецца Комплексны план энергазахавання. Вядома, што ў Беларусі пытанне энергазберажэння з'яўляецца адным з прыярытэтных накірункаў дзяржаўнай палітыкі ў галіне энергетыкі.

Перспектыўным накірункам з'яўляецца альтэрнатыўная, нізкавугляродная энергетыка. Цяпер у свеце адбываецца актыўная распрацоўка праектаў перапрацоўкі вуглякіслага газу ў паліва і нафтахімічныя прадукты. Можна не сумнявацца, неўзабаве з'явяцца электрастанцыі з нулявым узроўнем выкідаў.

Пашыраюцца даследаванні і ў галіне развіцця «вадароднай энергетыкі». Паўднёвая Карэя ўжо ажыццяўляе План пераходу да «вадароднай эканомікі» і плануе да 2040 года здабываць з вадарода 8 працэнтаў прадукцыі ВВП. Актыўная работа вядзецца ў Індыі, ЗША і ПАР.

Усё большую цанавую канкурэнтаздольнасць у дачыненні да традыцыйных відаў паліва набываюць аднаўляльныя крыніцы энергіі — сонечная, ветравая, геатэрмальная, гідраэнергія і біямаса.

Рост энергазберажэння прывядзе да зніжэння энергаёмістасці сусветнай эканомікі і, у выніку, да яе прагрэсу і ўстойлівасці. Казахстанскія і беларускія навукоўцы могуць аб'яднацца ў гэтым накірунку на базе Беларуска-Казахстанскага Цэнтра навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва, створанага ў 2007 годзе.

Важным прыярытэтам стратэгіі індустрыяльна-інавацыйнага развіцця Казахстана з'яўляецца стварэнне інфраструктуры, прыцягальнай у першую чаргу для несыравінных галін эканомікі. Наяўнасць сучаснай вытворчай і сацыяльнай інфраструктуры ў краіне — неабходны фактар паскоранага і якаснага развіцця эканомікі. Пры гэтым першапачатковая капіталаёмістасць забяспечваецца вядучай роляй дзяржавы ў іх фарміраванні. Вялікая тэрыторыя Казахстана і яе геатранзітны характар патрабуюць дынамічнага развіцця энергетычных, транспартных і тэлекамунікацыйных комплексаў.

Развіццё посткрызіснага свету прадугледжвае павышэнне патрабаванняў да якасці чалавечага капіталу ў цэлым.

Без значных інвестыцый у чалавечы капітал ніякая эканоміка не здолее паспяхова развівацца. Яшчэ ў 1943 годзе Уінстан Чэрчыль гаварыў, што «імперыямі будучага будуць імперыі розуму».

Як сведчыць вопыт краін Паўднёва-Усходняй Азіі, адставанне ў сферы развіцця чалавечага капіталу пераадольваецца ў кароткія тэрміны. Сёння 14 з 25 найбольш канкурэнтаздольных інфармацыйных кампаній свету базіруецца ў Азіі.

Краіны, якія сёння не маюць высокіх канкурэнтных пераваг, у найбліжэйшым будучым не змогуць паспяхова спаборнічаць на рынку ў сферы навуковых даследаванняў, інавацый і высокіх тэхналогій.

У якой ступені якасным будзе ўзровень здароўя, інтэлекту і адукацыі кожнага грамадзяніна, у такой ступені высокай будзе канкурэнтаздольнасць дзяржавы ў сістэме сусветнай супольнасці.

Жыццё разнастайнае і складанае, і мы мусім заўсёды быць гатовымі да таго, што нас чакае. Я заклікаю вас цалкам рэалізаваць свае здольнасці, бо магчымасці для гэтага сапраўды неабмежаваныя, да таго ж гэтаму спрыяе шырокае поле дзейнасці двухбаковага казахстанска-беларускага супрацоўніцтва, вызначанае Кіраўнікамі нашых дзяржаў.

Дарагія сябры, летась вы адзначылі 90-годдзе ўніверсітэта. Я перакананы, што калектыў Вашай ВНУ захавае вернасць добрым традыцыям сваіх папярэднікаў, будзе і надалей рабіць годны ўклад у развіццё беларускай навукі і айчыннай тэхніка-эканамічнай думкі, а таксама міжнароднага супрацоўніцтва.

Шчыра жадаю Вам вялікіх творчых адкрыццяў, аптымізму, добрага здароўя і шчасця, далейшых поспехаў і новых здзяйсненняў!

***Пераклад з рускай Ірыны КАЧАТКОВАЙ.***

Мікола МІКУЛІЧ

# ТАЛЕНТ, ЗАРУЧАНЫ З НЕБАМ

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка*
*і 90-годдзя часопіса «Полымя»*



Творчасць Максіма Танка мне спадабалася яшчэ ў школе. Нават не спадабалася — я адчуў да яе вялікую ўнутраную блізкасць. Памятаецца, М. Танк быў шмат у чым не падобны да іншых беларускіх пісьменнікаў, якіх мы вывучалі ў дзясятым класе, і я гэта нейкім чынам усведамляў, заўважаў, бачыў. Вядома, пазней мне стала зразумела, чаму ён адрозніваўся ад многіх сваіх калег па пяры. А тады проста кідаўся ў вочы незвычайны псеўданім паэта ды хвалявалі яго вершы.

У творах іншых паэтаў пераважалі лірыка-апавядальныя апісанні з’яў і падзей, грамадзянска-сацыяльныя сентэнцыі і абагульненні, адчувалася характэрная рытарычная зададзенасць. М. Танк выяўляў, як сёння б сказалі, выразную індывідуальную мастацкую парадыгму. Яго вершы ўтрымлівалі ў сабе нейкі трымтлівы душэўна-пачуццёвы матыў, які лірыка-асацыятыўна падсвечваў сабою вобразы, карціны і малюнкі, кампаненты сюжэтнага сэнсараду, а ў шэрагу выпадкаў своеасабліва нанізваўся на духоўна-патрыятычны стрыжань твора, яго глыбінную сацыяльна-маральную эмоцыю. Яны неслі шчырасць і цеплыню, пошук і адкрыццё і дужа актыўна апелявалі да ўнутранага свету асобы. Нават самыя прыватныя, часам каструбаватыя кампаненты і дэталі ў М. Танка гарманіравалі з агульным цэлым, гучалі ёміста і эстэтычна важка.

Такія праграмныя вершы М. Танка, як «Спатканне», «Песня кулікоў», «Рукі маці» і некаторыя іншыя, я сёння лічу аднымі з лепшых у беларускай літаратуры. З часу іх напісання прайшлі доўгія дзесяцігоддзі, аднак яны працягваюць хваляваць шматлікіх чытачоў. Дыялектыка нацыянальнага і агульначалавечага ўвасоблена ў гэтых творах на высокім ідэйна-эстэтычным узроўні.

Чытач мне можа не паверыць, але тыя першапачатковыя ўражанні засталіся на ўсё астатняе жыццё. З часам яны толькі пэўным чынам удакладняліся, паглыбляліся і развіваліся.

У студэнцкія гады, слухаючы лекцыі па літаратуры і выконваючы курсавыя працы, звязаныя з вывучэннем вялікай навуковай праблемы традыцыйнага і наватарскага ў творчасці М. Танка, натуральна, давялося глыбей пазнаёміцца з характарам мастацкай індывідуальнасці народнага паэта Беларусі. Яго багатыя і разнастайныя ідэйна-эстэтычныя пошукі раскрыліся той якасцю, якую крытыкі

і літаратуразнаўцы называюць непасрэднасцю светаўспрымання, натуральным лірычным самаадчуваннем, маладой прагай жыцця і самасцвярджэння. Яны былі падпарадкаваны законам высокага натхнення і духоўна-эстэтычнай прасветленасці і характарызаваліся падкрэсленай сугестыўнасцю мастацкага мыслення.

Усё сведчыла пра тое, што М. Танк, як мала хто іншы са сваіх калег-сучаснікаў, надзвычай глыбока адчуваў прыродныя таямніцы ўнутранай энергіі беларускага слова.

Паэзія М. Танка была звернута да выяўлення аўтаноміі суб'ектыўнай аўтарскай здольнасці і мастацкага інтэлекту, свабоды і нязмушанасці творчага дыскурсу. Яна раскрывала напружаную працу шчырай, сумленнай, таленавітай асобы, ідэйна-эстэтычную энергію духу, што вызначаліся актыўным рухам уяўлення і фантазіі.

І гэта, вядома, не ўсё. М. Танк прыцягваў маю (і маіх сяброў-аднадумцаў) увагу гераічнай канцэпцыяй жыцця чалавека, каларытным беларускім нацыянальным характарам, ёмістай маральна-філасофскай энергетыкай мастацкага слова, сінтэзам адмабілізаванага грамадзянска-патрыятычнага пафасу і тонкай душэўна-пачуццёвай супрыроднасці, чаго нельга было сказаць пра іншых нашых паэтаў. Кожны ці амаль кожны яго верш быў сагрэты адмысловай цеплынёй беларускай народнай прадметнасці і рэчыўнасці, якая дужа арганічна клалася на сэрца, выклікаючы замілаванне і сентыментальную пяшчоту.

Ну, хіба маглі пакінуць абыякавым, напрыклад, паэма «Люцыян Таполя», «Балада пра партызана Дубягу» або балада-легенда «Антон Нябаба»?!. У іх у незвычайных абставінах паўставалі яркія народныя таленты, буйныя, каларытныя натуры, няскораныя, гераічнага духу характары.

Вось да цяжка параненага казацкага атамана Антона Нябабы, у якога «ные і баліць» сэрца «за край свой здратаваны // І за прыгнечаны народ», ноччу прыходзіць смерць.

Глядзіць Нябаба — смерць у хаце
Сядзіць на покуце сабе,
Аблакацілася і кажа:
— Ну вось, прыйшла я па цябе…

Ты ўвесь пасечаны, і раны
Гараць, смяротныя, агнём.
Пара табе ўжо развітацца
З жыццём, сябрамі і канём.

Несумненна, цяжкая, безнадзейная сітуацыя. Але адважны воін не скараецца смерці, уступае ў бясстрашнае супрацьборства з ёю. Яго гульня ў карты са смерцю спачатку на кісет, бурштынавую люльку-самакрутку, мушкет, каня і сваё жыццё, а затым на «сімвал казацкай славы» «стальны клінок» заканчваецца гераічнай перамогай.

Гуляюць зноў… Ды што за дзіва!
Як зманнасць лёсу зразумець!
Раскінулі калоду тройчы —
І тройчы праіграла смерць.

Яна ўсе зоры пагасіла
І месяц хмарай абвяла,
Атрутай акрапіла карты
І выйграць славы не змагла.

Рэдка ў якой літаратуры вы сустрэнеце такі незвычайны сюжэт.

Растрывожвалі душу (кожны па-свойму) такія вершы М.Танка, як «Станцыя Княгініна», «Мне здаецца», «Хоць раз у год», «Пісьмо брату» і многія іншыя, якія выяўлялі вострыя сацыяльна-маральныя праблемы, глыбінныя пласты чалавечай свядомасці.

Ішлі гады. У народнага паэта Беларусі, старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, лаўрэата Ленінскай прэміі, Героя Сацыялістычнай Працы, акадэміка Акадэміі навук Беларусі выходзілі ўсё новыя і новыя кнігі.

Навучанне ў аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі пераканала мяне ў той важнай думцы, што паэзія М. Танка базуецца на шырокай філасофска-гуманістычнай канцэпцыі жыцця чалавека і грамадства, арганічна спалучаючы ў сабе аб'ектыўна-выяўленчы і суб'ектыўна-выразны пачаткі. Мастацкія творы паэта характарызуюцца багаццем і разнастайнасцю душэўных перажыванняў, шматмернасцю ідэйна-эстэтычнага зместу, сэнсавай ёмістасцю вобразнага малюнка. Яны раскрываюць не толькі вядучую грамадска-сацыяльную эмоцыю, але і, так бы мовіць, асабова-псіхалагічную глыбіню свету.

Здавалася б, прыватныя душэўна-чалавечыя праблемы і супярэчнасці М. Танк уздымаў да вялікіх сацыяльна-філасофскіх абагульненняў, сувымяраў з магутнымі пластамі векавечнага людскога вопыту і народных традыцый.

Было бачна, што ідэйна-эстэтычная энергія М. Танка скіравана да выяўлення духоўна-мастацкага ідэалу эпохі, яго паэзія вызначалася падкрэсленым гераічна-стваральным характарам. Перажыванне М. Танка развівалася ў адпаведнасці з асноватворнымі сацыяльна-маральнымі катэгорыямі, якія валодалі высокай сілай мастацкага абагульнення і канцэнтрацыі: гісторыя, памяць, чалавек, свабода, Радзіма, лёс, будучыня і інш. Яно заангажавана ў духоўна-сацыяльныя пласты народнага асяроддзя з яго спаконвечнымі традыцыямі і каштоўнасцямі, характэрнай генетычна-родавай устойлівасцю, вернасцю цяжкой жыццёвай праўдзе і справядлівасці, нялёгкай фізічнай працы і маральнаму абавязку.

Прываблівала сацыяльна-маральная глыбіня і духоўна-філасофская цэласнасць лірычнага героя народнага паэта. Ён сведчыў цікавасць да шматлікіх гістарычных з'яў і падзей, народных свят і абрадаў, грамадска-палітычных пераўтварэнняў і г. д. Лірычны герой М. Танка шырока выяўляў пачуццё нацыянальнай і чалавечай годнасці, раскрываў багатае эмацыянальна-настраёвае жыццё і вызначаўся глыбокай унутранай высакароднасцю і душэўна-чалавечай прыгажосцю.

Навуковае даследаванне творчасці М. Танка ў суаднесенасці з тымі ідэйна-мастацкімі пошукамі, якія адбываліся ў беларускай паэзіі другой паловы XX стагоддзя, паказала, што яе вядучую лірычную ідэю фарміравала сцвярджэнне глыбіннага духоўна-патрыятычнага дыскурсу. Яна дарэшты прасякнута цяплом роднай зямлі, услаўленнем першаасноў народнага жыцця, звычайных сялянскіх клопатаў хлебароба, аратага, сейбіта.

Максім Танк выступіў вялікім рэфарматарам у беларускай літаратуры, ён значна рассунуў ідэйна-творчыя далягляды нашай паэзіі, забяспечыў актыўнае развіццё яе інтэлектуальна-вобразнай культуры. Паэт быў прыхільнікам спалучэння традыцыйнага, самабытна-нацыянальнага і наватарскага, заснаванага на дасягненнях еўрапейскага мастацтва, пачаткаў.

Чым больш я знаёміўся з творчасцю М. Танка, тым больш пераконваўся, што яна вызначаецца арганічным спалучэннем маштабнасці гістарычнага мыслення, шырыні духоўна-сацыяльных абсягаў і пластыкі прадметнага аналізу, прыватнай канкрэтыкі з'яў і рэчаў. У ёй філасофска-аналітычная медытацыя суседнічае з грамадзянска-патрыятычным характарам мастацкага дыскурсу, прамоўніцка-публіцыстычны пафас дапаўняецца тонкай іроніяй і знішчальнай сатырай. Індывідуальны стыль М. Танка сінтэзуе ў сабе адзнакі выразнага сілагічнага роздуму, аўталагічнага пісьма і яркіх умоўна-асацыятыўных карцін і малюнкаў, формаў унутрана сабранага, традыцыйнага верша і дольніка, верлібра, якія абумоўлены напружанымі пошукамі мастака ў галіне паэтычнай версіфікацыі. Яго развіццё забяспечваюць актыўны рух і абнаўленне паэтыкі, асаблівасці сімваліка-алегарычнага дыскурсу, лірыка-рамантычнай экспрэсіўнасці, насычанага рытміка-інтанацыйнага гучання верша.

Я нікольві не памылюся, калі заўважу, што побач з іншымі фактарамі самабытны профіль сучаснай беларускай паэзіі фарміруе магутны сплаў патрыятыч-

ных і духоўна-маральных, філасофскіх і мастацка-творчых, стылявых норм і традыцый танкаўскага шматколернага слова. Яго ідэйна-эстэтычная насычанасць і арыгінальнасць, вернасць жыццёвай праўдзе, «духапад'ёмнасць», падкрэсленая шматфарбнасць і яркасць не могуць не ўражваць. Тут, безумоўна, варта зыходзіць з таго, што М. Танк з'яўляецца заснавальнікам у нашай нацыянальнай літаратуры цэлай духоўна-філасофскай школы, заканадаўцам у шмат якіх мастацка-стылявых і ўласна паэзіятворчых адносінах.

*«Максім Танк стварыў сваю школу паэзіі,* — абгрунтавана заўважае ў нядаўнім лісце да мяне Рыгор Барадулін. — *Натуральна пядналіся эўрапейскасьць і беларускасьць, зорны палёт думкі і босы сьлед вобраза на ўраселай сьцяжынцы.*

*Памятаю, як мяне ашаломіў верш з-за кратаў «Паслухайце, вясна ідзе...»*

*З вінтоўкай стражнік ноч і дзень*
*Пільнуе куст пахучы бэзу.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Я ціха разбудзіў другіх.*
*Ад слёз сінелі вочы бэзам.*
*І недзе хруснула ў худых*
*Руках іржавае жалеза.*

*Максім Танк распрацаваў дзялянкі белага верша і верлібра, рэпартажна-вандроўніцкіх вершаў. Набытак багаты. Час адбярэ лепшае. Выбіраць ёсьць з чаго!*

*Пад час перабудовы напісаў я такія радкі:*

*І палітычная гайданка*
*Не разгайдала канчаткова*
*Аўтарытэт Максіма Танка.*
*Стараўся ж небезвынікова*
*Быць і ў застольныя часы*
*Паэтам чыстае красы.*
*І, часу плацячы даніну,*
*Прыгожую захоўваў міну.*

*Творчасьць Максіма Танка — непаўторная з'ява ў паэзіі»* (красавік 2012 года)».

Як вялікага беларускага паэта, класіка нацыянальнай літаратуры ўспрымаў і ўспрымае М. Танка Ніл Гілевіч. У сваім артыкуле «Яму на нашай зямлі належыць вечнасць», прысвечаным развітанню з народным паэтам Беларусі, ён падкрэсліў:

*«У гістарычным жыцці-быцці кожнага народа ёсць імёны, ёсць постаці, па якіх у першую чаргу свет вызначае, чым гэты народ самабытны і цікавы, якое яго ўласнае духоўнае аблічча, за што яго можна і трэба паважаць, цаніць і дружалюбна знацца з ім. Гэта — людзі-маякі, людзі-светачы. Гэта такія волаты духу, такія валадары творчае волі, якія прыходзяць у жыццё не часта. Прыходзяць — каб усім іншым дапамагчы зразумець найвялікшыя жыццёвыя ісціны, зразумець тое, дзеля чаго і варта чалавеку жыць на зямлі. Такога волата духу, волата роднага слова і страціла на пачатку сонечнага жніўня Беларусь».*

І далей:

*«Максім Танк — паэт несумненна ўсясветнага маштабу і значэння, і менавіта таму, што ён вялікі паэт беларускі, вялікі мастак слова нацыянальны. Кожны беларускі паэт, вядома ж, беларускі — і па мове, і зместам. Але, думаю, што пасля Купалы і Коласа ў найбольшай меры беларускім паэтам ёсць Максім Танк. Не ведаю, у чыіх кнігах нашых сучаснікаў можна знайсці столькі Беларусі і беларускасці, можна так адчуць прыродны і векавечны дух нашай Бацькаўшчыны, як у ягоных. Яго неабсяжны свет паэзіі найпаўней увабраў у сябе ўсе фарбы і колеры роднай зямлі, водар і пах яе кожнай зёлкі-былінкі, звоны-перазвоны яе ручаёў-крыніц і шумы-пошумы яе бароў-лясоў, яе нарачанскіх сосен, гэтаксама як і ўсе адметнасці беларускай сялянскай хаты, беларускага вясковага і не толькі вясковага двара, беларускай нівы. Само сабою —*

*і ўвесь водар, і ўсе фарбы-колеры роднага беларускага слова. А самае галоўнае — і ўсе думы працоўнага Беларуса, усе яго пачуцці і душэўныя клопаты, усе яго перажыванні, радасці і трывогі, драмы і трагедыі. Іншымі словамі — лёс беларускага народа, лёс Бацькаўшчыны. І пры гэтым — сучасны еўрапейскі ўзровень мыслення, высокая інтэлектуальнасць — у спалучэнні з традыцыйнай жыццёвай мудрасцю народных глыбінь, чароўная святлынь няпісанай народнай маралі, людскасці і дабрыні».*

Вершы і паэмы М. Танка былі вабналюбымі, зачароўвалі многіх маладых аўтараў, тых, хто ішоў у літаратуру, убіраўся ў творчую сілу, ставіў перад сабой сур'ёзныя задачы. Па іх вучыліся пісаць, выяўралі сваю грамадзянска-патрыятычную пазіцыю і эстэтычную чуйнасць-густ, на іх арыентаваліся, урэшце, іх проста мелі на ўвазе...

Асоба і паэзія М. Танка вялікі ўплыў аказалі на ідэйна-творчае станаўленне Янкі Брыля. У сваім артыкуле «Быў і застаўся» ён падкрэсліваў:

*«Да з'яўлення той кнігі, што была канфіскавана адразу ж пасля надрукавання і з усяго тыража ўратаваць удалося — нібы спецыяльна для гісторыі — вельмі нязначную колькасць экземпляраў, вершы Танка былі мне вядомыя па газетах і часопісах. Мала сказаць — вядомыя: яны глыбока хвалявалі сваёй дзёрзкасцю («Прыйдзем яшчэ, вёска, твае песняры, не з торбаю песень жабрачых...»), сваёй жыццёвай праўдзівасцю, дзе самае наша звычайнае, штодзённае, будзённае было так свежа, так незвычайна, так даўночакана ператворана ў паэзію («Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай, цішыня у хаце згорбленай, старой...»), у паэзію, што і пяшчотнай была, сама прасілася на музыку ў тваёй уражанай душы («Дзень залаты, ясным сонцам заліты, лётаў матыль сінякрылы над жытам...»), у паэзію, якой часамі не хапала слоў і яна — так многа — гаварыла намёкамі, вонкавай «недарэчнасцю», як сказаў бы неадпаведны сваёй пасадзе рэдактар, а тыя «намёкі» («Капае з неба зялёная радасць, з месяца ціха на сонныя грады...») так растрывожылі прагную да хараства маладосць».* І далей: *«Старонкі народнафронтаўскай газеты «Наша воля» часта бывалі загадкава «ўпрыгожаныя» белымі плямамі на месцы матэрыялаў, канфіскаваных цэнзурай, іх, без двукосся, упрыгожвалі і вершы Танка, і з тых далёкіх дзён юнацтва старонкі тыя бялеюць і шамацяць, і звіняць у руках маіх чамусьці не за сталом, а ў сонцы летняй раніцы, на поплаве паміж разнаколернай дасняваючай збажыны, дзе я прыпасваю ў нейкае свята кабылу».*

Так, Я. Брыль пачаў сваю творчую дзейнасць яшчэ ва ўмовах Заходняй Беларусі. Актыўна займаючыся культурна-асветнай працай, у канцы 1930-х гадоў ён карэспандаваў у віленскія перыёдыкі аб грамадска-культурным жыцці моладзі ў ваколіцах мястэчка Турэц, пісаў вершы, апавяданні, п'есы, перакладаў з рускай і польскай моў.

*«Загор'е, Стаўпецкі пав. Хочучы памагчы людзям здабываць сьвятло і палепшаць,* — адзначаў Я. Брыль у артыкуле «Нашая культурная праца», апублікаваным у часопісе «Шлях моладзі», *— я яшчэ восеньню 1937 г. шчыра заняўся ладжаньнем аматарскіх спэктакляў у нашай ваколіцы. Моладзь вельмі ахвотна ўзялася за працу, і вось з таго часу дагэтуль, ня гледзячы на перашкоды і цяжкасьці рознага роду (як тое, напр., што ў нас няма ні свайго будынку, ні сцэны, пры тым не заўсёды лёгка з дазволам), — зладжана ў нас 5 спэктакляў, на якіх пастаўлены: 5 беларускіх і 2 польскія п'есы. — Асабліва доўга помніцца будзе нам першы спэктакль — 31.X.37, — калі мы ставілі «Атруту» і «Ня розумам сьцяміў, а сэрцам». Мусіць таму, што ўсё гэта было для нас такім новым, цяжка даступным і дарагім».*

І далей ён працягваў:

*«Ад першага разу мы сьмела кранулісе наперад і задаволіўшы сваю публіку, ставілі тыя самыя п'есы яшчэ і ў м. Турцы (7.XI.37), дзе моладзь аднеслася да нас вельмі прыхільна. Падобныя выезды «ў людзі» маюць тое значэньне, што выробляюць у моладзі салідарнасьць, сужыцьцё і ахвоту культурна «падцягнуцца» перад чужымі людзьмі...»*

Шмат у чым паказальным з’яўляецца зварот часопіса «Шлях моладзі» да маладога літаратара ў рубрыцы «Паштовая скрынка»:

*«Я. Брылю: Адзін верш паправіўшы друкуем. Будзем друкаваць і іншыя. П’есу атрымалі, але пакульшто выдаць яе ня можам. Праца аднак Ваша не змарнуецца, бо калі не цяпер, дык у будучыні трэба будзе яе выдаць».*

У канцы 1930-х гадоў Я. Брыль апублікаваў такія свае вершы, як «Апошнія крыгі», «Ажываюць лес і поле…», «Спатканне», «Ідзе жніво…» У адрозненне ад твораў многіх іншых заходнебеларускіх паэтаў, у іх не адчувалася характэрнай крытычнасці героя, не закраналіся вострыя сацыяльныя і нацыянальныя праблемы рэчаіснасці. Вершы Я. Брыля былі далёкія ад ідэй грамадзянскай уздымнасці мастацкага слова, прамоўніцка-публіцыстычнага пафасу. Яны непасрэдна звязаны з вяскова-сялянскім укладам жыццядзейнасці аўтара, услаўленнем спаконвечных асноў працы на зямлі, непераўзыдзенай красы роднага краю:

Сакочуць конікі… Бялеюць жыта нівы…
Павісла духата над гонямі палёў…
І мошак сьвет зьвініць дакучлівы, гульлівы,
і калываюць ветрыка павевы
чароўны сьвет вусатых, цяжкіх каласоў.
Бульбы красуюцца узорныя палосы,
аўсоў зялёна-сівых, жоўтых ячмянёў;
гарох кішыць ад красак матылёў
і не падняць вачэй на сінія нябёсы.

*(«Ідзе жніво…)*

Згаданыя і некаторыя іншыя паэтычныя творы Я. Брыля звярталі на сябе ўвагу традыцыйным для беларускай паэзіі прадметна-рэалістычным тыпам мастацкага светаадчування, натуральнасцю лірыка-апавядальнага дыскурсу. Яны вызначаліся ідэйна-эстэтычнай выразнасцю, арганічным спалучэннем знешняга і ўнутранага, аб’ектыўнага і суб’ектыўнага, прыроднага і чалавечага, канкрэтна-гістарычнага і душэўна-псіхалагічнага. Аўтар развіваў форму звычайнага сюжэтнага верша, у якім яскравасць вобразнага малюнка забяспечвалася за кошт паяднання пластыкі дакладнага адлюстравання рэчаіснасці, зрокавай нагляднасці карцін і малюнкаў і эмацыянальна-пачуццёвай непасрэднасці. У аснове вобразатворчасці Я. Брыля палягалі прынцыпы канкрэтна-пачуццёвага мыслення, паслядоўнага разгортвання думкі і ў той жа час характэрнай лірычнай пранікнёнасці.

Дзяржаўная, грамадская і творчая дзейнасць М. Танка дапамаглі ўвабрацца ў сілу, «стаць на крыло» шмат каму з беларускіх літаратараў. Адказваючы на пытанне маёй анкеты пра своеадметнасць асобы і мастацкай індывідуальнасці народнага паэта Беларусі, Анатоль Вярцінскі ў лісце ад 20 красавіка 2012 года падкрэслівае наступнае:

*«Калі так добра, дык чаму так дрэнна?..» Не-не ды і згадваю пачутыя ад яго не раз гэтыя насмешлівыя словы. І ў паэзіі сваёй, і ў жыцці ён быў вельмі чуйны да фальшу, да ўсякага роду няпраўды, паказухі. У гэтым я мог пераканацца, бо выпала шчаслівая магчымасць працаваць разам з ім у Саюзе пісьменнікаў, разам рыхтаваць святы паэзіі, адзначаць юбілейныя даты, сустракаць сваіх замежных калегаў па пяру — польскіх, балгарскіх, літоўскіх, украінскіх, кітайскіх. І кожны раз, пры кожнай такой нагодзе я ганарыўся ім не толькі як слынным майстрам слова паэтычнага, але і незвычайным выказнікам слова гутарковага, застольнага, дасціпнага, з гумарам. І яшчэ — я б дадаў — па-народнаму гасціннага, калі сустракалі і праводзілі замежных сяброў. Давалі тут знаць пра сябе ягоныя сапраўдныя, глыбінна ўласцівыя яму — як творцу і як грамадзяніну — патрыятызм, беларускасць».*

І далей:

*«Вялікая, асобная тэма — урокі Максіма Танка. Скажу толькі некалькі слоў пра наступнае.*

*Ён з’яўляўся для мяне прыкладам таго, як быць самім сабой. І ў творчасці, і ў жыцці. Ён быў прыкладам таго, як ставіцца да жанчыны. Зноў-такі, і ў паэзіі,*

*і ў жыцці. У яго можна было навучацца цаніць рэальныя каштоўнасці, адрозніваць у жыцці адно ад другога. Памятаю, як ён неяк з захапленнем гаварыў пра геніяльную прастату такога сімвала, як крыж. Вы паглядзіце, казаў ён, на адзін брус кладзецца другі, папярэчны, і ўзнікае святы крыж, прадмет для пакланення. Яшчэ згадваецца, як падчас свята паэзіі ён глядзеў і слухаў крупіцкіх музыкаў. Пляскаў у далоні, смяяўся і, здаецца, ці не падпяваў ім...»*

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваецца шмат лістоў да М. Танка ад маладых і сталых аўтараў з усіх куткоў былога Савецкага Саюза. У іх — просьбы даць параду, як пісаць творы, галоўным чынам, вершы, на што ў мастацкім акце звяртаць асаблівую ўвагу, ацаніць-прарэцэнзаваць дасланыя творы і інш. Паэт, наколькі дазваляў час і абставіны, рэагаваў на звароты, адпісваў на лісты, нешта ў іх тлумачыў і рэкамендаваў, пасылаў пачаткоўцам свае кнігі і г. д.

У канцы лета 1958 года Аляксей Карпюк прапанаваў М. Танку для надрукавання ў часопісе «Полымя» сваю аповесць «Данута». У кастрычніку паэт даслаў яму ў Гродна ліст з заўвагамі і рэкамендацыямі па дапрацоўцы твора. 3 лістапада таго ж года А. Карпюк пісаў М. Танку:

*«Дарагі Яўгеній Іванавіч!!!*

*У пятніцу і суботу я быў у Мінску на нарадзе старшынь літаб'яднанняў. Усе два дні баяўся сустрэцца з Вамі, каб не атрымаць знішчальнае крытыкі. Гэтую крытыку адцягваў на далей. І вось, прыязджаю дамоў, а тут — пісьмо!..*

*Вы сабе і не ўяўляеце, як узрадаваўся Вашаму пісьму. Тысячу разоў Вам за яго ўдзячны!*

*Я ведаю, што ў аповесці трэба шмат мясцін дапрацаваць. Дабавіць у першую частку кахання. 39—41 гг. праходзяць у мяне бяздарным канспектам. Раздзелы, у якіх апісваюцца 43—57 гг., трэба больш звязаць з папярэднімі і г. д. Да ўсяго гэтага ў мяне свярбяць рукі, а ў сяродку нешта падмывае, што не ўсядзець. Святам над ёю папрацую. Першага снежаня вазьму адпачынак, прыеду ў Каралішчавічы. Магчыма да той пары прачытае рукапіс Уладзімір Барысавіч, збяру ўсе заўвагі ў адно, у Каралішчавічах яшчэ раз пасяджу над ёю і тады здам аповесць Вам канчаткова.*

*Яшчэ раз вялікае Вам дзякуй за ўсё!»**

Аповесць А. Карпюка «Данута» была надрукавана ў №№ 7—9 часопіса «Полымя» за 1959 год.

А гэта М. Танку піша Яўген Росцікаў з Віцебска:

*«Я пасылаю вершы, пра якія вельмі хацеў бы ведаць Вашу думку. Я пасылаю вершы іменна Вам, таму што я ўлюбёны ў Вашы вершы і больш строгага і сумленнага суддзі я не хацеў бы мець. Калі Вам мае вершы спадабаюцца, парайце, што мне з імі рабіць далей».*

І далей ідуць кароткія звесткі пра сябе…

Адным аўтарам больш імпанавалі ўнутраная насычанасць танкаўскага радка, аналітычна-даследчы пачатак, глыбінная філасафічнасць яго творчасці, другім былі блізкія характэрная жывапіснасць паэзіі М. Танка, прадметная фактурнасць, рэчыўнасць паэтычнага вобраза, увагу трэціх прыцягвалі фармальныя пошукі, адзінства формы і зместу ў вершах-верлібрах паэта і г. д. Так ці інакш станаўленне паэтаў, іх мастацкае развіццё сёння цяжка сабе ўявіць без сувязей з М. Танкам, выпрацоўкі сваіх адносін да яго багатага творчага вопыту.

Прыналежнасць да Пількаўшчыны стымулюе творчасць земляка народнага паэта Беларусі Віталя Глінскага, які абраў сабе дужа характарыстычны псеўданім — Танкіст. У вершы «Максіму Танку» ён піша:

Я на вайсковай службе ў танку ездзіў,
Хоць быў яшчэ, між тым, і сувязіст,
Ды ў гонар твой, дазволь мне, мой суседзе,
Ўзяць ганаровы псеўданім «Танкіст».

---

* Усе архіўныя матэрыялы прыводзяцца тут з поўным захаваннем зместу і аўтарскага правапісу.

Віталь Глінскі нарадзіўся ў Пількаўшчыне, вучыўся ў Сваткаўскай сярэдняй школе, працаваў механізатарам меліярацыі, настаўнікам Ляшчынскай васьмігодкі, працяглы перыяд служыў афіцэрам у войску (закончыў ваеннае вучылішча ў Новасібірску). Прайшоўшы, па яго словах, «усе часавыя паясы на зямным шары» і пабываўшы ў самых розных рэгіёнах былога Савецкага Саюза, ён перакананы ў тым, што родная вёска, яе ваколіцы і краявіды — надзвычай прыгожы беларускі куток, духоўна багатая, казачна-песенная зямля. Тут ніколі не перавядуцца таленты:

Пакуль жывуць у Пількаўшчыне людзі,
Тут будуць вершы,
　　　　　　песні, казкі жыць,
Мо Танкаў больш у вёсцы і не будзе,
Ды ўсё ж «Танкісты»
　　　　　　маюць права быць.

Творы В. Глінскага публікаваліся ў армейскім і рэгіянальным друку і карысталіся значнай увагай чытачоў. У 2010 годзе паэт ажыццявіў самвыдатаўскі выпуск свайго зборніка выбранага пад назвай «Праверана часам». Яго лепшыя вершы вызначаюцца непасрэднасцю светаадчування, афарыстычнасцю мыслення, заангажаванасцю ў грамадзянска-патрыятычную праблематыку.

Танкіст імкнецца быць годным «літаратурных традыцый Пількаўшчыны і яе літаратурнага патрыярха Максіма Танка». Ён з глыбокай павагай і любоўю адносіцца да асобы свайго знакамітага земляка. Вострым болем і шчымлівай пяшчотай прасякнуты верш Танкіста «Апошняе вяртанне», якім ён адгукнуўся на смерць народнага паэта Беларусі:

Вось і ўсё.
Ні мары, ні нягоды
Не хвалююць больш ужо цябе,
Ты сюды вярнуўся назаўсёды
І навек знайшоў спакой сабе.

Галаву сваю схіляю нізка
Перад светлым розумам тваім,
Ты ўзышоў ад матчынай калыскі
Да вяршыні славы, на Алімп.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У жалобе сёння ўсе жывыя,
Я таксама смутак свой нясу,
Нават і твая Аве Марыя
Асцярожна змахвае слязу.

Творчая манера Танкіста характарызуецца спалучэннем расказу і паказу, адлюстравання і выяўлення. Душэўнае перажыванне ў яго разгортваецца на значнай сацыяльнай аснове, пэўная маральная праблема раскрываецца ў выніку аналізу канкрэтных жыццёвых падзей і фактаў. Гэта добра відаць на прыкладзе верша «Максіму Танку»:

За Беларусь,
За бацькаўшчыну нашу,
За беларускай мовы чысціню,
За гонар, годнасць і маю, і вашу,
За нашу беларускую зямлю

не шкадаваў ты сілы і здароўя,
Змагаўся аўтаматам і пяром,
і шляхам бы
цяпер якім ні йшоў я,
Ты будзеш для мяне правадыром.

І далей:

Ты не згарэў ад славы і спакусы,
За што пашана і любоў мая,
Табою ганарацца беларусы,
Айчына, беларуская зямля.

Верш звяртае на сябе ўвагу падкрэсленай шчырасцю прамаўлення і цеплынёй пачуцця. Ён прасякнуты вялікім гонарам за сваю зямлю, якая ўзгадавала выдатнага сына.

Свае творы дасылалі М. Танку не толькі маладыя аўтары, але і людзі ва ўзросце — ветэраны вайны і працы, пенсіянеры. Як правіла, яны былі вельмі слабыя, не вызначаліся мастацкімі якасцямі і не падыходзілі для надрукавання ў газетах і часопісах. Аднак паэт адпісваў сваім адрасатам і просьбітам, аналізаваў іх творы, рабіў заўвагі, нешта раіў, падказваў. Пра многае гаворыць нам, напрыклад, ліст да М. Танка Герасіма Цурыкава з Крычава:

*«Уважаимый поэт Максим Танк!*

*Разрешите еще раз обратится к Вам Это уже треттий раз. Первый раз мною было выслано на ваше имя 5 стихотворении которые были составлены мною. Я просил вас, если нужны какие исправлении просил исправить и пропустить их в газету Советская Белоруссия Но я получил ответ не от Вас, а от Вертинского который мне ответил на Белорусском Языке Я Белорусского языка совершенно не понимаю И не пошол за разяснением к педагогам по Белорусскому языку, а нашол нужным обратится к Вам. Прошу извинения, что Вас безпокою И обратно дослал вам еще два стихотворения Сталинградский бой и бой под Москвой Скоторых Вы сделали замечание, что есть некоторые выдержки из Лермонтова, а по Этому разрешите Эту выдержку заменить другими словами вместа: и вот нашли большое поле, есть разгулятся где наволе Вот такими Словами?*

*Мы сдесь тоже порешили*
*Как лучше надо поступить*
*Чтобы схватку повторить*
*И Будопешт сломить.     и так дальше*

*И сообщите как вы считаете Стихотворение бой под Москвой*

*А по Этому уважаимый поэт прошу Вас Дать мне ответ на все 7 стихотворений на русском языке.*

*В меня еще ест два стихотворения но свысылкой к Вам воздержус пока получу от Вас разяснение на эти стихотворении*

*Стихотворении вменя 1) Ленинград в блакаде*
*2). Русский Салдат*

*С уважением к Вам.*

*Цуриков Герасим Афонассевич».*

Хто толькі і якімі клопатамі і праблемамі не турбаваў паэта!.. У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваюцца шматлікія лісты ад асоб самага рознага ўзросту і сацыяльнага статусу. Яны звярталіся з просьбамі выратаваць ад смяротнага прысуду сына, пакласці ў шпіталь у Бараўлянах удзельніка вайны — мужа, пасадзейнічаць у станоўчым вырашэнні кватэрнай праблемы, атрыманні ці падвышэнні пенсіі, праверцы правільнасці яе разліку і налічэння, аказаць матэрыяльную дапамогу і г. д. Прычым некаторыя аўтары лістоў называлі М. Танка Яўген Іванавіч Скуркоў, некаторыя — Яўгеній Іванавіч Шкуркоў… Многія з іх злоўжывалі даступнасцю і ўвагай паэта, пасля першых паспяховых спроб звярталіся да яго зноў і зноў...

Нічога падобнага ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры я болей не ведаю.

Зусім нядаўна ў архіве-музеі літаратуры і мастацтва давялося напаткаць унікальны ў сваім родзе дакумент — ліст жыхароў вёсак Неверы, Крыжаноўка і Ліпава Мядзельскага раёна з просьбай пасадзейнічаць у звальненні з пасады брыгадзіра мясцовага калгаса Мікалая Самусёнка. Па ўсім відаць, яго пісала ўжо немаладога веку жанчына, рука якой вельмі даўно кранапася пісьмовых прылад. Ліст даваўся ёй нялёгка, цяжэй, чым асенні працадзень, — напружанасцю і хваляваннем дыхае ў ім літаральна кожнае слова. Пішучы яго, калгасніца вялікім намаганнем волі ўзнаўляла ў памяці рэшткі некалі атрыманай сціплай вясковай граматы. Да шчымоты ў сэрцы кранаюць па-народнаму шчырыя і прастадушныя радкі, поўныя шматлікіх граматычных памылак і недакладнасцей, парушэнняў правапісу і пунктуацыі:

*«Прозьба да Таварыща писателя Максима Танки от Калхозникав Калхоза Зары Сваткавскаго с/с чатвёртай брыгады Деревни Неверы и Крыжановки и липово Мы калхозники рознага века и просим вас дарагой Писател Як сына и як брата зделайте нам вашу дабрату и ваша Памилаванія Нам Калхозникам чатвёртай брыгады змяните нам брыгадира Самусёнка Никалая Степанавича бандыта каторы на марку Партизан убивал бедных людей где чувствовал у каво какой рубель Есть и Адёжа то он всё эта забирал к себя Лисица окола Кравати разаслана паднагами А нашы бабы как то выпатали что эта лисица из Сэрвач вашай Сестрыцы он бандыт Её убил и Аграбил он партизанам небыл А тока Аскарблял партизан этотъ бандыта он был И ранше брыгадирам у 54-ом гаду. Але дай бог здаровія из области был прыехал какой то Налник и ево был снял з брігадира и гаварыл нам выбрасить ево из Калхоза но мы Люди Спакойныя и трусливыя он нам устрашывся так мы ево ничапали жыви ты онъ за убиство маладово парня как был участковым. И Ево за ета был Суд прысудил на восям леть и ему что то нипанравилась Савецкая влась то он Сейчась всё делаеть убрыгаде на падрыв Савецкай власти чтобы и мы вся наша брыгада вазнинавидела Савецкай власти но мы люди недурныя нам Савецкая влась харошая И ничево плахого Неделаеть А тока этоть бандыта брыгадир. какь ево была облась выбрасила з брыгадирства так нам было весело и лехко работать убрыгаде А как умазался Апять за брыгадира то мы все стали прама бальными ходим мёртвами. А как умазался претседателя паилъ всегда А претседатель тоже Любить выпить вдвоемъ выпиваютъ 4 Литры зарасъ он яво и поставил А на это он нитротить выбероть за лашадей нужна кому лошадь возик дров прывесть то без литры нидась лошади А нада литар нужно каму укасить то дай литарь. Або 2 литра А какъ напётся то тогда бится и зниважать и гаворыть что мне чалавека убить что муху ирука ни задражыть Так просимь васъ дарагой Писатель зделайте дабрату памилуйте нась змяните нам этово бандыта брыгадира канечно вам можеть и затруднительно это но просимь вас Таварыщ Писатель памилуйте нас ни аставте нашай прозьбы А тока у председателя ниспрашывайте нащоть ево бо у них за Адно Затем дасвиданія Таварыщ Писатель Желаим вам добраво здароія и весёлай жызни всей вашай Семьі на ето Лето А паттисаватся Таварыщ Писатель мы баимся онас пазаядаить этоть бандыта будте любезны памилуйте нась Таварыщ Писатель*

*Ни аставте нашай прозьбы».*

Як можна меркаваць па змесце дакумента, гэта быў крык чалавечай душы, змучанай грубай сілай, самаўпэўненасцю і нахабствам. Гэта быў ліст адчаю. Землякі-калгаснікі звярталіся да М. Танка як да сына і брата, як да апошняй інстанцыі, з вялікай надзеяй спадзеючыся на дапамогу. Яны верылі яму, як нікому іншаму. У сувязі з гэтым успамінаецца мая даўняя гутарка з сынам паэта Максімам Яўгенавічам, які, прыгадваючы наведванні бацькам сваёй радзімы, адзначаў наступнае: *«Мы з'язджалі з асноўнай дарогі, ехалі па вёсках, а следам ляцела вестка — у Пількаўшчыну паехаў Максім Танк. Звычайна паўгадзіны пасядзім — і пайшлі хадакі. У аднаго, як яму здавалася, сына несправядліва засудзілі, у другога хата згарэла, у трэцяга — праблемы з пенсіяй і г. д. Бацька ўсіх сустракаў, выслухоўваў,*

*нешта запісваў. Дзверы для ўсіх заўсёды былі адчынены. Ніколі не было такога, што вось ён заняты, працуе, піша або, наадварот, спіць, адпачывае — прыходзь у наступны раз. Кожны прыходзіў тады, калі хацеў і размаўляў з ім столькі, колькі хацеў. Так было і на Нарачы, і ў Мінску…»*

Прыведзены ліст дае пэўную эмацыянальна-факталагічную падсветку вялікай сямейнай трагедыі Скуркоў. Як вядома, у гады вайны пры нявысветленых абставінах ад рук партызан загінула малодшая сястра М. Танка Вера са сваім двухгадовым сынам. Яшчэ ў верасні 1999 года пра некаторыя абставіны таго трагічнага здарэння мне расказваў брат паэта Хведар Іванавіч, падкрэсліваючы, аднак, што цяпер, за даўнасцю часу, устанавіць дэталі забойства і выявіць віноўных наўрад ці магчыма. Цікавыя разважанні адносна гэтага знаходзім у самога мастака слова. «Пісьмо ад Федзі, — запісвае ён у дзённіку 12 студзеня 1973 года. — Піша, што памёр наш швагер Браніслаў Лётка. Страшную трагедыю перажыў ён і ўся наша сям'я. У час вайны нейкі гмінны службіст загадаў Браніславу адвезці яго ў Куранец, а па дарозе іх абстралялі партызаны, здаецца, з атрада «Народный мститель» і захапілі ў палон гэтага службіста. «Хто цябе падвозіў?» — «З Сэрвач Лётка». Тут жа расправіліся з ім і з сем'ямі братоў Лёткаў: забілі сястру Веру і яе двухгадовага сына, забілі швагерку з дзесяцігадовым сынам. А мужыкі іх — ацалелі. Былі ў суседняй вёсцы. Калі вярнуліся — засталі адны папялішчы. Потым браты былі мабілізаваны, прайшлі з баямі праз усю Польшчу, штурмавалі Берлін...»

І далей:

«У гэтым забойстве, казалі мне многія, быў замешаны нявераўскі «Папок», які, будучы партызанам, займаўся рабункам. Пасля вайны нейкі час працаваў брыгадзірам у калгасе. Але за тое, што біў людзей, яго судзілі. Сястра яго доўга распрадавала нарабаванае ім дабро. Толькі адных веласіпедаў было ў яго семнаццаць штук, а колькі рознай адзежы, дываноў, пасцілак, шапак, ручнікоў, абутку!»

Відаць, ніколі ўжо не ўдасца ўстанавіць тое, якая была практычная рэакцыя М. Танка на ліст сваіх землякоў. Ці спрабаваў паэт паўплываць на сітуацыю ў калгасе, звязаную з непрыстойнымі, нават злачыннымі паводзінамі брыгадзіра М. Самусёнка?.. Ведаючы М. Танка, мы можам меркаваць, што ён адгукнуўся на просьбу сялян. Не мог не адгукнуцца. Рычагі ўплыву ў паэта былі моцныя і разнастайныя. Літаральна з канца 1940-х гадоў да яго ўважліва прыслухоўваліся і ў вобласці, і ў цэнтральным кіраўніцтве рэспублікі. Пра многае гаворыць нам, напрыклад, наступная дзённікавая нататка М. Танка (ад 10 снежня 1954 года): «Завёз старшыні Мядзельскага райвыканкома Міцкевічу, былому падпольшчыку, два тамы рамана П. Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах». Дзень быў ясны, марозны. Усе азёры былі ўжо ў лядовым панцыры, толькі на сярэдзіне Нарачы ўскіпалі белыя грэбні хваль. Заехаў у Маладзечанскі абком, але не застаў С. Прыгыцкага. А шкада, бо хацеў папрасіць памагчы вырашыць некалькі спраў сваіх аднасяльчан».

Наогул, гэта была вялікая душэўна-чалавечая і грамадская праблема. У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, падчас усталявання і развіцця сацыяльна-маральных асноў і прынцыпаў савецка-калгаснай сістэмы, у заходніх абласцях Беларусі назіраліся парушэнні заканадаўства і правоў чалавека. Прызначаныя на высокія і невысокія пасады прыезджыя і мясцовыя асобы даволі часта дапускалі, мякка кажучы, няякаснае выкананне службовых абавязкаў, злоўжывалі сваімі паўнамоцтвамі. Яны вырашалі розныя праблемы насельніцтва так, як лічылі патрэбным ці як хацелі іх вырашыць. Цікавыя і паказальныя факты, звязаныя са шматлікімі правапарушэннямі, напрыклад, кіраўнікоў розных рангаў Гродзеншчыны, неаднойчы даводзілася чуць ад А. Карпюка, ваяўнічага барацьбіта з усялякай несправядлівасцю, у 1980-я гады сакратара мясцовага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Шмат у чым карыснымі і сацыяльна значнымі з'яўляюцца вынікі даследавання «Пасляваенны быт на Мядзельшчыне. 1944—1956 гг.», якое ажыццяўлялася

апошнія гады вучнямі Старагабскай школы-дзіцячага сада і Сваткаўскай сярэдняй школы імя Максіма Танка. Яно грунтавалася на зборы і сістэматызацыі ўспамінаў прадстаўнікоў розных сацыяльных груп пра жыццё на Мядзельшчыне ў другой палове 1940-х — першай палове 1950-х гадоў. *«Крыўдна было чуць,* — адзначае ў інтэрв'ю газеце «Літаратура і мастацтва», падагульняючы даследаванне, настаўнік гісторыі са Старых Габ Уладзімір Серадзінскі, — *што ўлада ставілася да людзей не лепшым чынам, асабліва ў канцы 40-х гадоў, калі пачалі ствараць калектыўныя гаспадаркі...»*

Што праўда — то праўда. Вось ліст да М. Танка трактарыста ўсё таго ж калгаса «Зара» Канстанціна Асаевіча. У яго надзвычай складаная сітуацыя, звязаная з бяспраўнымі дзеяннямі кіраўніка гаспадаркі В. Чабатара.

*«Дарагі сусед Максім Танк,* — піша ён у лісце. — *Звяртаюся я к Вам селянін Асаевіч Канстанцін Пятровіч вёскі Новікі Сваткаўскага с/сов. Мядзельскага р-на Минскай вобл. з дзяцінства у школьных гадах из вашай сястрой Верай разам вучыліся у Пількаўскай школе разам выступалі на пастановках у беларускай п'есе «Паўлінка» «Янка и Маланка» хачу я Вас спытацца и прашу ад шчырай душы ці маглі б Вы мне памагчы у маей справе. Вот спаткала мяне бяда, ні як ні магу выбрацца. Працую я у сваім к-зе «Зара» трактаристам ужо пяць гадов, работу я выконваў шчыра и сумленна аж пакуль ні сапсавалася здаровья і машына, я наладзіць ня меў сілы, прахадзів рентген ляжав у бальніцы у Сватках на ляченні 30 дней, адчуваючы ня у лепшым стане свайго здаровья я звярнувся да старшыні к-за тав. Чабатара В.В. аб даведку на камісію, старшыня меўшы помства і зло за камандзіровку давніх гадов адказав, цябе ні лячыць а нада растраляць каб па свету ні хадзів, куды глядзіш, на што на мяне глядзіш, паднявшыся из кулакамі з за стала выгнав мяне з канторы, я мусів высці, а за гета што лячывся ня быв на рабоце налажыв штраф у суме 7 руб. 80 кап. и приказав касьеру ні выдаваць зар-плату за 66 год и па бюлитню. Па гетаму поводу я звярнувся у Пракуратуру у Мядзель усё прапала. Напісав я у радакцыю Минскай праўды папрасів пірадаць у абласную пракуратуру, а радакцыя направіла у Мядзель, вот так усе и засталося як и было, ні гдзе ніхто ні разбіраіць, прападаіць майіх 100 руб. ні маю за што лячыцца, працаваць ні маю сілы, камісію прайшоў маю даведку ад урачов, звольнены ад работы звязанай з пылам и прастудай. Прашу я Вас моцна калі як можна узыскаць ні законна задзержаныя грошы, калі ласка не адкажыце маей просьбе, я буду шчыра дзякаваць Вам за гета, у случайі ні магчымасці укажыце адрыс абласной пракуратуры, ня можна жыць, думае жывога загнаць у магілу кідайітца біцца из кулакамі. Няверайскага трактариста Ровду моцна збів и пасадзіў на 15 сутак».*

Праблем і складанасцей у жыцці былых «заходнікаў», землякоў М. Танка, было шмат. У пэўнай ступені іх адлюстравалі і «Дзённікі» паэта. 15 чэрвеня 1946 года ён пазначае наступнае: «Сёння начавалі ў нас мае пількаўшчане. Прыехалі на рынак. Скардзіліся, што ніяк пасля вайны не могуць наладзіць свайго жыцця. Вось тут і пішы бадзёрыя творы пра сучаснасць!» А гэты запіс датуецца 11 чэрвеня 1952 года: «Калі будзе добрае надвор'е, паеду на Нарач і пастараюся заглянуць у сваю Пількаўшчыну. Нешта там у калгасе не ладзяцца справы. Старшыня, чуваць, п'е і не дбае аб гаспадарцы. Усё ідзе самацёкам».

Варта заўважыць, што з такімі ці блізкімі да іх просьбамі землякі М. Танка звярталіся да яго і пазней. Красамоўным з'яўляецца дзённікавы запіс паэта ад 31 кастрычніка 1970 года: «З Восава прыехала настаўніца Валуева Ніна Антонаўна (сястра Валі Грузд). Сядзіць у нас і плача. Адпрацавала 25 год, а зараз — звольнілі. А прычынай паслужыла тое, што муж яе калісьці ўмяшаўся ў калгасныя справы і дапамог раскрыць злачынства былога старшыні калгаса, якога падтрымлівалі ў раёне. Колькі ў мяне падобных дэпутацкіх спраў! І амаль на ўсе атрымліваю ад мясцовых улад стандартны адказ, што мяне няправільна інфармавалі».

Пісалі паэту не толькі з Беларусі — з усіх былых саюзных рэспублік. Геаграфія лістоў надзвычай шырокая. Што датычыць беларускіх літаратараў, дык у фон-

дзе М. Танка ў архіве-музеі літаратуры і мастацтва знаходзім лісты і паштоўкі ад В. Быкава, П. Бітэля, І. Шамякіна, Л. Геніюш, Н. Гілевіча, У. Калесніка, С. Новіка-Пеюна, Ю. Фатнева і многіх іншых аўтараў. І ўсім ці амаль усім ён адказваў, можа, не заўсёды аператыўна, але адпісваў.

Цягам доўгіх гадоў перапісваўся з М. Танкам паэт і перакладчык Пятро Бітэль.

Як і М. Танк, П. Бітэль нарадзіўся ў 1912 годзе (у мястэчку Радунь былой Гродзенскай губерні), пайшоў у школу ў бежанстве ў Расіі. Вярнуўшыся з бацькамі на Радзіму ў канцы 1921 года, ён вучыўся ў Барунскай настаўніцкай семінарыі, дзе, дарэчы, яго настаўнікамі былі сын і нявестка Францішка Багушэвіча Тамаш і Марыя Багушэвічы, закончыў Віленскую настаўніцкую семінарыю імя Т. Зана. Як грамадзянін Польшчы 1 верасня 1939 года П. Бітэль быў мабілізаваны ў польскую армію, пасля вызвалення Беларусі 2 мая 1945 года — у савецкую. У гады вайны ён выкладаў беларускую мову і літаратуру, а таксама геаграфію ў Валожынскай сярэдняй гандлёвай школе. Пазбаўлены вясной 1947 года пасады настаўніка як чалавек, якому, па яго словах, «савецкія ўлады не давяраюць», П. Бітэль пэўны час служыў праваслаўным святаром, настаяцелем царквы спачатку на Слонімшчыне, а затым у Докшыцах. У снежні 1951 года рашэннем «асобай нарады» ён быў асуджаны на дзесяць гадоў зняволення ў «папраўча-працоўных лагерах строгага рэжыму». Працаваў на пагрузцы лесу, у брыгадзе тынкоўшчыкаў і маляроў у мястэчку Ольжэрас Кемераўскай вобласці, на будаўніцтве нафтаперагоннага завода ў Омску, на медных рудніках у Джэзказгане Карагандзінскай вобласці Казахстана.

Знаходзячыся ў зняволенні, у зусім неспрыяльных для літаратурнай творчасці ўмовах, П. Бітэль, можна сказаць, здзейсніў подзвіг — пераклаў на беларускую мову знакамітыя паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», «Конрад Валенрод» і «Гражына». Натуральна, пісьмовыя прылады мець у лагеры забаранялася, дык ён пісаў самаробным алоўкам з алавянага дроту на парожніх папяровых мяшках з-пад цэменту. Праўда, пазней з дапамогай вольнанаёмных яму ўдалося здабыць сапраўдны аловак, сшытак і нават пяро. Не было чарніла, дык выкарыстоўваў зялёнку, якую яму тайна ахвяравалі сябры з медсанчасці. Пісаў, вядома, пасля адбою, па начах, хаваючыся ад наглядчыкаў. Неаднаразова за гэта трапляў у карцар.

Пераклад паэмы «Пан Тадэвуш» П. Бітэль змог пераслаць у Саюз пісьменнікаў Беларусі. Тут ім зацікавіўся М. Танк, які, мы ведаем, шмат што пераняў з духоўна-эстэтычнага вопыту выдатнага польскага рамантыка, сам перакладаў яго творы. Паэт быў здзіўлены высокім узроўнем работы, тым, што яна ажыццяўлялася ва ўмовах папраўча-працоўных лагераў, і 3 снежня 1955 года адгукнуўся на пераклад станоўчай рэцэнзіяй. У ёй гаварылася:

«По поручению секретариата Союза Писателей Белорусской ССР я ознакомился с белорусским переводом т. Бителя П. И. известной поэмы Адама Мицкевича «Пан Тадеуш».

Несмотря на то, что отдельные места еще требуют некоторой доработки и поправки, в основном переводчику удалось передать на белорусском языке неповторимую прелесть этого классического произведения польской и мировой литературы.

Перевод поэмы сделан на высоком художественном уровне и является одним из лучших переводов этой поэмы Адама Мицкевича. Максим Танк».

Няма чаго і казаць, што лагернае начальства было моцна здзіўлена гэтым дакументам. Яно і ўявіць не магло, што ў яго на зоне знаходзіцца такая самавітая асоба.

Што датычыць М. Танка, галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», дык ён выношваў планы надрукаваць у выданні пераклад П. Бітэля паэмы «Пан Тадэвуш». 13 чэрвеня 1955 года паэт занатаваў у сваіх «Дзённіках»: «Быў у А. Д. Рудака па справе рэпрэсіраванага П. Бітэля — перакладчыка твораў А. Міцкевіча. Характарыстыка, якую даў Аркадзь Дзянісавіч П. Бітэлю («чалавек з такой

заблытанай біяграфіяй, што яго нельга друкаваць»), перакрэсліла нашы намеры даць у часопісе «Полымя» яго пераклад «Пана Тадэвуша». Параіў узяцца за новы пераклад, а гэты здаць у архіў СП».

Рэцэнзія М. Танка надала П. Бітэлю смеласці, і праз пэўны час ён паслаў у Мінск на разгляд паэта свае вершы, а таксама пераклад паэмы А. Міцкевіча «Гражына». Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, яго ліст ад 23 лютага 1956 года.

*«Паважаны Гр. Радактар!* — гаварылася ў ім. — *Шчыра дзякую Вам за пісьмо і за тыя заўвагі, якія Вы мне ў ім прыслалі.*

*Я зразумеў Вас і больш, апрача перакладаў, нічога пісаць не буду. Лічу патрэбным сказаць, у парадку выяснення, што верш «З далёкіх успамінаў» не быў задуман, як лірычны, а з'яўляўся часткай даволі вялікага па аб'ёму твору. Прачытаўшы Ваша пісьмо, я перагледзеў яго яшчэ раз і ўкінуў усё ў печ.*

*Калі была атрымана Ваша рэцэнзія на пераклад «Пана Тадэуша», тады радакцыя нашай лагернай газеты папракнула мяне, што я паслаў Вам рукапіс гэтага перакладу ні цераз яе.*

*Дзеля гэтага пераклад «Гражыны» я перапісаў яшчэ раз і перадаў ім. Мяне паведамілі пісьмом, што рукапіс адпраўлен у Мінск на адрас Саюза Сов. Пісьменнікаў для рэцэнзіі.*

*Калі атрымаеце гэты другі рукапіс, не гневайцеся на мяне, што я адно і тое ж пасылаю ў розныя месцы, а калі знойдзеце хвіліну часу, то прагледзьце і прышліце мне Вашы заўвагі, прашу Вас».*

І далей: *«Я закончыў яшчэ адну працу, не ведаю ці патрэбную для беларускай літаратуры, — пераклад паэмы А. Міцкевіча «Конрад Валленрод». Прашу паведаміць мяне ці цікавіць Вас гэты пераклад і ці ёсць патрэбнасць высылаць яго ў Ваш адрас.*

*Апрача ўсяго гэтага ў мяне к Вам ёсць яшчэ адна просьба.*

*Калі гэта не будзе для Вас цяжарам, прышліце мне, калі ласка, аднатомнік твораў А. Міцкевіча, які вышаў на беларускай мове з прычыны яго юбілею; я не ведаю зараз куды ў гэтай справе звярнуцца.*

*Хацелася-б мне таксама мець змястоўны слоўнік беларускай мовы, але не ведаю, ці гэткі маецца ў продажы. Калі гэткага няма, дык можа ёсць хоць руска-беларускі. Прашу накіраваць наложным плацяжом, я аплачу пры атрыманні.*

*Вельмі цяжка працаваць без ніякіх дапаможнікаў».*

Як паказваюць факты, М. Танк з увагай аднёсся да просьбаў П. Бітэля. Проста на лісце зняволенага яго рукой пазначана: «Паслаў кнігі 16/III.56 г. М. Т.» Шмат у чым паказальным з'яўляецца ліст П. Бітэля ад 4 красавіка 1956 года.

*«Паважаны Грамадзянін Рэдактар!* — пісаў ён М. Танку. — *Атрымаў я абедзве Вашы бандэролі. Шчыра, шчыра дзякую. Прызнацца, я ўжо пасля, раздумаўшыся, шкадаваў, што выслаў Вам пісьмо з просьбай прыслаць кнігі, бо ані маё з Вамі знаёмства, ані сучаснае становішча не ўпаўнаважвала мяне на гэткі крок. Я паступіў бястактна і дзеля гэтага быў амаль упэўнены, што Вы маей просьбы не выпаўніце. Тым большая была мая радасць, калі мяне паведамілі аб прыбыцці бандэроляў і пасля, калі я разгарнуў іх. Вы — цудоўны чалавек! Вы адгадваеце чужыя думкі! Я не адважыўся папрасіць Вас прыслаць мне зборнікі Вашых апошніх твораў, а Вы гэта зрабілі самі. Не ведаю як Вам за гэта дзякаваць. З вялікім захапленнем углыбіўся я ў чытанне і выхадны дзень 1.IV.56 г. стаўся для мяне найпрыятнейшым выхадным за ўсе апошнія пяць «з гакам» год».*

*Тое, што Вы пажадалі самі аплаціць вартасць кніг і іх перасылкі, асмельвае мяне спадзявацца, што Вы не адхіляеце магчымасці нашай з Вамі ў будучым сустрэчы. Я лічу сябе Вашым даўжніком і для мяне будзе невымоўна радаснай магчымасць зрэабілітавацца перад Вамі ў якой-бы ні было форме.*

*Вершы Вашы зрабілі на мяне незабываемае ўражанне — усе яны так прадуманы і так апрацаваны, што сапраўды трудна сказаць, што найбольш падабаецца. Асабліва я захоплены нечаканасцямі ў сюжэтах (Пісьмо піонераў, Шматкаляровыя алоўкі, Як вясна прыйшла і т.д.), а таксама арыгінальнасцю, ці*

*мо', народнасцю формаў (Вяселле, Рэчанька, Ехаў Бай, Адлятаюць удаль журавы і інш.). Апрача ўсяго, і магчыма, што гэта самае вартаснае — вершы Вашы вельмі актуальныя (увесь час на пульсе жыцця) і ахопліваюць гэткую агромную тэматыку...»*

Як вядома, у 1956 годзе П. Бітэль быў «вызвалены са зняццем судзімасці», а ў 1978 годзе рашэннем Вярхоўнага суда БССР цалкам рэабілітаваны.

У больш позніх па часе лістах, адрасаваных М. Танку, П. Бітэль прасіў садзеяння ў выданні перакладаў твораў А. Міцкевіча, у пераразліку і налічэнні пенсіі, інфармаваў паэта пра сваю працу настаўніка школы, вучобу ў Мінскім пединстытуце імя А. М. Горкага і інш.

*«У сувязі з узнікненнем новага выдавецтва «Мастацкая літаратура»,* — пісаў ён, напрыклад, 17 чэрвеня 1972 года, — *мне хацелася б даведацца, ці не павялічыліся шансы надрукавання маіх перакладаў А. Міцкевіча.*

*Якая Ваша наконт гэтага думка?*

*Прашу прабачэння за дакучлівасць, але ж гэта справа ўсяго майго жыцця, хацелася б, каб шматгадовая праца не прайшла дарма, а звярнуцца мне няма да каго».*

М. Танк дапамагаў П. Бітэлю ў апублікаванні кніг «Замкі і людзі», «Хата за вёскай», «Дзве вайны», паступленні ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, дасылаў яму свае зборнікі вершаў. Атрымаўшы адзін з іх, 4 чэрвеня 1980 года П. Бітэль пісаў народнаму паэту:

*«Глыбокапаважаны Яўген Іванавіч!*

*Атрымаў ад Вас бандэроль. Шчыра дзякую. Цудоўная Ваша «Ave Maria» як па форме, так і па зместу! Віншую!*

*Гэта вельмі дарагі для мяне падарунак. Хацелася б падзякаваць Вам асабіста, ды на жаль, немачы трымаюць удому.*

*Яшчэ раз дзякую ад усёй душы і зычу Вам моцнага здароўя, доўгіх год жыцця і творчых поспехаў для ўзбагачэння нашай роднай літаратуры».*

Шмат розных клопатаў і просьбаў да М. Танка меў былы заходнебеларускі дзеяч і паэт Васіль Струмень (Аляксандр Мікалаевіч Лебедзеў), які пасля вайны стала жыў у г. Сарны Ровенскай вобласці. *«Дарагі Яўгеній Іванавіч!* — звяртаўся ён, напрыклад, 25 кастрычніка 1977 года. — *Высылаю Вам агульны сшытак сваіх вершаваных твораў і прашу Вас прагледзець іх і напісаць да іх уступны артыкул, каб потым гэта ўсё падаць у выдавецтва «Мастацкая літаратура» для выдання. Ёсць яшчэ ў мяне напісана некалькі твораў прозы. Але яны яшчэ канчаткова не падрыхтаваныя да высылання Вам. Іх і свае храналагічныя ўспаміны, якія напісаныя мною пакуль што ў чарнавіках, буду цяпер перапісваць начыста, каб пазней таксама прыслаць Вам. Успаміны напісаныя пра 1921 — 1930 гады, але буду пісаць і далей».*

У пісьме, якое датуецца 31 сакавіка 1983 года, В. Струмень прасіў М. Танка як старшыню Саюза пісьменнікаў Беларусі прыслаць яму адносіны на імя кіраўніцтва Маладзечанскага і Гродзенскага архіваў з тым, каб мець магчымасць карыстацца іх матэрыяламі і дакументамі і дапрацаваць свае ўспаміны пра народна-патрыятычны рух у Заходняй Беларусі. Ліст ад 18 снежня 1984 года быў прысвечаны інфармацыі пра складанасці ў справе падрыхтоўкі і надрукавання ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» кнігі мастацкіх твораў. Спадзеючыся на заступніцтва народнага паэта, В. Струмень, яго *«былы саратнік па рэвалюцыйнай барацьбе ў радах КПЗБ і ў кагорце пісьменнікаў-рэвалюцыянераў літаратурнага фронту заходнебеларускіх рабоча-сялянскіх літаратараў»,* пісаў наступнае: *«...я прашу Вас, дарагі Яўген Іванавіч, пацікавіцца гэтым пытаннем і дапамагчы мне, каб паскорыць выданне маёй кнігі. Бо хочацца, каб пры жыцці мець магчымасць хаця пару гадоў патрымаць у руках сваю кнігу. Няўжо я за ўсё сваё жыццё, працу і ўсе іншыя справы не заслужыў гэтага?»* Крыху пазней ён прасіў М.Танка прыслаць пацвярджэнне аб яго «*прабыванні ў членах КПЗБ з 5-га лістапада 1932 года». «Сакратаром нашай партячэйкі* (у вёсцы Зачэпічы Лідскага

павета. — *М. М.*), — гаварылася ў пісьме, — *быў тады вядомы і Вам «Герасім Прамень» (Іван Іванавіч Пышко), а намеснікам у яго лічыўся «Пятрусь Граніт» (яго Вы таксама ведаеце) — гэта Іван Пятровіч Івашэвіч. А я ў той час узначальваў камсамольскую ячэйку, якую арганізаваў і ўзначаліў з першых дзён студзеня 1930 года».*

З лістоў іншага зместавага кшталту, якіх гэтаксама дастаткова ў танкаўскім фондзе архіва-музея літаратуры і мастацтва, вызначаецца ліст дырэктара Халопеніцкай сярэдняй школы рабочай моладзі Уладзіміра Шундрыка (ад 27 красавіка 1957 года). Ліст глыбокі, прасякнуты шчырым клопатам аб стане беларускай мовы ў рэспубліцы.

*«Паважаны Яўгеній Іванавіч!* — звяртаўся да М. Танка У. Шундрык. — *У апошніх нумарах «ЛіМа» пачалі змяшчацца матэрыялы аб беларускай мове. У іх маецца многа слушных заўваг. Мяне-ж цікавіць пытанне аб адносінах да нашай мовы з боку шырокіх мас беларускай інтэлігенцыі.*

*Я часта перачытваю Ваш верш «Родная мова», у якім гаворыцца:*

*«Няма на зямлі таго шчасця і гора,*
*Якога-б ты нам перадаць не магла».*

*Але, нажаль, іначай думаюць многія. У многіх людзей склалася думка, што мовай беларускіх вузаў можа быць толькі руская. Таму ўсе прадметы нават у педагагічных вузах, дзе рыхтуюцца настаўнікі для беларускіх школ, выкладаюцца на рускай мове. Безумоўна, трэба шанаваць і любіць мову вялікага рускага народа, але родная мова павінна знаходзіцца таксама на належнай вышыні. На роднай мове павінны размаўляць беларусы між сабою. А раз мовай усіх беларускіх вузаў і тэхнікумаў з'яўляецца руская, то многія настаўнікі сярэдніх школ таксама выкладаюць свае прадметы на рускай мове, бо вучням будзе лягчэй усвайваць праграмны вузаўскі матэрыял. Характэрна і тое, што пры паступленні ў вузы нашай рэспублікі патрэбна здаваць экзамен не па беларускай мове, а па рускай. З-за гэтага выкладчыкі беларускай мовы ў сярэдніх школах перастаюць практыкаваць сачыненні па беларускай літаратуры. Гэта робіцца яшчэ і з-за таго, што ў апошнія гады на экзаменах на атэстат сталасці пісьмовы экзамен па беларускай літаратуры чамусьці адменен. Такім чынам прадмет беларускай мовы і літаратуры ў сярэдніх школах пачынае займаць ужо другараднае месца.*

*Цікава таксама, чаму ў беларускіх гарадах колькасць рускіх школ у некалькі разоў большая, чым беларускіх. Так, напрыклад, у Барысаве з 14 школ толькі 2 беларускія, у якіх, між іншым, таксама ўсе прадметы выкладаюцца на рускай мове. Мне таксама вядома, што ў г. Мінску ўсяго толькі 2 беларускія школы. Усе сярэднія школы рабочай моладзі таксама рускія.*

*Мне ніколі не даводзілася праслухаць ні адной лекцыі аб міжнародным становішчы, ні аднаго даклада раённых кіраўнікоў на беларускай мове. Мне калісьці думалася, што ў Міністэрстве асветы БССР работнікі размаўляюць на беларускай мове. Але я памыліўся. Выходзіць, што афіцыяльнай мовай на Беларусі з'яўляецца руская мова.*

*Пры стварыўшыхся ўмовах з беларуса, які пачне размаўляць на бел. мове, пачынаюць смяяцца не толькі рускія, але (што вельмі крыўдна) і самі адукаваныя беларусы. Чалавек паступова пачынае саромецца сваёй роднай мовы, ён перастае нават і чытаць на беларускай мове.*

*Да Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі беларуская мова была забаронена, і ў першыя гады Савецкай улады многія беларускія пісьменнікі прапагандавалі бел. мову, заклікалі шанаваць, любіць яе. Варта ўспомніць прамову Ф. Багушэвіча да свайго зборніка вершаў «Дудка беларуская», перадавы артыкул трэцяй кніжкі «Лучынкі», які называецца «Шануйце роднае слова», Вершы Купалы, Коласа аб мове і інш.*

*Цётка, звяртаючыся да моладзі, пісала:*

*«Майце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова. Майце смеласць усюды голасна казаць па-свойму».*

*(Гл. Л. Арабей «Цётка» стр. 147.)*

*А колькі і ў наш час ёсць беларусаў, якія не ведаюць, што яны беларусы. Многія беларусы лічаць сябе палякамі толькі з-за таго, што яны каталікі, і цяпер збіраюцца ехаць у Польшчу. Прыналежнасць-жа да таго ці іншага веравызнання яшчэ не вызначае нацыянальнасці. Каталікамі з'яўляюцца не толькі палякі, беларусы, але і яшчэ многія людзі іншых нацыянальнасцей».*

І далей у лісце чытаем: *«На днях да мяне звярнулася загадчыца Халопеніцкай райбібліятэкі з просьбай напісаць загаловак для вітрыны. Я напісаў па-беларуску: «Жыць і змагацца па-ленінску». Тая расчырванелася і сказала, што з яе ўсе будуць смяяцца, чаму яна напісала па-беларуску. Насілу я яе ўгаварыў афарміць вітрыну па-беларуску. Які-ж гэта прапагандыст беларускай кнігі, часопіса, газеты? А гэтая з'ява тыповая, бо ў культурна-асветных вучылішчах вучаць усё афармляць толькі на рускай мове. Не ў пашане ў выпускнікоў гэтых вучылішч беларускае друкаванае слова.*

*Мне думаецца, што ў наш час вельмі неабходна ў перыядычных выданнях змяшчаць час-ад-часу артыкулы, якія-б вучылі паважаць, любіць сваю родную беларускую мову, ёю ганарыцца.*

*Вельмі добра было-б, калі-б выйшаў у свет зборнік «Беларускія пісьменнікі аб беларускай мове». Вялікую работу можа зрабіць па гэтаму пытанню і наша радыё.*

*Трэба многа пісаць і разважаць аб бел. мове, якая*

*Усімі вясёлкамі ззяе,*
*Смалістымі пахне лясамі,*
*Жывымі звініць галасамі.*
*М. Танк.*

*...Аб белмове я пісаў у «Звязду» і «Настаўніцкую газету». Са «Звязды» прышоў абнадзейваючы адказ, а ў «Настаўніцкай газеце» за 4.IV.57 г. у аглядзе пісем надрукавалі некалькі радкоў з пісьма».*

Што датычыць М. Танка, дык гэтай вельмі важнай і складанай грамадска-палітычнай праблеме ён прысвяціў шмат сваіх мастацкіх твораў. Паэт неаднаразова закранаў яе ў артыкулах, інтэрв'ю, выступленнях на пленумах і з'ездах Саюза пісьменнікаў Беларусі і інш. Значнае месца яна займае і ў «Дзённіках» мастака. Напрыклад, 2 лютага 1954 года М. Танк занатаваў наступную думку: «Памыляецца нямецкі мовазнаўца Аўгуст Шляйхер, што мова нават адарванай ад штодзённага жыцця можа жыць. Але гэтаму пярэчаць факты. Зараз наша беларуская мова, жывыя крыніцы якой перакрыты іншамоўнымі школай, прэсай, радыё, прапагандай і міграцыяй, — усё больш і больш адступае перад экспансіямі суседніх дзяржаўных моў, губляе свае пазіцыі і знікае. І гэта — у той жа час, калі вызваляюцца народы ад імперыялістычнага прыгнёту і адраджаюць сваю мову і культуру. А ў нас многіх і сёння абвіняюць у нацыяналізме, тады, калі стан беларускай мовы і культуры не можа не насцярожваць. Карабель, якога ватэрлінія на вачах ідзе ўглыб, патанае. А мы — «дзеці набата» (Рэнэ Шар) — маўчым».

З малымі і вялікімі просьбамі звярталіся да М. Танка яго блізкія і далёкія сваякі, у прыватнасці, брат Хведар Іванавіч. У сваіх лістах да народнага паэта і яго жонкі Любові Андрэеўны ён паведамляў пра жыццё на бацькоўскім хутары, працу на гаспадарцы, пэўныя вясковыя навіны, запрашаў наведаць родныя мясціны, акцэнтаваў увагу на некаторых праблемах і клопатах. Да прыкладу, 26 красавіка 1978 года Хведар Іванавіч пісаў:

*«Добры дзень Жэня Люба! с Прыветом к вам Федя Маня Ванюша! Во первых поздравим Жэня вас, с Ленинскай премии, пожелаем вам доброго здароья щастя, и еще столько прожить, сколько прожито, штобы было тихо на свете, было здарове Самое главное у вас былобы все добро весело, тогда и у нас будет добро.*

*Мы все этому рады довольны, штобы так каждый год было весело, здорово, и тихо. Прыезжайте весной, пишыте нам. Прывет Людмиле — Спасибо за их посылку-насевок. Может где можно чорной суконной хварбы достать. К мотоциклу я достал кордан, трубы — 7-Апреля. Плоховато подходило но поставил Сам знаком с этим железзём, но поставил, як надо. За это вам большое спасибо што помогли мне запустить мотоцикл. Но для Ванюши если можно хотябы яки потропаны велосипедик на три колеса через цэп. На этом пока все, унас все пока постарому жывы здоровы, До свидание всего доброго…»*

Варта заўважыць, што сам матацыкл быў набыты Хведарам Іванавічам пры фінансавай дапамозе М. Танка.

Наогул, Яўгена Іванавіча і Хведара Іванавіча яднала трывалая духоўна-псіхалагічная повязь. Гэта былі вельмі блізкія людзі. Пры сустрэчы яны шчыра і даверліва абмяркоўвалі самыя розныя грамадска-сацыяльныя, сямейныя, гаспадарча-бытавыя праблемы, раіліся паміж сабою, планавалі сумесныя справы і інш.

У нядаўняй гутарцы са мною дачка паэта Ірына Яўгенаўна прыгадала сустрэчу бацькі з Хведарам Іванавічам у кастрычніку 1992 года, калі ён прыязджаў у Мінск на памінкі па іх сястры Людміле. М. Танк быў хворы, яму ішоў ужо 81-шы год. Тады яны, як ніколі, шмат і зацікаўлена гаварылі, седзячы на кухні, а потым, ужо ў калідоры, моцна абняліся. У абодвух на вачах былі слёзы. Яны развіталіся назаўсёды…

Аднак М. Танк працягваў лячыцца і 28 кастрычніка 1994 года, сабраўшы астатак сіл, здолеў наведаць Мядзельшчыну, сваю родную Пількаўшчыну, дзе яшчэ раз пабачыўся з Хведарам Іванавічам. Тады ён узышоў на Слабадскі магільнік, у апошні раз пакланіўся маці і бацьку.

Гэта была іх апошняя сустрэча пры жыцці. У наступны раз Хведар Іванавіч убачыў свайго знакамітага брата на яго пахаванні. *«Я помню,* — успамінае Ірына Яўгенаўна, — *ён сядзеў над труною бацькі ў старой хаце, гладзіў яго валасы і ледзь чутна прыгаворваў: «Ну, вось ты і дома, Жэня. Цяпер ужо назаўсёды…»*

Асоба Максіма Танка азорана надзвычай яркім і прыцягальным душэўна-чалавечым дарам, непаўторным талентам выдатнага еўрапейскага паэта, класіка беларускай літаратуры, а таксама высокім аўтарытэтам паспяховага арганізатара літаратурна-мастацкага працэсу, уплывовага грамадскага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі. Ён пражыў вялікае, багатае, насычанае важнымі, сацыяльна значнымі падзеямі і пераўтварэннямі жыццё, цалкам прысвяціўшы яго людзям.

М. Танк быў адной з цэнтральных, першасных велічынь у грамадска-культурным развіцці Беларусі XX стагоддзя. Ён пакінуў пасля сябе непераўзыдзеныя ідэйна-мастацкія адкрыцці, сапраўдныя літаратурныя шэдэўры, якія, без ніякіх сумненняў, будуць цікавіць і хваляваць многія пакаленні ўдзячных чытачоў.



Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# КІТАЙСКІ ПЕРАКЛАДЧЫК МАКСІМА ТАНКА

Вершы Максіма Танка гучаць на розных мовах свету: англійскай, азербайджанскай, арабскай, армянскай, асецінскай, балгарскай, бурацкай, венгерскай, грузінскай, іспанскай, казахскай, на мове канада, на каракалпацкай, кіргізскай, кітайскай, лакскай, латышскай, літоўскай, малдаўскай, мангольскай, мардоўска-макшанскай, марыйскай, нямецкай, польскай, румынскай, рускай, сербалужскай, славацкай, таджыкскай, татарскай, тувінскай, туркменскай, удмурцкай, узбекскай, украінскай, фінскай, французскай, хіндзі, чувашскай, чэшскай, эстонскай, сербскай, якуцкай, ідзіш… Відаць, лагічна паставіць шматкроп'е, бо, пэўна ж, не ўсе пераклады пры стварэнні біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» былі выяўлены. А яшчэ шматкроп'е патрэбна і на будучы працяг, будучую ўвагу да народнага паэта Беларусі, бо «…творчасць М. Танка з'яўляецца сучаснай беларускай літаратурнай класікай, а сам ён уваходзіць у лік вядомых еўрапейскіх паэтаў».

Выступаючы на Трэцім з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі ў 1954 годзе, Максім Танк звярнуў увагу на такую акалічнасць у развіцці нацыянальнай літаратуры: «Многія з нас за апошнія гады пабывалі за межамі нашай Радзімы, у краінах народнай дэмакратыі, дзе сустракаліся з рабочымі, сялянамі, з інтэлігенцыяй і сваімі таварашамі па рабоце — пісьменнікамі. Мы мелі магчымасць пазнаёміцца з дасягненнямі ў галіне эканомікі, культуры народаў Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Балгарыі, Албаніі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі і іншых краін. Мы бачылі, з якой любоўю адносяцца простыя людзі да нас — савецкіх людзей, з якой прыхільнасцю і захапленнем адносяцца яны да нашага мастацтва і культуры… Радасна яшчэ і таму, што ў нашай многанацыянальнай савецкай літаратуры і беларуская літаратура займае сваё пачэснае месца. Як вядома, на кітайскую мову перакладзены вершы Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова, апавяданні М. Лынькова, творы многіх нашых паэтаў і пісьменнікаў…»

Максім Танк у той час працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Полымя». І на старонках гэтага выдання ўжо была прадстаўлена кітайская літаратура ў перакладзе на беларускую мову. Дый Кітай увогуле тады быў у полі надзвычайнай увагі. Яшчэ зусім нядаўна была абвешчана КНР. Усталёўваліся трывалыя кантакты кітайскіх мастакоў слова з творцамі розных рэспублік Савецкага Саюза. Але ў М. Танка была і асаблівая даўняя прыхільнасць да кітайскай тэмы. У дзённіку ад 9 ліпеня 1988 паэт згадвае май 1936, цытуе запіс з таго часу: «…Сустрэўся з К. [?], які расказаў мне пра пастаноўку Л. Шылера ў Львоўскім тэатры спектакля «Крычы, Кітай…» Размова — пра п'есу «Рычы, Кітай!» Сяргея Траццякова (1892—1937), прысвечаную барацьбе кітайскіх партовых рабочых супраць амерыканскіх каланізатараў. А ў чэрвені 1950 г. Максім Танк запісвае ў адным са сваіх сшыткаў: «Еду ў Маскву, адкуль у складзе савецкай дэлегацыі, у якой будзе Бажан, я і кіраўнік нашай дэлегацыі Гундараў, крануся ў далейшую дарогу. Раней з нейкай большай ахвотай збіраўся ў падарожжа. Канада, у якую паедзем, нешта зусім мала мяне вабіць. Марай маёй — пабываць у Кітаі. Здаецца, шмат напісаў бы вершаў…»

Мара збылася. Максім Танк наведаў Кітайскую Народную Рэспубліку ўвосень 1957 года… Нам удалося знайсці чалавека, які быў сведкам тае сустрэчы

народнага паэта Беларусі з Кітаем, — перакладчыка, паэта, мастака-каліграфа Гао Мана (нар. у 1926 г. у Харбіне). Ён і з’яўляецца перакладчыкам (адным з двух) кнігі вершаў М. Танка на кітайскую мову, выдадзеную ў Пекіне ў 1958 годзе. Патлумачваем гэта, крыху забягаючы наперад. У выхадных даных пазначана, што перакладчыкі — Гэ Баоцюань і У. Ланьхань. А дзе ж Гао Ман?.. У. Ланьхань — і ёсць псеўданім нашага героя. З яго ліста, адпраўленага з Пекіна: «У 1957 годзе беларускі паэт Максім Танк разам з савецкай дэлегацыяй дзеячаў мастацтваў прыехаў да нас. Я суправаджаў яго. Мы пабывалі ў многіх месцах нашай краіны. Пасля ў яго выйшаў зборнік вершаў, дзе змешчаны некалькі вершаў пра Кітай…»

Тады, у другой палове 1950-х, шлях Гао Мана ў літаратуру толькі пачынаўся. Таму мы звернемся ўвогуле да жыццёвай і творчай біяграфіі перакладчыка. Нарадзіўся Гао Ман у 1926 годзе ў Харбіне. Пражыў там болей 20 гадоў. У гэты час у горадзе знаходзілася шмат эмігрантаў з розных краін і асабліва шмат рускіх. Гао Ман вучыўся ў гімназіі пры Хрысціянскім Саюзе маладых людзей (ХСМЛ). Большасць выкладчыкаў складалі рускія, іншыя нацыянальнасці сярод тых, хто гаварыў па-руску, падлетак, юнак не вылучаў. «…Я з дзяцінства, — піша Гао Ман у лісце аўтару гэтых радкоў і Веранікі Карлюкевіч, — вучыўся рускай мове і палюбіў гэтую краіну і яе народ. Руская літаратура і мастацтва выпраменьваюць спачуванне да простага, працоўнага люду, дапамагаюць яму ў барацьбе за вызваленне. А мы, кітайцы, гаспадары сваёй краіны, жылі тады пад уціскам японскіх інтэрвентаў. Руская літаратура дапамагла нам раскрыць вочы».

Любоў да рускай літаратуры фактычна і зрабіла Гао Мана перакладчыкам. Зацікаўленні яго былі ў аднолькавай ступені скіраваны на класіку і сучасную рускую літаратуру. Гао Ману даводзілася часта суправаджаць рускіх пісьменнікаў у паездках па Кітаі, перакладаць іх пры сустрэчах з кітайскімі калегамі. Так ён пазнаёміўся з Аляксандрам Фадзеевым, Канстанцінам Сіманавым, Валянцінам Катаевым, Аляксандрам Карнейчуком, Вандай Васілеўскай, Барысам Палявым, Сяргеем Залыгіным, Усеваладам Кочатавым і інш. Пра гэта перакладчык расказвае ў сваіх кнігах. Ёсць у літаратара і нарыс («Удзячны майму настаўніку»), прысвечаны паплечніку па рабоце над кнігай М. Танка «Выбраныя вершы» (Пекін, 1958) — Гэ Баоцюаню (1913—2000). Чытаем пра вытокі іх творчага сяброўства: «…Я пазнаёміўся з ім у пярэдадзень усталявання КНР. Ранняй вясною 1949 года я працаваў у Харбінскім Таварыстве кітайска-савецкай дружбы, часта перакладаючы вершы, прозу для мясцовых газет і часопісаў, пісаў артыкулы, прадстаўляючы літаратуру і мастацтва Расіі і Савецкага Саюза. Аднойчы начальнік паведаміў мне, што праязджае праз Харбін таварыш Гэ Баоцюань і жадае сустрэцца і пагутарыць з перакладчыкамі і даследчыкамі рускай літаратуры…»

Гао Ман працаваў у Таварыстве кітайска-савецкай дружбы. Затым — у часопісе «Сусветная літаратура». Доўгі час займаў пасаду галоўнага рэдактара. Сабраў вакол гэтага ўсекітайскага часопіса лепшыя перакладчыцкія сілы краіны. Сам актыўна займаўся мастацкім перакладам. Пераўвасобіў на кітайскую мову творы А. Пушкіна, М. Лермантава, І. Буніна, А. Ахматавай, Б. Пастэрнака і інш. Аўтар кнігі «Нататкі пра рускае выяўленчае мастацтва». Заслужаны дзеяч культуры Расіі. Узнагароджаны расійскім ордэнам Дружбы. Гао Ман з’яўляецца таксама перакладчыкам мастацкай публіцыстыкі Святланы Алексіевіч. У 2011 годзе сустракаўся ў Пекіне з Навумам Гальпяровічам, напісаў верш, прысвечаны свайму госцю з Мінска. Гао Ман як мастак-каліграф з’яўляецца аўтарам партрэтаў беларускіх пісьменнікаў Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка, Алеся Адамовіча, Васіля Быкава, Святланы Алексіевіч, Навума Гальпяровіча. Рэпрадукцыі гэтых работ перададзены літаратарам і ў Беларусь.

Максім Танк і пасля паездкі ў Кітай неаднойчы ўспамінаў Паднябесную, яе паэтаў, пісьменнікаў. Пра гэта сведчаць многія старонкі дзённіка народнага паэта Беларусі. І хаця пасля 1958 года Танку і Гао Ману ніколі не давялося сустрэцца, у кітайскага сябра беларускай літаратуры ў душы і сэрцы нязменна прысутнічае кавалачак Беларусі. Перакладчык Танка ўважлівы і да беларускага мастацтва, з’яўляецца аўтарам эсэ пра народных мастакоў Беларусі Георгія Паплаўскага,

Заіра Азгура. З апошнім з іх Гао Ман сустракаўся ў час візіту ў Мінск у 1955 годзе, быў госцем у майстэрні скульптара.

Па меры магчымасцей, улічваючы, несумненна, і адлегласці, і ўзрост, Гао Ман цікавіцца і сёння тым, што адбываецца ў Беларусі. І нам цікава кантактаваць з кітайскім сябрам, раіцца з ім па пытаннях даследавання беларуска-кітайскіх літаратурных сувязей. Мы адправілі Гао Ману адзін з артыкулаў Веранікі Карлюкевіч. Праз некаторы час атрымалі ліст мастака слова: «Артыкул пра Максіма Танка… прачытаў… Ён (артыкул. — **А. К.**) з'яўляецца не толькі сведчаннем дружбы паміж кітайскім і беларускім народамі, але носіць і літаратурна-мастацкае значэнне. Раней, калі Беларусь была ў складзе Савецкага Саюза, беларуская літаратура злівалася ў агульнае рэчышча шматнацыянальнай культуры. Цяпер у самастойнай краіне і літаратура вызначаецца самастойнасцю, вылучае сваю прыгажосць, сваю прывабнасць. Я мяркую, што кітайскі чытач паступова таксама зразумее гэтую акалічнасць. Цяпер, пасля шматгадовай культурнай скаванасці, учыненай «культурнай рэвалюцыяй» у нашай краіне, кітайскі чытач пачаў цікавіцца раней заглушанымі, прыхаванымі літаратурамі, англамоўнымі, лацінаамерыканскімі і г. д. Ваш артыкул, можа быць, першая ластаўка, якая расказвае пра сувязі нашых краін. Вялікі дзякуй Вам за такі добры пачатак…»

У сакавіку 2012 г. у Мінску ў Доме дружбы таварыства «Беларусь—Кітай» правяло літаратурна-музычны вечар Лі Бо, класіка кітайскай паэзіі VIII стагоддзя. На беларускую мову яго вершы пераклалі Ігар Бабкоў (першая публікацыя ў 1989 годзе — у зборніку «Тутэйшыя»), Мікола Мятліцкі, якім падрыхтавана аўтарская анталогія «Сто паэтаў Кітая». У вечары Лі Бо прынялі ўдзел дарадца па культуры Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Ван Жуй, паэты Мікола Мятліцкі, Навум Гальпяровіч, даследчыца кітайскай літаратуры Святлана Казакевіч, перакладчык Лі Бо на рускую мову Лі Цзо, які жыве і працуе ў Мінску, аспіранты і студэнты беларускіх ВНУ Лі Эрун, Сун Дан, Сун Ао, Джао Дундун, Ся Цзыюань, Цю Хао, Юлія Курач, якія спявалі песні на словы Лі Бо, чыталі яго вершы.

Вітанне вечару даслаў з Пекіна Гао Ман: «Ад дарагіх сяброў я даведаўся аб маючым адбыцца вечары паэзіі Лі Бо. Я моцна крануты вашай увагай да кітайскай паэзіі. Лі Бо — адзін з буйнейшых паэтаў старажытнага Кітая… Пры жыцці былі ў яго шчаслівыя дні і нацярпеўся нямала гора, пакут. Яго творчасць звязана з росквітам культурных сувязей паміж народамі Кітая і іншых краін свету. Ён апеў прыгажосць прыроды радзімы, зямныя радасці — размовы з сябрамі, сустрэчы з дзяўчатамі, музыку, танцы і, канечне ж, віно. Ён хінуўся да свабоды, адмаўляў дурноты жыцця пануючых класаў. Ён захаваў у сабе душэўную чысціню і добрасумленнасць. Яго вершы і сёння жывуць у народзе! Калі б ён дажыў да нашых дзён, слухаючы вершы на беларускай мове, як радаваўся б сам аўтар. Думаю, што вільготнымі сталі б яго вочы, напоўніліся б яны слязьмі, ды падняў бы ён келіх з віном, ухваляючы ў сваёй песні дружбу нашых народаў! Вершы трэба чытаць і слухаць на роднай мове. Добры пераклад — гэта творчасць на другой мове сілай таленту перакладчыка. Хаця я не чую вашы пераклады, але ўпэўнены, што вершы Лі Бо на беларускай мове будуць гучаць так прыгожа, музычна, як у арыгінале. Паколькі беларускія калегі маюць смеласць і талент у гэтай складанейшай літаратурнай справе. Нізкі паклон перакладчыкам паэзіі Лі Бо! Нізкі паклон натхняльнікам, арганізатарам гэтага выдатнага вечара! Нізкі паклон удзельнікам і аматарам незабыўнай сустрэчы з класічнымі вершамі Кітая! Дзякуй вам, дарагія беларускія сябры!..»

Гао Ман — адзін са старэйшын пісьменніцкага, перакладчыцкага цэху Кітая. Уражлівым падаецца і той факт, што ўжо ў гэтым, 2012-м, годзе адна з цэнтральных газет Кітая — «Жэньмин жибао» — 14 лютага змясціла новы артыкул Гао Мана да 100-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Працуе кітайскі мастак слова і над новымі перакладамі Максіма Танка. Тым больш, што сённяшні характар, шырокая прастора гуманітарных, адукацыйных стасункаў Беларусі і Кітая дазваляюць развіваць работу ў галіне мастацкага перакладу на новым грунце. Задумвалі ж некалі ў Шанхаі выданне 5-томнага Збору твораў Тараса Шаўчэнкі на кітайскай мове. Чаму б не выдаць па-кітайску і двухтомнік ці нават трохтомнік паэзіі Максіма Танка?..

**Паліна КРЫМЯНЧУК,**
**Надзея КАРЭЦКАЯ**

# ПАТРЫЯТЫЧНЫЯ МАТЫВЫ Ў ТВОРЧАСЦІ ВАЛЕРЫЯ МАКСІМОВІЧА

*(на падставе разгляду паэтычнага зборніка «Мяцежнай споведзі скрыжалі»)*

***Гэта ўжо становіцца добрай традыцыяй, калі на старонках нашага часопіса мы даём магчымасць выказацца не толькі вядомым пісьменнікам, паэтам, літаратуразнаўцам, крытыкам, публіцыстам. Для нас важна таксама пачуць нашу «глыбінку», заклікаць да сур'ёзнай і грунтоўнай размовы пра развіццё айчыннай літаратуры і культуры, асветы і адукацыі, музейнай справы і краязнаўства людзей, якія самым цесным чынам далучаны да адукацыйна-асветнай справы, да выхаваўчага працэсу, — адказных работнікаў сферы адукацыі і культуры, настаўнікаў-прадметнікаў, сацыяльных педагогаў, школьных арганізатараў, краязнаўцаў, саміх навучэнцаў. Для захавання і развіцця нацыянальнай духоўнай традыцыі прынцыпова важнай уяўляецца «зваротная сувязь» паміж навукова-асветнай сферай і мясцовымі кіроўчымі органамі, установамі адукацыі і выхавання.***

***У чарговым нумары часопіса ў рубрыцы «Школьныя далягляды» мы прапануем увазе чытачоў артыкул вучаніц Акцябрскай сярэдняй школы Лагойскага раёна Паліны Крымянчук і Надзеі Карэцкай «Патрыятычныя матывы ў творчасці Валерыя Максімовіча (на падставе разгляду паэтычнага зборніка «Мяцежнай споведзі скрыжалі»)». З гэтым дакладам Паліна і Надзея выступілі на Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Традыцыі кніжнасці як фактар духоўнай пераемнасці пакаленняў», якая прайшла на базе Цэнтра культуры г. Лагойска. Выступленне было прымеркавана да выхаду паэтычнай кнігі Валерыя Максімовіча — вядомага літаратуразнаўцы і крытыка.***

***Бягучы год Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 618 абвешчаны Годам кнігі. Звязаныя з гэтым мерапрыемствы, якія сёлета ладзяцца па ўсёй рэспубліцы, — важкая падстава для таго, каб яшчэ раз глыбока, уважліва, абапіраючыся на ўласны жыццёвы досвед, пераасэнсаваць месца, якое займае кніга ў жыцці кожнага з нас. І не проста аддаць ёй належнае, але і зрабіць канкрэтныя крокі па пашырэнні літаратурнага кругагляду, эстэтычнай культуры, узроўню мастацкага і філасофскага ўспрымання. Гэта стане яшчэ адным крокам па наладжванні агульнарэспубліканскай сістэмы дзеянняў у галіне падтрымкі і прасоўвання кніжнай прадукцыі праз дыялог органаў улады, устаноў адукацыі і навуковай супольнасці. Мы ацэньваем гэты дыялог як надзвычай плённы дзеля распрацоўкі адукацыйна-асветных практык, адэкватных умовам развіцця беларускага грамадства, і запрашаем наш педагагічны корпус, навуковую і творчую інтэлігенцыю прыняць удзел у распачатым дыялозе, які, несумненна, будзе карысным і пазнавальным як у навуковым, так і ў агульнаадукацыйным плане.***

Рэдакцыя

Праблема выхавання патрыятызму сродкамі мастацкай літаратуры была і застаецца надзвычай надзённай і актуальнай. Нельга лічыць па-сапраўднаму культурным і адукаваным чалавекам таго, хто не цікавіцца гісторыяй свайго краю, свайго роду, не шануе сваё роднае, нацыянальнае, духоўна не ўзбагачаецца, не імкнецца да гарманічных адносін з акаляючым асяроддзем. Выхаванне патрыятызму пачынаецца менавіта з любові да сваёй малой радзімы, да сваіх бацькоў, братоў і сясцёр, да паважлівых адносін да людзей, сваіх настаўнікаў, сяброў, калег. А галоўнае, з усвядомленага адчування сябе жывой часцінкай свайго народа, свайго роду, з пачуцця гонару і адказнасці за дзень сённяшні і заўтрашні, з жадання зрабіць штосьці важнае, істотнае, значнае для людзей, для таго краю, дзе пачалася твая сцяжына ў вялікі свет.

Адным з дзейсных сродкаў прывівання любові да Радзімы, да гісторыка-культурнай спадчыны, да традыцый народа з'яўляецца мастацкая літаратура. Агульнавядома, што беларуская літаратура вылучаецца арганічнай, глыбіннай сувяззю з народнымі вытокамі, з прыродай, з жывымі праявамі рэчаіснасці. Асаблівую замілаванасць да свайго роднага куточка, зялёных гоняў, шумнаспеўных гаёў і дуброў дэманструе паэзія, якая вызначаецца разнастайнасцю тэматыкі, багаццем зместу і яркасцю мастацкіх вобразаў. Беларуская паэзія, па прызнанні даследчыкаў, — самая зямная, прыродная, жыццесцвярджальная. Бо нашы людзі вядомыя сваёй шчырай любоўю і прывязанасцю да дзедавых сядзіб, да родных «вербаў і бяроз». Яны здаўна імкнуліся жыць у гармоніі з прыродай, з яе цудадзейнай і самавітай красой, наталялі сваю душу водарам пахучых траў і пахам лугавых кветак.

Літаратура, мастацкае слова ў першую чаргу звернута да чалавека, да яго душы і сэрца, да людской памяці, сумленнасці. Яно вучыць дабру і праўдзе, вучыць быць сапраўднымі грамадзянамі сваёй краіны, нераўнадушнымі і неабыякавымі да ўсяго, што адбываецца ў жыцці.

Такія думкі ўзнікаюць пры звароце і да творчасці нашага паэта-земляка Валерыя Максімовіча. Для нас яна стала ўзорам самаадданай любові да сваёй радзімы, услаўленнем яе прыгажосці і непаўторнасці, сведчаннем шчырай удзячнасці тым, хто падараваў шчасце жыць на зямлі і радавацца кожнаму пражытаму дню. У адным са сваіх інтэрв'ю паэт прызнаецца: «Патрыятызм для мяне — гэта таксама і любоў да сваёй літаратуры, да класічнай яе школы. Яна роднасна блізкая для мяне настолькі ж, як і ўспаміны майго ўласнага дзяцінства, якое прайшло ў вёсцы Траянец на Лагойшчыне».

Наш зямляк — сапраўдны патрыёт сваёй малой радзімы. Ён часта бывае ў родных мясцінах, шмат сваіх вершаў і песень прысвяціў Плешчаніцкаму краю, бо менавіта тут узбагачае сябе ўражаннямі і эмоцыямі, што становяцца крыніцай творчасці, паэтычнага натхнення.

Тэматыка паэзіі В. Максімовіча самая разнастайная. Але на першы план выступае высокая грамадзянскасць. Малая радзіма для яго — паняцце, якое напоўнена канкрэтным зямным зместам: тут спадчынныя карані паэта, тут па-асабліваму, з незвычайным унутраным трымценнем і замілаваннем успрымаеш усё, што цябе акаляе. У адным са сваіх інтэрв'ю на пытанне: «Што значыць для Вас малая радзіма?» — ён адказаў: «Так лёсам наканавана, што мы ўсе — рана ці позна — вяртаемся да сваіх вытокаў, да таго непаўторнага, роднага, замілаванага, з чаго пачыналася сцяжына ў вялікі свет. На шчасце, я ніколі не парываў сувязі са сваёй малой радзімай. Заўсёды з невыказным хваляваннем і радасцю наведваю сваю бацькоўскую хату ў вёсцы Траянец, свой родны Плешчаніцкі край. Тут мае карані, адсюль я бяру натхненне для творчасці, набіраюся фізічнай і духоўнай моцы. Родная зямля — надзейны мой абярог ад рознай непагадзі, рознага наслання».

Бацькаўшчына-Радзіма — той куток зямлі, дзе ўсё — і вялікае, і малое — мае для паэтавай душы сваю неацэнную каштоўнасць, значнасць, непаўторнасць. Беларускія паэты заўсёды ўслаўлялі свой родны кут, паэтызавалі яго хараство, складалі прачулыя песні-гімны роднай зямлі. Тэма сыноўскай адданасці ёй знай-

шла сваё адлюстраванне і ў творчасці В. Максімовіча. Спасцігаючы вячыстую, жывую душу прыроды, ён жывапісуе яе непаўторную красу, яе цудадзейнае хараство, праводзіць думку пра арганічную лучнасць свету прыроды і свету чалавека. Пейзаж пры гэтым бярэ на сябе функцыю своеасаблівага мастацкага сродку, які дапамагае праз прадметна-вобразную канву выявіць жывапіс уласных пачуццяў, адчуванняў, перажыванняў, іншымі словамі, «пейзаж душы». Тэма прыроды цесна звязана з тэмай Радзімы, Бацькаўшчыны, што, паводле мастацкай канцэпцыі паэта, з'яўляецца асновай фарміравання патрыятычнага пачуцця, той жыватворнай крыніцай, якая напаўняе душу любасцю, замілаванасцю і пяшчотай, дапамагае адчуць сябе паўнапраўным грамадзянінам сваёй краіны.

Вершы В. Максімовіча, якія ўвайшлі ў зборнік «Мяцежнай споведзі скрыжалі» (2012), вылучаюцца непасрэднасцю, адкрытасцю ў выяўленні лірычнага пачуцця, а таксама высокай грамадзянскасцю. Паэт піша пра тое, што яго непакоіць, хвалюе, што прымушае часцей біцца сэрца. Вось чаму ім уласцівы рысы аўтабіяграфічнай, унутранай спавядальнасці, споведзі, а значыць, шчырасці. Пісаць пра самае істотнае, важнае, набалелае — вось да чаго імкнецца В. Максімовіч, і ў многіх творах ён дасягае высокага напалу пачуцця, магутнага выбуху эмоцыі. Яго погляды і ідэалы сфарміраваны ўласным жыццёвым вопытам, яны па-чалавечы зразумелыя і блізкія кожнаму, па-філасофску змястоўныя і глыбокія. Вершы прасякнуты любоўю і павагай да чалавека духоўна багатага, у якога надзвычай развіта пачуццё крэўнасці, роднасці з усім жывым на зямлі і які з асаблівай тактоўнасцю і пашанай ставіцца да іншых людзей. Лірычны герой паэта — чалавек актыўнай жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі, які не можа быць абыякавым да таго, што адбываецца вакол, і гатовы бескампрамісна адстойваць ідэалы праўды, чалавечнасці, сумленнасці. Яго ўнутраны свет поўніцца невыказнай любоўю да роднага краю: ён пранізаны адчуваннем цеснай, непарушнай знітаванасці з бацькоўскай хатай і сцежкамі маленства, баразной і рунню, лесам і ракою…

Вобразы роднай зямлі ва ўспрыманні В. Максімовіча набываюць паўнаважкую паэтычную каштоўнасць. Паэт імкнецца мастацкімі сродкамі перадаць і радасць, і боль зямнога існавання. Свет ягонай паэзіі поўніцца трывожнымі думкамі пра родную зямлю, пра лёс чалавека ў неўтаймоўных віхурах часу. Але ёсць штосьці непарушнае, спаконвечнае, дзякуючы чаму чалавек і можа заставацца чалавекам, асобай, грамадзянінам. В. Максімовіч глыбока перакананы, што ўсё пачынаецца з любові да канкрэтнай асобы, травінкі, кветкі, птушкі, з адчування духоўнай блізкасці і роднасці з прыгожым і непаўторным, з усім жывым на зямлі. Вельмі пранікнёна, шчыра, узнёсла сваю любоў да Радзімы паэт выказвае ў вершы «Сцежкі-дарожкі»:

…І якія б ні дзьмулі вятры і завеі,
Да апошняй сваёй развітальнай вярсты
Я з табой застануся надоўга — навекі,
Краю мой запаветны, мой краю святы!

У сваёй творчасці В. Максімовіч не абышоў сваёй увагай і тэму дзяцінства. І гэта зразумела, бо менавіта ў дзяцінстве фарміруюцца тыя лепшыя якасці, якія дапамагаюць маленькаму чалавеку стаць Асобай у самым высокім сэнсе гэтага слова, дазваляюць душою адчуць усю прыгажосць роднай зямлі.

Паэт з асаблівым замілаваннем і пяшчотай выказвае свае адносіны да таго лапіка зямлі, дзе стаіць матчына хата, дзе жывуць дарагія яго сэрцу людзі і адкуль пачаўся шлях у сталае жыццё. У думках ён часта вяслуе «да астраўка маленства», які вабіць да сябе праз смугу гадоў, у раптоўна ўзніклым парыве з замілаваннем ускліквае:

Святлынны час! Істотаю усёю
Я прагну затрымаць-спыніць цябе:
І дзе б ні быў — заўсёды ты са мною
У радасці ціхуткай і ў журбе.

Метафарычны вобраз «нягаснучага рабінавага ланцужка», які сустракаецца ў вершы «На мяжы дзяцінства», звязаны з тым часам, калі лірычны герой «быў і няшчасны, і такі шчаслівы», назіраў «падоўгу ў небе сінім, як караван аблокаў праплываў»:

Нягаснучы рабінаў ланцужок
У сэрцы маім зорыста свіціцца,
Як Млечны Шлях, з якога мне не збіцца,
Бо ён са мной, ён — мой жыцця выток.

Дзяцінства — светлая, бесклапотная пара, час незабыўных світанняў і наіўных мар, надзей і спадзяванняў. Тут ўсё пазнаецца і спасцігаецца ўпершыню, тут прыходзіць першы жыццёвы вопыт, а дзіцячаму свавольству і радасцям няма канца. І таму верш «Рэквіем па няспраўджаным дзяцінстве: па слядах аднаго снутрызнення» асабліва кранае душу, гучыць нейкім трывожным дысанансам, уражвае сваім трагізмам. Дзіцячы лёс з самага пачатку малюецца ў трагічных фарбах: «Лёс мой нелітасцівы. // Лёс — як свінцовы сон // Ад самага нараджэння, // Ад першых дзяцінства дзён...»

Здаецца, хлапчуку жыць ды жыць, радавацца птушынаму спеву, яснаму сонцу, блакітнаму небу, марыць пра будучае. Але ўсё абарвалася ў адно імгненне. Нельга стрымаць хвалявання, чытаючы радкі, дзе адлюстраваны менавіта той момант, калі «чужаніцы злыя» ва ўпор расстрэльвалі яго:

Стрэл! І другі! Яшчэ раз!
Куля прайшла навылёт...
Ціша... Крывавае сонца...
Чорнага неба лёд...

Пасля гэтага крывавага злачынства асірацела ўсё навокал: і поле, і рака, і дарога. Абарвалася дзіцячае жыццё… Колькі болю, адчаю, крыўды чуецца ў *жывых* словах расстралянага:

Даруй мне, мая зямелька,
За тое, што не жыву.
Каб жа хоць ведаць, за што я
Склаў сваю галаву...

Гэты верш — рэквіем не толькі па адным загінуўшым хлопчыку, гэта рэквіем па ўсіх загінуўшых у гады вайны дзецях.

Не мог з тым ніяк змірыцца:
Доўга і скрушна гукаў
У сне расстралянага кімсьці
Маленькага хлапчука.

Мастацкія сродкі: «крывавае сонца», «чорнае неба», «страшны сон», «лёс нелітасцівы», «чужаніцы злыя»(эпітэты); «лёс, як свінцовы сон», «прыснёнае, як жывое, суздром узяло ў палон» (параўнанні), «заняўся ранак», «умомант асірацелі поле, дарога, рака», «склаў сваю галаву...» (метафары) і іншыя — дапамагаюць яскрава ўявіць трагедыю ўкрадзенага, знішчанага бязлітаснай рукой дзяцінства.

Такім чынам, мы бачым, што родная зямля, радзіма — самы гожы і мілы свет, які адкрываецца аднойчы ў маленстве і не перастае здзіўляць, зачароўваць, уздзейнічаць на думкі, настрой, псіхалогію, эстэтычны густ чалавека. Вершы пра дзяцінства вучаць не толькі любіць сваю Радзіму, але і цаніць жыццё і заўсёды быць удзячнымі тым, хто, ахвяруючы сабой, падараваў нам шчасце жыць.

У беларускай літаратуры ёсць вобраз, якога не абмінуў ні адзін значны творца. Ён авеяны самай высокай паэзіяй. Гэты вобраз — увасабленне дабрыні,

самаахвярнасці, бескарыслівасці. Ён заключаны ў кароткім, але вельмі дарагім для чалавека слове «мама». Не абышоў гэтую тэму і В. Максімовіч. Вобраз маці займае ў ягонай творчасці важнае месца і сустракаецца ў многіх яго творах. Асабліва кранаюць душу вершы «Размова з маці» і «Спавядальнае».

Для паэта маці — найдаражэйшы на свеце чалавек. Ніхто не можа так горка і няўцешна тужыць, як маці. Ніхто не ўмее так любіць, як яна, ніхто так пяшчотна не дорыць сваю ласку і дабрыню. Маці заўсёды дапаможа, падтрымае ў горы і радасці. І ўдзячны сын адказвае ёй сваёй павагай і любоўю:

А матуля у хаце запаліць святло —
Вечаровую скруху усцешна развее,
І ад шчырай размовы за белым сталом
На душы і на сэрцы маім пасвятлее.

Цёплыя матуліны словы, мілагучныя, жывыя, нібы заварожваюць, зачароўваюць, нясуць супакаенне, настройваюць на лірычны лад, напаўняюць душу святлом і замілаванасцю:

Водар матчыных слоў — мілагучных, жывых—
У сябе неспатольна, нястрымна ўдыхаю.
Працінае мяне яе кожны уздых,
Кожны позірк яе я лаўлю-пераймаю.

У вершы «Спавядальнае» паэт прызнаецца, што яго заўсёды цягне дадому, у родную хату, дзе чакае самы блізкі і родны чалавек.

Я наведаю маму,
Што век свой цярпліва вякуе,
І вартуе цяпельца
Жывое,
Каб не астыла яно…
Хай зязюля ў бары
Па вясне ёй шмат год  накукуе,
Наварожыць ёй шчасця
На цэлае верацяно.

Ён удзячны маці за дні, поўныя бестурботных забаў і гульняў, за добрае сэрца і чулую душу, за тое, што яна здолела захаваць цяпло і ўтульнасць роднага дома. І таму такім простым і зразумелым кожнаму падаецца пажаданне:

Толькі рукі твае
Адпачнуць хай ад цяжкае стомы,
Не туманяцца вочы
І сэрца тваё не шчыміць.
Хай лятуць, нібы птушкі,
Гады нашым шляхам знаёмым.
А мы будзем страчаць
Свае вёсны —
Мы будзем жыць.

У вершы «Балада памяці», прысвечаным бабулі Антаніне  Антонаўне Дубаневіч і дзядзьку Дзмітрыю Антонавічу Волаху, які загінуў пад Масквой у 1941 годзе, паўстае вобраз маці, якая выправіла на вайну сына, ды так і не дачакалася яго. Колькі слёз выплакала яна, колькі перанесла пакут! «Як ведаць было ёй, што Міці не стала // У той сорак першы апалены год?» Незагойны, пякучы мацярынскі боль, адчуванне непапраўнага гора з нагоды страты яскрава дапамагае адчуць метафара, што паўтараецца ў вершы двойчы:

Ды толькі наўзрыд ад пякучага болю
У полі палынным галосяць вятры.

Малюнкі, якія паўстаюць у творы, запамінаюцца суровай праўдзівасцю і псіхалагічнай узважанасцю вобразаў-дэталяў:

Ах, клятая, тройчы праклятая куля
Прабіла гарачае сэрца яму…
Нястомна шаптала начамі матуля
Малітву забітаму сыну свайму.

Творы В. Максімовіча, прысвечаныя малой радзіме, маюць розную праблемную скіраванасць. Сярод іх неяк асабняком стаіць верш «На хутары былым», у якім у новым ракурсе раскрыта тэма сталінскіх рэпрэсій, звязаная са знішчэннем сялян-хутаран. Твор гучыць як рэквіем па ўсіх нявінна забітых, закатаваных сталінскімі сатрапамі… Падчас аднаго з наведванняў былога хутара ў паэта штосьці як бы перавярнулася ўнутры, з'явілася шмат эмоцый, перажыванняў, якія ён выклаў у паэтычнай форме.

На хутары, дзе я даўно не быў,
Шыпшына расквітнела на дварышчы, —
За столькі год ніхто яе не знішчыў —
І куст паўсюль атожылкі пусціў.

Верш вызначае вельмі напружаная танальнасць, высокадраматычны напал пачуцця. Тут сышлося ўсё: і шкадаванне, што так здарылася, і праслаўленне сапраўдных гаспадароў зямлі, і ўпэўненасць, што імёны загінуўшых ніколі не знікнуць з памяці. Для самога паэта наведванне былой сядзібы — сапраўды знакавая духоўная падзея, бо гэта дазволіла па-новаму асэнсаваць той час, па-свойму перажыць яго, паразважаць над сутнасцю жыцця, адчуць жывую повязь з прыродай, людзьмі і вечнасцю.

У вершы «Прасветлае» лірычнаму герою хочацца прырасці душою да кожнай зёлкі ў полі, піць вачыма зямную красу свайго краю, плыць, нібы па хвалях, па мурожных травах, «адпачыць душою ў палоне дзіўных чар…». Яго радуюць краскі ў лузе, сінь нябёсаў, жаўрукі ў паднябессі. «Мой краю серабрысты, мой светласумны боль! //Мелодыяй гаючай душу маю спатоль», — узнёсла прамаўляе ён з сардэчнай сыноўскай замілаванасцю.

Родны край для паэта — гэта «абярог жыцця», што выклікае ў яго душы святое пачуццё. Верш «Роднаму краю» напісаны ў форме звароту і вызначаецца асаблівай пранікнёнасцю, чуласцю, шчырасцю:

Я табе гэту песню
хачу падарыць
з раўчуком гаманлівым,
са світальнай зарою,
з шчабятаннем салоўкі
ў зялёным бары
і з вярбой, нахілёнай
над чыстай вадою.

Сэрцу паэта люба і дарага ўсё, што пакінула ў душы глыбокі след: жаўруковы спеў, калыханка матулі, твары сяброў, незабыўныя словы сваёй каханай. Ён знаходзіць цёплыя, пранікнёныя словы, каб выразіць сваё захапленне і сардэчную прывязанасць да родных мясцін:

Баравы і мядовы,
васільковы мой край,
Тваім водарам родным
мне надыхацца дай.

Аднойчы па-сапраўднаму адчуўшы прыгажосць і непаўторнасць роднага краю, немагчыма не любіць і не абагаўляць яго. В. Максімовіч адчувае асаблівую

замілаванасць і ўзнёсласць, сузіраючы родныя краявіды, дыхаючы гаючым свежым паветрам і спелячы ў душы самыя высокія пачуцці.

«Краю мой мілы,чароўны мой край», — так гаворыць ён у вершы «Спявай, мая душа». Лірычны герой адчувае сваё адзінства з ім, некуды далёка адыходзяць усе непрыемнасці, і хоча спяваць душа. Апошняя страфа гучыць як клятва, як святое абяцанне застацца годным сынам сваёй зямлі, прысвяціць сваё жыццё і сваю песню ўсім добрым людзям:

Цябе ніколі не зракуся,
Мой любы, мой прасветлы край…
Ўсім добрым людзям Беларусі
Спявай, душа мая, спявай!

Мяркуем, гэты разгляд творчасці В. Максімовіча пераканаў, што ягоныя вершы вучаць любіць Радзіму, ганарыцца ёй і памятаюць пра свае карані, пра вытокі свайго роду-племені. Напісанае ім вызначаецца лірычнай адкрытасцю і шчырасцю, меладычнасцю і напеўнасцю паэтычнага радка, сэнсавай і эмацыянальнай насычанасцю. Вобразна-метафарычная канва вершаў цесна звязана з нацыянальнай паэтычнай традыцыяй: у ёй моцна адчуваецца повязь з зямлёю, з роднай прыродай, з дарагімі і блізкімі кожнаму беларусу жыццёвымі рэаліямі. Як і яго любімы паэт Максім Багдановіч, В. Максімовіч застаецца шукальнікам спрадвечнай прыгажосці, хараства, гармоніі. І не толькі ў прыродзе, але і ў міжасобасных дачыненнях. Разам з тым, яго паэзія яскрава ўвасабляе нацыянальны адраджэнскі ідэал у новых сацыяльна-культурных рэаліях. Таму, як і ў Янкі Купалы, вершы В. Максімовіча маюць адкрыта грамадзянскае гучанне, вострую сацыяльную скіраванасць, што цесна паяднана з вырашэннем злабадзённых маральна-духоўных праблем сучаснасці. Усё, пра што ён піша, вызначаецца непаддробнай шчырасцю, непасрэднасцю, сапраўднасцю. Тут няма фальшу, а ёсць адкрыты голас душы, нават крык душы, дзе скандэнсаваны паэтавыя пачуцці і перажыванні, радасці і засмучэнні, адчай і надзея.

У адным артыкуле нельга ахапіць усю разнастайнасць паэтычнай палітры В. Максімовіча. Нейкая таямніца душы, безумоўна, застаецца. А гэта будзе, у сваю чаргу, заахвочваць іншых даследчыкаў да разгадкі яго паэтычнага свету, да спасціжэння мастацка-вобразнай і ідэйна-канцэптуальнай сістэмы зборніка «Мяцежнай споведзі скрыжалі», што дасць чытачам больш поўнае ўяўленне пра творчасць і асобу яго аўтара. А нас, вучняў, адухоўленае слова паэта вучыць цаніць жыццё, быць сапраўднымі патрыётамі, грамадзянамі сваёй краіны, прыкладаць усе намаганні дзеля таго, каб наша сінявокая Беларусь вольна і горда квітнела і красавалася ў шумнаспеўным хоры птушыных галасоў, у чароўным ззянні сініх васількоў у жыце, у бязважкім кружлянні буслоў над роднай хатай.

Бо яна — вечная.



Міхаіл КУЗЬМІЧ

# РАСЦЕ КАЛІНА ЛЯ ВАРОТ

*(штрыхі да творчага партрэта Генадзя Пацыенкі)*

## Дух святога прыстанку

Цяперашняе сваё быццё на роднай зямлі ён разглядае ў філасофска-маральным ключы: як абавязак перад ёй і памяццю продкаў. Для яго яна — самае цудоўнае месца, адкуль пульсуюць моцныя, светлыя і дарагія ўражанні, дзе ярка ўзгадваюцца і пераасэнсоўваюцца факты, падзеі, эпізоды і дэталі мінулага жыцця.

Немагчыма вылучыць у яго біяграфіі чыста жыццёвае і творчае. Яны злучаны і адзіныя. Важна, што ў пісьменніка за душой, якія жыццёвыя ўніверсітэты ён прайшоў, якія яго чалавечыя пазіцыі і эстэтычныя прынцыпы і іх адлюстраванне ў прозе.

Вось ужо пятнаццаць гадоў, вярнуўшыся з Масквы, ён жыве на сваёй малой радзіме, у краі птушак, якія няспынна спяваюць, спалоханых звяроў, што, тым не менш, увесь час кружаць вакол хаты, справядліва-ўпартай прыроды, як быццам пачуў вялікага мудраца і прыродазнаўцу М. Прышвіна: «У человека на свете есть две радости: одна — в молодости выйти из дома, другая — в старости вернуться домой». І не адрываецца ад сучасных сацыяльна-палітычных і духоўных працэсаў, якія аналізуе, ператвараючы вынікі ў публікацыі і даносячы іх да чытачоў.

На бацькоўскай сядзібе ёсць нямала таго цікавага і характэрнага, што ў маленстве і юнацтве аказвала ўздзеянне на яго станаўленне, выхаванне і развіццё як чалавека, асобы і пісьменніка, умацоўвае яго грамадзянскую пазіцыю і цяпер. А галоўнае — бацькоўская хата, якая нагадвае пра мінулае. Цяпер ужо сагрэтая і аблашчаная яго цяплом і клопатамі, трывогамі, болем і любоўю, яна стаіць убаку ад вёскі, але яшчэ здалёк відаць разьбяная ліштва ганка, вокнаў і стары сад з маладым «падлескам», а побач, каля веранды, паміж ліпамі — дыхтоўная лава, амаль як у многіх знакамітых рускіх пісьменнікаў мінулых стагоддзяў. Вакол хаты акуратны плот і невялікі падворак. Тут жа дрывотнік, а справа ў дзясятку метраў ад яго невялікая лазня, якой ён асабліва ганарыцца. Улетку на гародзе — некалькі градак і свабода для разнатраўя і меданосаў. І густая засень-сцяна дрэў па перыметры плота, пра што асобная гаворка. Пра іх можна было б і не згадваць, калі б не адна незвычайная акалічнасць. Многія з іх — імянныя і пасаджаны вядомымі рускімі савецкімі пісьменнікамі І. Стаднюком, М. Рубцовым, В. Кастровым, М. Старшынавым, супрацоўнікамі Цэнтра кіравання касмічнымі палётамі і іншымі выдатнымі людзьмі, якія пакінулі свой след у гісторыі. Уражанне, што тут лунае дух творчасці і любові, а галіны дрэў нагадваюць чалавечыя рукі і да іх хочацца дакрануцца. Каля варот, абняўшыся як закаханыя, усіх сустракаюць елка і бяроза, якія імкнуцца ўгору, а ледзь воддаль ад іх, нібы бянтэжачыся, вітае каліна: у маі — пышным буянствам красавання, а ўвосень і ўзімку — палаючымі гронкамі. Дрэва нашых бабуль і маці. І ягонага маленства. І мала хто ведае, што ўсярэдзіне кожнай ягады ёсць маленькае сэрца. Яно і асаблівы знак-намёк зямлянам, і сігнал, што жыццё — цяжкая штука.

Сядзіба прыцягвае чыстым паветрам, напоеным травой мясцовых сенажацей, дабрамыслянскіх хваёвых бароў, да якіх падаць рукой, магчымасцю адасобіцца і адысці ад людской мітусні, зняць цяжар і напругу ад ціску шматмільённага мегаполіса і, як у дзяцінстве, бязбоязна пахадзіць басанож па зямлі, адчуць абноўленыя жыццёвыя сілы і здабыць душэўную раўнавагу.

У цуд-студні незабыўная, асаблівая на смак, п’еш — не нап’ешся, вада (мала хто сумняваецца ў яе гаючасці), ад якой ломіць зубы, а раўчук, што працякае поруч, натужліва з году ў год цягне сваю манатонную мелодыю. А за ім, пад гарой, — сляды вайны: рэшткі ад зямлянкі, якая некалі прытуліла іх сям’ю, у хмызняках груды і калдобіны ад акопаў, бліндажоў, траншэй, іржавы калючы дрот, што нагадваюць пра сямімесяцавае стаянне тут фронту. Недалёка ад студні ім пасаджаны малады дубок, які ўжо ўвабраўся ў сілу і шапочучы ў летнюю пару густой шавялюрай-кронай, здаецца, паблажліва, з хітрынкай і хвацкай удаласцю пагардліва пазірае на тых, хто тленна мітусіцца вакол. Ад самога гаспадара можна пачуць: «Я — на сялібе… Хутаранец». Інакш кажучы, нібы на засценках, наводшыбе. Мяркуючы па ўсім, па душы яму такі статут, а ў ім, як мне здалося, гучыць прыемная бравада, якая цешыць славалюбства. Але «хутаранства» — гэта вельмі ўмоўна. Бо вышэй радавога гнязда, і злева і справа, — дзясяткі тры, падперазаных няроўнымі платамі, звычайных хат савецкіх часоў і новых харомін-дач, вакол якіх штодня варушацца людзі, цепліцца жыццё, над комінамі па раніцах уюцца шызыя дымкі, а ўвечар дзе-нідзе з вокнаў струменіцца святло. І цішыня да болю ў вушах, што ўлагоджвае.

Вёску ён любіць усёй душой і, як знаўца і даследчык А. Пушкіна, фактычна рэалізуе трапнае выслоўе вялікага паэта: «Не любить деревню простительно монастырке, только что выпущенной из клетки, да 18-летнему камер-юнкеру. Петербург прихожая, Москва девичья, деревня же — мой кабинет».

Хата ў вёсцы заўсёды адкрыта для добрасардэчных і прыстойных людзей як бы гэта не гучала старамодна і высакамоўна. Тут прасторна, прывольна і цудоўна быць сам-насам са сваімі думкамі, радасцямі і смуткам, нягледзячы на зменлівасці непатрабавальнага вясковага побыту, які забірае шмат сіл і часу.

Што характэрна яшчэ? Тут як быццам адноўлена тое, што калісьці было і павінна быць у вясковай хаце і вакол яе — цэлы духоўна-маральны і матэрыяльны свет, які, насуперак уплыву інфармацыйна-тэхнагеннай цывілізацыі і ўрбанізацыі, у асноўных рысах захаваны. Таму для яго натуральна жыць у вясковым асяроддзі, па вясковых традыцыях, якія ў памяці яшчэ з дзіцячых гадоў — у прыяцельстве, добрасуседстве, у дабратворнай маральнай атмасферы, бо жыццё на сяле пакуль вызначаецца не крутасцю запатрабаванняў, не наяўнасцю грашовага мяшка і апошняй маркі аўтамабіля, а захаванымі яшчэ сумленнасцю, спачуваннем, мудрым вясковым прагматызмам.

Падумалася вось пра што... Студня як невычэрпная крыніца, якая нагадвае глыбіні быцця, жыватворны раўчук, што цурчыць непаўторнымі пераліўамі, пакінутыя ў выглядзе артэфактаў сляды жахлівай вайны, возера цяжкага дзяцінства, якое адлюстроўвае, як люстэрка, цудоўнае па блакіце неба, шлях, што ўвасабляе творчы ланцужок і сацыяльны досвед, галінасты дубок, сімвалізуючы жыццёвую сілу, ды каліна ля варот — дзіўныя і не выпадковыя супадзенні, спалучэнні і аналогіі, якія маюць дачыненне да не простай «арыфметыкі і геаметрыі» лёсу Г. Пацыенкі. Яе вёрсты расцягнуты ў часе і ў прасторы і, натуральна, умяшчаюць не толькі вытокі, але і месцы, дзе яму давялося спасцігаць жыццё, працаваць і сцвярджаць сябе ў творчасці.

Нарадзіўся Г. Пацыенка 25 жніўня 1937 года ў вёсцы Зубакі, што на Лёзненшчыне, адкуль і пачаўся старт у «вялікае» плаванне. Пасля роднай хаты ўрокі самастойнасці шмат чаму навучылі. Ён быў фэзэвушнікам у Віцебску, цаліннікам у Казахстане, танкістам на Далёкім Усходзе, токарам завода «Аўтазапчастка» ў Гродне, студэнтам, аспірантам, выкладчыкам Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага, працаваў у часопісах «Молодая гвардия», «Жизнь национальностей», першым намеснікам галоўнага рэдактара ў самым буйным выдавецтве

СССР «Художественная литература», у папулярнай «Роман-газете». Некалькі гадоў яму выпала працаваць у постсавецкі ўжо час у Міністэрстве па справах нацыянальнасцей Расійскай Федэрацыі. Але, нягледзячы ні на што, заўсёды цаніў сувязь з Радзімай і землякамі.

У творчым багажы больш як дзясятак кніг («Шуршание сена», «Колесо на березе», «Высокий день», «Зал ожидания», «Дом без соседей», «Дни среди молний», «Под озоновой дырой», «Взрыв души» і іншыя), выдадзеных у Маскве і гарадах Расійскай Федэрацыі. Пяць гадоў таму назад ён упершыню прыйшоў да беларускага чытача з двухтомнікам «В дождь под Рождество» і « Пистолет в чемодане», які справядліва адзначаны Дыпломам III ступені на Рэспубліканскім літаратурным конкурсе на лепшы твор у намінацыі «Проза». Г. Пацыенка — лаўрэат Віцебскай абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча. У апошнія гады ў тоўстых часопісах, альманахах, у перыядычным друку з'яўляюцца яго аповесці, апавяданні, успаміны і публіцыстычныя артыкулы.

Пра сваіх настаўнікаў ён распавядае з падзякай і вялікай павагай. Хто ведае, якім бы быў яго лёс, калі б не сустрэліся яму на шляху выдатныя хросныя Васіль Быкаў і Іван Шамякін, дзякуючы якім у яго ўсё склалася як найлепш. Першы ўхвальна адклікнуўся і падтрымаў яго літаратурныя спробы ў асабістых размовах і на старонках «Гродненской правды», другі ўсё зрабіў, каб на той час малады аўтар трапіў на творчы конкурс і ўступныя экзамены ў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага.

«Маскоўскае жыццё» падарыла яму, выхадцу з глыбіннай беларускай вёскі, сустрэчы з людзьмі, якія ўплывалі на духоўную атмасферу ў краіне: пісьменнікамі, дзеячамі мастацтва і літаратуры, навуковымі, выдавецкімі работнікамі, партыйнымі кіраўнікамі. Як і пра сваю вёску і землякоў, ён з асаблівай любоўю расказвае пра зацішныя куткі ў цэнтры і на ўскраінах Масквы, пра тых, хто пакінуў след у яго душы і быў блізкі шматлікія гады: А. Аўчарэнка, В. Фёдараў, Ю. Бондараў, У. Бушын, М. Лабанаў, В. Бялоў, А. Калінін, В. Катаеў, С. Круцілін, Г. Траяпольскі, Я. Носаў, С. Бабаеўскі, В. Ніканаў, М. Рубцоў, Б. Лявонаў, Л. Ханбекаў, Э. Сафонаў, В. Бокаў, А. Папярэчны, пра што сведчаць шматлікія архіўныя матэрыялы — лісты, паштоўкі, фатаграфіі, кнігі з дароўнымі надпісамі, асабістыя ўспаміны.

Давялося яму па службовых справах сутыкнуцца і адчуць на сабе лявацкае словаблудства і ціск ідэолага КПСС А. Якаўлева, які пасля апублікавання ў «Литературной газете» кіраўнічага артыкула «Супраць гістарызму» (1972) навязваў суб'ектыўнае разуменне развіцця гістарычнага працэсу, а, такім чынам, і літаратуры і мастацтва, умешваўся і ажыццяўляў дыктат у выдавецкай дзейнасці, вызначаючы, каго друкаваць і што класці пад сукно, тармозячы з'яўленне патрыятычнай літаратуры.

Вялікая любоў Генадзя Барысавіча — песня, якая нярэдка гучыць у яго выкананні разам з сябрамі. Яму даспадобы тыя песні, у якіх шмат душы, шчырасці і размаху. А больш за ўсё — душашчыпальныя рамансы «Выхожу один я на дорогу», «Ямщик, не гони лошадей», «Гори, гори, моя звезда». Адбылося гэта, хутчэй за ўсё, пад уздзеяннем І. Казлоўскага, калі ў студэнцкія гады Г. Пацыенка ў вячэрнія гадзіны працаваў у Вялікім тэатры Саюза ССР выпускаючым і пастаянна сустракаўся, гутарыў і слухаў голас вялікага спевака.

## Душа на заломе

Творчасць Г. Пацыенкі ўтрымлівае ў сабе сур'ёзны роздум, адзнакі і малюнкі пра эпоху, якая адышла («вывихнутый век»), і цяперашні час, нашпігаваны вострымі асабіста чалавечымі і сацыяльна-палітычнымі супярэчнасцямі і драмамі, і ў пэўнай меры ёсць пераасэнсаванне таго, што адбывалася з самім пісьменнікам, яго роднымі, блізкімі і краінай. Сітуацыі і акалічнасці, здабыткі і страты, псіха-

лагічныя і душэўныя траўмы, змены і перапады ў настроях людзей, прапушчаныя праз сэрца, адбіліся ва ўсіх засвоеных ім жанрах літаратуры. У яго свой стыль весці гаворку пра цяжкасці і складанасці без штучнай драматызацыі. Аднак за вонкавым спакоем заўсёды адчуваецца напружаны ўнутраны свет герояў, іх радасці, душэўныя разлад, раны і драпіны.

Ягоныя аповесці працягваюць лепшыя традыцыі беларускай і рускай класічнай літаратуры. Яны адлюстроўваюць розныя сацыяльныя тэматычныя пласты, і кожная «вязе» сваіх персанажаў і галоўную ідэю. Змястоўнае іхняе поле — завязаныя ўнутраныя канфлікты, перапляценне і скрыжаванні незвычайных сацыяльных і псіхалагічных сітуацый і лёсаў людзей, якія маюць, безумоўна, тыповыя асаблівасці і рысы.

Вузлавы сэнс аповесці «Деньги на Марсель», напісанай на аснове жыццёвага факта, і з’яўляецца правобразам з’яўлення на расійскім тэлебачанні перадачы «Чакай мяне», дзе сустракаецца нямала сюжэтаў, аналагічных гэтаму, — у сіле кахання і памяці, у высакароднасці і людскасці дзядзькі Сашы, франтавіка, удзельніка французскага Супраціўлення. Патаемнае пачуццё не прайшло з гадамі, не стала для яго разменнай манетай, чымсьці выпадковым. На зыходзе жыцця з новай сілай перажываецца мінулае, і ён вядзе складаны маналог-прызнанне з пляменнікам пра «памылку маладосці». Але гэта і ўяўная гутарка праз больш за 60 гадоў і з любай Оляй Созі, пакінутай у Марселі пасля яго змушанага ад’езду з Францыі.

Хіба лёгка жыць з каменем на душы, з разбітым сэрцам? «Жить вроде бы живешь, а душа ее чувствует», — скрушна кажа дзядзька Саша. Апошняя надзея ў яго на пляменніка, якому ён уручае грошы для паездкі ў далёкую краіну. Яго ўчынак можна расцаніць як адчайны крык душы, парыў шчырага і сумленнага чалавека і нецярплівае чаканне магчымага цуду.

Іншы змястоўны каларыт і архітэктоніка аповесці «Под стук колес», у аснове якой справакаваны сацыяльнымі зменамі ў краіне востры дыялог двух чалавек у вагоне цягніка: умудронага вопытам і «бітага» жыццём, са сваёй філасофіяй Арсенція Данілавіча пра вялікія прыватныя і агульныя праблемы ўзняцця цаліны і трывогі і ўспаміны яшчэ маладога Андрэя Чакаліна, які ўжо ўстаў на крыло і ў памяці якога засталася даўняя паездка з цалінных краёў дахаты. Гэта і развагі пра фермерства, і непрыманне цаліннай эпапеі, што падаюцца ў постсавецкіх умовах наіўнымі. Аўтар запрашае да гутаркі і чытача, таму што героі не прыходзяць да нейкай агульнай пазіцыі і застаюцца кожны пры сваім меркаванні.

Убачыць у чалавеку праяўленне па-сапраўднаму чалавечнага, вартасць і добрапрыстойнасць запрашае аповесць «Ожидание неудач». Назва яе як быццам загадзя папярэджвае чытача пра наяўнасць канфлікту, сутыкненні супрацьлегласцей: таўстаскурага, але звыклага, эгаізму па-сучаснаму прасунутай Веранікі, дачкі вядомага навукоўца, і Паўла Паленіна, выхадца з вёскі, сціплага, непатрабавальнага, чалавечнага маладога журналіста. Вераніку больш за ўсё турбуе камфорт, забяспечанасць, арыентацыя на нейкі бамонд. І не само жыццё, а, хутчэй, гульня з ім. Зведаўшы першае няўдалае замужжа, яна, прадстаўляючы новае пакаленне маладых гараджан, паводзіць сябе агрэсіўна, нібы загнаная ваўчыца: завалодаць пасля смерці бацькавай дачай, адхапіць у сваякоў кавалак зямлі, нягледзячы ні на што, уладзіць на сваю карысць кватэрныя справы. Плюс пастаянныя прыдзіркі і празмерныя патрабаванні да новага маладога мужа, што прыніжаюць яго. Яна паўстае глыбока няшчасным чалавекам, а яе аслепленасць прагай дабрабыту і ганарыстасць проста абяззбройваюць і бянтэжаць Паўла, які ўвабраў іншыя каштоўнасці і традыцыі, змушаюць да расстання. Аўтар вядзе гаворку пра шляхі людзей праведных, зямных і сумніўных нячысцікаў. Галоўнае прыкмечана дакладна: духоўная несумяшчальнасць спачатку прыводзіць да непаразумення, а затым адчужэння і заканчваецца разбуральна незваротным.

Ці бываюць сны пра бярозы ў жыце ў сучасных пакаленняў гараджан, хто назаўжды пакінуў вёску? Пытанне — боль. Аповесць «Дом без соседей» дае магчымасць паразважаць пра гэта. Яна не толькі пра вёску 70—80-х мінулага стагоддзя, але і ў нейкай меры вобраз, знак, пячатка жыцця сучаснай маленькай вёскі, што засталася з тых часоў.

Па-першае, нешта трывожнае, якое пераважае, укладзена ў саму яе назву. Па-другое, аўтара хвалюе тое, што адбываецца не столькі ў вялікай краіне, колькі ў адной сям'і, зыход яшчэ аднаго пакалення з вёскі.

Катастрофа ў лёсы многіх з тых, хто застаўся ў вёсцы, прыйшла паволі. Тры браты Палуніны і сястра кожны па-свойму звязаным з вёскай. Аляксей — гараджанін, выкладчык, Канстанцін — марак, Валерый і Ніна жывуць у бацькаўскай хаце. Яны і ёсць сувязь з зямлёй. Пісьменнік прыкмячае адну асаблівасць: пасля смерці бацькоў хаты нярэдка пусцеюць, ператвараючыся з гадамі ў тлен. Здавалася, у Палуніных усё будзе па-іншаму. Ды — не. Дэталь за дэталлю паказваецца, як Валерый пасля смерці бацькі і маці страціў усе «тармазы». Дармовыя грошы, дармовая выпіўка, браканьерства, бясконцая халтура, шалапутнае жыццё, узняцце рукі на сястру загубілі ў ім чалавека, спецыяліста-ветэрынара, гаспадара падворка, пераўтворанага ў зараслі бур'яну. Сапраўдны гаспадар падобны на «дрэва, напоенае сокамі і зямным святлом». Даведаўшыся пра шматлікія выхадкі яго, забойства казулі, (апраўданне: для вас жа імкнуўся) браты пакідаюць бацькоўскую хату. Аповесць трывожыць душу. Бо зыход моладзі з вёскі, лад жыцця, тых, хто застаўся ў ёй, п'янства, бяздзеянне многіх — у выніку недарэчныя смерці, бязлюддзе, асірацелыя хаты, якія ўзіраюцца на свет цёмнымі праёмамі вокнаў.

Нярэдка ў канву апавядання аўтар закладвае не сюжэт, а дэталі настрою, думкі-ідэі, нейкія знакі, успаміны, як у аповесці «Альбинос. Из былого», цесна прывязанай да біяграфіі. Яна пабудавана на псіхалагічным прыёме-згадцы, калі факты, падзеі, сітуацыі, дыялогі, сустрэчы пад ціскам акалічнасцей і трывожных роздумаў як быццам здабываюцца з памяці галоўнага героя, дзяржслужачага Мікалая Сяргеевіча: на зыходзе «перабудовы», праходзячы розныя інстанцыі праверак, каб паехаць за мяжу, ён ізноў адчуў значэнне свайго «акупацыйнага дзяцінства», якое заўсёды праследавала яго пры зменах месца працы ў юнацтве і ў сталыя гады, кожны раз нагадваючы пра тое, як улетку ў 1943 года, прачэсваючы ваколіцы вёскі, фашысты бязлітасна лупілі чэргамі з аўтаматаў па бульбоўніку, дзе ляжаў юны герой. Плата за падоранае жыццё — белая пасма валасоў і мянушка альбінос як таўро на ўсё жыццё. Дарожныя сустрэчы ў Іспаніі і разважанні пасля іх увесь час выводзілі Мікалая Сяргеевіча на сур'ёзныя высновы і адзнакі: ці дае права «зачэпка ў біяграфіі» на маральнае «рэзанне» чалавека і недавер да яго? Па-новаму за мяжой ён пераасэнсаваў сваё мінулае, дзяцінства, Радзіму, нуду па ёй, узмоцненую ўспамінамі пра вёску. І нагода падумаць, як людзі ставяцца адзін да аднаго, пра значэнне культуры, зберажэнне культурнай спадчыны і веліч франтавікоў (« они мелочиться не станут»), якія паклалі галовы за святыя прынцыпы без кампрамісаў з сумленнем. «Ведь в войну, — разважае герой, — боролись с врагом, а не друг с другом. А ныне?»

Дыскутуючы з суседам па нумары, ваенным лётчыкам Максімам Барысавічам, ён сцвярджаецца ў думцы, што «стяжательская духоборческая популярность утверждается через отрицание достоинства других».

Ваеннаму дзяцінству прысвечана аповесць «Пока пуля летит», якая выйшла ў свой час у Маскве асобнай кнігай у серыі «Созвездие России», і яе па праве можна разглядаць у адным шэрагу з таленавітымі «Міколкам-паравозам» Міхася Лынькова і «Вайной каля Цітавай копанкі» Івана Навуменкі. Тры кнігі блізкія не толькі тэматычна (вайна і дзеці), але і танальнасцю, некаторымі паэтычнымі дэталямі, псіхалагічнымі малюнкамі, хоць, натуральна, адрозніваюцца па матэрыяле.

Палёт кулі — імгненне, а сама фраза ў назве твора нясе вельмі тонкі сэнс. Толькі ў дзіцячай свядомасці жывуць гарэзныя ўяўленні, што ад яе можна ўхіліцца, і гэта — гульня, забава.

Аўтар бачыў вайну дзіцячымі ўражлівымі вачамі, добра памятае клопаты і трывогі бацькі, мамы, аднавяскоўцаў, халодныя буданы і волкія зямлянкі ў восеньска-зімовую пару, несамавітыя стагі і копы на ўскраінах балот, панурыя лясы, доўгае стаянне фронту і бясконца цяжкія будні.

Дванаццаць невялікіх частак аповесці нагадваюць моцныя вянкі вясковай хаты, пастаўленай па-гаспадарску, дыхтоўна. У яе сюжэце кожная займае сваю нішу ў спасціжэнні напружанай ваеннай рэчаіснасці, атмасферы ваеннага сяла, раскрыцці тонкага і далікатнага свету дзіцячай душы, нацягнутай, як струна. Адна справа бацькі, дарослыя дзядзька Косця і цётка Косціха, бабка Войціха, паранены чырвонаармеец, для якіх вайна — трагедыя, і іншая справа, даверлівая, якая пакуль мала што разумее, гарадская дзяўчынка Інга, што выпадкова апынулася ў вёсцы напачатку вайны, сямікласнік Ягор, ад імя якога вядзецца апавяданне. З'яўленне франтавога каня Віцязя, сабакі Цімкі, сямейны вяз для назірання за перасоўваннямі немцаў, смерць брата Васіля, які падарваўся на міне, карныя аперацыі фашыстаў і паліцаяў, — так несумяшчальныя з атрыбутамі дзяцінства і яго забавамі. Туды і вяртае нас аповесць, нагадваючы кранальныя пранізлівыя і шчымлівыя гісторыі і ўчынкі юных герояў у гады Вялікай Айчыннай вайны, якія выглядаюць арганічнымі на фоне ўсеагульнай партызанскай барацьбы на Віцебшчыне. Разумная, чыстая і светлая аповесць. Яе немагчыма пераказаць, яе трэба прачытаць. Працятая глыбокім псіхалагізмам і рэалізмам падзей, сагрэтая любоўю самога аўтара, яна просіцца для ўключэння ў пералік літаратуры для абавязковага чытання школьнікам розных узростаў. Для разумення такога найтонкага паняцця як патрыятызм, у чым сэнс і высакароднасць чыстых намераў дзіцяча-юнацкіх адносін, што засталіся ў памяці.

Пра аповесці ў цэлым можна сказаць, што ў кожнай свой ідэйна-сэнсавы стрыжань, свая танальнасць, асаблівая цеплыня духоўнага свету станоўчых герояў. І невыпадкова да іх душ аўтар дакранаецца вельмі асцярожна.

## Трывожны грук у сэрца

З задавальненнем перачытваю апавяданні Г. Пацыенкі — звычайныя жыццёвыя гісторыі, якіх нямала спараджае сучасная рэчаіснасць. Тут якраз дарэчы некалькі парадаксальная формула: незвычайнасць у звычайным. Пад яго пяром яны ператвараюцца ў асаблівыя духоўныя астраўкі, цесна злучаныя паміж сабой дзякуючы актуальнасці і сваёй маральнай сутнасці.

Цікавае апавядане «В дождь под Рождество», у якім ёсць спроба даць адказ на пытанне, чаму чалавек здольны і гатовы «на выбух душы». Філасофія лірычнага героя, капітана-падводніка, зразумелая: не спазніцца ў родную вёску, у Беларусь, не толькі на вялікае хрысціянскае свята, але і на доўгачаканую сустрэчу з аднавяскоўцамі пасля доўгага расстання, якая сама па сабе таксама вялікае свята. Па апавяданні «взрыводушность» трэба разумець як жаданне і здольнасць вырашаць назапашаныя супярэчнасці. Не баяцца акалічнасцей, дзейнічаць, нават калі ўчынкі здадуцца блазенствам. Бо ўспыхвае не толькі разагрэтая памяць — нараджаецца высокі лад думкі.

Неабходна згадаць тут і іншыя апавяданні пісьменніка, якія нясуць сваю канцэнтрычную думку-ідэю і адлюстроўваюць адчувальную сацыяльна-маральную праблематыку. У «Беседах с лесом» — гэта дакладныя і мудрыя меркаванні не толькі пра маральна-ачышчальную для чалавека моц лясных угоддзяў, але і пра калкі смерці і лёсы на мінных палях вайны побач з роднай вёскай у дзяцінстве і не

меней небяспечныя «сталыя» калкі супярэчнасцей, небяспеку і прыгнятальную рэчаіснасць на стыку стагоддзяў; у «Ветре между губ», які нагадвае сваёй танальнасцю бунінскае «Легкое дыхание» — гутарка пра тонкасці і цеплыню адносін паміж мужчынам і жанчынай, ад якіх чалавецтва, па меркаванні героя, канчаткова пазбавілася і, як адзначае пісьменнік, «род людской будто бы закосолапил, больше не сравниваемый ни с лебедем, ни с журавлем, ни с аистом»; у «Под озоновой дырой» — пра людзей, ужо што «адгучалі» (акцёр Валерый Гаўрылавіч, адвакат Хрыстафор, прыбіральшчыца Мацвееўна), якім не марна здаецца, што сыходзяць каштоўнасці, якія надавалі жыццю значнасць і сэнс, і іх варта вярнуць, бо цяпер уступае ў правы дух усёдазволенасці і легкадумнасці.

У апошнія гады, на мой погляд, аказаліся ўдалымі і арыгінальнымі ідэйнастылявыя пошукі пісьменніка. Свой том прозы «Взрыв души» (2007) ён пазначыў не звычайна, а як кнігу выбраных «откровений», дзе, акрамя аповесцей, апавяданняў ёсць неспадзяваныя накцюрны. У скрупулёзнага чытача, напэўна, з'явяцца здзіўленыя пытанні: што значыць выбраныя «откровения» і ў чым сутнасць празаічных накцюрнаў? У мастацкай літаратуры падобнага роду жанраў няма. І тут якраз дарэчы і неабходны тлумачэнні.

«Откровения», хутчэй за ўсё, зыходзяць з біблейскага, а накцюрны — і зусім са сферы музыкі. З аднаго боку, гэта — не столькі фармальны прыём, каб заінтрыгаваць і прыцягнуць увагу чытача, а эстэтычная пазіцыя, у аснове якой — гармонія, прыгажосць, маральныя адносіны паміж людзьмі, а з іншага, — запрашэнне-ўцягненне самога чытача ў дыялог, да судотыку душ, да сардэчнай гутаркі як на споведзь, што прадугледжвае шчырасць, калі, як кажуць, «изливается душа» (А. Блок).

Чытаюцца накцюрны сапраўды лёгка. Працягваючы лепшыя традыцыі лірычнай прозы такіх выдатных майстроў, як С. Варонін, Ю. Бондараў, Я. Брыль, Ю. Казакоў, К. Паустоўскі, Я. Скрыган, У. Салаухін і інш., яны ўвабралі ў сябе шматстайную гаму чалавечых пачуццяў і настрояў. З іх нярэдка проста «злятае» вытанчанасць думкі і пачуцця.

Як паэзія простых, але дарагіх рэчаў успрымаецца накцюрн «Яблочный дух», навеяны сустрэчай з вёскай, яе сіратлівым складаным сённяшнім жыццём, памяццю пра самых блізкіх людзей — бацькоў, якіх няма. Гучаць шчымлівыя ноткі ціхай, перапоўненай фарбамі, жыццёвай восені. І не толькі адзінокага саду, але і адзінокай душы. Пісьменнік знаходзіць інтанацыю, падмацаваную тонкім назіраннем, якая выклікае сум і суперажыванне. Як можна застацца абыякавым, калі «…за целый день в забытом саду так и не открылась дверь дома. Так и не вышел никто на ўсыпанное листвой крыльцо, прикоснуться к мелодиям тихой осени», што сталі мелодыямі быцця лірычнага героя. На прыродзе сапраўды здзяйсняецца вялікае душэўнае таемства, якое не кожнаму дадзена зразумець.

Кантраст настрояў хвалюе ў «Вароньих криках». Тут усяго толькі дзве думкі, выбудаваныя як антыподы: пачуццё звонкага сугучча, бадзёрага настрою і ўздыму, калі самотная варона выседжвае птушанят на фоне штодзённых клапатлівых і бязладных воклічаў салдат вайсковай часці, асабліва кухара і маладога лейтэнанта, і затым пачуццё гаркаты, велізарнага здзіўлення і спачування, што, на жаль, страчваюцца ў грамадстве, калі прыйшоў час «дзембеля» і для развітання, у тым ліку і з мудрай птушкай, на пляцы не аказалася двух апошніх, пакінутых назаўжды на бессэнсоўнай чачэнскай вайне.

І неяк сам па сабе ўспамінаецца Фёдар Дастаеўскі, князь Мышкін з яго рамана «Ідыёт»: «Сострадание есть главнейший, может быть, единственный закон бытія всего человеческого». Забойная формула, што так непрымальная многімі несумленнымі людзьмі ў наш час. Тэма гэта знаходзіць працяг у іншых рэчах пісьменніка. «Достоинство духа, доброта и сердечность — самые нетленные сокровища на земле», — разважае ён у накцюрне «Хочу есть…», навеяным кні-

гай «Лето Господне» вядомага рускага празаіка І. Шмялёва і эпізодам з хлопчыкам-бяздомнікам, які ляжаў на падлозе вагона метро, ужо ў нашы дні, у раннюю маскоўскую раніцу. Звяртае ўвагу паралель: у Шмялёва факт амаль стогадовай даўнасці — разумны і мудры дыялог старога з дзіцем і тактоўныя навучанні.

Якім трэба быць і як ісці да лепшага? І цяперашні галодны і абадраны хлопчык, пазбаўлены рэальнай будучыні, нікому не патрэбны, асірацелы імгнення, як і сотні тысяч яго расійскіх аднагодкаў — «раненых горем детских сердец», у якіх аднята радасць дзяцінства. І трывожны, і кранальны пробліск роздумаў: ці не ляжыць на падлозе не ўваскрэслы Пушкін, Глінка, Мендзялееў, Шукшын, Ясенін, Купала, Шукшын ці хто іншы, Богам адзначаны чалавек.

Апаэтызаваць звыклае, кожны дзень бачанае і чутае, надаць яму гучанне, значымы сэнс, непрыкметна падвесці да мудрай высновы — так аўтар робіць, разважаючы пра смак аржанога хлеба з чарніцамі ці суніцамі з малаком («Хлеб с ягодами»). Вядома, калі ён вырашчаны пры асабістым удзеле, хай нават і сціплым, як гэта здарылася з лірычным героем, які толькі зносіў і ставіў снапы ў бабкі. «Хлеб с молоком и ягодами — самое вкусное, что навсегда запомнилось. И если кто сомневается в этом, пусть сам вырастит жито, сожнет, обмолотит и смелет. А затем попробует с парным молоком и ягодами», — разважае ён, хай некалькі і павучальна, падкрэсліваючы дарагі кошт працы, яе прыемную асалоду.

Цудоўна адчуваць цяпло чалавечага цела («Дуновение крыльев», «Преданность»), але напэўна ў сто крат высакародней і мацней мець такі душэўны запас, каб спачатку адагрэць і выратаваць саву, якая гіне, а потым адчуваць увесь час яе высакародны жэст, калі яна кружыцца, як быццам няўзнак, ля хаты.

Пра людзей змучаных пастаяннымі цяжкімі буднямі і перажываннямі, душэўнымі напружаннямі, што не праходзяць, пра маленькія, але прыемныя клопаты і чалавечыя радасці і дадатныя эмоцыі накцюрны «Письма сына», «В черемуховом овраге», «Шепот ржаных колосьев», «Теплота мира» і іншыя. У іх асаблівае духоўнае гучанне і напружаны лірызм.

А побач з імі натуральна выбудоўваюцца іншыя, уключаючы самыя познія, замалёўкі пад агульнай назвай «Витебское лето» («Зачем посадил я дерево?», «Сигналы сердца», «В ночь полнолунную», «Сила любви», «Под земным покоем», «Старик из Гагр», «Последняя душа», «Круг» і інш.), напоўненыя свежымі жыццёвымі назіраннямі і ўражаннямі пісьменніка з расійска-беларускай рэчаіснасці. Нярэдка ён арыентуецца на класіку. Меркай Л. Талстога стогадовай даўнасці, ніяк не састарэлай, Г. Пацыенка судзіць Маскву XXI стагоддзя і знаходзіць, што да спадчыны Льва Мікалаевіча трэба вяртацца часцей, каб зразумець, што ж адбываецца з чалавекам і грамадствам. «Вчера вернулся из Москвы с таким отвращением ко всей праздности, роскоши, нечестиво приобретенным и мужчинами и женщинами средствам. К этому разврату, проникшему во все слои общества..., что решил никогда не ездить в Москву» («В ночь полнолунную»). Карціну абражанага і зняважанага настрою пісьменнік прыводзіць з талстоўскіх дзённікаў, знаходзячы здзіўляючыя аналогіі і зближэнні часоў і эпох.

Што «трымае» мініяцюры, накцюрны, ствараючы пэўны кантэкст? Думка, падтэкст, асаблівыя нюансы ў перадачы тонкасцей і выгібаў чалавечай душы. Кажучы сучаснай мовай, значны сэнс вырастае з пано-ідэй, а сцісласць надае ім нешматслоўную выразнасць. Усё хараство зафіксаваных імгненняў у тым, што ў іх схоплена, мабыць, галоўнае: настрой «мимолетный» (В. Розанаў), і ён становіцца фактам мастацкім, эстэтычным. Поспех у творчасці якраз і складаецца ў тым, каб злавіць цудоўнае, няўлоўнае. Ад іх зыходзіць цеплыня, што абмывае душу, лёгкі сум і як быццам чутны лёгкі трывожны грук у чалавечае сэрца, які папярэджвае пра магчымы боль. Чутны і ўнутраны дыялог: то з самім сабой, то з сучаснікамі, то з літаратарамі іншых эпох, то з прыродай, то з жывёламі, то з птушкамі. І, несумненна, зроблена гэта таленавіта, з тактам, густам і пачуццём.

Таму што жыццёва і ўзбагачана ўдумлівым поглядам самога пісьменніка, яго філасофіяй: жыццё не толькі строгі матэрыялізм, ёсць душа, дух, вялікія маральныя арыенціры. Яны і пасылаюць сігналы цяперашняга часу ў заўтра, у надзеі на годную будучыню, нагадваючы пра вышэйшую каштоўнасць — чалавека і што людзі жывуць не на выкід.

## Цяжар клопатаў і трывог

Публіцыстыку і эсэістыку Г. Пацыенкі апошніх гадоў можна было б аб'яднаць назвай «Роздум на Радзіме». Як ранішні світанак выплывае аднекуль з глыбіні гарызонту, так і разважанні яго, апублікаваныя ў маскоўскіх выданнях, у рэспубліканскім і мясцовым друку, выспяваюць паволі, з асэнсавання духоўнай сітуацыі і разумення працэсаў у сферы свядомасці, духоўнай культуры і палітыкі. Навідавоку здаровая заклапочанасць аўтара ідэямі і праблемамі, якімі нашпігавана атмасфера сучаснага грамадства.

Значны філасофскі сэнс нясуць разважанні «Постучим по дереву» — свайго роду прысвячэнне лесу. Адштурхоўваючыся ад, здавалася б, гутаркова-побытавай назвы, пісьменнік прыходзіць да сацыяльна-значнага, уцягваючы ў свае думы ў першую чаргу тое, што цешыць і натхняе. «Под навесами и пологами лесных кущ веет чем-то несказанным, невольно улавливается общение с необычным, таинственным миром, стоящим вне течения суетливой нынешней жизни. И вековая печать книги Бытия внемлется сердцу от молчания и шума лесов» — так тонка, з размахам падаецца высокая ключавая ідэя.

Але ў артыкуле шмат і прыкрасці, і гаркаты. Яго гняце, яму баліць і здзек над прыродай, разбуральныя быццёва-побытавыя дзеі чалавека: цяпер часцей, чым раней, у тых жа навакольных лясах, на рачулках і азёрах раптам з'яўляюцца незнаёмыя людзі, ці то грыбнікі, ці то паляўнічыя, ці то рыбакі, ці то турысты, па-сучаснаму экіпіраваныя, ваяўніча, па-пірацку настроеныя, з нахрапістай псіхалогіяй і неабцяжараным лексіконам, па сутнасці нейкія марадзёры, якія імкнуцца пабольш урваць, пажывіцца на дармаўшчыну, нагадваючы прафесійных кілераў. Неспакойна птушцы, зверу, рыбе ад налётаў браканьераў. Як быццам бы пра іх і для іх усвядомлена, тактоўна і выверана гучыць важкае слова: «Человек, уважающий природу, всегда совершеннее и дело свое делает красивее, качественнее» («Быть ли Земле в сиянии голубом?»). І далей ідзе згустак таго, пра што нельга не згадаць: «Человек и есть лицо земли. Там, где лицо существует, должен быть порядок».

Людзі знаходзяцца ў стане перагружанасці клопатамі і трывогамі і нярэдка трапляюць у тупіковыя сітуацыі. Але і прырода, па меркаванні пісьменніка, жыве адчуваннем «взрывности», а часта зманлівая цішыня, спусцелыя палі, рэкі, лясы і азёры, шмат дзе катастрафічна засмечаныя, усё часцей падаюць сігналы трывогі пад яе абураны голас.

Разважаючы пра блізкае і крэўнае, Г. Пацыенка агаляе хваробы, якія ахапілі частку грамадства, дзеліцца меркаваннямі, а дзе ж выйсце. З аднаго боку, гэта выхаванне павагі да Айчыны, пераканаўчае прасвятленне змалку, фармаванне экалагічнай свядомасці і экалагічнай культуры грамадства, а, з другога, — адміністрацыйна-заканадаўчы рэсурс і ўзмацненне жорсткасці мер па абароне прыроды. І беспярэчная глыбокая выснова: «Народ в истории запоминается не тем, сколько он произвел и сколько чего съел, а сколько после себя оставил».

А сам пісьменнік у летнія дні, сядаючы ў сваю няхітрую лодку, як вартавы, абавязкова кіруе яе ў зацішныя куткі Шэлахаўскага возера: і туды, дзе плёсы і водмелі, і туды, дзе старающа будаўнікі-бабры. І абавязкова за лукавіну і пясчаную касу, каб пераканацца, ці ёсць там пара закаханых лебедзяў, ці не кранула іх рука якога-небудзь паганца, і цешыцца, калі яшчэ здалёк бачыць, як яны гойдаюцца на лёгкіх хвалях.

Няйначай як голасам у абарону маральна-здаровага ўспрымаецца эсэ «День, которого нет» — сур’ёзны роздум пра значэнне літаратуры, мастацтва і культуры ў духоўным жыцці, пра павагу да мінулага. («Не надо класть ноги на стол отцов своих, надо класть нож на стол отцов своих», І. Саланевіч), пра ролю і месца слова. Цяпер развялося нямала людзей, для якіх культура — не больш чым род тавара, а само слова, спрадвечна і законна надзеленае ўладай, амаль нічога не значыць. Выснова пісьменніка амаль біблейская: «Слово есть носитель духа». А там, дзе хварэе розум, яго лечыць менавіта яно. Больш за тое, ён, мабыць, беспамылковы ў сцвярджэнні, што дзеянне мудрай кнігі — шматлікае і яе тэрапеўтычныя магчымасці, нягледзячы на цяжкасці, маглі б прымяняцца ў выхаванні моладзі. Бо сапраўды добрая кніга лепш, чым дрэнны настаўнік, а хата без кнігі, што цела без душы.

Па яго меркаванні, ёсць чытанне жывое, звернутае да першакрыніцы, і ёсць чытанне паралельнае яму — інтэрнэтнае, мёртвае, якое сушыць душу чалавека. Фактычна Г. Пацыенка прыходзіць да думкі пра праблему духоўнай смагі, асабліва ў маладзёжным асяроддзі. Падспудна ўзнікае пытанне: «Як нам пазбаўляцца ад духоўнай кабалы і сусветнай хлусні?» Адказ на яго просты і адкрыты: заставацца адданымі вялікім уласным святыням і, не звяртаючы на падказкі эпігонаў і вокрыкі і ашчэр з боку, будаваць наш дом.

## Высокая праўда і вялікая таямніца

Літаратура для Г. Пацыенкі застаецца, як і жыццё чалавека, асаблівай формай творчасці, не заўсёды падуладнай расшыфроўцы, высокай праўдай і вялікай таямніцай. Зазірнуць за межы звыклага ён спрабуе ў роздумах пра знакамітых сучаснікаў, якія пакінулі будучым пакаленням так шмат загадкавага.

Найперш ягоная любоў — А. Пушкін. Невыпадкова за кнігу «Дни среди молний» ён удастоены Ганаровага звання акадэміка Пушкінскай акадэміі. У геніяльным паэце Г. Пацыенка бачыць канцэнтрацыю незвычайнага духабачання, дзе відавочны сінтэз недагаворанага (зямнога) и таго, што не дапраявілася (нябеснага), а яго прароцкі дарунак паўстае як асобы наасферны дух. Спецыялісты не-не дый нагадваюць пра тое, што вялікі майстар слова і мысліцель панёс з сабой нейкую таямніцу («Комета среди светил»). Сутнасць разваг у звышчалавечай празорлівасці А. Пушкіна, які спрабаваў на прыкладзе шматлікіх дапытлівых папярэднікаў — філосафаў і астролагаў — прадбачыць развіццё чалавецтва, ход падзей у XX і XXI стагоддзях, у выяўленых у Таганрозе так званых «Философских таблицах», дзе прапанаваны цыклы развіцця гісторыі. Празорцам у шматлікіх адносінах апынуўся і класік, чытаць якога трэба ўмела, не бяздзейна і не хітра. А побач — слова пра геніяў з нагоды 100-годдзя вялікага пісьменніка М. Шолахава («Зачем миру нужны гении?»).

Але гаворка ідзе не толькі пра А. Пушкіна і М. Шолахава. Чым пазначаны талент, якое яго зямное прызначэнне — пра гэта артыкул «Тайна таланта», прысвечаны В. Быкаву. Аўтар перакананы, што палітызацыя творчасці, самаўпэўненасць у здольнасці быць палітыкам нязменна вядзе да мастацкіх і чалавечых выдаткаў і страт. І нават самае малое ўмяшанне ў жыццё вялікага майстра, хто б гэта ні рабіў, багата прадказальнымі наступствамі.

Працяг тэмы ў развагах «Внутреннее и социальное», што гучаць інтрыгуюча. Гэта слова пра прыроду таленту А. Твардоўскага, вялікага паэта, аўтара несмяротнага шэдэўра «Василий Теркин», дзе першае — тая Боская іскра, падараваная звыш і непадуладная нікому, а другое — сацыяльнае асяроддзе, пераўтварэнні, умовы, улада, літаратурны працэс, часопіснае жыццё, «малая» Радзіма, людзі.

Не забыўся Г. Пацыенка і пра І. Шамякіна, і пра М. Гарбачова (выдатнага перакладчыка на рускую мову твораў В. Быкава, І. Шамякіна, І Чыгрынава і інш.), якім прысвяціў з любоўю напісаныя артыкулы («Объектом искусств была душа», «Осколок у сердца»), высока ацаніўшы іх творчыя дасягненні і чалавечыя якасці і як чулых настаўнікаў маладых літаратараў.

Багатымі на дэталі і некаторыя падрабязнасці атрымаліся ўспаміны «Не говори с тоской, их нет». Лёс падарыў яму сустрэчу з П. Машэравым у 70-я гады ў незвычайных акалічнасцях, пасля чарговага пісьменніцкага з'езда ў Мінску, куды ён быў запрошаны разам з групай маскоўскіх літаратараў. У памяці яго засталася не толькі атмасфера форума, кіраўнікі беларускай пісьменніцкай арганізацыі (М. Танк, П. Броўка, П. Панчанка і інш.), але і прастата ў зносінах, людскасць і добрасардэчнасць Пятра Міронавіча.

Відавочна, што ў публіцыстыцы і эсэістыцы ярка выяўляецца чалавечая пазіцыя пісьменніка. Яе нельга вызначыць інакш, чым асвечаны рэалізм і гуманізм, заснаваныя на разуменні жыцця, ведах гісторыі, багатага і павучальнага, але, на жаль, не заўсёды запатрабаванага сацыяльна-маральнага досведу пакаленняў, які, на шчасце, не згас у цяперашнім навязаным ліхалецці. З аднаго боку, дзякуючы шматлікім выдатным падзвіжнікам мінулых эпох і іх паслядоўнікам, а з іншага — насуперак цяжкасцям ды сваёй магутнай і невыкараняльнай святланоснай сіле.

Разважаючы аб праблемах і недахопах сучаснага жыцця, ён грэшны аптымізмам. Інакш не было б у яго той стараннасці па наладжванні грамадскіх перспектыў: як на новай аснове мацаваць саюз братэрскіх народаў і, пераадольваючы цяжкасці, уладкоўваць пагранічнае супрацоўніцтва і гандаль, на якія каштоўнасці і сімвалы абапірацца, скажам, на сумесны праваслаўны храм, пабудаваны на мяжы са Смаленшчынай.

Прапановы яго простыя і пэўныя: лодку-практыку сучаснага жыцця трэба кіраваць абачліва толькі наперад, толькі ўгару, не па мелі і ні ў якім разе не ўніз па цячэнні, а ў бок не заўсёды прыкметных, але так неабходных як арыенцір, сіл стварэння і памнажэння. Гэта зноў жа сугучна пушкінскаму «Куда же нам плыть?» У выпадку іншага падыходу вынік наканаваны: пустыя сэрцы і душы, пустыя хаты і запусцелая зямля, упадзенне спачатку ў духоўную, а затым у матэрыяльную беднату. Адгэтуль глыбокая вера ў тое, што, нягледзячы на цяжкасці будзем жыць мы «не у беды грядущей на примете».

## Святланосны свет

Творчасць Г. Пацыенкі прасякнута любоўю да роднай зямлі і сагрэта яго, пісьменніка, трапяткім да яе стаўленнем. «Свои деревни, города, леса и поля, пустые, иногда убогие, он любил, как в юности, наперекор всему», — так разважае адзін з яго герояў, пільна ўзіраючыся ва ўсё блізкае яму. Думка пра тое, што дух мінуўшчыны не дазваляе ператварыць сацыяльнае жыццё ў балота, гучыць для яго як наказ.

Не могуць пакінуць абыякавымі і прызнанні героя ў асабліва любоўным стаўленні да бацькоўскай хаты, да Радзімы, а разарваная вялікая краіна ўяўляецца яму ў выяве «поезда над бездной», на якую вышчарылася зло, і дзе не засталося непараненых, найперш духоўна, людзей. І сапраўды, родная зямля, неба над ёй, шляхі — дарогі юнацтва, святло ў акне бацькоўскай хаты — ці можа быць штонебудзь вышэй?

А колькі па розных вытлумачальных і незразумелых акалічнасцях паўсюдна раскідана хатак без памяці? Шматзначнае маўчанне пакінутых хат, у якіх адчуваецца таемнае жыццё, што адышло, красамоўна. Губляючы іх, мы губляем нешта большае, чым проста даўнія, дарагія сэрцу хаты, што некалі давалі нам прыту-

лак, большае, чым бярозы, якія смуткуюць на бальшаках. Некалькі штрыхоў пра прычыну сучаснага вясковага бязмоўя, адзіноты пакінутых старых і запусценні неяк па-свойму ўпісваюцца ў агульную карціну пажухлай рэчаіснасці і раняць. А ўслед просіцца выдатная філасофская думка: «Есть земля на планете, где становиться легче», і гэта зямля бацькоўская — вялікая і непаўторная каштоўнасць. І калі перастае балець душа за яе — няма ў цябе больш тваёй Радзімы, няма і самога цябе.

З разуменнем разважае пісьменнік пра тых, хто ненавісна і люта, з пенай на губах паўтарае, што любоў да Радзімы, да вытокаў — нейкая непрыстойнасць у эпоху глабалізацыі, напой ведзьмаў («А что там, за рекой?»). Але калі і ёсць у чалавечым быцці скарбніца, якая не вымяраецца золатавалютнымі запасамі, то гэта духоўна-маральная аснова жыцця людзей. Відавочна, Г. Пацыенка асэнсаваў і выказаў тое, што вынашана ў яго душы, тое, што прымала ці адпрэчвала яго сэрца, выйдучы на філасофска-эстэтычныя абагульненні.

Перачытваю аповесці, апавяданні, накцюрны, артыкулы Г. Пацыенкі. Узятыя разам, яны ствараюць якасна іншую цэласнасць, дапаўняючы адзін аднаго, ствараюць шырокі ідэйна-маральны кантэкст. Ягоная творчасць — у рэчышчы пошукаў беларускай і рускай літаратуры канца XX пачатку XXI стагоддзяў. Яна сімвалічная, а глыбокія ключавыя ідэі (чалавек — вышэйшая каштоўнасць, Радзіма — найвышэй усяго; адчужэнне як акт духоўнага неразумення; хата родная, дарога, край, узбочына і г. д.), маючы гістарычныя карані і сучасную сацыяльна-маральную аснову, утвараюць тыя духоўныя скарбы, вакол якіх канцэнтруюцца яго мастацкія пошукі і дасягненні. Галоўнае для яго агаліць праблему, убачыць яе ў часе, у чалавечым вымярэнні і грамадскай значнасці, прапанаваць выйсце. Важна, што героі прозы Г. Пацыенкі — людзі блізкія па духу, з цвёрдым маральным стрыжнем, адкрытыя, уразлівыя, па-славянску шырокія душой і адначасова мяккія, добрыя, сумленныя, не тыя, якія дазваляюць сабе пераступіць праз гонар, а гатовыя на пратэст супраць зла. Заўсёды яны перажываюць востра і пакутліва тое, што мае патрэбу ў літасці, абароне, спагадзе і клопаце. Як астуджанае ў халадзе нутро патрабуе цяпла, так і стомленая ад нягод, бед, няўдач чалавечая душа прагне павагі, суперажывання і падтрымкі.



Вадзім ЛАГВІНЕНКА

# РОД. РОДНАСЦЬ. РАДЗІМА

**Анатолий СТЕЦКЕВИЧ-ЧЕБОГАНОВ. Я — сын Ваш. Летопись белорусской шляхты. Некрашевичы герба «Любич». Татуры герба «Домброва». Севруки герба «Курч». Керножицкие герба «Юноша». Мостviловичи герба «Доленга».** Мн.: Белорусская Православная Церковь, 2012.

Добрае пачынанне не можа не мець працягу. Тым больш тады, калі пра гэта загадзя сказана. Анатоль жа Статкевіч-Чабаганаў, выпусціўшы летась сваю першую кнігу з серыі «Летапіс беларускай шляхты» (знак серыі «Страла выратавання») адразу заявіў, што гэтая ўнікальная бібліятэчка, прысвечаная гісторыі беларускіх родаў ад найстаражытнейшых часоў да нашых дзён, будзе складацца з шасці кніг. У яго ж словы ніколі не разыходзяцца са справай. Прайшло ўсяго нейкіх паўгода, і з'явіліся чарговыя ягоныя даследаванні, якіх тыя, хто паспеў прачытаць першую кнігу, чакалі з вялікім нецярпеннем. Былі ўпэўнены, што і гэтым разам пачэрпнуць для сябе шмат не проста цікавага, а найчасцей такога, што патрапляе пад вызначэнне маловядомае, а то і зусім невядомае.

Спадзяванні гэтыя апраўдаліся. Прынамсі том, у якім даследуецца гісторыя родаў Некрашэвічаў, Татураў, Сеўрукаў, Кернажыцкіх, Масцвіловічаў, чытаецца з гэткім захапленнем, як і той першы, што прынёс чытачам так шмат нязведанага, а перад усім адкрыў новае імя ў нашай гістарычнай літаратуры. Адкрыў А. Статкевіча-Чабаганава, якому ёсць пра што сказаць і ёсць пра каго расказаць.

«Я — сын Ваш» — з гонарам прамаўляў ён, расказваючы аб Статкевічах, Сацкевічах-Статкевічах герба «Касцеша» і Карафа-Корбутах герба «Корчак». З гэтым жа гонарам прамаўляе: «Я — сын Ваш» і цяпер, калі заглыбляецца ў гісторыю іншых беларускіх родаў, прадстаўнікі якіх зрабілі на дзіва важкі ўнёсак ў розныя сферы жыцця, бо таленты іх, дадзеныя самім Богам, раскрываліся і раскрыліся ў шмат якіх добрых пачынаннях.

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў, паставіўшы перад сабой мэту, дасягнуць якой можа далёка не кожны — стварыць маштабны летапіс беларускай шляхты, неаднаразова дае зразумець, што ён — шляхціч! Прамаўляе тое, пра што раней не маглі адкрыта гаварыць многія прадстаўнікі гэтага сацыяльнага саслоўя. Бо такі час быў, такая эпоха была, калі паўсюдна шукалі ворагаў народа. Хто ж шукае, той знаходзіць. Ад гэтай ворагаманіі пацярпелі не толькі блізкія родзічы самога Анатоля Васільевіча.

Прасочваючы гісторыю роду Некрашэвічаў, ён, канечне ж, згадвае аднаго з самых яркіх ягоных прадстаўнікоў, ахвяру сталінізму — першага віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР Сцяпана Некрашэвіча і тут жа прызнаецца: «...я понял, что все три мои пра…прабабушки — его близкие родственницы. Кроме того удалось выяснить, что у Степана Михайловича есть прямые предки из нашего рода Карафа-Корбутов: его прапрабабушка Агата Васильевна приходилась родной сестрой Ивану Васильевичу Карафа-Корбуту, деду Натальи Васильевны — моей прабабушки».

Род Татураў... Зноў роднасныя сувязі: «Прабабушка моего деда Михаила Ивановича Сацкевича-Стецкевича — Анна Самуиловна Татур». І таксама ёсць лёсы, зламаныя злымі, віхурнымі часамі, калі асобны чалавек лічыўся нічым, бо галоўным было шчасце для ўсяго чалавецтва. Аказваецца, не мінула гэта і блізкіх людзей тых, каго многія ведалі. Скажам, вядомага беларускага перакладчыка Міколу Татура. У даведніку «Беларускія пісьменнікі (1917—1990), што выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1994 годзе, сказана, што ён нарадзіўся «ва ўрочышчы Застар'і Клічаўскага раёна». Як устанавіў А. Стацкевіч-Чабаганаў, М. Татур родам «с поместья Урочище Застарье». Больш за тое, ягоны бацька Ігнат Татур, у мінулым афіцэрам царскай арміі, быў расстраляны ў 1931 годзе. Пра гэта ў савецкія гады было лепш маўчаць.

Яшчэ адзін род, што стаў «героем» гэтай кнігі — Кернажыцкія. Таксама відавочныя роднасныя сувязі з аўтарам кнігі: «Мой предок Казимир Петрович Забелло обвенчался с Екатериной, дочерью речицкого чашника Валерьяна Керножыцкого, человека известного и уважаемого». Здавалася б, усё вельмі проста. Знайшоў у архіве неабходную справу, адкрыў яе на патрэбнай старонцы і, калі ласка, неабходныя звесткі.

Аднак так можа думаць толькі дылетант. Сам жа А. Статкевіч-Чабаганаў неаднойчы мусіў упэўніцца, якая гэта цяжкая праца — работа ў архівах. Часам для таго, каб адшукаць, здавалася б, самы маленькі факт, неабходна працаваць не дзень, не два. Дый не ў адным архіве, бо нішто важнае на паверхні не ляжыць. Да ўсяго неабходна дайсці, да ўсяго дакапацца. У гэтым ён упэўніўся і тады, калі даследаваў гісторыю роду Сеўрукаў. Дакладней, працягваў тое, чаму пачатак быў пакладзены яшчэ ў пазамінулым стагоддзі.

Таксама не без гонару ў пачатку раздзела «Севруки герба «Курч» сведчыць: «В нашем роду во все времена были люди, которые с большой любовью и особенным волнением изучали свои истоки, свое прошлое. Так, мы помним братьев Илью и Павла Карафа-Корбутов, которые в непростые времена первой половины XX века не побоялись описать и сохранить генеологическое древо своих предков и родственников по нескольким дворянским родам, жившим в Бобруйском повете». Аднак «такими же неравнодушными к своему прошлому еще в XIX веке были» Іосіф Ян Курчэвіч-Сеўрук і Васіль Міхайлавіч Курчэвіч-Сеўрук. Апошні з іх нават выдаў у 1896 годзе ў Мінску кнігу «Вывод о происхождении прозвищ: Севрук и Курчевич-Севрук». Дарэчы, праз год з'явіўся яе дапоўнены і выпраўлены варыянт.

Дарэчы, Васіль Міхайлавіч, хоць і правёў велізарнную работу па даследаванню сваёй радаслоўнай, не быў упэўнены, што цягам часу знойдуцца ахвочыя прадоўжыць ягоную пасапраўднаму падзвіжніцкую работу: «Я сколько мог, то и открыл потёмки для потомков. хотя, быть может, ни один не поменет и добрым словом за труд».

Прыводзячы гэтыя словы В. Курчэвіча-Сеўрука, А. Статкевіч-Чабаганаў з пачуццём выкананага абавязку заўважае: «За более чем 20 лет исследовательской работы мне удалось найти сведения о 657 представителях рода Севруков (14 колен), которые жили с XV века на Волыни и с XVI века до XX века — на землях Слутчины и Несвижчины. Таким образом, мечта моего родственника о том, что потомки будут изучать свой родовод сбылась».

Род жа Сеўрукаў вельмі даўні, пра гэта пісаў яшчэ В. Курчэвіч-Сеўрук, адштурхоўваючыся ад даследавання вядомага Мацея Стрыйкоўскага: «Курч есть герб Курчов, князей русских, взят от Кориата. князя новогрудского, одного из сыновей Гедимина Витениевича, князя Литовского Кориата. Кориат Гедиминович, после крещения названный Михайлом, трудился в 1301 году. Имел сына по имени Юрий-Александр-Федор-Глеб».

Вось якія глыбокія карані! І якую сімптаматычную паралель можна прывесці: Мацей Стрыйкоўскі — Васіль Курчэвіч-Сеўрук — Анатоль Статкевіч-Чабагаў. Збліжаюцца эпохі. Лёсы люд-

скія збіжаюцца. І ўжо новыя пакаленні падаюць свой голас тым пакаленням, якія жылі да іх. Каб пачулі, даведаліся яны, што род іхні не толькі не згубіўся на ветравейных паўстанках часу, а годна працягвае жыць, дзякуючы сваім новым прадстаўнікам, пра некаторых з якіх і расказваецца ў гэтай кнізе.

Падобныя кнігі вельмі неабходны, бо спрыяюць кансалідацыі грамадства. Яны, быццам тыя трывалыя камяні, узятыя, сабраныя шчодрым руплівцам на гонях Бацькаўшчыны, мацуюць яе фундамент, дапамагаюць разуменню таго, што ўсе мы — адзіны народ, незалежна ад таго, да якіх сацыяльных слаёў належым, якіх поглядаў прытрымліваемся. Мы можам разыходзіцца ў думках, што тычацца нечага прыватнага, асабістага, а таму, калі разабрацца, то і не такога важнага. Але ні ў якім разе нельга адмаўляць галоўнага: Беларусь жыла, Беларусь жыве. Беларусь будзе жыць. Але тады, калі намаганні кожнага з нас і ўсіх разам будуць скіраваны ў адзінае рэчышча стваральнасці.

Услухаемся ў словы, што прамаўляе А. Статкевіч-Чабаганаў:

Святую веру продкаў,
свой род,
культуру і Айчыну
шануй і беражы.

Словы гэтыя гучаць не проста заклікам. Яны нібыта тая паэзія — простая, шчырая, зямная (і ад гэтай шчырасці адкрытая і вабная) напаўняе тваю душу робіць цябе аднадумцам аўтара. Адразу ўспамінаюцца іншыя словы, радкі неўмiручага Максіма Багдановіча. Яны, калі разабрацца, таксама пра тую ж еднасць нацыі, пра суладдзе і сугучча сэрцаў усіх добрых людзей:

Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя —
папутнікі сярод нябёс.
Навошта ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор.

Ляцім, але гэты палёт — своеасаблівы. Мы не адрываемся ад зямлі. Яна з намі, але яна не ў ілюмінатары, як пяецца ў вядомай песні. Яна таксама знаходзіцца ў няспынным руху. І ёй гэтаксама неабходна тая непарыўная сувязь, што складаецца з мінулага, сучаснага і будучага. Аднак у гэтым вечным і сусветным ланцугу ўсё ж звяно прошласці вельмі неабходнае і чым больш трывалае яно, тым больш упэўненасці ў тым, што мы не згубімся ў гэтым палёце. Мінулае ж складаецца не толькі са спраў людскіх і набыткаў. Яно і лёсамі людскімі мацуецца. Гэтыя лёсы і вяртае з небыцця сваімі кнігамі А. Статкевіч-Чабаганаў. І за гэта застаецца яму толькі сказаць: «Дзякуй».

